МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МЕДЫЦЫНСКІ УНІВЕРСІТЭТ
КАФЕДРА ФІЛАСОФІІ І ПАЛІТАЛОГІІ

М.П. Саўко, М.А. Бобер, В.І. Карнацкая

# КАРОТКІ НАРЫС ГІСТОРЫІ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

Вучэбна-метадычны дапаможнік




Мінск 2003

УДК 9с (Бел)(075.8)
ББК 63.3(2Б)+71(2Б) я73
С 12

А ў т а р ы : М.П. Саўко, М.А. Бобер, В.І. Карнацкая

Р э ц э н з е н т каф. гісторыі Беларусі і паліталогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта (заг. каф., д-р. гіст. навук, праф. М.Я. Сяменчык)

Зацверджана Навукова-метадычным саветам універсітэта ў якасці вучэбна-метадычнага дапаможніка 15.01.2003 г., пратакол № 4

**Саўко М.П.**

С 12 Кароткі нарыс гісторыі культуры Беларусі: Вучэб.-метад. дапаможнік. / М.П. Саўко, М.А. Бобер, В.І. Карнацкая. – Мн., БГМУ, 2003, – 134 с.

ISBN 985-462-201-0.

Выданне прысвечана гісторыі культуры Беларусі, яе асноўным гістарычным этапам. Мэта яго — дапамагчы студэнтам засвоіць нацыянальна-культурную спадчыну беларускага народа, яе здабыткі, праблемы і дасягненні.

Вучэбна-метадычны дапаможнік прызначаны для студэнтаў і ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй культуры Беларусі.

**УДК 9с (Бел)(075.8)**
**ББК 63.3(2Б)+71(2Б) я73**

**ISBN 985-462-201-0**

## Уступ

У гісторыі Беларусі значнае месца надаецца вывучэнню гісторыі культуры нашага народа. Важнасць і актуальнасць гэтага відавочны. Беларускі народ ішоў па гістарычнаму шляху разам з іншымі еўрапейскімі народамі. Ён абагаціў сусветную цывілізацыю арыгінальнай самабытнай нацыянальнай мовай, багатай культурай і даў свету шмат знакамітых людзей. Веданне гэтай культурна-гістарычнай спадчыны, яе здабыткі, цяжкасці і праблемы развіцця дапамогуць студэнцкай моладзі больш грунтоўна асэнсаваць мінулае і сучаснае. Без ведання гісторыі немагчыма будучае і перш за ўсё нацыянальна-культурнае адраджэнне беларусаў.

У дадзеным вучэбна-метадычным дапаможніку выдзелены, абагульнены і коратка асвятляюцца асноўныя гістарычныя этапы развіцця культуры Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён. У ім раскрываецца культурнае жыццё кожнай гістарычнай эпохі і яе асаблівасці.

Асобнай тэмай пададзены пытанні развіцця рэлігіі народаў Беларусі, яе ўздзеянне на культуру.

Вучэбна-метадычны дапаможнік не замяняе падручнікаў па курсу гісторыі і гісторыі культуры Беларусі. Яго мэтазгодна выкарыстоўваць разам з дзеючымі цяпер падручнікамі, іншымі выданнямі.

## Тэма 1. КУЛЬТУРА СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

План.

1. Культура Беларусі, як частка сусветнай культуры, яе паняцце, сутнасць і структура.
2. Асаблівасці культуры старажытнай Беларусі.
3. Пісьменнасць, кніжная асвета і літаратура ў X–XIII ст.ст.
4. Архітэктура, жывапіс, музыка.

I. Разглядаемая праблема — культура беларускага народа з часу яго ўзнікнення — з’яўляецца надзвычай важнай і актуальнай у вышэйшай школе. Немагчыма спазнаць грамадства, яго палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя асновы, вызначыць узровень яго развіцця не спасцігаючы культуру. Больш складанай становіцца падрыхтоўка высокаадукаваных спецыялістаў, патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны без засваення імі духоўных каштоўнасцей свайго народа.

Перш чым павесці размову аб месцы беларускай культуры ў сусветнай цывілізацыі, трэба нагадаць, што азначае паняцце культура, гісторыя культуры беларускага народа і інш.

Гісторыя культуры Беларусі — гэта навука, якая ўключае інтэгратыўныя веды аб нацыянальнай культуры як цэласнай сукупнасці матэрыяльных, мастацкіх і духоўных каштоўнасцей, створаных беларускім народам у працэсе яго гістарычнага развіцця са старажытнах часоў да нашых дзён.

Слова «культура» мае лацінскае паходжанне, ідзе ад рымскай антычнасці, што першапачаткова азначала засваенне, апрацоўку зямлі. Пад ёй разумелі засваенне глебы, поля, апрацоўку саду, уход за раслінамі, жывёламі — гэта значыць земляробства і сельскую гаспадарку. Найбольш звыклае для нас паняцце культуры, як выхаванне і адукацыя, у гэтым кантэксце ўспрымаецца як нешта другаснае, дапаўняючае чалавечую прыроду, а часта супрацьстаячае ёй. Тым не менш, культурны чалавек усімі сваімі набыткамі абавязаны адукацыі і выхаванню. Гэта і ёсць галоўны змест культуры ўсіх народаў, захоўваючых культурную пераемнасць і традыцыі, як форму калектыўнага вопыту ва ўзаемаадносінах з прыродай.

Між тым і ў гэтым выпадку паняцце «культура» таксама будзе няпоўным. Бо культура азначае і пакланенне, і ўшанаванне, і гонар, і культ, — перш за ўсё, рэлігійны. Старажытны чалавек пастаянна знаходзіўся ў акружэнні розных багоў — у хаце, у полі, у лесе, спачатку язычніцкіх, пазней — іудзейскіх, хрысціянскіх і іншых рэлігій, пакланяўся ім.

Пад культурай антычныя грэкі і рымляне разумелі і засваенне, і выхаванне, і культ адначасова. Як вядома, у грэчаскіх гарадах-полісах была створана ўнікальная сістэма адукацыі і выхавання, у якой фарміраваўся не проста прафесіянал у якойсьці асобнай сферы жыццядзейнасці, а чалавек, як асоба, індывід, з ярка выражанымі каштоўнаснымі арыентацыямі. Няма сумневу, што ў гэтым звароце да чалавека і заключаецца нераўзыходзячае гуманістычнае значэнне антычнага разумення культуры, у аснове якога ляжыць ідэал чалавека, як галоўнай мэты культурнага працэсу. Без антычнай ідэі культуры не існавала б ні антычнасці як гістарычнай эпохі, ні сусветнага міру культуры.

Пазней у гэты тэрмін пачалі ўкладваць больш шырокі сэнс: да культуры пачалі адносіць усё тое, што ствараў чалавек фізічнай і духоўнай працай, а таксама — сам працэс стварэння, у адрозненне ад зробленага прыродай, і ў той жа час, у цесных узаемаадносінах з прыродай. Культура ўзнікае тады, калі людзі пераходзяць ад выкарыстання зробленых прыродай прадуктаў і прадметаў да іх стварэння сваімі рукамі, выкарыстоўваючы накопленыя веды і вопыт.

Гэта складаны грамадскі феномен, які з'яўляецца вынікам шматвяковага развіцця і дзейнасці чалавечай супольнасці. Сёння, па розных ацэнках, існуе звыш 500 вызначэнняў паняцця «культура».

Культура — гэта гістарычна вызначаны ўзровень развіцця грамадства, творчых сіл і здольнасцей чалавека, адлюстраваны ў тыпах і формах арганізацыі жыццядзейнасці людзей, а таксама ў ствараемых імі матэрыяльных

і духоўных каштоўнасцях. Культура — гэта якасны стан грамадства на кожным этапе яго матэрыяльнага і духоўнага развіцця, яго вытворчае існаванне.

Сусветная культура, у тым ліку і беларуская, у сваім развіцці прайшла некалькі этапаў: культура старажытных цывілізацый (антычнасці), сярэдневечча, эпоха Адраджэння і Рэфармацыі, Новага і Найноўшага часу. Сусветная культура падзяляецца на рэгіянальную, этнасацыяльную і інш. Гэта паняцце ўжываецца таксама для характарыстыкі канкрэтнага грамадства. Напрыклад, культура Усходу, антычнай Грэцыі, старажытнай Беларусі і інш., культура ацтэкаў, крывічоў, майя, этрускаў і г. д.

У адпаведнасці з асноўнымі сферамі жыццядзейнасці чалавека культура падзяляецца на матэрыяльную і духоўную. Ёсць культура палітычная, фізічная, экалагічная, сямейна-бытавая і інш.

За тысячагоддзі свайго існавання чалавек зрабіў вялікі пераварот у сваім жыцці: ад прымітыўных пабудоў з касцей і скуры старажытных жывёл — да прыгожых шматпавярховых дамоў і цэлых гарадоў з высокімі ўзорамі дойлідства; ад простых наскальных малюнкаў і ўмоўных знакаў — да сусветна вядомых шэдэўраў жывапісу, цікавых і каштоўных кніг у розных жанрах літаратуры; ад каменных сякер — да камп'ютараў з мільярдамі аперацый у секунду. Такі шлях прайшла сусветная культура.

Гэты пералік быў бы больш разнастайным і багатым, калі б на зямлі не вяліся частыя разбуральныя войны, у выніку якіх прыпынялася развіццё культуры заваяванага народа: яна несла вялікія, незаменныя, страты. З гісторыі вядома, што найбольш магутныя па колькасці этнасы часта не толькі не цанілі, але і садзейнічалі разбурэнню духоўных здабыткаў суседніх народаў, што прыводзіла іх да культурна-моўнай асіміляцыі, страты сваёй нацыянальнай самабытнасці. Сучасная цывілізацыя недалічваецца дзесяткаў, а то і соцень народаў з іх багатай і самабытнай культурай, бо яны былі дашчэнту зруйнаваны або не вытрымалі канкурэнцыі не столькі з развітымі культурамі, колькі з-за агрэсіўнасці, непамяркоўнасці іх носьбітаў.

Згаданае вышэй у поўным аб'ёме зведала на шматвяковым шляху і беларуская культура. Яна прайшла ў сваім развіцці і этапы фарміравання, узнікнення, і перыяды сапраўднага росквіту, уздыму (гэтак званы «залаты век»), і была на краю пагібелі пад час паланізацыі і русіфікацыі, шматлікіх жорсткіх, знішчальных войнаў. Але ў самыя трагічныя для беларускай культуры часіны ў яе заўсёды знаходзіліся надзейныя заступнікі, прыхільнікі яе аднаўлення, — і працэс духоўнага заняпаду спыняўся, пачыналася новае ўзыходжанне да прагрэсу.

За сваю шматвяковую летапісную гісторыю беларуская культура стала паўнапраўнай, дастойнай часткай сусветнай культуры, сусветнай цывілізацыі. Пацверджанняў таму нямала. Вось некаторыя з іх.

1. Здаўна засяліўшы значныя тэрыторыі ў цэнтры Еўропы, беларусы прыклалі шмат намаганняў, каб супясчаныя, падзолістыя глебы сталі даваць добры ўраджай жыта, ячменю, бульбы, ільну і іншых культур. Ужо ў IX стагоддзі на беларускіх землях распачалося горадабудаўніцтва. А да XII ст. тут налічвалася каля 50 гарадоў, у якіх высокага ўзроўню дасягнулі дойлідства,

розныя рамёствы, гандаль. Па развіццю гарадской гаспадаркі старажытная Беларусь не ўступала гарадам Заходняй і Усходняй Еўропы. Многа разоў чужынцы разбуралі гарады, мястэчкі, вёскі, але беларусы зноў адбудоўвалі яшчэ лепшае і прыгажэйшае.

2. Беларусы стварылі выдатныя помнікі палітычнай і прававой культуры эпохі Адраджэння — тры Статуты Вялікага княства Літоўскага. Выкладзеная ў Статуце 1588 г. прававая сістэма спрыяла таму, што і праз 200 гадоў пасля выдання ён лічыўся самым выдатным зборам законаў у Еўропе. Статут аказаў значны ўплыў на развіццё прававой сістэмы многіх еўрапейскіх краін.

3. Беларускі народ стварыў багатую, самабытную, выдатна распрацаваную мову, якая здольна быць адмысловым інструментам для палітычнай, навуковай і культурнай дзейнасці, зрабіць гонар любому народу. Яе асноўны слоўнікавы запас складае звыш 110 тысяч, а перакладны — 330 тысяч. Гэта адна са старажытнейшых і развітых моў свету.

4. Значнае месца ў культуры беларусаў займае непаўторны, самабытны, самы багаты ў свеце фальклор — песні, танцы, карагоды, музыка, міфы, легенды, паданні, казкі, прымаўкі, загадкі, жарты і інш. Узнікшы ў сівую даўніну, ён развіваўся, узбагачаўся народнай мудрасцю і выстаяў да нашага часу, нягледзячы на паланізацыю і русіфікацыю апошніх трох стагоддзяў.

5. Шырокае распаўсюджванне на Беларусі здаўна атрымала дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Дрэва, гліна, косці, саломка, лён, шоўк і іншае ў руках таленавітых умельцаў ператвараліся ў выдатныя мастацкія творы, што не мелі роўных у свеце. Асаблівую славу і гонар дэкаратыўна-прыкладному мастацтву прынеслі знакамітыя слуцкія паясы. Разам з крыжам Лазара Богшы, зробленым па заказу Еўфрасінні Полацкай, яны з’яўляюцца найвялікшай нацыянальнай рэліквіяй: па прыгажосці і тэхніцы ткацтва не маюць роўных у свеце. Усяго на Беларусі было выткана прыкладна 300 такіх паясоў. На жаль, гэтыя золатам тканыя рарытэты сёння амаль немагчыма ўбачыць у беларускіх музеях: яны незаконна вывезены ў Расію, Польшчу і іншыя краіны.

6. Беларускі народ стварыў магутную індустрыяльна-аграрную эканоміку: машынабудаўніцтва, электроніку, дакладнае прыборабудаванне, развітую хімічную прамысловасць і інш. Прадукцыю трактарнага і аўтамабільных заводаў, вытворчых аб’яднанняў «Атлант», «Віцязь», «Гарызонт» і іншых ведаюць у многіх краінах свету, на ўсіх кантынентах.

7. Магутнасць дзяржавы, яе жыццяздольнасць азначаецца не столькі колькасцю фабрык і заводаў, прыродных выкапняў і ўрадлівасцю зямлі, як колькасцю і якасцю высокакваліфікаваных работнікаў і кіраўніцтва. Самае вялікае прамысловае прадпрыемства можна пабудаваць з дапамогай індустрыяльнай дзяржавы ў самай адсталай краіне за 3–5 гадоў. Але каб такія заводы нармальна самастойна працавалі, нацыянальныя кадры патрэбна рыхтаваць ад 15 да 30 год. Можна лічыць, што беларусы набылі высокі прафесіяналізм, значны і разнастайны інтэлектуальны патэнцыял. Але, на жаль, апошнім часам, гэты інтэлект нацыі не знаходзіць дастойнага прымянення ў айчыннай вытворчасці і вымушаны з’язджаць за мяжу ў пошуках лепшай долі, матэрыяльных здабыткаў.

8. Беларускі народ мае вялікую дыяспару, па розных падліках, ад 3-х да 5 мільёнаў чалавек. Жывучы ў чужым асяроддзі ў розных краінах свету, беларусы захоўваюць родную мову, традыцыі, культуру, а ў многіх выпадках нават узбагачаюць яе сваёй таленавітай дзейнасцю ў палітыцы, навуцы, літаратуры і мастацтве.

9. Беларуская зямля заўсёды славілася талентамі. Лёс беларускага народа склаўся так, што ў гістарычным мінулым многія з найбольш здольных людзей працавалі на ніве іншаземнай культуры. Так, культуру рускага народа ўзбагачалі Сімяон Полацкі, Ілля Капіевіч, Восіп Казлоўскі, Аляксандр Грын (Грынеўскі), Міхаіл Глінка, Аляксандр Твардоўскі і многія іншыя. Польскую культуру — Міхал Клеафас Агінскі, Станіслаў Манюшка, Адам Міцкевіч і іншыя. Значная колькасць знакамітых беларусаў праслаўілася ў іншых краінах. Гэта — Ігнацій Дамейка ў Чылі, Восіп Гашкевіч — у Японіі, Мікола Судзілоўскі — на Гаваях, Генрых Мінкоўскі — у Германіі, Гіём Апалінэр — у Францыі, Казімір Семяновіч — у Галандыі, Тадэвуш Касцюшка, Барыс Кіт — у ЗША і многія іншыя.

Тым не менш, нягледзячы на такую раскіданасць сваіх талентаў у свеце, беларусы і на Бацькаўшчыне здолелі стварыць непаўторную нацыянальную матэрыяльную і духоўную культуру, якая стала дастойнай часткай сусветнай культуры. Больш падрабязна аб культуры беларусаў на працягу ўсяго яе існавання размова пойдзе ніжэй.

II. Як вядома, фарміраванне беларускага этнасу, яго дзяржаўнасці і культуры доўжылася даволі вялікі час з характэрнымі для яго складанасцямі і супярэчнасцямі. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў культуры, як матэрыяльнай, так і духоўнай.

Па сведчанню археолагаў, першае сталае насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ўтварылася ў VIII–VII тысячагоддзях да н. э. Разам са з′яўленнем чалавека тут з′яўляліся і элементы культуры. Пад час неаліту (IV тысячагоддзе да н. э.) тут ужо існавала керамічная вытворчасць: прылады працы і посуд ляпілі з гліны, абпальвалі на вогнішчы, упрыгожвалі кампазіцыямі з выявамі чалавека, птушак, звяроў, а таксама арнаментам у выглядзе ромбаў, зігзагаў, ялінак, зорак.

У канцы III – пачатку II тысячагоддзя да н. э. тут знойдзены медныя і бронзавыя вырабы — наканечнікі дзідаў, нажы, сякеры, медныя дыядэмы, дарагія жаночыя ўпрыгожанні, якія траплялі сюды ў невялікай колькасці па гандлёвых шляхах. Большасць жа рэчаў, прылад працы выраблялася з рагоў жывёлы, касцей, крэменю.

У VII–VI стагоддзях да н. э. на Беларусі навучыліся здабываць жалеза з балотнай руды і вырабляць з яго зброю, прылады працы, упрыгожанні.

Карані беларускага этнасу ўзыходзяць да тых часоў, калі з VI стагоддзя новай эры на большую частку нашай краіны пачынаюць пранікаць з Вісла–Одэрскага міжрэчча славянскія плямёны. У выніку інтэнсіўнага засваення імі тэрыторыі Беларусі, на якой жылі балты, у VIII–IX ст.ст. тут склаліся этнічна блізкія паміж сабой супольнасці усходнеславянскага насельніцтва: крывічы,

дрыгавічы, радзімічы, часткова валыняне. На іх аснове ўтварыўся старабеларускі этнас. Згодна з летапісамі і археалагічнымі даследаваннямі ён кампактна размяшчаўся ў Верхнім Падняпроўі, Падзвінні, Панямонні.

Культура старажытнай Беларусі мела некаторыя асаблівасці.

1. Культура засяляўшых нашу зямлю плямёнаў мела агульныя рысы, мала чым адрознівалася паміж сабой. Іх мовы былі разнавіднасцямі усходне-славянскай моўнай групы. Нязначныя адрозненні былі ў матэрыяльнай культуры — у тыпах жылля, керамічным посудзе, прыладах працы. Выключэнне складалі толькі жаночыя ўпрыгожанні, асабліва металічныя скроневыя кольцы: у крывічанак — бранзалетападобныя, у радзімічанак — сяміпрамянёвыя, у дрыгавічанак — зярнёныя буйныя пацеркі.

2. Культура нашых продкаў была сваеасаблівым сінтэзам культуры карэнных балтаў і прыйшоўшых сюды славян у выніку іх узаемапранікнення і ўзаемаўплыву. У іх матэрыяльнай культуры прысутнічаюць прыкметы як славянскай (паўзямлянкавыя жытлы з печамі-каменкамі), так і балцкай (ляпныя слоікападобныя пасудзіны). Аб гэтым сведчаць раскопкі старажытнага гарадзішча ля вёскі Банцараўшчына пад Мінскам. Так званая Банцараўская культура была распаўсюджана на ўсёй тэрыторыі пражывання крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Паколькі славяне знаходзіліся на больш высокім узроўні культурнага развіцця, то стала непазбежнай паступовая асіміляцыя імі карэннага мясцовага насельніцтва балтаў, што ў асноўным адбылося яшчэ да X стагоддзя. Гэта быў перыяд балта-славянскага сінтэзу, асіміляцыйных працэсаў балта-славянскай культуры.

3. Адметнасць беларускай нацыянальнай культуры і яе спалучэнне з культурай усіх усходніх славян. На працягу ўсяго існавання старажытнай Беларусі ў яе духоўным жыцці захаваліся сваеасаблівыя, непаўторныя, адметныя рысы, уласцівыя толькі нашай нацыянальнай культуры. І ў той жа час прасочваюцца прыкметы агульнай для ўсіх усходнеславянскіх плямён культуры. У IX–XII ст.ст. з′явілася шмат розных твораў культуры, якія ў аднолькавай ступені належаць да духоўнай спадчыны як беларускага, так і ўкраінскага, і рускага народаў. Найлепшыя з іх распаўсюджваліся па ўсіх усходнеславянскіх землях і былі, у асноўным, зразумелымі для кожнага з іх. Так, калі з XI стагоддзя пачалося летапісанне, то Іпацьеўскі летапісны звод стаў важнай крыніцай па гісторыі і культуры не толькі Кіеўскага, Галіцка-Валынскага, але і Полацкага, Тураўскага, Смаленскага і іншых княстваў. А таксама «Слова пра паход Ігаравы», «Аповесць мінулых гадоў» і іншыя.

4. Уплыў Візантыйскай культуры на нацыянальную культуру нашых продкаў. Дзякуючы свайму выгаднаму геаграфічнаму становішчу, гандлёвым шляхам, што звязвалі арабскі Усход і Візантыю са Скандынавіяй, Прыбалтыкай, Ноўгарадам, а таксама з Захадам, на беларускіх землях ішло інтэнсіўнае эканамічнае і культурнае развіццё. Сувязі з гэтымі краінамі аказвалі значны ўплыў на культуру беларусаў, як матэрыяльную, так і духоўную. Але ў першую чаргу на развіццё беларускіх зямель аказвала Візантыя, у якой традыцыі антычнай адукаванасці і асветы аж да XII стагоддзя знаходзіліся на больш высокім узроўні, чым у іншых краінах Еўропы. У беларускія школы з

Візантыі пераймалася выкладанне такіх прадметаў, як грэчаская мова, красамоўнае майстэрства, астраномія, філасофія, этыка і іншыя.

Сведчаннем узаемнага ўплыву і выкарыстання усходнеславянскіх культур з′яўляецца і ўвядзенне на Беларусі славянскай азбукі і пісьменства, створаных братамі Кірылам і Мяфодзіем з Фесалонікаў. Славяне па паходжанню, яны былі візантыйскімі перакладчыкамі рэлігійных кніг з грэчаскай мовы на стараславянскую. Кірыліца ад стараславянскай пісьменнасці перайшла ў спадчыну старабеларускай, стараўкраінскай і старарускай.

III. Пісьменства на Беларусі асабліва хутка пачало распаўсюджвацца пасля ўвядзення тут хрысціянства ў канцы X стагоддзя (992 г.). Яно паскорыла працэс развіцця кніжнай асветы, літаратуры, адукацыі, садзейнічала ўмацаванню міжнародных сувязей з краінамі больш высокай культуры, іх узаемаўплыву і інш. Манастыры і цэрквы зрабіліся першымі культурнымі цэнтрамі, у якіх былі заснаваны школы, арганізавана перапіска кніг. Яны сталі першымі кнігасховішчамі, бібліятэкамі.

Першым кніжнікам сярод усходнеславянскіх князёў летапісы называюць унука Рагвалода, старэйшага сына Рагнеды і Уладзіміра — Ізяслава, які княжыў у Полацку з 988 па 1001 гг. Ніканаўскі летапіс згадвае, што менавіта ён увёў у Полацку пісьменства і навучанне грамаце. Пячатка з ягоным іменем, якой замацоўваліся княжацкія граматы, лічыцца самым старажытным помнікам беларускага пісьменства і другім па часе ва ўсіх усходніх славянаў. Захаваліся яшчэ надпісы на прасліцах, на помніках «Рагвалодаў камень», «Барысаў камень», а таксама знойдзеныя пры раскопках прыстасаванні для пісьма («пісалы») і кніжныя засцёжкі ў Полацку, Менску, Браславе і інш., пячаткі князёў Усяслава і Барыса. Усё гэта сведчыць аб адносна шырокім распаўсюджванні пісьменства сярод насельніцтва, пачынаючы з канца X стагоддзя.

Манастыры і цэрквы становяцца асяродкам культуры. Увядзенне хрысціянства выклікала неабходнасць у адукаваных людзях, якія патрэбны былі для службы ў храмах, для перакладаў і перапіскі рэлігійных кніг. Гэтыя культурныя цэнтры далі першых вучоных, кніжнікаў, пісьменнікаў, прапаведнікаў. Вакол царквы групавалася тагачасная інтэлігенцыя — адукаваныя людзі, носьбіты культуры. Славутымі прадстаўнікамі хрысціянскай кніжнай асветы і адукацыі на Беларусі з′яўляюцца Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Клімент Смаляціч і іншыя.

Сярод іх найбольшай таленавітасцю вызначалася полацкая князёўна Прадслава, у манастве Еўфрасіння (1110–1173 гг.). Першая жанчына ў усходніх славян, кананізаваная царквою ў святыя.

Як вядома, у раннім сярэдневеччы на беларускіх землях, акрамя летапісаў, бытавалі і такія арыгінальныя літаратурныя творы, як жыцця святых. З дайшоўшых да нас жыццяў мы і даведаліся пра выдатных беларускіх асветнікаў. Найкаштоўнейшым помнікам старажытна-беларускай літаратуры з'яўляецца «Жыціе Еўфрасінні Полацкай» — галоўная крыніца біяграфічных звестак пра самую знакамітую палачанку. Па адукаванасці і па зробленых дзеля

асветы свайго народу справах яна не мела сабе роўных не толькі ў славянскім свеце, але і на ўсім еўрапейскім кантыненце. Яна не заканчвала універсітэтаў. Па-першае, жанчын у сярэдневечныя універсітэты не прымалі, па-другое, калі яна нарадзілася, у Еўропе быў усяго адзін — у Балоні. Яе універсітэтам і была тагачасная літаратура, у асноўным — царкоўная. Але ў княжацкія палацы траплялі таксама хронікі, гістарычныя аповесці, прыродазнаўчыя трактаты.

Дачка князя Георгія, унучка славутага валадара Усяслава Чарадзея, Прадслава, насуперак волі бацькоў, у 12-гадовым узросце збегла ў манастыр, дзе ўсё сваё жыццё прысвяціла асвеце, адукацыі, выхаванню. Яна заснавала два манастыры (мужчынскі і жаночы) і пры іх — дзве царквы. Адна з іх — царква Святога Спаса, дзе знаходзіліся келлі Еўфрасінні і яе малодшай сястры Градзіславы (зараз гэта Спаса-Еўфрасіннеўская царква, у якой захоўваюцца яе мошчы).

У манастырах Еўфрасіння ўвесь час працавала над збіраннем, перакладамі грэчаскіх рэлігійных твораў, перапісваннем кніг. Яна адчыніла там майстэрні па перапісцы кніг — скрыпторыі. Адзін майстар рабіў тут каляровыя ініцыялы, другі — мініяцюры, трэці — пераплёты. Калі ўзнікала патрэба перапісаць кнігу хутчэй, яе дзялілі на некалькі частак. Са скрыпторыяў кнігі разыходзіліся па ўсёй Полацкай зямлі і за яе межамі.[1] Прыбытак ад іх продажу аддавала тым, хто быў у нястачы (ёсць меркаванні лічыць, што Еўфрасіння вяла Полацкі летапіс і пісала арыгінальныя творы, якія, на жаль, не захаваліся).

Пры манастырах яна адкрыла дзве школы, ў тым ліку — адну для дзяўчынак. Тут вучыліся грамаце, чытанню, пісьму, «цыфіры» і царкоўным спевам не толькі дзеці заможных палачан, але і простых людзей. Першымі падручнікамі былі царкоўныя кнігі. Аднак высокаадукаваная ігуменя пашырыла межы звычайнай праграмы. Апрача царкоўнаславянскай, дзеці вучылі грэцкую і лацінскую мовы, атрымлівалі веды па прыродазнаўству і медыцыне, па навуцы красамоўства — рыторыцы. З найбольш здольнымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі праводзіліся заняткі па паэтыцы. Не раз заняткі вяла сама маці-ігуменя. «Юных, — чытаем мы ў «Жыціі Еўфрасінні Полацкай, — вучыла чысціні душэўнай і цялеснаму супакаенню, гавенню шчыраму, хаджэнню рахманаму, голасу ціхмянаму, слову дабрачыннаму, ядзенню і піццю маўклівацу; пры старэйшых маўчаць, мудрых слухаць, да старэйшых — пакоры, да роўных і меншых — любові некрывадушнай; мала казаць, а болей разумець.»[2]

Перад намі паўстае вобраз самаахвярнай, незвычайнай жанчыны. У «Жыціі» ўслаўляецца яе імкненне да духоўнай дасканаласці і ведаў, яе самаахвярнасці. У ім ёсць звесткі пра сярэдневяковы Полацк, яго культурнае жыццё, побыт, пра полацкіх князёў і епіскапаў.

Як вядома, па заказу Еўфрасінні полацкі майстар-ювелір Лазар Богша ў 1161 годзе зрабіў крыж. Доўгі надпіс на ім з´яўляецца каштоўным помнікам нашага пісьменства: спачатку зроблены дробнымі літарамі кароткі надпіс аб

---

[1] Кніга жыцій і хаджэнняў. – Мн., 1994. – С. 46.
[2] Кніга жыцій і хаджэнняў. – Мн., 1994. – С. 52.

майстры. Затым — «У лета 6669 (1162 г.) Еўфрасіння святы крыж у сваім манастыры, у царкве святога Спаса. Дрэва святое бясцэннае, акова ж яго золата і срэбра, і камяні і перлы на 100 грыўняў, а да...(пропуск) 40 грыўняў (мабыць плата майстру за работу). І хай не выносяць яго з манастыра ніколі, і не прадаюць, не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынясе з манастыра, хай не дапаможа яму святы крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён святой жыватворнаю Троіцаю ды святымі айцамі... і хай напаткае яго доля Іўды, які прадаў Хрыста. Хто ж насмеліцца ўчыніць такое… валадар або князь або епіскап ці ігуменння, або іншы які чалавек, хай будзе на ім гэты праклён. Еўфрасіння ж, раба Хрыстова, што справіла гэты крыж, здабудзе вечнае жыццё з усімі святымі...»

У канцы жыцця Еўфрасіння здзейсніла сваю мару — зрабіла паломніцтва на Святую зямлю Іерусаліма, дзе і памерла. Дзень памяці святой заступніцы святкуецца 24 мая.

Другім прадстаўніком кніжнай асветы на Беларусі з´яўляецца Кірыла Тураўскі (каля 1130 – каля 1182 гг.). Нарадзіўся і ўзгадаваўся ў месцы Тураве на беларускай зямлі. Быў ён сынам багатых бацькоў, але не ўзлюбіў багацця і мірнае славы гэтага свету, а «найболей любіў вучэнне боскіх кніг». Вывучыўшы Святое пісанне, пайшоў у манастыр і зрабіўся манахам. Старабеларускі пісьменнік, прапаведнік, царкоўны дзеяч. Шырокую вядомасць яму прынеслі т. зв. «Словы» — павучэнні, прысвечаныя розным біблейскім сюжэтам, у якіх праявіўся яго арыгінальны паэтычны дар. Захавалася восем «Слоў», каля трыццаці спавядальных малітваў, тры прытчы (філасофскія творы), «Аб чыне чарнарызца» і некалькі канонаў (царкоўнае песнапенне ў пахвалу святога) і інш. Стаўшы тураўскім епіскапам, Кірыла асабліва праславіўся як прапаведнік, выдатны майстар так званага «ўрачыстага красамоўнага майстэрства». Але пазней пакідае гэтую пасаду, замыкаецца ў келлі і працягвае пісаць розныя творы, а таксама перакладае і перапісвае іншых аўтараў.

Лепшым доказам папулярнасці славутага дзеяча старажытнай Беларусі з´яўляецца тое, што яшчэ пры жыцці сучаснікі называлі яго «залатавустам», яго казанні змяшчаліся ў анталогіях «Торжественник» і «Златоуст», куды ўключаліся лепшыя творы грэчаскіх майстроў прамоўніцкага красамоўства. Кірыла Тураўскі з’яўляецца вялікім гуманістам свайго часу, сімвалам таленту беларускага народа, яркім сведчаннем глыбіні каранёў нашай культуры.

Выдатным царкоўна-палітычным дзеячам, мысліцелем і асветнікам старажытнай Беларусі быў Клімент Смаляціч (?–1164 г.). Стаў вядомы, дзякуючы сваёй рознабаковай адукаванасці, рэдкай эрудыцыі, выдатнаму літаратурнаму таленту. Добра ведаў творы Гамера, Платона, Арыстоцеля, чытаў іх у арыгінале. Як сцвярджае Іпацьеўскі летапіс, ён быў другім на Русі мітрапалітам славянскага паходжання, астатнія — Візантыйскага.

Бліскучым помнікам усходнеславянскай літаратуры, у тым ліку і беларускай, з´яўляецца «Слова пра паход Ігаравы». Невядомы аўтар вядзе сваё апавяданне не як старонні летапісец, а як мастак. Славуты палацкі князь Усяслаў Чарадзей згадваецца ў «Слове» як мудры палітык і таленавіты ваявода,

які праз ўсё жыццё пранёс вернасць сваёй Бацькаўшчыне. Аўтар шчыра захапляецца ім, надзяляе незвычайнымі здольнасцямі чараўніка. Апавядаючы пра няшчасці роднай зямлі, аўтар «Слова» паказвае адзін з надзвычай трагічных момантаў — бітву на Нямізе ў Менску, дзе, адстойваючы незалежнасць старажытна-беларускай дзяржавы, полацкія дружыны сустракаліся з войскам князёў Яраславічаў. Добрае веданне аўтарам «Слова пра паход Ігаравы» мінулага Полацкага княства, заклапочанасць яго лёсам, спагада да самага славутага з Рагвалодавічаў наводзяць на думку, што геніяльны паэт меў цесныя сувязі з крывіцкай зямлёй, а магчыма, і быў народжаны ёю. Старажытнага песняра лічылі нашым земляком Уладзіслаў Сыракомля, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Пічэта і іншыя беларускія літаратары і гісторыкі. Пясняр не раз згадвае Стрыбога, Дажджбога і іншых язычніцкіх багоў. А менавіта ў Полацкім княстве пазіцыі паганства пасля афіцыйнага хрышчэння былі ў параўнанні з іншымі усходнеславянскімі землямі найбольш моцнымі, нават у вялікакняжацкім асяроддзі, аж да XIII стагоддзя.

Значнай па колькасці была і перакладная літаратура Полацкага княства. Спачатку пераклады рабіліся з грэчаскай, старажытнаіудзейскай, лацінскай моў на старaславянскую асноўных кніг хрысціянскай літаратуры: Бібліі, Евангелля, Псалтыра, Жыцій святых. Перакладаліся таксама і свецкія эпічныя творы грэчаскіх, рымскіх і іншых аўтараў. Гэтая літаратура, як царкоўная, так і свецкая, пашырала кругагляд беларусаў, знаёміла іх з новымі юрыдычнымі і маральнымі нормамі, відамі мастацтва, садзейнічала сувязям з культурай Візантыі, Заходняй Еўропы.

Багатай на Беларусі была вусная народная творчасць, фальклорная культура часоў Полацкага, Тураўскага і іншых княстваў, якая захавалася да нашага часу.

IV. Выдатныя для таго часу дасягненні нашы далёкія продкі мелі і ў іншых відах культуры. На першым часе значны ўплыў на архітэктуру Полацка аказвала Візантыя. Параўнальна рана ў наш край прыйшла адтуль мураваная манументальная архітэктура. Ужо ў канцы X стагоддзя ў Полацку была пабудавана першая царква ў імя Багародзіцы, якая згадваецца ў летапісах пад 1007 годам. У гэтую царкву ў XI ст. былі перанесены мошчы невядомых святых, што сведчыць аб наяўнасці ранніх мясцовых культур.

Але самай значнай такой пабудовай прынята лічыць узведзены ў 50-я гады XI ст. Сафійскі сабор. Усяслаў Чарадзей узводзіў храм у гонар святой Сафіі, каб сказаць усяму свету пра роўнасць Полацка з Ноўгарадам і Кіевам, дзе такія саборы з´явіліся крыху раней. Да запрошаных візантыйскіх дойлідаў далучыліся мясцовыя: Давыд, Мікула, Таўм, на хаду засвойваючы будаўнічыя сакрэты. Па духу, стылю і ўнутраным змесце ён нагадваў храм Сафіі ў Ахрыдзе, Канстанцінопалі.

У XI ст. Полацкая Сафія выглядала будынкам выключна суразмерным, сіметрычным. Пасярэдзіне ўзвышаўся галоўны яго купал, па баках знаходзіліся 4 меншыя купалы. Як занатавана ў летапісе, Сабор меў 7 купалоў, што сімвалізавала сем асобных хрысціянскіх абрадаў – таямніц (сярод іх —

хрышчэнне, прычашчэнне, пакаянне – споведзь, шлюб і інш.). Уся прастора сабора падзялялася 16 слупамі на мноства ячэек. Слупы былі не круглыя, а ў форме крыжа. Сабор меў багаты фрэскавы роспіс, але ён амаль не захаваўся. Гэты храм разбураўся пад час войнаў. У XVШ ст. перабудаваны ў барочную базіліку.

Ужо у другой палове XI ст. на Полацкай зямлі склалася самабытная школа дойлідства, жывапісу, пластыкі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Асновай полацкага дойлідства быў своеасаблівы вежападобны храм з паступовым узмацненнем вертыкалізму кампазіцыі, што можна растлумачыць адыходам ад візантыйскіх і кіеўскіх традыцый. Асобныя формы полацкай архітэктуры не маюць аналагаў у іншых усходнеславянскіх землях.

Крыху пазней у Полацку з'явіўся Барысаглебскі (Бельчыцкі) манастыр, Спаса-Еўфрасінеўская царква, дойлідам якой з´яўляецца выдатны майстар Ян. Спаса-Еўфрасінеўская царква стаяла ля вытокаў новага тыпу будынкаў: круглы барабан яе купала абапіраўся на квадратны пастамент, які быў упрыгожаны так званымі какошнікамі кілявіднай формы. Гэта царква у Полацку — самы ранні будынак ва Усходняй Еўропе, дзе ўпершыню з'явілася гэтая важная для гісторыі архітэктуры дэталь — какошнікі. Яны дапаўнялі галоўную асаблівасць Спаскага храма — яго вежападобны выгляд. У XII ст. у горадзе ўжо мелася звыш дзесятка мураваных пабудоў.

Славу старажытнаму беларускаму дойлідству прынеслі Барысаглебская (Каложская) царква і Ніжні храм у Гародні, Благавешчанскі храм у Віцебску, Тураўскі 6-слуповы трохнефны храм і інш. У першай палове XII стагоддзя і ў Гродне сфарміравалася адметная школа дойлідства з непаўторнай сістэмай дэкору. Звонку гродзенскія храмы аздоблены рознакаляровымі маёлікавымі пліткамі, унутры ў сцены ўмуравана вялікая колькасць гаршкоў-галаснікоў для ўзмацнення і змякчэння гуку — паляпшэння акустыкі. Падлога таксама дэкарыравана маёлікавымі пліткамі складанага арнаменту.

Стражытнабеларускія храмы былі не толькі цэнтрамі рэлігійнага жыцця і культуры, але і ў выпадку небяспекі — сродкам абароны, дзяржаўным цэнтрам: у іх зберагаліся скарбы казны, архівы, святыні горада, заключаліся дзяржаўныя дагаворы і гандлёвыя пагадненні. Таму царква будавалася на самым высокім, прыгожым месцы горада ці мястэчка.

3 манументальных архітэктурных помнікаў абарончага характару ў першую чаргу можна назваць Камянецкую (Белую) вежу, што знаходзіцца ў 40 км ад Брэста ў Белавежскай пушчы, а таксама паўднёвую і заходнюю вежы Старога замка ў Гародні.

2. Шырокае распаўсюджанне на Беларусі з прыняццем хрысціянства атрымала і прафесійная мастацкая культура: манументальны жывапіс (фрэскі), дробная пластыка, выяўленчае мастацтва, іканапіс, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, кніжная мініяцюра. Непасрэдныя сувязі полацкай княжацкай дынастыі Рагвалодавічаў з домам візантыйскіх правіцеляў у пачатку XII ст. (дачка Ўсяслава Чарадзея была жонкай візантыйскага імператара Аляксея Комніна, маці Еўфрасінні Сафія — з роду візантыйскіх імператараў) спрыялі пранікненню ў жывапіс візантыйскага комнінаўскага і палеалогаўскага стыляў.

Аб гэтым сведчаць асобныя фрэскі Барысаглебскага манастыра ў Бельчыцах, фрагменты фрэсак («Еўхарысція» і інш.) у Полацкай Сафіі. Фрэскі ўпрыгожвалі Благавешчанскую царкву ў Віцебску; іх каларыт звычайны для полацкай школы жывапісу: жоўтая і цёмная вохра, ружовы і блакітны колеры, зялёны і сіні фон.

Пэўнае ўздзеянне на полацкі манументальны жывапіс аказала таксама раманскае мастацтва, адзнакі якога заўважаюцца ў фрэсках храма — пахавальні Еўфрасінеўскага манастыра (пачатак XII ст.).

Аднак засваенне сусветных мастацкіх стыляў не было працэсам механічным. Мясцовыя майстры творча пераасэнсоўвалі, перапрацоўвалі візантыйскія і раманскія формы. Арыгінальнае спалучэнне мясцовых, візантыйскіх і раманскіх стыляў — найбольш характэрная асаблівасць многіх помнікаў мастацкай культуры эпохі Полацкага княства.

3. Не толькі помнікам беларускага пісьменства, але і выдатным помнікам старажытнабеларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з’яўляецца крыж Еўфрасінні Полацкай. І таму побач з імёнамі асветніцы Еўфрасінні і дойліда Яна ўзнікае трэцяе — майстра-ювеліра Лазара Богшы.

Шэдэўр Лазара Богшы — наша нацыянальная святыня, вартая таго, каб на ёй спыніцца падрабязней. Крыж шасціканцовы, што сімвалізуе стварэнне сусвету Богам за 6 дзён. Аснова крыжа — кіпарысавае дрэва, з якога выраблялі асабліва значныя культавыя рэчы.

Рэліквія мае памеры: вышыня — 52 см, даўжыня верхняе папярэчкі — 14, ніжняе — 21, таўшчыня — 2,5 см. Зверху і знізу дрэва закрывала 21 залатая пласцінка з каштоўнымі камянямі, арнаментамі і дваццацю эмалевымі абразкамі, якія нічым не саступаюць сусветна вядомым візантыйскім эмалям. На верхніх канцах крыжа майстар змясціў паясныя выявы Хрыста, Багародзіцы і Яна Папярэдніка. У цэнтры ніжняга перакрыжавання — чацвёра евангелістаў: Ян, Лука, Марк і Мацвей, на канцах — архангелы Гаўрыіл і Міхаіл. Унізе — нябесныя апекуны заказчыцы і яе бацькоў: святыя Еўфрасіння Александрыйская, Георгій і Сафія. На адвароце — выявы айцоў царквы Іаана Залатавуснага і інш., апосталаў Пятра і Паўла, а таксама трох святых. Над кожным абразком часткова грэцкімі, часткова славянскімі літарамі, вышэйзгаданы надпіс.

У сярэдзіне крыжа ў 5-ці квадратных падпісаных гнёздах знаходзіліся рэліквіі: кавалачкі крыжа Гасподняга з кроплямі крыві Ісуса, драбок каменю ад дамавіны Багародзіцы, часткі мошчаў святых. Найкаштоўнейшымі з пакладзеных у гнёзды хрысціянскіх рэліквій з’яўляліся часцінкі святога дрэва — крыжа, на якім, ратуючы чалавецтва, сустрэў смерць Ісус Хрыстос. Паводле задумы Еўфрасінні, святыня павінна была вечна «жыватварыць» душы палачанаў і жыхароў роднай зямлі (крыж згублены, быў вывезены з Беларусі напачатку Вялікай Айчыннай вайны).

З імем князёўны-ігуменні звязана і з’яўленне на нашай зямлі абраза Маці Боскай, вядомага як Адзігітрыя (па грэц. Пуцяводная) Полацкая. Па яе просьбе візантыйскі імператар Мануіл Комнін прыслаў адзін з трох абразоў Багародзіцы Эфескай, створаных паводле падання, евангелістам Лукою яшчэ пры жыцці Дзевы Марыі (але наўрад ці ў Полацк трапіў арыгінал, магчыма, копія, зробленая візантыйскімі майстрамі). Па яе загаду гэты абраз быў аздоблены

золатам, срэбрам, самацветамі. Як згадвае «Жыціе», Еўфрасіння, унёсшы абраз у царкву Святой Багародзіцы... устанавіла насіць яго кожны аўторак па царквах. У ХХ стагоддзі рэліквіі перавезлі ў Рускі музей Санкт-Пецярбурга.

4. Значны раздзел выяўленчага мастацтва часоў Полацкага княства складае кніжная мініяцюра — выкананыя ад рукі малюнкі, арнаментальныя аздобы, застаўкі, канцоўкі, загалоўныя літары, змешчаныя ў рукапісных кнігах. Выконваліся акварэльнымі, клеявымі фарбамі, гуашшу і інш. Кніжная мініяцюра адзначалася невялікімі памерамі, тонкай тэхнікай выканання. Пра высокі ўзровень мастацкага афармлення рукапісаў, іх адмысловае майстэрства сведчыць «Тураўскае евангелле» ХІ ст., мініяцюры і загалоўныя літары «Аршанскага евангелля» ХІІІ ст. Найбольш папулярнымі былі вобразы евангелістаў Мацвея, Марка, Лукі і Яна: яны паказаны за нізкімі пісьмовымі столікамі з лістамі папірусу ў руках. Перад імі на падстаўках — пісаныя золатам кнігі.

5. У эпоху Полацкага княства значнае развіццё на Беларусі атрымалі і такія віды выяўленчага і прыкладнога мастацтва, як разьба па дрэве, косці, апрацоўка металаў, каменю, ювелірная справа, ганчарства, ткацтва.

6. Адметнай рысай старажытнага насельніцтва Беларусі з'яўлялася яго захапленне музыкай, песнямі, танцамі, карагодамі, якімі суправаджалася жыццё людзей. Мінулае пісьменства згадвае пра піры і гульні ў князёвых дварах, дзе ва ўсю шыр разгортвалі сваю дзейнасць скамарохі — акцёры, музыкі, спевакі, танцоры. Найбольш раннія вобразы музыкаў адносяцца да ХІІ ст. Сярод скамарохаў-музыкаў найбольш распаўсюджаны былі гусляры, дудары, дудачнікі, бубначы, пазней з'явіліся скрыпачы, цымбалісты. Іх функцыі вельмі разнастайныя: удзельнічалі ў ваенных паходах, валачобных абрадах, вяселлях, хрэсьбінах, ігралі на святах і княжацкіх застоллях. Хадзілі вандроўнікі-старцы і спявалі пад акампанемент ліры духоўныя вершы, псалмы, гістарычныя песні. Як вядома, жыццё Полацкага княства перш за ўсё працякала ў змаганні з ворагамі, у сталых клопатах бараніць Айчыну ад частых нападаў, таму і ў мастацтве гэтага перыяду развіваліся ратныя, вайсковыя сюжэты, карысталіся папулярнасцю прафесіі трубачоў, бубністаў, скаўраншчыкаў.

7. З ХІ стагоддзя шырокае распаўсюджванне на беларускіх землях мелі хрысціянскія богаслужэбныя спевы. Выкарыстаўшы візантыйскую традыцыю з аднагалосай вакальнай асновай, старажытная праваслаўная музыка на Полаччыне стварыла свой арыгінальны па форме і зместу знаменны (знакавы) распеў. У Полацкім манастыры нават існавала школа — хор, дзе пеўчыя адначасова атрымлівалі музычную адукацыю, навыкі царкоўных спеваў і займаліся спеўніцкай дзейнасцю. Такія школы ўзніклі ў Віцебску, Мінску, Магілёве, Слуцку.

Наогул, усе рэлігіі свету, пачынаючы з язычніцкіх вераванняў і заканчваючы монатэістычнымі, — з'яўляюцца бліскучымі феноменамі культуры, узнікшымі разам з чалавекам. Хрысціянскі свет культуры беларусаў таксама вельмі багаты. Уся культура старажытнай Беларусі, пачынаючы з Х стагоддзя, у асноўным звязана з хрысціянствам: літаратура — рэлігійная, архітэктура, жывапіс — культавыя, музыка, спевы — царкоўныя.

Завяршаючы кароткі аналіз культуры старажытнай Беларусі, неабходна падкрэсліць, што яна вельмі багатая па зместу, разнастайная па форме, і сваімі каранямі ідзе ў сівую даўніну. Яна гарманічна спалучала ў сабе яркую самабытнасць і адметнасць, а таксама ўплыў культур іншых народаў Еўропы.

## Тэма 2. РАЗВІЦЦЁ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА І ЯЕ ВЯДУЧАЯ РОЛЯ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

План.

1. Вядучая роля беларускай культуры ў Вялікім княстве Літоўскім.
2. Адраджэнне і Рэфармацыя на Беларусі, іх асаблівасці.
3. Прававая і палітычная культура беларускага народа. Фарміраванне «шляхецкай» дэмакратыі.
4. Пачатак беларускага кнігадрукавання. Грамадская думка, асвета, адукацыя.

І. З часоў узнікнення Вялікага княства Літоўскага (першая палова XIII ст.) уваходзячыя ў яго склад землі знаходзіліся на розных узроўнях эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця. ВКЛ было поліэтнічнай дзяржавай, у якой побач з продкамі сённяшніх беларусаў пражывала шмат іншых этнасаў — аўкштайты, валыняне, жамойты, латыголы, северане, яцвягі, з канца XIV стагоддзя — татары, яўрэі і інш.

На культуру нашых продкаў пэўны ўплыў аказвала культура гэтых этнасаў.

Значнае ўздзеянне аказвала культура балцкіх плямёнаў. Пацверджанні таму захаваліся ў беларускім фальклоры, у прозвішчах, імёнах, назвах мясцін, у рэчах хатняга і гаспадарчага ўжытку, якія знаходзілі пры археалагічных раскопках.

Яўрэйская культура таксама ўплывала на беларускую, асабліва ў гарадах, дзе з XV стагоддзя тут пражывала ад двух да дзесяці працэнтаў яўрэяў. Яны займаліся гандлярствам, ліхвярствам, ювелірнай справай і інш.

Культура татарскага народа. Каля 40 тысяч татар з׳явілася тут напрыканцы XIV ст., а ў XVI ст. — іх ужо было звыш 200 тысяч. Яны былі добрымі воямі, каняводамі, рамеснікамі і сваім майстэрствам дзяліліся з беларусамі.

Культура народаў былога старажытнарускага дзяржаўнага аб׳яднання з цэнтрам у Кіеве (продкаў сённяшніх украінцаў), далучаных да ВКЛ пасля перамогі над татарамі ў другой палове XIV ст.

Уплыў культуры палякаў і маскоўцаў у XIV–XV ст.ст. быў яшчэ нязначным, ніякага ўздзеяння на нашых продкаў не аказваў.

Трэба адзначыць, што хаця ўздзеянне вышэйпазначаных народаў на беларусаў і мела месца, але рашуча паўплываць на самабытную, нацыянальную культуру нашых продкаў было няздольным. Нашчадкі крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў не растварыліся сярод іншых этнасаў, а на працягу XIV–XV ст.ст. стварылі беларускую народнасць, якая захавала сваю багатую і разнастайную

культуру. Яна заставалася непаўторнай, адметнай і займала вядучую ролю сярод культур іншых этнасаў на працягу некалькіх стагоддзяў існавання ВКЛ. Аб гэтым сведчаць наступныя факты.

1. Старабеларуская мова ў ВКЛ мела статус дзяржаўнай. Разам з умацаваннем і пашырэннем межаў ВКЛ ішло фарміраванне беларускай мовы з ярка выражанымі арфаграфічнымі і гукавымі асаблівасцямі, якіх не было ў мове суседніх народаў — палякаў і маскоўцаў (аканне, дзэканне, цэканне, цвёрдае «р», кароткае «ў», фрыкатыўнае «г» і інш.). Яна была асноўнай літаратурна-пісьмовай мовай усёй дзяржавы, рабочай мовай Вялікага сойма. На ёй вялося справаводства, адукацыя, асвета і інш. На ёй напісаны важнейшыя юрыдычныя дакументы — Прывілеі, Судзебнік, Статуты ВКЛ. Па-за межамі краіны мову называлі літоўскай (дарэчы, ў жамойтаў, продкаў сённяшніх літоўцаў, аж да XVI ст. сваёй пісьмовай мовы яшчэ не было). Пісьмо да рускага цара Аляксея Міхайлавіча ў сярэдзіне XVII ст. Багдан Хмяльніцкі пісаў беларускім пісьмом, бо сваёй, украінскай канцэлярскай мовы таксама не існавала. Гісторыя захавала яшчэ адзін факт, засведчаны рускім вучоным С. Салаўёвым у «Истории российской с древнейших времён», дзе маскоўскія паслы выказвалі незадавальненне сваім калегам з Рэчы Паспалітай у 1646 годзе: «Издавна повелось, что грамоты королевские к великаму государю пишутся белорусским письмом, и теперь, мимо прежних обычаев, по-польски писать не годится...»

Як вядома, дзяржаўнасць беларускай мовы была скасавана Пастановай канфедэрацыі саслоўяў Рэчы Паспалітай у 1696 годзе.

2. Высокага ўзроўню развіцця ў ВКЛ дасягнула прававая і палітычная культура, дзяржаўнае будаўніцтва. На змену звычаёваму праву, якое рэгулявала ўсе праваадносіны ў грамадскім жыцці нашых продкаў, з XIV ст. пачынаюць выдавацца законы ў форме Прывілеяў (грамат), дзе юрыдычна пацвярджаліся правы і ільготы феадалаў, афармлялася прававое становішча шляхты і іншых слаёў грамадства. Першымі такімі агульнадзяржаўнымі (земскімі) дакументамі лічыліся тры Прывілеі, выдадзеныя ў 1387 годзе Вялікім князем Ягайлам пасля заключэння Крэўскай уніі з Польшчай. Хоць гэтыя прывілеі і былі найперш накіраваны на распаўсюджванне тут каталіцызму, на пашырэнне правоў каталіцкай шляхты, але таксама закраналі інтарэсы ўсяго народа, юрыдычна замацоўвалі дзяржаўную адасобленасць ВКЛ ад Польшчы.

Значнае месца сярод крыніц дзяржаўнага права мелі Прывілеі Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта, прынятыя ў 1432 і 1434 гадах. Дзеля захавання адзінства і згоды ў дзяржаве, цэласнасці яе зямель, прывілеі ўраўноўвалі ў правах праваслаўных феадалаў з каталіцкімі, забяспечвалі ім асабістую свабоду і недатыкальнасць. Такім чынам, гэтыя граматы стварылі прававыя ўмовы для згуртавання ўсяго вышэйшага саслоўя, незалежна ад веравызнання.

Важным крокам наперад у развіцці заканадаўства наогул, і дзяржаўнага права ў прыватнасці, быў так званы Земскі Прывілей Казіміра I Ягайлавіча, прыняты ў 1447 годзе. Па свайму зместу нагадваў Вялікую хартыю вольнасці Англіі. У ім больш грунтоўна выкладзены правы асобы і маёмасныя правы не толькі феадалаў, служылай шляхты, але таксама і простых людзей, асабліва

гараджан (месцічаў або мяшчан), гарантавалася іх недатыкальнасць. Змешчаны некаторыя прынцыпы крымінальнага, цывільнага і дзяржаўнага права. Так, за праступства мужа ці бацькі не неслі адказнасць іншыя члены сям´і. Гарантавалася ўсім права свабоднага выезду з краіны і вяртання назад. Цікавасць выклікаюць артыкулы, у якіх ураду забаранялася раздаваць дзяржаўныя пасады і маёмасць іншаземцам. Такім шляхам Прывілей абараняў Беларусь і Літву ад палітычных і эканамічных памкненняў Польшчы пасля Крэўскай уніі ў 1385 годзе.

За часы паўвяковага княжання Казіміра Ягайлавіча ў 1468 годзе быў зацверджаны другі дзяржаўны акт, вядомы пад назвай Судзебніка, альбо Статута. Ён складаўся з 25 артыкулаў і уключаў нормы дзяржаўнага, крымінальнага, грамадзянскага і прыродаахоўчага права. Гэта быў падручнік для дзяржаўных суддзяў па судовай практыцы. Ён увёў з´езды суддзяў, на якіх вырашаліся найбольш заблытаныя і незразумелыя судовыя пытанні. Судзебнік абавязваў усіх грамадзян клапаціцца аб захаванні лесу, падтрымліваць у належным парадку дарогі і масты. Судзебнік 1468 года паклаў пачатак новаму этапу развіцця права і заканадаўчай дзейнасці дзяржаўных органаў, які завяршыўся стварэннем трох Статутаў ВКЛ у XVI ст. Аб іх размова пойдзе ніжэй. У галіне прававой культуры наша дзяржава апярэдзіла сваіх суседзяў. Судзебнік маскоўскага князя Івана III, прыняты на 30 год пазней, па зместу і тэрміналогіі нагадваў беларускі: складальнікі маскоўскага зводу законаў карысталіся нашым і многа з яго запазычылі, бо маскоўская дзяржава і яе заканадаўства амаль 300 год знаходзілася пад уплывам татара-мангольскага звычаёвага права.

Дух свабоды здаўна быў уласцівы беларусам. У складзе ВКЛ яны стварылі адно з самых дэмакратычных гаспадарстваў свету. Праявай гэтага было так званае Магдэбургскае права гарадоў. Яно ўпершыню было прадастаўлена нямецкаму гораду Магдэбургу ў канцы XIII ст. і з´явілася юрыдычным замацаваннем поспехаў гараджан у барацьбе з феадаламі за самастойнасць. Гэтае права з канца XIV ст. атрымалі шэраг гарадоў Беларусі — Вільня (1387 г.), Бярэсце (1390 г.), Гародня (1391 г.). На працягу XV–XVI ст.ст. яно было нададзена ўсім буйным беларускім гарадам — Полацку, Навагрудку, Слуцку, Пінску, Мінску, Магілёву і інш. Яго распаўсюджванню спрыяла вылучэнне гараджан у асобнае мяшчанскае саслоўе і пашырэнне іх правоў.

А як вядома з гісторыі, яшчэ старажытную Беларусь іншаземцы называлі краінай гарадоў. Але найбольш інтэнсіўна горадабудаўніцтва пачало развівацца ў XIV–XV ст.ст. Крыніцы згадваюць, што ў XVI ст. на Беларусі ўжо налічвалася 350 гарадскіх пасяленняў з колькасцю жыхароў ад 1,5 да 3 тысяч. Былі і буйныя — ад 6–8 да 10 тысяч чалавек.

Па Магдэбургскаму праву жыхары горада выходзілі з-пад юрысдыкцыі феадалаў-землеўласнікаў, вызваляліся ад шэрагу феадальных павіннасцей, выбіралі гарадскія органы ўлады (раду, магістрат, суд). Адказнасць за ўсе праступствы ў горадзе і за яго межамі мяшчане неслі толькі перад судом свайго го-

рада і вызваляліся з-пад улады і суда ваяводаў, паноў, старастаў і іншых службовых асоб агульнага кіравання ВКЛ. Ажыццяўленне і ахова іх правоў ваходзілі ў абавязкі гарадской рады. Граматы на самастойнасць змяшчалі агульныя для многіх беларускіх гарадоў нормы мясцовага права. Яны былі скіраваны на захаванне ільгот і правоў гараджан, на стварэнне ўмоў для росквіту і ўмацавання горада, яго эканомікі і культуры.

Цікавасць выклікае той факт, што граматы беларускім гарадам гавораць аб увядзенні нямецкага права, але не змяшчаюць ніводнай яго нормы, не называюць ніводнага нямецкага кодэкса, якім трэба карыстацца, а ўтрымліваюць нормы мясцовага звычаёвага права і новыя нормы, выпрацаваныя беларусамі ў працэсе вылучэння гараджан у асобнае саслоўе тагачаснага феадальнага грамадства. Усё гэта дае падставу называць гэтае права не нямецкім, а гарадскім (мяшчанскім) правам Беларусі. Сказанае вышэй станоўча адбівалася на характары гараджан, спрыяла выхаванню ў іх пэўнай незалежнасці і пачуцця асабістай чалавечай годнасці, павагі да сябе і іншых.

3. У часы ВКЛ інтэнсіўна развівалася і матэрыяльная культура беларускага народа, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. У XIV–XV ст.ст. працягвае існаваць і развівацца феадальны спосаб вытворчасці, паскоранымі тэмпамі ідзе працэс аддзялення рамяства і гандлю ад сельскай гаспадаркі. У гэты час узнікаюць і пашыраюцца новыя формы і спосабы арганізацыі земляробства, апрацоўкі глебы. Двухпольны севазварот змяняўся трохпольным, што спрыяла павышэнню ўрадлівасці і давала магчымасць буйным феадальным гаспадаркам вырошчваць збожжа на продаж. Дзякуючы развіццю рамёстваў, з´яўляліся новыя прылады працы, новыя тэхналогіі апрацоўкі зямлі, розных матэрыялаў.

На Беларусі здаўна амаль кожны сялянскі двор выступаў як самастойны вытворчы калектыў. Усе неабходныя рэчы, прылады працы і хатняга ўжытку рабіліся на месцы майстрамі-ўмельцамі. Беларусы займаліся кавальскай справай, ганчарствам, дрэваапрацоўчымі рамёствамі, ткацтвам, кравецтвам і інш. З XIV ст. цэнтрамі рамяства і гандлю сталі гарады і буйныя мястэчкі. Разам з вышэйазначанымі рамёствамі тут выкарыстоўвалася апрацоўка каменю для будаўніцтва дамоў і прылад працы, медніцтва, апрацоўка скур, выраб з іх абутку, адзення, рэчаў гаспадарчага і хатняга ўжытку. З XVI ст. распаўсюджваецца выраб шкла і паперы. Таксама далейшае развіццё атрымала дэкаратыўна-прыкладное мастацтва: ювелірная справа, разьба па косці, каменю і дрэву, закладваліся асновы нацыянальнага беларускага ткацтва. З XIV ст. з´яўляецца мастацкая апрацоўка металу, чаканка, таракотавая і паліваная кераміка і кафля, паліхромная і рэльефная кафля з рознымі кампазіцыямі, аздабленне зброі каштоўнымі металамі. Ужо дзейнічаюць цэхі ювеліраў, разьбяроў па косці і каменю, гутнікаў (высокамастацкія вырабы са шкла — кубкі, бакалы, бутэлькі і інш.).

Па падліках гісторыкаў, у гарадах Беларусі налічвалася ад 50 да 80 рамесніцкіх прафесій, а колькасць саміх рамеснікаў вагалася ад 20 да 50% ад усіх мяшчан. У крыніцах XVI — першай паловы XVII ст. упамінаецца ўжо каля 200

рамесніцкіх прафесій і спецыяльнасцей. Так, здабыча і апрацоўка розных металаў налічвала каля 40 прафесій, дрэваапрацоўка — 27, гарбарная і футравая вытворчасць — звыш 25. Не менш разнастайнай была вытворчасць валакністай сыравіны і адзення (26 прафесій), прадуктаў харчавання і напояў (21), апрацоўка мінеральнай сыравіны — 12 прафесій (гл. Гісторыя Беларусі, ч. I. – Мн., 2000. – С. 372). А іменна колькасць рамеснікаў, рамесніцкіх прафесій і спецыяльнасцей з´яўлялася важнейшым паказчыкам высокай ступені развіцця горада, яго матэрыяльнай культуры.

У гарадах і мястэчках Беларусі развіваліся таксама промыслы — цагельні, млыны, рудні, цукроўніцы, вінніцы, піваварні і інш. Рост рамёстваў і промыслаў садзейнічаў развіццю гандлёвай дзейнасці, крэдытнай справы і ліхвярства. Для некаторых гараджан, асабліва купцоў, ліхвярства станавілася прафесіяй. Атрымліваючы высокія працэнты з даўжнікоў, яны хутка багацелі.

4. Значныя дасягненні беларускага народа ў XIV–XVI ст.ст. меліся ў галіне архітэктуры, выяўленчага мастацтва. Для гэтага часу характэрны культавыя пабудовы, абарончыя комплексы, крэпасныя збудаванні, пазней — палацазамкавыя ансамблі. У развіцці беларускага дойлідства спалучаліся нацыянальныя і заходнееўрапейскія традыцыі. Творча перапрацаваўшы і пераасэнсаваўшы заходнія стылі (раманскі, гатычны і барочны), беларускія майстры стварылі самабытныя, арыгінальныя і непаўторныя помнікі драўлянай і мураванай архітэктуры. На змену магутным канструкцыям раманскага стылю з тоўстымі сценамі, рэдкімі праёмамі вузкіх вокнаў і магутнымі вежамі прыйшла готыка — з лёгкімі канструкцыямі, стрэльчатымі аркамі, высокім дахам, вялізнымі шматкаляровымі вокнамі-вітражамі. У гэтым стылі пабудаваны такія шэдэўры архітэктуры, як Троіцкі касцёл у вёсцы Ішкалдзь на Брэстчыне, Усялюбскі — на Гродзеншчыне, Фарны — у Навагрудку, Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі і іншыя.

Высокі мастацкі ўзровень быў дасягнуты ў стварэнні новага стылю — беларускай готыкі, узорамі якой сталі цэрквы абарончага характару ў Сынкавічах, Маламажэйкаве, Супраслі. Тут з вялікім мастацкім густам арганічана злучаны мясцовыя архітэктурныя формы з гатычнымі і раманскімі рысамі. Блізкія па агульнаму тыпу і ў той жа час вельмі індывідуальныя, яны сведчаць аб высокім майстэрстве беларускіх дойлідаў і ўяўляюць сабой значную з´яву ў еўрапейскай архітэктуры позняга сярэдневечча.

На працягу XIV–XV ст.ст. у сувязі з пастаяннай знешняй небяспекай, у свецкай архітэктуры Беларусі з´явіўся новы невядомы раней тып збудаванняў — манументальныя мураваныя замкі-крэпасці. Шэраг такіх замкаў узнік уздоўж паўночна-заходняй мяжы ВКЛ, каб ратавацца ад крыжацкай пагрозы. У гэты ж час перабудоўваюцца драўляныя замкі ў мураваныя (Навагародскі, Стары Замак у Гародні і інш.).

Адным з першых моцных абарончых збудаванняў стаў Лідскі замак, узведзены ў 20-я гады XIV ст. У яго канструкцыі і кампазіцыі адчуваўся ўплыў раманскага стылю і готыкі. Другім, найбольш раннім помнікам крэпаснай

архітэктуры лічыцца Крэўскі замак, пабудаваны ў мястэчку Крэва на Гродзеншчыне ў 30-я гады XIV ст. Замкі будаваліся з цэглы і каменю на прыродных ці штучных узгорках разнастайнай формы ў выглядзе квадрата, прамавугольніка ці трапецыі (як Лідскі і Крэўскі), з тоўстымі і высокімі сценамі, з байніцамі на выгібах, з дзвюма, чатырма альбо пяццю бакавымі вежамі. Яны выконвалі функцыю агульнагарадской крэпасці і княжацкага дому, былі непрыступнымі для непрыяцеля. У выпадку знешняй пагрозы тут хаваліся і абараняліся ад ворагаў не толькі княжацкія сем΄і, але і мясцовае насельніцтва. Крэпасныя комплексы ў Лідзе і Крэве заклалі аснову развіцця замкавай і палаца-замкавай архітэктуры наступных стагоддзяў.

У XV–XVI ст.ст. абарончыя прыстасаванні мелі не толькі палацы-замкі, дамы-крэпасці, але і дзяржаўныя збудаванні — гарадскія ратушы (Нясвіжская, Віцебская), магістраты. Элементы абарончага характару набывалі нават культавыя будынкі: манастыры, цэрквы, касцёлы, сінагогі. Так, на пачатку XVI ст. у Храм-Замак быў перабудаваны Полацкі Сафійскі сабор.

З другой паловы XVI ст. у беларускай архітэктуры адбываюцца значныя змяненні: хоць яшчэ па-ранейшаму будуюць храмы ў гатычным стылі, але ўжо паступова адбываецца яго спалучэнне з рэнесансавым, які азначае ўраўнаважанасць, гармонію канструкцыйнасці, функцыянальнасці і дэкору. Гэта фарны касцёл у Клецку, кальвінісцкі збор у Смаргоні, Спаса-Прэабражэнская царква ў Заслаўі.

У свецкім будаўніцтве замест ранейшых замкаў-крэпасцяў пачалі ўзводзіцца прыватнаўласніцкія палацы беларускіх магнатаў. Іх асаблівасцю з΄яўляецца спалучэнне ў адным комплексе чыста абарончых умацаванняў (земляных валаў, ірвоў і каменных сцен з вежамі) з жылым палацам, які звычайна будаваўся ў рэнесансавым стылі. Тыповым прыкладам такой архітэктуры з’яўляецца замак магнатаў Ільінічаў, а пазней — Радзівілаў у Міры — жамчужыны беларускага каменнага дойлідства XVI ст. Гэты комплекс меў 5 магутных вежаў з вялікай колькасцю байніц, за якімі знаходзіўся гарадскі вал. Кожная вежа пры блізкасці стылю і канструкцыі мае сваё асабістае аблічча. Іх прыгажосць і велічнасць як бы адводзяць магутнасць сцен на другі план, ствараючы разам з імі адзіны вобраз непаўторнага збудавання. Унутры замкавага двара прыбудаваны да паўночнай і усходняй сцен замка трохпавярховы палац.

Цікавасць у нашчадкаў выклікае Нясвіжскі палаца-паркавы комплекс, пабудаваны ў барочна-рэнесансавым стылі, гэты беларускі Сан-Сусі над Ушою. Спачатку гэта быў драўляны палац, а з 1583 г. італьянскі дойлід Джоні Марыя Бернардоні пачаў узводзіць каменны замак-крэпасць. Ён меў прамавугольную форму, быў акружаны азёрамі, каналамі, абарончымі валамі вышынёй да 20–25 метраў, але з цягам часу набыў рысы свецкага палаца-паркавага комплексу і стаў цэнтрам беларускай культуры на некалькі стагоддзяў. Уладальнікі комплекса Радзівілы любілі падражніць суседзяў, дэманструючы сваё багацце. Палац і яго ўбранне, і парк, і друкарня, і шаўковыя мануфактуры, і тэатры, і святы з тэатралізаванымі дзеяннямі, і калекцыі карцін, посуду, зброі — усё павінна

было быць найлепшым. Сабраная многімі пакаленнямі Радзівілаў бібліятэка налічвала больш за 20 тысяч тамоў кніг, у тым ліку старадрукаў, захоўвала рэдкія рукапісы і гістарычныя акты, летапісы, граматы, лісты, у тым ліку Людовіка VI, Карла XII, Б. Хмяльніцкага, Пятра I. На жаль, войны, рэвалюцыі, пераходныя перыяды, адметныя частым заняпадам і застоем у культурнай сферы, нанеслі вялікі ўрон палаца-паркаваму комплексу Нясвіжа.

З канца XVI ст. пачынаецца працэс фарміравання і станаўлення новага мастацкага стылю — барока, які характарызуецца пышнасцю, дынамікай кампазіцыі, ускладнёнасцю архітэктурных формаў, светлаценевымі кантрастамі, багатай пластыкай і дэкорам. Гэты стыль, таксама як і гатычны, быў перапрацаваны ў адпаведнасці з мясцовымі дойлідскімі традыцыямі, што прывяло да стварэння новай архітэктурнай сістэмы — беларускага барока, якое захоўвала і развівала традыцыі народнай культуры, удасканальвала нацыянальнае будаўнічае майстэрства. Найбольш характэрным для архітэктуры беларускага барока з′яўляецца храм з двухвежавым галоўным фасадам.

Першымі помнікамі беларускага барока з′яўляюцца езуіцкі і бернардзінскі касцёлы ў Нясвіжы (1584–1593 гг.), Мікалаеўскі касцёл у Міры і інш. Гэты стыль з канца XVI ст. становіцца пануючым на Беларусі.

У цеснай сувязі з архітэктурай развівалася і выяўленчае мастацтва, прадстаўленае фрэскавым роспісам, іканапісам, дэкаратыўнай скульптурай храмаў і палацаў, а таксама партрэтам. З гісторыі вядома, што многія культавыя пабудовы і княжацкія палацы былі ўпрыгожаны манументальнымі роспісамі — гэта палацы ў Віцебску, Вільні, Гародні, Полацку, касцёл у Ішкалдзі, Маламажэйкаўская і Сынкавіцкая цэрквы, а таксама знакамітыя фрэскі ў храмах Беластока, Любліна, Супрасля і Сандаміра, выдатна выкананыя беларускімі майстрамі.

Жывапіс Беларусі XIV–XVI ст.ст. — даволі арыгінальная з′ява ў еўрапейскім мастацтве. Асаблівае месца ў ім належыць іканапісу, у якім традыцыі візантыйскага і ўсходнеславянскага мастацтва арганічна злучаны са стылістычнымі асаблівасцямі заходнееўрапейскага рэнесансу і барока. Станаўленне беларускай іканапіснай школы належыць да XV–XVI ст.ст.

Менавіта ў гэты перыяд мясцовыя ізографы, засвоіўшы еўрапейскую тэхналогію пісьма і традыцый, набылі свой нацыянальны, адметны почарк напісання абразоў. Пад уплывам рэнесансавых ідэй у беларускім іканапісе назіраюцца пэўныя зрухі: на змену вытачаных і умоўных вобразаў, адарваных ад рэальнасці, прыходзіць канкрэтнасць, гармонія, дасканаласць прапорцый, пластычнасць. Біблейска-іканаграфічная аснова спалучаецца з рэальнасцю вобразаў, іх прастанароднасцю, этнаграфічнымі элементамі. Самымі раннімі сярод знойдзеных на Беларусі мясцовых тыпаў абразоў з´яўляюцца «Маці Боская «Замілаванне» з Маларыты (XIV ст.), «Маці Боская Ерусалімская» з пінскай Варварынскай царквы (XV ст.), а таксама з рысамі Адраджэння — «Маці Боская Смаленская» з Дубінца (канец XV ст.), «Нараджэнне Багародзіцы» з Ляхаўцаў, «Пакланенне вешчуноў» з Дрысвят, «Параскева Пятніца» са Случчыны і інш.

Пісаліся абразы на сасновых, ліпавых альбо дубовых высушаных дошках таўшчынёю ад 2 да 3 см, падклееных льняной ці пяньковай тканінай. Для беларускіх абразоў разглядаемага часу адметным з´яўляецца шырокае выкарыстанне дэкаратыўна-пластычных сродкаў — разьбы, лепкі, афарбоўкі фону, разнастайных накладных элементаў, пакрыцця жывапіснай паверхні ахоўным лакам з яечнага бялку альбо смалы.

У адрозненне ад станковага жывапісу іканаграфія арганічна ўваходзіла ў адзіны ідэйна-мастацкі комплекс з архітэктурай, дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам і выконвалася звычайна для канкрэтнага месца — ансамбля іканастаса ў праваслаўных і каталіцкіх храмах.

У XV ст. узнікае і свецкі жывапіс: модным становіцца маляванне партрэтаў князёў, магнатаў, шляхты, гістарычных дзеячаў — віцебскай княжны Пракседы, магната Хадкевіча, слуцкага князя Алелькавіча, вялікага князя ВКЛ Альгерда, княгіні Ганны Радзівіл. З канца XVI ст., акрамя партрэтнага, у жывапісе ўзнікаюць гістарычны, батальны і іншыя жанры.

У скульптуры разглядаемага часу, таксама як і ў архітэктуры, мела месца існаванне розных еўрапейскіх мастацкіх стыляў і сваіх нацыянальных адметнасцей. Самы ранні помнік, што захаваўся на нашай зямлі, — гэта «Распяцце» (XIV ст.), з рысамі раманскага стылю, знойдзенае ў вёсцы Галубічы Віцебскай вобласці. У храмах XV – пачатку XVI ст.ст. з´яўляюцца алтары са складанымі скульптурна-жывапіснымі комплексамі, у якіх ужо адчуваецца ўплыў гатычнага стылю. Значную цікавасць сярод іх выклікаюць скульптуры Марыі Магдаліны і Яна Багаслова (XV ст.) з Мсцібава (Ваўкавыскі раён). Традыцыі Адраджэння назіраюцца ў скульптурах «Кацярына Александрый-ская», «Лізавета Венгерская» (г.п. Шарашова Пружанскага раёна). Жыццёвая напоўненасць вобразаў, сцвярджэнне зямной прыгажосці маці і дзіцяці вызначаюць кампазіцыю «Марыя з дзіцем» (Нясвіж). Актыўнаму засваенню стылю Рэнесансу спрыялі італьянскія майстры, якія працавалі ў ВКЛ.

Такім чынам, архітэктура і выяўленчае мастацтва XIV–XVI ст.ст. спалучалі ў сабе ўсе асноўныя стылі заходнееўрапейскай культуры, і ў той жа час захоўвалі беларускія нацыянальныя традыцыі, іх самабытнасць і адметнасць.

5. Найбольшага росквіту на беларускіх землях у часы ВКЛ дасягнулі літаратура, адукацыя, кнігадрукаванне. Як вядома з папярэдняй тэмы, літаратура Беларусі — адна з самых старажытных у Еўропе. Яе ўзнікненне і распаўсюджванне звязваецца з прыняццем хрысціянства напрыканцы Х ст. Аднак станаўленне ўласна беларускай літаратуры адбываецца ў XIV–XV ст.ст. Паранейшаму з´яўляюцца творы царкоўна-рэлігійнага зместу. Гэта «Сказанне аб літоўскіх (віленскіх) пакутніках» (XIV ст.), так званыя «Хаджэнні» — Аграфенія (XIV ст.), Варсанофія (XV ст.) на Блізкі Усход, у Палесціну, хаджэнне ў Царград і Ерусалім Ігнація Смаляніна. Гэтыя творы з´яўляюцца арыгінальнымі помнікамі беларускай літаратуры XIV ст., якія мелі вялікую папулярнасць не толькі ў беларускіх чытачоў, але і ўсяго усходнеславянскага свету. Ствараюцца таксама і арыгінальныя свецкія творы — гісторыка-літаратурныя летапісы. Адным з першых і найбольш выдатных твораў уласна беларускай літаратуры, сваеасаблівай энцыклапедыяй гісторыі ведаў эпохі сярэдневечча прынята лічыць рукапісную кнігу «Летапісец вялікіх князёў Літоўскіх», створаную ў 20-я гады XV ст., а таксама беларуска-літоўскі летапіс 1446 года, «Хроніку Быхаўца» і інш. Напісаныя на старажытнабеларускай мове, яны сталі пачаткам нацыянальнай літаратуры, люстэркам грамадска- палітычнага жыцця таго часу, культурнага і гістарычнага патэнцыялу нашых продкаў, іх мастацкага густу. Беларускія летапісы не толькі адлюстроўваюць гістарычнае мінулае свайго народа, роднага краю, паказваюць дзейнасць і ўслаўляюць гістарычныя асобы і іх ратныя подзвігі («Пахвала Вітаўту», «Жыццё і смерць Кейстута»), але і ўтрымліваюць легенды і паданні, прыказкі і выслоўі, арыгінальныя свецкія і воінскія аповесці, апавяданні і навэлы. Аўтары летапісаў былі не толькі гісторыкамі, але і пісьменнікамі, мастакамі з добрым эстэтычным густам і творчай фантазіяй. Таму яны здабылі славу адукаваных літаратараў і таленавітых апавядальнікаў, якія адкрылі новую старонку ў гісторыі нацыянальнай прозы. Менавіта з XV ст. пачалася актыўная распрацоўка мясцовымі сіламі гісторыі беларускага краю. Пра развіццё літаратуры, адукацыі і кнігадрукавання XVI ст. размова пойдзе ніжэй.

6. Духоўная культура беларускага народа знайшла сваё адлюстраванне ў фальклоры, песенным, харэаграфічным і музычным мастацтве. Значны ўклад у сусветную скарбніцу народнай мудрасці ўнёс беларускі фальклор — багаты, разнастайны, шматгранны і самабытны, які ствараўся на працягу нашай тысячагадовой гісторыі, але найбольшага росквіту ён дасягнуў у разглядаемы перыяд.

Мудрасць народа, яго працавітасць, жыццёвы і гаспадарчы вопыт паказаны ў вуснай народнай прозе, якая прадстаўлена шматлікімі жанрамі — гэта казкі, міфы, легенды, паданні, сказы, апавяданні, быванцы, прыказкі, прымаўкі, загадкі, анекдоты, жарты, гумарэскі і інш.

Вельмі багатая ў беларусаў і вусная народная паэзія, якая захавалася і дайшла да нашых дзён у асноўным у выглядзе народнай песні. Як пісаў выдатны збіральнік беларускай песні Рыгор Шырма, па народнай песні можна пазнаць цэлую нацыю, яе характар і душу. У гэтым сэнсе багацце беларускай народнай песні бязмернае: вяселле ці пахаванне, хрэсьбіны ці заручыны, кожнае

свята ці абрад, кожная пара года — не абыходзяцца без сваіх адметных спеваў. Беларуская народная песня заўсёды ясная, пластычная, часцей засмучаная, чым рэзвая і гуллівая. З боку настрояў, мелодыі і рытмаў яна вельмі самабытная: у музычных адносінах адрозніваецца мяккасцю, цеплынёй, шчырасцю. Народныя песні падзяляюцца на абрадавыя і пазаабрадавыя — гістарычныя, антыпрыгонніцкія, сямейна-бытавыя і інш.

З народнай песняй цесна звязана народная музыка, якая ахоплівала ўсе бакі жыцця чалавека — абрадавыя дзействы, калядаванне і шчадраванне, хаджэнні валачобнікаў на Вялікдзень, купальскія карагоды, якія заўсёды суправаджалі музыкі. Яны выкарыстоўвалі розныя тыпы музычнах народных інструментаў — гуслі, цымбалы, ліру, дудку, мандаліну, трубу, гармонік і іншыя.

Народны танец, як і народная песня і музыка, адлюстроўваў жыццё, побыт і працоўную дзейнасць чалавека, увасабляў яго нацыянальны характар, але ўжо ў пластычнай, харэаграфічнай форме. Танцы ў беларусаў пераважна парнамасавыя — Лявоніха, Мікіта, Млынок, Жабка, Таўкачыкі і інш. Беларускі фальклор настолькі багаты, што спатрэбілася б не адна кніга, каб яго апісаць.

Абагульняючы вышэйсказанае, можна прыйсці да высновы, што беларуская культура ў ВКЛ сапраўды займала вядучую ролю.

II. З канца XV — пачатку XVI ст. у большасці еўрапейскіх краін пачалася новая эпоха ў развіцці грамадства, якую назвалі Адраджэннем, альбо Рэнесансам. Яе феномен заключаўся ў тым, што ў параўнанні з сярэдневеччам і антычным часам у палітыцы, эканоміцы, ідэалогіі, асабліва культуры ўсёй Еўропы, адбыліся надзвычай вялікія, часам рэвалюцыйныя змяненні, выкліканыя зараджэннем новых буржуазных адносін, новага капіталістычнага ладу, які паступова ішоў на змену феадальнаму грамадству. А паколькі Вялікае княства Літоўскае было еўрапейскай дзяржавай, то ўсе гэтыя працэсы, вядома ж, мелі месца і ў яго межах. Адраджэнне стала вялікім прагрэсіўным пераваротам у гісторыі чалавецтва, маючым свае характэрныя рысы, свае асаблівасці.

1. Зварот да антычных традыцый, антычнай культуры, антычнай філасофіі, іх адраджэнне і далейшае развіццё. Па сутнасці, гэты працэс датычыўся толькі Італіі, дзе старажытная культура дасягнула высокага ўзроўню. Нездарма Адраджэнне і распачалося ў Паўночнай і Сярэдняй Італіі яшчэ ў XIV ст. Праводзіліся археалагічныя раскопкі па пошуку і аднаўленню рымскіх і грэчаскіх статуй, ішла рэстаўрацыя антычнай архітэктуры, рабіліся пераклады твораў Платона, Арыстоцеля, Цыцэрона, стоікаў, эпікурэйцаў, пры тым мела месца свабоднае асэнсаванне тэкстаў.

Ва ўсіх іншых краінах Еўропы ішло зараджэнне, узнікненне новай, пераважна свецкай, культуры, новага светапогляду. Але Адраджэнне азначала не толькі паўтарэнне антычнасці. Гэта быў вялікі крок наперад ва ўсіх сферах жыццядзейнасці чалавека.

2. Гуманізм эпохі Адраджэння, яе антрапацэнтрызм (ад лац. humanus — чалавечнасць, ад грэц. anthropos — чалавек). Гэта сістэма светапогляду, кірунак

грамадскай думкі, ідэалагічная аснова прагрэсіўнай культуры, вядучая ідэйная плынь, якая аформілася ў той час. Усё гэта азначала, што цэнтрам сусвету, новага светапогляду станавіўся не Бог, як у Сярэдневеччы, а чалавек — свабодная творчая істота з неабмежаванымі магчымасцямі, чалавек — асоба, прыгожая маральна і фізічна, поўная ўласнай годнасці, якая валодала markdown рознабаковымі ведамі і асабістымі здольнасцямі.

Эпоха гуманізма стварыла новую сістэму каштоўнасцей, якая абараняла ідэалы дабра, справядлівасці, шчасця, радасці зямнога жыцця, зямной славы і дабрабыту чалавека, незалежна ад яго сацыяльнага паходжання і заслуг перад царквою.

3. Росквіт прыродазнаўчых і гуманітарных навук, навуковых адкрыццяў і тэхнічных дасягненняў. Яны ўвайшлі ў паўсядзённае жыццё людзей, аказалі істотны ўплыў на іх светапогляд, змянілі іх лад жыцця. Так, выкарыстанне сілы ветра замест мускульнай энергіі чалавека, вынаходніцтва навігацыйных прыбораў прывялі да караблебудаўніцтва, засваення мораў і акеанаў, кругасветных падарожжаў, новых геаграфічных адкрыццяў, новых гандлёвых шляхоў, а ў далейшым — з’яўлення новага саслоўя — гандляроў.

Вельмі значныя наступствы ў галіне ваеннай тэхнікі мела адкрыццё і распаўсюджванне агнястрэльнай зброі. Яно не толькі змяніла стратэгію і тактыку вядзення вайны, але і зрабіла непатрэбнам існаванне цэлага саслоўя — рыцараў-воінаў.

Вытворчасць шкла і яго шырокае выкарыстанне значна змяніла аблічча гарадоў, наблізіла іх да сучаснага выгляду. У архітэктуры пачалі ўжывацца больш дасканалыя стылі, больш лёгкія канструкцыі і матэрыялы.

Вынаходніцтва мікраскопа прывяло да свайго роду рэвалюцыі ў біялогіі — адкрыцця клеткі. Была знята забарона з навуковых даследаванняў цела чалавека і яго псіхікі. Урачы пачалі вывучаць будову цела, анатаміруючы трупы, мастакі — ствараць карціны з выявай непакрытага цела, пісьменнікі, паэты вывучалі пачуцці, эмоцыі чалавека.

І вядома ж, найвялікшай падзеяй, своеасаблівай культурнай рэвалюцыяй, якая вызначала фарміраванне не толькі культуры Адраджэння, але і ўсёй сусветнай культуры, было кнігадрукаванне, у выніку якога больш хуткімі тэмпамі пачала распаўсюджвацца літаратура, асвета, адукацыя.

4. Адбылася мадыфікацыя сярэдневяковай хрысціянскай традыцыі. Змянілася роля царквы, адносіны да яе, да святароў. Супраць каталіцкай царквы як пасрэдніка паміж Богам і чалавекам выступілі рэфарматары-гуманісты, многія з якіх пачалі перакладаць Біблію на жывыя нацыянальныя мовы, што садзейнічала яе даступнасці, распаўсюджванню сярод больш шырокіх колаў насельніцтва. У ідэйнай сістэме грамадства галоўнае месца займаў ужо не Бог, а чалавек, як вянец светабудовы, любімае Божае стварэнне. Хаця па-ранейшаму роля хрысціянскай царквы ў Еўропе яшчэ доўгі час заставалася дастаткова вялікай і моцнай.

5. У эпоху Адраджэння складваліся ўмовы для стварэння нацый, абуджэння нацыянальнай самасвядомасці, патрыятызму, фарміраваліся і

развіваліся нацыянальныя мовы, адбывалася інтэнсіўнае станаўленне нацыянальных культур. Носьбітамі новага светапогляду, новай нацыянальнай культуры станавіліся прадстаўнікі рознага сацыяльнага палажэння, розных прафесій, найперш гарадской інтэлігенцыі — паэты, філосафы, мастакі і інш. Не было амаль ніводнай краіны свету, у тым ліку і Беларусі, якая не нарадзіла б выдатных падарожнікаў, вучоных, вынаходнікаў, мысліцеляў, валодаўшых некалькімі мовамі свету.

Гэта была эпоха, найвялікшага дасягнення чалавечага розуму, эпоха, якая мела патрэбу ў тытанах і якая нарадзіла тытанаў па сіле думкі, пачуцця і характару, па шматбаковасці і вучонасці.

Пад уплывам ідэй Адраджэння кардынальна змяніўся светапогляд інтэлектуальнай і арыстакратычнай эліты — яна стала больш рэальна ўспрымаць рэчаіснасць, вырас яе адукацыйны ўзровень. Для простых жа людзей ідэі Адраджэння былі недаступнымі. Яны працягвалі, па сутнасці, жыць у свеце сярэдневякоўя. І менавіта інтарэсам сялян, бюргераў, мяшчан, для каго рэлігія заставалася самым вышэйшым, што было ў іх жыцці, у поўнай меры адпавядаў магутны рэфармацыйны рух, які ускалыхнуў Еўропу ў 20-я гады XVI ст. Распачаўшыся ў Германіі, ён хутка перакінуўся на іншыя краіны Еўропы, і ў тым ліку ў ВКЛ. Гэты рух у аснове сваёй насіў антыфеадальны характар і распачаўся буржуазіяй — галоўным класам новага грамадства, якое ішло на змену феадальнаму. А паколькі каталіцкая царква была апорай феадалізму, то асноўны ўдар і прыйшоўся па ёй.

Рэфармацыя (ад лац. reformatio — пераўтварэнне) — гэта шырокі грамадска-палітычны і ідэалагічны рух, накіраваны супраць засілля каталіцкай царквы ва ўсіх сферах жыцця, супраць яе багаццяў, пышнасці, індульгенцый, разбэшчанасці святароў. Ідэолагі Рэфармацыі не адмаўляліся ад самой хрысціянскай рэлігіі, а жадалі прыстасаваць яе да інтарэсаў той часткі грамадства, ад імя якой яны выступалі. Новаму дзяржаўнаму ладу, новаму класу патрэбна была свая рэлігія для абароны іх інтарэсаў, больш танная, больш дэмакратычная. Рэлігійныя пераўтварэнні, перагляд дагматаў каталіцызма прывялі да ўзнікнення новага накірунку ў хрысціянстве — пратэстантызма, які адкрываў магчымасць веруючаму непасрэдна звяртацца да Бога без пасрэднікаў — царквы і святароў. Асноўныя дагматы пратэстантызму былі сфармуляваны яго заснавальнікамі М. Лютэрам, Ж. Кальвінам, У. Цвінглі. Рэфармацыя нанесла моцны ўдар па феадальнаму ладу, пануючай царкве, хрысціянскаму светапогляду і расчысціла шлях для новай буржуазнай эпохі. Але калі Адраджэнне азначала свецкі напрамак у развіцці культуры, то Рэфармацыя насіла рэлігійны накірунак.

Усе вышэйпазначаныя характэрныя рысы еўрапейскага Адраджэння і Рэфармацыі мелі месца і ў духоўным жыцці народаў Вялікага княства Літоўскага. Дзякуючы свайму геапалітычнаму становішчу, Беларусь з’яўлялася своеасаблівай міжкультурнай мяжой, скрыжаваннем дзвюх цывілізацый, дзвюх асноўных еўрапейскіх культурных традыцый — усходняй і заходняй. Калі ў X–XIII ст.ст. значны ўплыў на беларускую культуру аказвала Візантыя, ці усходняя традыцыя, а ў XIV – першай палове XVI ст. — і тая, і другая, то з

сярэдзіны XVI ст. вызначальнай становіцца заходне-еўрапейская культурна-ідэалагічная, філасофская і рэлігійная традыцыя. Гэта стала магчымым у выніку пашырэння міжкультурных, палітычных, гандлёвых сувязей Беларусі з еўрапейскімі краінамі, падарожжаў магнатаў, навукоўцаў, цэхавых майстроў, а таксама навучанне літвінскай моладзі ў Гальскім, Кракаўскім, Лейпцыгскім, Падуанскім, Пражскім і іншых універсітэтах Еўропы.

Для распаўсюджвання ідэй Адраджэння і Рэфармацыі ў ВКЛ склаліся неабходныя эканамічныя, палітычныя і ідэалагічныя передумовы: гаспадарчы ўздым, урбанізацыя, павелічэнне гандлёва-рамесніцкага саслоўя, ажыўленне грамадска-палітычнага і культурнага жыцця ў гарадах, дзяржаўна-прававая стабілізацыя грамадства, фарміраванне беларускай народнасці, нацыянальнай самасвядомасці, уздым роднай мовы. З другога боку, мела месца абвастрэнне ўнутрыпалітычных і сацыяльных супярэчнасцей, узмацненне саслоўна-класавай барацьбы ў вёсцы, а з 1570 года тут пачалася контррэфармацыя.

Трэба адзначыць, што як Адраджэнне, так і Рэфармацыя на Беларусі не былі простым водгукам еўрапейскіх, а выступалі як нацыянальная з’ява, мелі сваю спецыфіку, свае асаблівасці.

1. Гуманістычная культура ў ВКЛ зацвярджалася з некаторым спазненнем у параўнанні з Заходняй Еўропай. Паколькі тут не паспелі сфарміравацца элементы раннебуржуазнага грамадства, то яе развіццё ажыццяўлялася на феадальна-прыгонніцкай аснове, пэўнай залежнасці гарадоў ад феадалаў, недастатковай сацыяльна-палітычнай і ідэйнай сталасці мяшчанскага саслоўя і інш.

2. Ідэя асабістай свабоды была абмежавана інтарэсамі агульнага дабра, роўнасці, справядлівасці.

3. Ідэі беларускага гуманізму былі звязаны не толькі з антыфеадальным, але і з нацыянальна-рэлігійным рухам.

4. Беларускі рэфармацыйны рух быў рэлігійна верацярпімым: ён прымаў выгляд хрысціянскага гуманізму. Верацярпімасць абвяшчалася дзяржаўнай палітыкай ВКЛ і была замацавана ў Статутах 1566 і 1588 гадоў. Там гарантаваліся роўныя правы праваслаўным, католікам, кальвіністам, антытрынітарыям ды іншым рэлігійным сектантам (разд. III, арт. 3). Да пэўнага часу мірнае суіснаванне розных рэлігій не супярэчыла нацыянальнай кансалідацыі беларусаў, а спрыяла пашырэнню асветы, адукацыі, пісьменнасці. Пазней гэта наклала адбітак на ментальнасць беларускага народа, яго самасвядомасць і культуру.

5. Ідэолагі Рэфармацыі на Беларусі (С. Будны, В. Цяпінскі, Ф. Соцын) былі не проста паслядоўнікамі еўрапейскіх рэфарматараў і гуманістаў, а выступалі як самастойныя нацыянальныя мысліцелі. Рэфармацыйны рух развіваўся тут на трывалай нацыянальнай аснове.

6. Шырокае распаўсюджванне ў гэты час атрымала мецэнацтва, якое адыграла вялікую ролю ў развіцці беларускай культуры. Выдатнымі мецэнатамі былі вялікі князь Аляксандр, Жыгімонт І, магнаты Радзівілы, Сапегі, Агінскія, а таксама заможныя мяшчане. Яны стваралі друкарні, бібліятэкі, адкрывалі

школы, прафесійныя тэатры, апякалі здольных да навукі маладых людзей, незалежна ад іх паходжання. На свае сродкі пасылалі вучыцца ў еўрапейскія універсітэты.

І хоць развіццё рэнесанснай культуры тут засталося незавершаным, не да канца аддзеленым ад рэлігійнай ідэалогіі, тым не менш беларускі народ дасягнуў небывала высокага ўзроўню, даў такія імёны мысліцеляў, асветнікаў, якія вывелі Беларусь на перадавыя пазіцыі ў Еўропе, зрабілі яе паўнапраўным удзельнікам агульнаеўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу.

ІІІ. Выдатнымі помнікамі прававой і палітычнай культуры беларускага народа з'яўляюцца тры Статуты Вялікага Княства Літоўскага, якія ўзбагацілі еўрапейскі вопыт сістэматызацыі і кадыфікацыі заканадаўства, чаго яшчэ не было ні ў адной краіне свету. Феадальная саслоўная сістэма Еўропы, што існавала стагоддзямі, асвячаючы сваю неабмежаваную ўладу імем Бога, у XVI ст. пачала даваць збой пад націскам нарастаючых сіл новага грамадска-палітычнага ладу. І хоць гэта былі зводы законаў феадальна-сярэдневяковага права, у іх даволі выразна прасочваліся тэндэнцыі новай прававой свядомасці. Яны асноўваліся на гуманістычным светапоглядзе, у аснове якога ляжалі тры галоўныя фактары: вучэнне пра самадастатковую каштоўнасць чалавечага жыцця, пра духоўную свабоду і натуралізм, як пераважны спосаб інтэрпрэтацыі чалавека і сацыяльна-прыроднай рэальнасці.

Першы звод законаў у феадальнай Еўропе — Статут ВКЛ 1529 года — рыхтаваўся на працягу 7 гадоў спецыяльнай камісіяй, створанай па ініцыятыве Сойма і адобранай Вялікім князем. За асноўную крыніцу было ўзята звычаёвае права беларускіх земляў, нормы пісанага права, што ўтрымліваліся ў раней выдадзеных земскіх Прывілеях і Судзебніку, а таксама было ўнесена шмат новых палажэнняў, раней не прымяняемых у ВКЛ. У Статуце адбыўся пераход ад выкарыстання мясцовага права да ўніфікацыі і кадыфікацыі прававых норм у рамках усёй дзяржавы.

Вучоныя мяркуюць, што магчыма ўдзел у яго складанні прымаў Францыск Скарына, бо ідэі, выказаныя ім аб праве ў прадмовах, знайшлі ўвасабленне ў Статуце. Бо ў гэты час у Вільні, дзе ствараўся Статут, Скарына якраз адчыніў першую ва Усходняй Еўропе друкарню і пачаў выдаваць кнігі на беларускай мове.

Першы Статут складаўся з 13 раздзелаў, якія ў сваю чаргу падзяляліся на артыкулы. Спачатку іх было 245, пазней — 283, пасля дапаўненняў у 30-я гады XVI ст. Многія гісторыкі памылкова называюць яго кодэксам. Гэта няправільна, бо кодэкс — заканадаўчы акт, у якім сістэматызавана выкладзены нормы права, што належаць да якой-небудзь адной яго галіны. Тут жа былі сабраны і размеркаваны ў пэўным парадку нормы дзяржаўнага, грамадзянскага, крымінальнага, адміністрацыйнага, зямельнага, працэсуальнага, сямейнага і іншых галін права, што ўласціва для зводу законаў.

Пад уплывам ідэй гуманізму ў Статут 1529 г. былі ўпершыню ўнесены такія прагрэсіўныя нормы, як суверэннасць дзяржавы, адзінства права, яго свецкі характар, талерантнасць, добрыя адносіны да іншых этнасаў ВКЛ,

прававое становішча розных саслоўяў і сацыяльных груп насельніцтва. Цікавасць выклікае правіла, якое некалькі абмяжоўвала самавольства магнатаў, згодна з якім асобы «як убогія, так і багатыя» павінны былі судзіцца па адных нормах, выкладзеных у Статуце.

Вялікі князь (у Статуце — гаспадар) абавязваўся захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы, не дапускаць іншаземцаў на дзяржаўныя пасады у ВКЛ, не даваць ім маёнткаў, земляў, не адбіраць у мясцовых феадалаў пасады і маёмасць без суда, захоўваць існуючыя законы і выдаваць новыя толькі з панамі раднымі.

Больш дакладным станавілася судаводства, абвяшчаўся прынцып публічнасці правасуддзя, роўнасці бакоў у судзе, права абвінавачанага на абарону з удзелам адваката.

Значная ўвага надавалася сямейна-шлюбнаму праву. Так, было пазначана абяцанне ад імя вялікага князя не выдаваць дзяўчат замуж прымусова, а толькі з іх асабістай згоды, што было даволі прагрэсіўнай з’явай на той час.

Першы Статут ВКЛ мае важнае значэнне і як выдатны помнік культуры і мовы беларускага народа. У адрозненне ад Заходняй Еўропы, у якой карысталіся рымскім правам, выкладзеным на незразумелай для многіх лацініцы, ён быў даступны ўсім пісьменным людзям і даваў магчымасць вывучаць лексіку і стыль беларускай мовы, на якой быў напісаны, а таксама дзяржаўна-прававую тэрміналогію таго часу. Значэнне Статута 1529 г. і ў тым, што гэта быў першы ў Еўропе сістэматызаваны збор законаў, ён стаў трывалай асновай для далейшага развіцця беларускага заканадаўства.

Істотныя сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні ў ВКЛ ужо з сярэдзіны XVI ст. патрабавалі і зменаў у заканадаўстве. Рост і павелічэнне феадальнай уласнасці ўзмацнялі сацыяльны прыгнёт і абеззямельванне сялянства, пашыраўся рэфармацыйны рух, узвышалася роля гараджан. У палітычным жыцці аслабляўся ўплыў знатнай арыстакратыі і падымалася значэнне новых буйных феадалаў, такіх як Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Кішкі і іншыя.

Адпаведная камісія па падрыхтоўцы праекта новага статута была створана ў 1557 годзе з 10 чалавек, як меркавалася — з 5 католікаў і 5 праваслаўных. У яе ўвайшлі маршалкі, суддзі, юрысты-практыкі і навукоўцы, але дакладны склад усіх аўтараў гэтай «Хартыі правоў і вольнасцей шляхецкіх» застаўся невядомым. Працай па складанню другога Статута кіраваў выдатны беларускі дзяржаўны дзеяч, канцлер ВКЛ, маршалак земскі Мікалай Радзівіл Чорны, дапамагаў яму маршалак дворны (пазней падканцлер і канцлер) Астафей Валовіч.

Канчаткова Статут быў ухвалены на Бельскім сойме 1564 года, але справа зацягнулася, і законную сілу ён набыў толькі 1 сакавіка 1566 г. З улікам зменаў, якія адбыліся ў грамадстве за прайшоўшы з 1529 года час, у новым Статуце больш грунтоўна і ўсебакова былі сістэматызаваны асноўныя нормы жыцця ў ВКЛ.

Да найбольш важных прынцыпаў належыць дзяржаўнае права, што вызначыла новы склад адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення ВКЛ на ваяводствы і паветы, яго суверэнітэт, парадак утварэння і дзейнасць

дзяржаўных органаў, правы і прывілеі пануючага класа. Згодна Статута, шляхта ўсіх веравызнанняў упершыню атрымлівала роўныя правы і доступ да дзяржаўных пасад нараўне з буйнымі феадаламі, вызначалася іх агульная падсуднасць.

Упершыню ў свеце Статут 1566 г. замацоўваў абмежаванне ўлады вялікага князя вальным (агульным) соймам. Многія важныя пытанні (аб падатках, аб вайне і інш.) мог вырашаць толькі сойм, пасламі якога былі магнаты, шляхта. Таксама ўпершыню тут адзначалася аддзяленне суда ад органаў улады і кіравання. У гэтым Зборы нормаў дзяржаўнага, зямельнага, адміністрацыйнага, цывільнага, сямейнага, крымінальнага, працэсуальнага права была ўпершыню сфармулявана прэзумпцыя невінаватасці, пакуль што толькі для прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя (у Статуце 1588 г. гэтая норма будзе раўспаўсюджана на ўсіх жыхароў ВКЛ).

Больш поўна і выразна было паўторана палажэнне першага Статута аб тым, што толькі грамадзяне ВКЛ мелі права займаць дзяржаўныя пасады, набываць зямлю, валодаць маёмасцю, такім чынам дзяржава абаранялася ад наплыву чужаземцаў. Гэтая накіраванасць Статута супраць захопніцкіх тэндэнцый польскіх феадалаў сведчыць аб памылковасці тэзіса некаторых гісторыкаў, якія сцвярджалі, нібыта шляхта ВКЛ імкнулася да уніі з Польшчай і страты сваёй незалежнасці.

Было пашырана права ліцвінаў выезду за мяжу і свабоднага вяртання на радзіму — цяпер яно распаўсюджвалася не толькі на прадстаўнікоў княжацкага роду і шляхты, але і на людзей «усякага саслоўя», асабліва «для набыцця навук...»

Але не трэба лічыць Статут 1566 г. (як дарэчы, і першы Статут) ідэалам дэмакратыі новай эпохі. Аналіз прававых норм паказвае, што створаны ён быў у адпаведнасці з воляй феадалаў. А паколькі асноўную частку ядра дзяржавы складалі беларускія землі, то нормы права, пажаданыя і выгадныя беларускім феадалам, зрабіліся абавязковымі для ўсіх. Гэта была па сутнасці своеасаблівая «шляхецкая дэмакратыя», феадальная канстытуцыя, нормы якой былі накіраваны на абарону суверэнных правоў дзяржавы і інтарэсаў феадалаў, гарантавалі ім правы, свабоды і прывілеі ў дзяржаўным кіраванні, садзейнічалі ўмацаванню іх становішча ў краіне. Ды інакш і быць не магло ў той час.

Як адзначаў рэдактар трэцяга Статута Леў Сапега, феадалы твораць пажаданае ім права, і нават вялікі князь абавязаны падпарадкоўвацца іх волі. Гэтыя словы адлюстроўвалі сапраўдныя суадносіны сацыяльных сіл у дзяржаве. І вядома ж, класавае і саслоўнае дзяленне грамадства ў XVI ст. выразна праявілася і ў помніках права — Статутах 1529, 1566 і 1588 гадоў.

Тым не менш, сістэматызацыя беларускага заканадаўства ў Статуце 1566 г. сведчыць аб тым, што грамадскія адносіны ў ВКЛ таго часу былі на больш высокім узроўні, чым у іншых краінах, а таксама меліся тэарэтычна і практычна падрыхтаваныя юрысты, якія змаглі адлюстраваць і замацаваць гэтыя адносіны ў зводзе законаў.

Другі Статут на Беларусі дзейнічаў нядоўгі час. Як вядома, у 1569 г. паміж ВКЛ і Польшчай была заключана Люблінская унія, у выніку якой

створана Рэч Паспалітая. Заканадаўства ВКЛ трэба было прывесці ў адпаведнасць з актам Люблінскай уніі і новым становішчам дзяржавы.

Створаная па рашэнню Люблінскага сойма ў 1569 г. камісія павінна была падрыхтаваць праект новага Статута Рэчы Паспалітай і канчаткова аформіць ліквідацыю ВКЛ як самастойнай дзяржавы. Аднак гэтая камісія ніякіх слядоў працы не пакінула і ў 1572 г. была распушчана, бо ўлады ВКЛ пачалі ігнараваць акт Люблінскай уніі, шэраг яе артыкулаў не выконваўся. Дзяржава па-ранейшаму заставалася самастойнай, звязанай з Польшчай толькі тым, што быў адзін кароль і агульны сойм. У Вялікім княстве захаваўся ўласны ўрад, свая армія і сваё заканадаўства. Польскія феадалы вымушаны былі пагадзіцца з новым тлумачэннем акта Люблінскай уніі, як саюза дзвюх раўнапраўных дзяржаў.

Згодна з пажаданнямі беларуска-літоўскіх феадалаў і насуперак патрабаванням польскіх магнатаў, двойчы (у 1574 і 1578 гг.) у Статут уносіліся змены і дадаткі да крымінальнага, грамадзянскага і судовага права. У 1581 г. быў прыняты закон аб утварэнні Вышэйшага суда ВКЛ — Галоўнага трыбунала. У гэтым жа годзе пачалася праца па падрыхтоўцы новага праекта Статута, галоўнай мэтай якога было захаванне свайго ўласнага права і дзяржавы.

Статут 1588 г. быў падрыхтаваны на высокім тэарэтычным узроўні кваліфікаванымі прававедамі таго часу пад кіраўніцтвам выдатных дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў ВКЛ, патрыётаў Беларусі канцлера Астафея Валовіча і падканцлера Льва Сапегі. Гэты Звод законаў заканадаўча аформіў захаванне Вялікага княства Літоўскага як самастойнай дзяржавы (насуперак акту Люблінскай уніі). У гэтым галоўнае значэнне яго дзяржаўна-прававых норм. Складальнікі Статута не ўнеслі ў яго ніводнага артыкула, які б мог быць выкарыстаны на шкоду дзяржаўнай самастойнасці. Беларуская мова была замацавана як дзяржаўная. Нормы дзяржаўнага права другога Статута былі поўнасцю перанесены ў трэці, толькі з невялікімі дапаўненнямі і ўдакладненнямі. Складальнікі новага Статута нібы не заўважылі акта Люблінскай уніі аб уключэнні ВКЛ у склад Польшчы. Гэта з'яўляецца пацвярджэннем таго, што беларуская шляхта варожа ставілася да поўнага зліцця з Польшчай, а пагаджалася на цесны саюз дзвюх раўнапраўных дзяржаў. Па гэтай прычыне дэпутаты ад Польшчы адмовіліся зацвердзіць Статут на агульным сойме Рэчы Паспалітай, і ён уводзіўся ў дзеянне прывілеем Жыгімонта III Вазы ад 28 студзеня 1588 г.

Ён быў самым дасканалым з усіх трох зводаў законаў і складаўся з 14 раздзелаў, кожны з якіх меў ад 9 да 105 артыкулаў (усяго 487). У яго ўвайшлі нормы канстытуцыйнага права, чаго на той час не было ў заканадаўчай практыцы іншых еўрапейскіх краін, а таксама — адміністрацыйнага, ваеннага, судова-працэсуальнага, шлюбна-сямейнага і апякунскага, спадчыннага, зямельнага, ляснога і паляўнічага, крымінальнага права. На жаль, няма магчымасці спыняцца на кожнай з іх. Сістэматызацыя прававых норм у Статуце рабілася на новых прынцыпах, уласцівых для пераходнай эпохі ад Сярэдневечча да Новага часу:

абмежаванне ўлады і выбарнасць Гасудара, падзел улады паміж Соймам (заканадаўчая), Вялікім князем і Радай (выканаўчая) і Галоўным трыбуналам і мясцовымі судамі (судовая); абвяшчэнне неабходнасці прытрымліваца дзяржаўнага суверэнітэту, адзінства права для ўсёй дзяржавы і ўсіх свабодных людзей.

Ідэі гуманізму адбіліся і на нормах грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, прыродаахоўчага права. Так, у пэўнай ступені гарантаваліся маёмасныя і асабістыя правы мяшчан, асабліва ў гарадах, маючых т. зв. Магдэбургскае права (раздз. VII), абмяжоўвалася адказнасць за чужую віну і абвяшчаўся прынцып асабістай адказнасці вінаватай асобы, не ўскладаючы яе на дзяцей ці бацькоў (раздз. XI); вольныя людзі ні за якое злачынства не маглі быць аддадзены ў вечную няволю (раздз. VIII). Роўнымі правамі на беларускай зямлі карысталіся яўрэі і татары, што было незвычайнай з’явай па тым часе. Так, за забойства яўрэя ці татарына злачынца прыгаворваўся да смяротнага пакарання, асабліва калі быў злоўлены на «гарачым учынку» (раздз. XII). Абараняліся правы жанчыны, яе матэрыяльнае забеспячэнне пры разводзе, а таксама ўдавы і яе дзяцей. За злачынства, здзейсненае ў адносінах да жанчыны, прадугледжвалася двайное пакаранне.

Упершыню ў свеце Статут прадугледжваў крымінальную адказнасць шляхціча за забойства простага чалавека, што само па сабе на той час было прагрэсіўнай з’явай. Аднак працэсуальны парадак даказвання віны шляхціча быў настолькі складаным, што здзейсніць гэтую норму было амаль немагчыма. Меры пакаранняў залежалі таксама ад саслоўнай прыналежнасці. Так, за забойства шляхціча спаганялася на карысць яго сваякоў 100 копаў грошай, а за чаляднiка — толькі 20 (1 капа = 60 адзінкам).

Нягледзячы на жорсткасць прадугледжаных Статутам пакаранняў, яны былі найбольш гуманнымі ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі краінамі. Гэта праяўлялася ў адмене смяротнай кары для цяжарных жанчын, крымінальнага пакарання дзяцей, падлеткаў і інш.

Ці не адным з першых у Еўропе Статут 1588 г. рашуча паўстаў на абарону прыроды, падтрымку і павелічэнне яе рэсурсаў, рацыянальнае іх выкарыстанне. Дзікія каштоўныя жывёлы і птушкі, дрэвы і расліны трапілі пад ахову закона, за нарушэнне якога вінаватыя прыцягваліся да матэрыяльнай адказнасці. Так, за забойства зубра ці знішчэнне месцаў пражывання баброў штраф складаў 12 рублёў, за разбурэнне сакалінага ці лебядзінага гнязда — 3 рублі (для параўнання — конь ці рабочы вол каштавалі 2–3 рублі). Упершыню ўзмацнялася адказнасць за лясныя пажары і інш. Дзякуючы гэтым нормам, іх няўхільнаму выкананню, беларуская зямля змагла захаваць да нашага часу рэдкія віды звяроў, птушак, раслін.

Статут абагульніў тагачасныя і распрацаваў новыя дзяржаўна-прававыя ідэі, многія з якіх апярэджвалі свой час. Ён прасякнуты ідэяй усталявання прававой дзяржавы, у якой дзейнасць усіх дзяржаўных органаў і службовых асоб павінна цалкам адпавядаць закону. Выкладзеная ў Статуце прававая сістэма

ВКЛ і праз 200 гадоў пасля выдання лічылася самым выдатным зборам законаў у Еўропе, які значна паўплываў на развіццё права Прусіі, Польшчы, Украіны, Расіі і іншых краін. Сусветная прававая і палітычная культура значна ўзбагацілася за кошт Статута ВКЛ, дзейнасць якога была забаронена расійскімі ўладамі ў 1840 г.

IV. Нацыянальна-культурнае Адраджэнне на Беларусі звязана з імёнамі выдатных гуманістаў-асветнікаў, дзякуючы якім наша культура ў XVI ст. дасягнула «залатога веку» у сваім развіцці, заняла дастойнае месца ў агульнаеўрапейскай цывілізацыі.

Францыск Скарына (каля 1490 – каля 1550 гг.) стаіць у першым радзе славутых гістарычных імён сусветнага значэння і з’яўляецца нацыянальнай гордасцю беларускага народа. Вучоны-энцыклапедыст, таленавіты пісьменнік і плённы публіцыст, арыгінальны мысліцель і асветнік, вялікі гуманіст і патрыёт, выдатны філолаг і перакладчык, першадрукар і мастак, высокаадукаваны доктар свабодных навук і медыцыны — адзін пералік яго шматграннага таленту займае значнае месца. Сваёй адукаванасцю і дзейнасцю ён мог зрабіць гонар любой дзяржаве.

Жыццёвы шлях Скарыны, які прадвызначыў яго лёс і вывеў на арэну сусветнай вядомасці, распачаўся з Кракаўскага універсітэта, цэнтра польскай культуры. Ён не толькі атрымаў тут вышэйшую адукацыю ў 1506 г., але і пазнаёміўся з еўрапейскай друкаванай кнігай. Магчыма тут у яго зарадзілася жаданне даць свайму народу першую друкаваную кнігу на роднай мове. Але каб здзейсніць гэтую мару, яму спатрэбілася яшчэ 10 падрыхтоўчых гадоў. За гэты час ён атрымаў (у 1512 г.) званне доктара медыцынскіх навук у Падуанскім універсітэце.

Пры фінансавай падтрымцы віленскага бурмістра Якуба Бабіча Ф. Скарына апынуўся ў Празе, дзе ў 1517 г. заснаваў сваю першую друкарню і пачаў выпускаць кнігі на роднай яму старабеларускай мове. Першая кніга «Псалтыр» была надрукавана яшчэ на царкоўна-слявянскай, блізкай да беларускай, з тлумачэннем на палях некаторых слоў, «незразумелых простым людем».

Дзякуючы матэрыяльнай і маральнай падтрымцы суайчыннікаў, яму ўдалося адкрыць тут першае ў гісторыі беларускае выдавецтва, дзе за два гады ён выдаў 23 кнігі Бібліі ў 2400 старонак.

Адначасова Ф. Скарына пачаў пераклад Бібліі на блізкую да народнай мову, каб яна стала больш зразумелай для шырокіх колаў грамадства. Ён зыходзіў з таго, што Біблія — гэта не толькі кодэкс хрысціянскага веравучэння і маралі, але разам з тым і крыніца народнай мудрасці, дакладных ведаў па філасофіі, геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, заканадаўству розных народаў і таму неабходна чалавеку паўсядзённа. Гэта кніга нормаў паводзін чалавека, кніга жыцця, «людзям посполітым к наученю».

Зараз, як вядома, Біблія перакладзена больш чым на 1600 моў, але чацвёрты ў свеце пераклад быў зроблены на старабеларускую. Дзякуючы якому яна стала больш чытаемай, больш даступнай для народных мас. Гэта быў вялікі подзвіг Скарыны. Каб нічога больш не зрабіў Скарына для беларускай культуры, акрамя перакладу Біблii — толькі гэтым ён увекавечыў бы сваё імя ў сусветнай гісторыі, услед за Вікліфам, Гусам і Лютэрам.

Гэта быў волат усяго еўрапейскага Адраджэння, што не толькі стаў упоравень са сваімі сучаснікамі Эразмам Ратэрдамскім альбо Марцінам Лютэрам, але ў нечым і апярэдзіў іх. Скарынава Біблія выйшла ў свет раней за нямецкую, Лютараву, амаль на паўстагоддзя — за польскую і на 47 год апярэдзіла «Апостала», надрукаванага беларусамі Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам у Маскве.

Неўзабаве Скарына вярнуўся на радзіму: на пачатку 1520-х гадоў ён апынуўся ў Вільні і заснаваў там першую на тэрыторыі ВКЛ друкарню. Ён падрыхтаваў і выдаў у Вільні ў 1522 г. першы народны каляндар не толькі для беларусаў, але і для ўсіх усходніх славян («Малая падарожная кніжыца са Святцамі і Пасхаліяй»). Каляндар сведчыць аб глыбокіх і разнабаковых астранамічных ведах Скарыны. У 1525 г. тут быў надрукаваны «Апостал».

Выданнем Біблii не толькі быў пакладзены пачатак беларускаму і усходнеславянскаму кнігадрукаванню. Ф. Скарына пакінуў нашчадкам значную і важную спадчыну, якая ўключае ў сябе 22 прадмовы і 25 сказанняў да выдадзеных ім кніг Біблii, 3 вершаваныя творы, 2 гімны і звыш 60 пасляслоўяў да асобных яго выданняў. Яго спадчына — цікавая і яркая старонка ў гісторыі беларускай культуры, літаратуры і мовы XVI ст. У арыгінальных творах Скарына выявіў свае грамадска-палітычныя, філасофскія, прававыя, этычныя і асветніцкія погляды пісьменніка — гуманіста і патрыёта, якія ён прапагандаваў і нёс у народныя масы. Яго кнігі ажыццяўлялі вялікую культурна-гістарычную місію праваднiка ад сярэдневяковага цемрашальства ў свет новых гуманістычных ідэалаў.

З пачуццём высокага гонару і годнасці за сваю прыналежнасць да «слаўнага горада Полацка», сын народа, што жыве на еўрапейскім памежжы, Скарына геніяльна злітаваў у сваёй творчасці традыцыі візантыйскага Усходу і лацінскага Захаду з нацыянальнымі, беларускімі.

Будучы выдатным перакладчыкам з некалькіх старажытных і новых моў, рэдактарам і выдаўцом, Ф. Скарына дасягнуў вялікай суладнасці слова і друкарскага майстэрства. Ён аздобіў свае кнігі высокамастацкімі гравюрамі, па якіх можна вывучаць тагачаснае жыццё — побыт, адзенне, тэхніку будоўлі і іншае. Смела адступаючы ад агульна прынятых канонаў, ён падаў у Біблii выяву Бога без узаконенага царкоўнымі ўладамі німбу, а таксама размясціў у ёй уласны партрэт.

Жыццё Скарыны было напоўнена ўзлётамі да вяршыняў славы і горкімі расчараваннямі пад час еўрапейскіх падарожжаў і на радзіме. Ён сустракаўся з М. Лютэрам у Германіі і дыскутаваў ў Вільні з сусветна вядомым медыкам і

алхімікам Парацэльсам, запрашаўся на службу (для наладжвання ў Прусіі кнігадрукавання) да апошняга магістра Тэўтонскага ордэну Альбрэхта Гогенцолерна, які дараваў Скарыне шляхецкае званне. Менавіта на жыцці Скарыны адбілася ўся тая ўзнёслая, вірлівая і авантурная эпоха.

На жаль, многія старонкі жыцця Скарыны дакладна невядомы, нават год нараджэння і смерці, месца пахавання. Каля 1535 г. ён назаўсёды пакінуў радзіму, каб зноў пасяліцца ў Празе, дзе і скончыў свой жыццёвы шлях каля 1550 г.

Геніяльныя пачынанні Скарыны былі падхоплены, прадоўжаны і развіты яго выдатнымі сучаснікамі і паслядоўнікамі — вучонымі, паэтамі, культурнымі дзеячамі, рэфарматарамі-асветнікамі.

Асобнае месца ў беларускай літаратуры эпохі Адраджэння займае выдатны паэт-лацініст, сучаснік Ф. Скарыны — Мікола Гусоўскі (каля 1480 г.– пасля 1533 г.). Дакладных звестак пра яго жыццё і дзейнасць мала. Бясспрэчна тое, што ён добра ведаў гісторыю беларусаў, іх жыццё, характар, звычаі, прыроду, быў вялікім патрыётам свайго народу і краіны.

Лёс звёў паэта з сакратаром вялікакняскай канцэлярыі, гуманістам, мецэнатам рэнесанснай культуры Эразмам Вітэліем, які стаў сябрам і апекуном М. Гусоўскага. Вядомы пры еўрапейскіх дварах дыпламат Вітэлій у 1518 г. быў пасланы з адказнай пасольскай місіяй ВКЛ і Польскай кароны ў Рым да папы Льва X. Разам з ім паехаў і М. Гусоўскі, які прабыў там каля чатырох гадоў. Час, праведзены на радзіме еўрапейскага Адраджэння, адыграў значную ролю для фарміравання гуманістычнага светапогляду М. Гусоўскага. Там ён напісаў сваю знакамітую «Песню пра зубра» па просьбе рымскага папы. Рэнесансавая па светаадчуванню, высока патрыятычная паэма была першым у беларускай літаратуры XVI ст. буйным вершаваным творам, першай песняй пра Беларусь, створанай беларусам для заходнееўрапейскага чытача. Таму напісана яна была на лаціне, тагачаснай міжнароднай мове навукі і літаратуры, якая была добра зразумелай усім адукаваным людзям ВКЛ таго часу.

Галоўным героем паэмы выступае зубр, які сімвалізуе сабой беларускую зямлю і яе жыхароў. Ён адначасна і пераможца і пераможаны, забойца і забіты. Ён — увасабленне пушчаў і долаў, рэк і балотаў, ён смерд і ён князь. Ён — «буй тур» Вітаўт. Звер набывае чалавечыя рысы: ён здольны быць пяшчотным і лагодным, лютым і неўтаймавальным. Ён — князь пушчы і яе валадар, аднак ён жа і яе спараджэнне. Ніводная жывёліна не можа параўнацца моцай, трываласцю і веліччу з зубрам. Ён вялікадушна адпускае з мірам таго, хто не падымае на яго зброю, і люта помсціць таму, хто ідзе на яго з мячом.

Цудоўным і непасціжным чынам у паэме пераплятаюцца зубр, князь і народ. «Песня пра зубра» — гэта гімн Беларусі, яе прыродзе, мужнай і прыгожай душы яе народа, вялікаму князю Вітаўту, які ўсе свае сілы аддаваў узмацненню магутнасці, незалежнасці і міжнароднаму аўтарытэту ВКЛ.

Пасля нечаканай смерці Вітэлія і Льва X ад эпідэміі чумы ў 1522 годзе, Гусоўскі страціў магчымасць надрукаваць сваю паэму ў Вечным горадзе. Ён едзе ў Кракаў, дзе на сродкі вялікай княгіні Літоўскай і каралевы Польскай італьянкі Боны Сфорца ў 1523 годзе выдае адзіную прыжыццёвую кнігу, куды ўвайшлі «Песня пра зубра» і напісаныя ў Рыме вершы «Суцяшэнне», «Да св. Себасцьяна», а таксама паэмы «Новая і славутая перамога над туркамі», «Жыццё і подзвіг св. Гіяцынта».

Напісаная каля 500 год таму назад «Песня пра зубра» і сёння служыць каштоўнай крыніцай ведаў аб жыцці нашых продкаў і вучыць нашчадкаў патрыятызму, любові да Бацькаўшчыны.

Духу эпохі Адраджэння і Рэфармацыі цалкам адпавядае дзейнасць Сымона Буднага — выдатнага беларускага асветніка, гуманіста, філосафа, сацыёлага, гісторыка, кнігадрукара і рэфарматара наступнага пакалення, які дастойна прадоўжыў і памножыў скарынінскія традыцыі. Нарадзіўся каля 1530 года, адукацыю атрымаў ў Кракаўскім універсітэце. Разам з Мікалаем Радзівілам Чорным адным з першых прыняў ідэі Рэфармацыі і стаў буйнейшым дзеячам гэтага руху на Беларусі. З 1558 г. выкладаў на беларускай мове катэхізіс — асновы рэфармацыйнага вучэння — для дзяцей і дарослых у пратэстанцкай школе Вільні, а ў 1560 годзе быў прызначаны прапаведнікам кальвінізму ў Клецку.

Разам з нясвіжскім старастам Мацеем Кавячынскім і кальвініcцкім прапаведнікам Лаўрэнам Крышкоўскім пры фінансавай падтрымцы беларускіх магнатаў і дзяржаўных дзеячаў Астафея Валовіча і Мікалая Радзівіла Чорнага, Сымон Будны ў 1562 г. заснаваў у Нясвіжы адну з першых пасля Ф. Скарыны беларускую друкарню. Першым творам, што выйшаў тут, быў «Катэхізіс», у якім Будны выклаў свае рэлігійна-філасофскія, палітычныя і педагагічныя погляды. Бачачы пагрозу паланізацыі, рашуча выступіў у абарону беларускай мовы: у прысвячэнні да «Катэхізісу» С. Будны звярнуўся да князёў Радзівілаў з пажаданнем не адмаўляцца ад яе, а захоўваць і шанаваць, як гэта рабілі іх продкі. У тым жа годзе тут быў надрукаваны яшчэ адзін беларускамоўны твор Буднага «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» і інш.

Незадаволены памяркоўнасцю кальвінізму, Будны ў хуткім часе становіцца адным з ідэйных правадыроў беларускай Рэфармацыі і ўзначальвае яе радыкальную плынь — антытрынітарызм. Вядомыя яшчэ пад назвай як «літоўскія браты», арыяне выступалі супраць большасці царкоўных абрадаў і дагматаў, адмаўлялі Святую Троіцу, замагільнае жыццё і неўміручасць душы. І што вельмі важна, яны не абмяжоўвалі рэфармацыйны рух рэлігійна-палітычнымі лозунгамі, а патрабавалі сацыяльных пераўтварэнняў у грамадстве.

У другой палове 60-х гадоў С. Будны прыступае да перакладу Бібліі на польскую мову. Па прызнанню спецыялістаў, гэта быў адзін з самых дакладных перакладаў Бібліі ў свеце, бо ажыццяўляўся ён з арыгіналу, з старажытнаіудзейскай мовы, якой Будны валодаў дасканала.

Пасля нечаканай смерці Мікалая Радзівіла Чорнага ў 1565 г. С. Будны знаходзіць сабе новага апекуна і мецэната для сваёй дзейнасці, адзінаверца па рэлігійных поглядах беларускага магната Яна Кішку. Той ў сваім замку ў Лоску (каля Валожына) стварае друкарню і робіць Сымона Буднага яе паўнапраўным гаспадаром. Лоскі перыяд дзейнасці быў вельмі плённым: Будны тут выдаваў адну кнігу за другой. У 1574 г. ён надрукаваў свой пераклад новага запавету Бібліі з прадмовай, каментарыямі і заўвагамі, якія з'явіліся першай у сусветнай літаратуры спробай радыкальнай, рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніг.

У лоскай друкарні былі выдадзены іншыя творы С. Буднага «Аб дзвюх прыродах Хрыста», «Супраць хрышчэння дзяцей», «Кароткі доказ, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як бацька», «Аб асновах хрысціянскай веры», у якіх абагульніў свае рэлігійна-філасофскія і сацыяльна-палітычныя погляды. Ён быў адным з заснавальнікаў навуковай крытыкі Бібліі, папярэднікам галанскага філосафа Б. Спінозы і лібертцінаў XVII–XVIII ст.ст.

Пяру С. Буднага належыць шмат палемічных трактатаў, самы значны з іх «Пра свецкую ўладу», выдадзены ў 1583 г. У гэтым творы Будны выклаў сутнасць спрэчак паміж прадстаўнікамі дзвюх плыняў антытрынітарызму аб адносінах да феадальнага грамадства і дзяржавы.

Сымон Будны быў ідэолагам прагрэсіўна настроенай беларускай шляхты і гараджан. Не адмаўляючы тагачасныя грамадскія і дзяржаўныя асновы і саслоўна-класавую няроўнасць, Сымон Будны патрабаваў абмежавання феадальнага самавольства, указваў на неабходнасць пэўных зменаў і рэформ у жыцці грамадства, крытыкаваў беззаконне, выступаў за справядлівасць правасуддзя і роўнасць усіх саслоўяў перад законам. Асновай закону ён лічыў хрысціянскую мараль у яе дэмакратычнай інтэрпрэтацыі, ён быў заступнікам верацярпімасці і інтэлектуальнай свабоды.

С. Будны абгрунтаваў свой палітычны ідэал — асветніцкую манархію, абмежаваную саслоўным прадстаўніцтвам на чале з асветным манархам, які павінен клапаціцца аб адукацыі простага народа і не шкадаваць сродкаў на будаўніцтва школ.

Цікавасць выклікаюць разважанні С. Буднага па праблемах вайны і міру. Ён асуджаў агрэсіўную палітыку феадалаў і лічыў, што для простага народа, для развіцця рамёстваў і гандлю, распаўсюджвання асветы патрэбен мір. Упершыню С. Будны выказаў адносіны да войнаў, падзяліўшы іх на справядлівыя і несправядлівыя.

С. Будны вёў барацьбу за асвету і пашырэнне ведаў у грамадстве, сцвярджаў нацыянальную годнасць славян, у тым ліку беларусаў, адзначаў іх багатыя і разнастайныя духоўныя традыцыі, неабходнасць развіцця беларускай культуры на роднай мове. Гэтыя ідэі сталі адным з фактараў станаўлення нацыянальнай свядомасці.

С. Будны быў адным з самых адукаваных філолагаў-гуманістаў, імя якога было шырока вядома ў многіх краінах Заходняй Еўропы. Апрача роднай бела-

рускай мовы, ён выдатна валодаў лацінай, грэцкай, іўрытам, французкай, польскай, старaславянскай і інш., вёў перапіску з многімі еўрапейскімі дзеячамі. Ён быў прыхільнікам засваення культуры розных народаў, выступаў за супрацоўніцтва паміж славянамі і рэзка крытыкаваў праваслаўных дзеячаў, якія адмяжоўваліся ад здабыткаў заходнееўрапейскай навукі і асветы.

У гісторыі развіцця айчыннай грамадска-палітычнай думкі эпохі Адраджэння і Рэфармацыі побач з Будным значыцца і імя Васіля Цяпінскага (Амельяновіча), беларускага гуманіста і асветніка, пісьменніка, перакладчыка і кнігавыдаўца. Нарадзіўся каля 1540 года на полацкай зямлі ў сям'і дробнага гаспадарскага баярына. Ён меў некалькі радавых і набытых маёнткаў у Ашмянскім, Віленскім, Лідскім і Мінскім паветах. Прымаў удзел у Лівонскай вайне, служыў у падканцлера ВКЛ Астафея Валовіча.

В. Цяпінкі прадоўжыў гуманістычныя і культурна-асветніцкія традыцыі Ф. Скарыны, ідэйна і асабіста быў звязаны з Будным, падзяляў яго грамадска-палітычныя і рэлігійныя погляды, ад кальвінізму перайшоў да антытрынітарызму.

З творчай спадчыны Цяпінскага, на жаль, захавалася няшмат, але яна мела акрэслена патрыятычны, культурна-асветніцкі накірунак. Ахвяруючы ўласнымі сродкамі, ён распачаў пераклад Апостальскага Пісьма на беларускую мову, заклаў друкарню і пачаў выдаваць у ёй Новы запавет. Яму належыць першы пераклад на беларускую мову Евангелля (ад Матфея, ад Марка і, часткова, ад Лукі). Прадмову да гэтага выдання напісаў Цяпінскі, у якой ён піша аб сваім высокім прызначэнні служыць беларускаму народу. З абурэннем згадвае пра занядбанне беларускім духавенствам роднай мовы, яго абыякавасць да надзённых патрэб краіны. Ён на поўны голас заявіў пра неабходнасць развіцця навукі, літаратуры, культуры на матчынай мове, заклікаў пашыраць на ёй слова Божае. Цяпінскі лічыў неабходным адкрываць новыя школы не на латыні ці польскай, а на беларускай мове, дастаткова багатай для выкарыстання яе ў навучальных установах. Такія школы, на яго думку, павінны адпавядаць усебаковаму развіццю чалавека, «для лепшого разсудку».

Акрамя вышэй названых дзеячаў Адраджэння і Рэфармацыі, асветай і адукацыяй на Беларусі займаліся Андрэй Волан, Міхалон Ліцвін, Фаўст Соцын і іншыя, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё беларускай грамадскай думкі. Як вядома, цяга да ведаў здаўна была ўласціва нашым продкам. Акрамя манастырскай адукацыі, у XV–XVI ст.ст. пачалі ствараецца свецкія школы ў маёнтках буйных феадалаў, дзе вучыліся не толькі дзеці магнатаў, але і найбольш здольныя сярод залежных сялян. Пашыралася навучанне дзяцей вандроўнымі настаўнікамі-самавучкамі, якіх тады называлі «майстрамі граматы» або «дырэктарамі». Курс навучання абмяжоўваўся элементарнымі ведамі.

Як згадвалася вышэй, значныя змены ва ўсіх сферах жыцця адбыліся на Беларусі пад уплывам гуманістычнага і рэфармацыйнага руху. У гэты час важную ролю ў развіцці асветы і адукацыі адыгралі так званыя брацкія школы. Іх адкрывалі брацтвы — рэлігійныя і культурныя дабрачынныя аб'яднанні гарад-

скога насельніцтва якой-небудзь канфесіі — пратэстанцкія, праваслаўныя, каталіцкія, пазней уніяцкія. Найбольш распаўсюджанай была дзейнасць пратэстанцкіх і праваслаўных брацкіх школ. Яны існавалі ў многіх гарадах і мястэчках Беларусі.

Дзейнасць гэтых школ кантралявалі прызначаныя брацтвамі «дазорцы школьныя». На чале школы стаяў рэктар, які прызначаўся брацтвам. Настаўнікі (дыдаскалы ці бакаляры) выбіраліся на сходзе брацтва. Агульнасаслоўныя школы мелі 3–5 класаў. Для пачатковага навучэння карысталіся Псалтыром, азбукай і букваром. Пасля гэтага вучні пераходзілі да вывучання сямі вольных навук: «трывіўма» (граматыка, рыторыка, дыялекцыя) і «квадрывіўма» (арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка). Апрача старажытных вывучаліся беларуская і польская мовы. У пратэстанцкіх школах выкладалася багаслоўе, царкоўныя спевы, латынь, старагрэчаская, родная мова, рыторыка, гісторыя, матэматыка.

Выкарыстоўвалася групавая або класная урочная сістэма вучобы, у якой існаваў катэхізісны метад навучання, пабудаваны на пытаннях і адказах. У кожнай школе існаваў хор. Кожная школа мела свой статут, які вызначаў змест і арганізацыю навучання, рэгламентаваў паводзіны настаўнікаў, як у школе, так і па-за школай. Настаўнікамі ў брацкіх школах былі многія вучоныя, грамадскія дзеячы, асветнікі, аўтары школьных падручнікаў — Сымон Будны, Стэфан і Лаўрэнцій Зізаніі, Мялецій Сматрыцкі, пазней Сімяон Полацкі і іншыя.

Развіццё брацкіх школ прывяло да неабходнасці стварэння адпаведных падручнікаў для навучання грамаце, пісьму, чытанню, якімі сталі працы братоў Зізаніяў, М. Сматрыцкага, буквары С. Собаля, У. Турцэвіча і інш. Беларускія друкарні масавым тыражом выпускалі школьныя падручнікі. Такім чынам, значны ўплыў на развіццё адукацыі і асветы ў XVI ст. аказвалі брацкія школы.

Абагульняючы вышэй сказанае, можна прыйсці да высновы, што ў эпоху Вялікага княства Літоўскага беларускі народ па ўзроўні развіцця культуры нікольки не саступаў сваім суседзям. Запазычваючы штосьці каштоўнае ад іх, ён і сам быў у стане падзяліцца не менш вартым духоўным скарбам. Творча пераймаючы чужое, ён высока цаніў сваё, таму ўсялякія кантакты не пахіснулі самабытнасці беларускай культуры.

## Тэма 3. СТАН БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ПЕРЫЯД РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

План.

1. Люблінская унія і яе наступствы для культуры беларусаў. Контррэфармацыя на Беларусі, яе змест, мэты і вынікі.
2. Асветніцтва на Беларусі. Дзейнасць Адукацыйнай камісіі і яе значэнне.
3. Беларускае мастацтва і літаратура ў XVII–XVIII стагоддзях. С. Полацкі і І. Капіевіч — праваднікі беларускай культуры ў Маскве.

І. Люблінская унія 1569 года стварыла новыя абставіны жыццядзейнасці Вялікага княства Літоўскага. Як вядома, кіруючыя колы ВКЛ вымушаны былі пайсці на гэты саюз з Польшчай, каб сумесна абараніцца ад агрэсіі Маскоўскай дзяржавы. Створанае дзяржаўнае аб'яднанне «Рэч Паспалітая» фармальна абвяшчала роўнасць і суверэнітэт існавання Літоўскага княства і Польскага каралеўства (Кароны), а на самой справе гэтая кампрамісная згода прынесла нашай дзяржаве значныя страты. Да Польшчы адышлі вялікія тэрытарыяльныя абшары — Украіна і Падляшша. Польшча атрымала спрыяльныя ўмовы для пашырэння свайго культурнага ўплыву на насельніцтва ВКЛ, асабліва на беларусаў, і ў першую чаргу, на беларускіх магнатаў і шляхту. Польскі ўплыў адбываўся ва ўмовах прыніжэння, нават адмаўлення беларускай культуры і выліваўся ў апалячванне беларусаў. Вядучым фактарам у гэтым працэсе была каралеўская ўлада, якая лічылася вышэйшай за княжаскую. Каб зрабіць службовую кар'еру або проста быць пры каралеўскім двары, беларусу трэба было стаць «сваім чалавекам» у польскім культурным і моўным асяроддзі. Таму беларускія магнаты, шляхта і іх нашчадкі імкнуліся хутчэй ператварыцца ў польскіх паноў, тым больш што блізкасць моў дазваляла гэта.

Пастаянна дзеючым фактарам ў апалячванні беларусаў была каталіцкая царква. Яе роля ў гэтай справе значна павялічылася пад час існавання Рэчы Паспалітай, бо яна стала фактычна дзяржаўным інстытутам па апалячванню усходніх славян.

Вялікай ускоснай перашкодай у гэтай справе для каталіцкіх святароў стала рэфармацыя. У сярэдзіне XVI стагоддзя яна хутка пачала распаўсюджвацца на тэрыторыі ВКЛ. Пад уздзеяннем рэфармацыі каталіцкая царква імкліва стала прыходзіць у заняпад. Многія з беларускіх магнатаў (Радзівілаў, Валовічаў, Сапегаў, Кішкаў і інш.) ды і з шляхецкага асяроддзя шмат людзей станавіліся пратэстантамі, у асноўным кальвінісцкага толку. Радыкальнай плынню пратэстанцтва ў ВКЛ было арыянства, або антытрынітарызм. Адным з яго прыхільнікаў быў Сымон Будны.

Каб выратаваць каталіцкую царкву ад крызісу, у 1569 годзе ў ВКЛ былі запрошаны прадстаўнікі створанага ў Італіі Ігнаціем Лаёлам ордэна езуітаў. Гэты ордэн ужо меў 35-гадовы вопыт абароны каталіцызма ад ерасі, меў моцную арганізацыю, распрацаваную праграму, выдатна падрыхтаваныя кадры. Ахоўваць інтарэсы папства, умацоўваць яго ўплыў — было важнейшай задачай езуітаў. Аб гэтым сведчыў лозунг ордэна: «Qui non papista, est satanista (Хто не за папу, той д'ябал). Вядучым ідэолагам езуітаў быў таленавіты багаслоў, пісьменнік і паленіст Пётр Скарга.

Пачатак дзейнасці ордэна езуітаў у Беларусі азначаў, што каталіцкая царква перайшла ў наступ, які атрымаў назву контррэфармацыі. Яна існавала ў нас амаль 200 гадоў, з 1570 г. па 1773 г. (роспуск ордэна езуітаў) і стала цэлай эпохай у нашай гісторыі. Контррэфрмацыя на Беларусі з'яўлялася часткай еўрапейскага працэсу. Але яна мела тут і свае асаблівасці. Барацьба контррэфармацыі была накіравана не толькі супраць пратэстанцтва, але і супраць праваслаўнай рэлігіі, якая прадстаўляла сабою ідэалагічнага

супраціўніка каталіцызму. Другой асаблівасцю было тое, што ў Вялікім княстве Літоўскім напружаная барацьба канфесій не набыла такіх жудасных і агідных формаў, як у Заходняй Еўропе (Варфаламеева ноч 1572 г.), не сталі такімі жорсткімі ганенні па рэлігійных матывах, як у Маскоўскай дзяржаве пад час рэформы Нікана ў сярэдзіне XVII ст.

У перыяд контррэфармацыі ў ВКЛ дзейнічала многа каталіцкіх ордэнаў (езуіты, бернардзінцы, францысканцы, кармеліты, бенедыкцінцы, піяры і інш.), але тон усяму задавалі езуіты. Прыхільнікам гэтага ордэна быў Кароль і Вялікі князь Літоўскі Стэфан Баторый (Сцяпан Батура па-беларуску). Ён гаварыў: «Каб я не быў каралём, быў бы езуітам».

Атрымаўшы ўсебаковую падтрымку ад дзяржавы Рэчы Паспалітай, езуіцкі ордэн разгарнуў усеахватную дзейнасць з мэтаю вярнуць у лона каталіцкай царквы «заблудшых» у пратэстантызме ці ў праваслаўі людзей. Галоўнымі сродкамі ордэна былі палітычныя пропаведзі і дыскусіі, расшырэнне адукацыі праз стварэнне езуіцкіх школ і вышэйшых навучальных устаноў. Члены ордэна, каб кантраляваць палітыку, імкнуліся пранікнуць у палацы як духоўнікі, дарадчыкі, хатнія настаўнікі. Таленавітымі пропаведзямі (П. Скарга, С. Варшавіцкі і інш.) яны ўзрушалі людзей, выклікалі ў слухачоў нават слёзы і жаданне каяцца. У 1570 годзе ў Вільні ордэн адкрыў свой калегіум (галоўная школа ВКЛ),ператвораны ў 1579 годзе ў акадэмію — першую вышэйшую навучальную ўстанову ў Літоўскім княстве, якая стала пазней універсітэтам. Першым рэктарам яе стаў П. Скарга. У 1579 годзе езуіты заснавалі калегію ў Полацку, у 1584 г. — у Нясвіжы, а пазней у Оршы, Бярэсці, Пінску, Навагрудку, Гародні, Віцебску, Мінску, Слуцку. Гэтыя навучальныя ўстановы рыхтавалі кадры прыхільнікаў і абаронцаў каталіцызма. Перамозе контррэфармацыі спрыяла і тое, што па ўсёй тэрыторыі Беларусі сталі будавацца кляштары, пышныя ў стылі барока касцёлы з прыгожымі абразамі і скульптурамі, з велічнай арганнай музыкай.

Дзейнасць езуітаў была азначана ўсталяваннем вытанчанага і пампезнага стылю барока, як у архітэктуры, так і ў іншых відах мастацтва. Гэта была праява пранікнення і ўплыву еўрапейскай культуры на грамадства ВКЛ. Культура нашай краіны абагачалася і больш выразна станавілася часткай заходнееўрапейскай культуры.

Трэба адзначыць, што ў савецкай гістарычнай літаратуры і нават у некаторых сучасных выданнях даецца аднабокая характарыстыка перыяду контррэфармацыі на Беларусі. Падбіраюцца і сістэматызуюцца толькі тыя аргументы, якія пераканаўча даказвалі б, што час контррэфармацыі для беларускага народа з'яўляўся змрочным перыядам гісторыі, які нанёс вялікую шкоду яго развіццю. Так, як бы ўвесь час тады панавала рэакцыйная, цемрашальская клерыкальная палітыка. Безумоўна, шкода была. Перш за ўсе тое, што контррэфармацыя стварыла выдатныя ўмовы для апалячвання беларусаў. Выкладанне ўсіх прадметаў было на польскай мове. Выпускнікі езуіцкіх школ і калегіўмаў у большасці ужо не лічылі сябе «ліцвінамі», а палякамі і станавіліся затым заўзятымі праваднікамі паланізму. Па-другое,

езуіцкія школы спецыялізаваліся на распаўсюджванні рэлігійнага светапогляду на развіццё прыроды і грамадства, прыніжаючы або адмаўляючы навуковыя веды. З цягам часу такі стан адукацыі стаў не задавальняць новым патрабаванням. Кіруючыя колы Рэчы Паспалітай вымушаны былі дазволіць уніяцкай царкве пашырыць свой уплыў на адукацыйнай ніве. У пачатку XVIII ст. базыльянскім ордэнам уніятаў курыраваліся школы ў Навагрудку, Мінску, Пінску, Віцебску, Жыровічах і многіх іншых месцах. У гэтых школах праграмы былі накшталт праграм у езуіцкіх школах, але ўжо ўсе прадметы выкладаліся на беларускай мове. Ва уніяцкія школы прымаліся дзеці дробнапамеснай уніяцкай шляхты і гараджан, заможная ж шляхта пасылала сваіх нашчадкаў вучыцца за мяжу, або наймала гувернёраў-іншаземцаў.

Усё ж, нягледзячы на многія недахопы, за час дзейнасці контррэфармацыі была створана на Беларусі еўрапейская сістэма адукацыі, у тым ліку і вышэйшая, якая потым на доўгі час была зліквідавана царскай уладай. Увогуле, калі весці гаворку аб тым, хто і калі прынёс большую шкоду беларускаму народу, то хопіць толькі аднаго з многіх прыкладаў захопніцкіх войнаў, што вяла супраць ВКЛ Расійская імперыя. Гэта 13-гадовая вайна (1654–1667 гг.), якая прынесла беларусам на 52% змяншэнне насельніцтва і такія гаспадарчыя страты і знішчэнні, што нават руплівому беларусу трэба было больш за сто гадоў, каб аднавіць усё. Гэта была фактычна нацыянальная катастрофа беларусаў.

II. Як і Рэфармацыя, Асветніцтва прыйшло на Беларусь з Еўропы. Яно ўзнікла ў выніку развіцця буржуазных адносін і наконт ідэалогіі было накіравана супраць схаластыкі і цемрашальства. У грамадскіх і дзяржаўных справах, у жыцці асобы, чалавека пад час Асветніцтва стаў лічыцца галоўным розум, навука. Асветнікі былі перакананыя, што шлях да лепшага жыцця і справядлівасці ляжыць праз навуку і веды, якія дадуць магчымасць дасканала арганізаваць грамадства.

З сярэдзіны XVIII стагоддзя Асветніцтва на Беларусі стала шырока распаўсюджвацца сярод шляхты і мяшчан. Гэта асяроддзе фарміруе новы ідэал: чалавек разумны, скептык і рацыяналіст, крытык рэлігіі і прыхільнік навукі. Магнаты і шляхта нават змянілі векавыя жупаны, кунтушы і шырокія паясы на еўрапейскае адзенне, сталі перабудоўваць свае сядзібы на еўрапейскі лад: замест старамоднага барока, па іх разуменню, перавагу пачалі аддаваць класіцызму, які імкнуўся ўсё падпарадкаваць законам розуму, прыгажосці і вялікай прастаце. Амаль да канца XVIII ст. класіцызм існаваў у архітэктуры паралельна з барока, а ў XIX ст. стаў пануючым у большасці мастацкіх, літаратурных і архітэктурных напрамках культуры. Класіцызм, як увасабленне эпохі Асветніцтва ў культуры, найбольш адпавядаў тагачасным грамадскім тэндэнцыям.

Асветніцтва на Беларусі перш за ўсё аказала ўплыў на сістэму адукацыі. У перыяд засілля контррэфармацыі навучальныя ўстановы знаходзіліся ў распараджэнні шматлікіх манаскіх ордэнаў і таму школа была канфесійнай. Станаўленне ў XVIII ст. рыначнай эканомікі ў перадавых еўрапейскіх краінах

стала адбіваецца на гаспадарствах і беларускіх землеўладальнікаў, уцягваючы іх у таварна-грашовыя адносіны. Для абслугоўвання гэтых адносін патрабаваўся новы ўзровень ведаў, якіх не магла даць пранікнутая містыцызмам і адарваная ад жыцця канфесійная школа. Патрабавалася свецкая адукацыя.

Першая спроба рэформы школы ў гэтым напрамку была зроблена ў 40-х гадах XVIII ст., калі школы манаскага ордэна піяраў сталі пашырацца і дэмакратызавацца. У іх сталі прымацца дзеці розных пластоў грамадства, у тым ліку сялян. Навучанне было бясплатным і разлічана на 6 гадоў. Дзеці павінны былі за гэта выконваць пэўныя манастырскія работы. У школьную праграму ўводзіліся новыя прадметы: матэматыка, фізіка, гісторыя Польшы і ўсеагульная гісторыя. Вядома, што гэта быў значны крок да свецкай школы. Але і тут усё выкладанне вялося толькі на польскай мове.

Агульная рэформа школы пачалася з часу стварэння ў Рэчы Паспалітай у 1773 годзе Адукацыйнай камісіі. Яна фактычна з’яўлялася першым у Еўропе Міністэрствам народнай адукацыі. Актыўны ўдзел у яе дзейнасці прынялі вядомыя асветнікі Польшчы: Г. Калантай, Я. Снядэцкі і інш., а ў ВКЛ — Храптовіч (1729–1812 гг.), апошні канцлер ВКЛ, І. Страйноўскі, К. Нарбут. Супрацоўнічаў у яе справах у маладым узросце і М. Агінскі, пазней вядомы кампазітар. Пачатак работы Адукацыйнай камісіі супаў з датай роспуска Ордэна езуітаў (1773 г.), што зрабіла магчымым выкарыстаць у развіцці школьнай справы Рэчы Паспалітай матэрыяльныя рэсурсы езуіцкіх школ: пабудовы, вучэбныя прылады, фінансавыя сродкі, нават выкладчыкаў. Для падрыхтоўкі настаўнікаў новага тыпу пры галоўнай школе ў Вільні (пазней яна стала універсітэтам) была створана настаўніцкая семінарыя.

Дзейнасць Адукацыйнай камісіі мела прагрэсіўны характар. Ад кіраўніцтва школай адлучаліся клерыкалы, і сама асвета стала набываць свецкі характар. Вывучэнне тэалогіі ў сценах школы не дапускалася, многа рабілася, каб у выкладанні прадметаў пазбегнуць схаластыкі і тупога завучвання. У навучальных планах многа часу выдзялялася для фізікі, матэматыкі, прыродазнаўчых навук. З гуманітарных навук вывучалі гісторыю, геаграфію, заканадаўства, логіку, эканоміку, рыторыку і інш. За 21 год свайго існавання Адукацыйная камісія на тэрыторыі Беларусі стварыла 20 школ: у Гародні, Ваўкавыску, Барунах, Нясвіжы, Слуцку і іншых месцах. Гэтыя школы з’яўляліся сярэдняй ступенню навучання, якая давала магчымасць паступаць у галоўную школу ВКЛ.

Пачатковае навучанне наладжвалася як агульнадаступнае, у тым ліку і да прыгонных сялянскіх дзяцей. У 80-я гады XVIII ст. на Беларусі функцыянавала 200 пачатковых школ, у якіх вучылася каля 2500 вучняў, у тым ліку 30% дзяцей сялян. Выкладанне было на польскай мове.

Сярод навучальных устаноў гэтага часу асаблівай увагі заслугоўваюць Гродзенскія школы ўсіх рангаў, заснаваныя і курыруемыя Антоніем Тызенгаўзам (1738–1785 гг.) Ён упершыню ў Рэчы Паспалітай стварыў прафесійную школу, у якой рыхтаваліся медыкі, ветэрынары, акушэры, фінансавыя кантралёры, каморнікі, мастакі, чарцёжнікі і інш. Дзякуючы гэтаму

выдатнаму чалавеку, ідэі асветніцтва ў Гародні набылі найбольш яскравы характар. У створаныя школы мецэнат Тызенгаўз са сваіх шматлікіх маёнткаў (Пастаў, Быценя з Палесся і інш.) прывозіў таленавітых дзяцей прыгонных і забяспечваў іх вучобу. Ён запрашаў з Францыі, Італіі, Германіі выдатных спецыялістаў для работы ў сваіх школах. Так, будаўнічую школу ўзначаліў італьянскі архітэктар Д. Сака, які ўзвёў у Беларусі некалькі палацаў. Заснавальнікам і кіраўнікам гродзенскай Вышэйшай медыцынскай школы (акадэміі) стаў выдатны еўрапейскі вучоны, урач натураліст француз Ж. Жылібер. Ён стварыў пры школе аптэку, прыродазнаўчы кабінет, анатамічны «тэатр» і батанічны сад, выдаў два тамы фундаментальнай працы «Літоўская флора», заснаваў багатую бібліятэку з працамі французскіх энцыклапедыстаў. Пры Гродзенскай медыцынскай акадэміі працавала добрая для таго часу бальніца. За перыяд свайго існавання (1775–1781 гг.) акадэмія падрыхтавала тры выпускі ўрачоў. У 1781 годзе яна была злучана з віленскай акадэміяй і быў створаны медычны калегіум (факультэт) у Віленскім універсітэце.

Пашырэнне асветніцкіх ідэй садзейнічала распаўсюджванню на Беларусі выдавецкай справы. Калі ў першай палове XVIII ст. у Беларусі існавала тры друкарні (Магілёў, Супрасль, Гродна), то ў другой палове — 11. Характэрна, што выпушчаная імі літаратура ў большасці сваёй была ўжо свецкага характару. На жаль, кнігі таго часу каштавалі вельмі дорага і друкаваліся не на беларускай мове, таму для асноўнай масы насельніцтва нашай краіны былі недаступнымі.

У 1776 годзе ў Гародні стала выходзіць газета «Гродзенска» (на польскай мове). Яе заснавальнік А. Тызенгаўз ставіў мэтай выхоўваць шляхту ў асветніцкім, радыкальным напрамку, паднімаць і развіваць яе разумовы і патрыятычны ўзровень. На старонках газеты ставіліся і абмяркоўваліся пытанні лёсу і жыцця людзей на захопленых суседнімі краінамі тэрыторыях.

На жаль, у 1794 годзе Адукацыйная камісія была распушчана. Гістарычныя ўмовы не спрыялі рэалізацыі імкненняў асветнікаў. Супраць новай сістэмы адукацыі выступілі кансерватыўныя памешчыкі і каталіцкае духавенства. Яны баяліся пашырэння адукацыі і дэмакратычных поглядаў сярод народа.

У адрозненне ад Заходняй Еўропы, эпоха асветніцтва не прынесла беларускаму народу ў поўным аб’ёме належнай карысці па цэламу шэрагу прычын. Тут была вельмі слабай і адсталай буржуазія, панавала прыгонніцкая сістэма гаспадаркі, асветніцтва амаль не закранула сялянскія масы, якія складалі аснову насельніцтва. Тым не менш, асветніцтва выклікала пэўнае ажыўленне ў культурным жыцці пасля доўгіх гадоў контррэфармацыі.

III. Перыяд XVII–XVIII стагоддзяў у мастацтве ВКЛ характарызаваўся панаваннем спачатку стыля барока, а з сярэдзіны XVIII ст. — усталяваннем класіцызму. Як ужо гаварылася, стыль барока стаў у нас пашырацца як мастацкае ўвасабленне ідэалогіі контррэфармацыі. Мастацкія творы гэтага стылю звярталіся не столькі да розуму чалавека, колькі да яго пачуццяў,

апелявалі да яго веры ў звышнатуральныя сілы, да містыкі. Для гэтага шырока выкарыстоўваліся такія мастацкія метады, як метафарычнасць, шматзначнасць, кантраснасць і парадаксальнасць. Перавага аддавалася вонкавай форме. А каб адцяніць форму, яе першасць над зместам, выкарыстоўваліся крывалінейныя, акругленыя абрысы, ускладненыя да вычурнасці знешнія дэталі. Атрымоўваліся пышныя і раскошныя формы, якія заварожвалі чалавека прыгажосцю, нават сімфоніяй пластыкі, колеру, светацені. У рэчышчы барока ў гэты час развіваліся практычна ўсе віды мастацтва.

Найбольш поўна барока праявілася ў архітэктуры, асабліва ў культавым дойлідстве. Да такіх пабудоў належыць езуіцкі фарны касцёл у Нясвіжы, узведзены ў канцы XVI ст. італьянцам Бернардоні, пазней былі пабудаваны ў гэтым стылі езуіцкія касцёлы ў Гародні, у Пінску, бернардзінскі касцёл у Мінску і інш. Развіццё беларускага барока прайшло ў тры перыяды: ранняе (канец XVI – першая палавіна XVII ст.ст.), сталае (другая палова XVII – 30-я гг. XVIII ст.), позняе ці віленскае барока (30–80-я гады XVIII ст.). Віленскае барока прадстаўляла сабою сінтэз еўрапейскага стылю з мясцовымі стылёвымі напрацоўкамі. Яго рысы найбольш яскрава праявіліся ў пабудове уніяцкага касцёла выдатным архітэктарам Глаўбіцам у Полацку на месцы ўзарванага ў 1710 годзе рускімі войскамі Пятра І знакамітага Сафійскага сабора. Дарэчы, гэты выдатны помнік архітэктуры сёння імкнецца забраць да сваей канфесіі праваслаўная царква.

У перыяд сталага і позняга барока адбываецца яго своеасаблівая «дэмакратызацыя». Гэты стыль пачынае пранікаць і ў свецкае будаўніцтва. У Мінску, Віцебску, Магілёве і інш. будуюцца ратушы, ствараюцца выдатныя палацавыя ансамблі, акружаныя паркамі. Знікаюць абарончыя атрыбуты ў магнацкіх палацаў, і яны набываюць вытанчаны і імпазантны выгляд, асабліва фасады пабудоў. Вонкавы іх выгляд упрыгожваецца ляпнымі аздабленнямі, пілястрамі, пучкамі калон, паліванай керамікай. Напрыклад, палацы ў Нясвіжы, Ружанах, Шчорсах, Свяцку і інш. У афармленні пабудоў, іх унутранага аздаблення ў разглядаемы перыяд вялікую ролю адыграла кафля. У яе дэкоры і тэхналогіі яскрава праяўляўся стыль барока. Яна ператварылася з плоскай ў аб’ёмную архітэктурную дэталь з мастацкімі выявамі кветак, звяркоў, птушак, арнаменту, выкананых у рознакаляровых варыянтах. Беларуская кафля карысталася вялікім попытам і за мяжой, асабліва ў маскоўскай дзяржаве.

Вялікім попытам у краіне і за мяжой карысталася мастацкае шкло. Пашырэнне ведаў па хіміі ў сувязі з дзейнасцю Полацкай калегіі езуітаў, хімічнага накірунку школ у Вільні, Гродне, Навагрудку — паспяхова ішло асваенне новых рэцэптур і тэхналогій. Беларускія майстры ўмелі варыць рубінавае шкло, багемскі крышталь, гравіраваць яго ўпершыню карундавай іголкай, размалёўваць каляровымі эмалямі. У XVIII ст. дзейнічалі шкляныя мануфактуры (гуты) у Налібоках, Урэцку, Гродне, Крычаве, Рагачове, Чачэрску.

У XVIII ст. у Беларусі адзначаўся росквіт прыгоннага тэатра. Ствараўся ён пры магнацкіх сядзібах, і артыстамі былі прыгонныя сяляне, атрымаўшыя спецыяльную адукацыю. Першы такі тэатр быў у князя Радзівіла. Ягоная жонка

Уршуля Францішка Радзівіл была не толькі стваральніцай тэатра, але пісала і драматургію. Яе першая камедыя «Дасціпнае каханне» была пастаўлена ў Нясвіжы ў 1746 годзе. Яна была аўтарам і рэжысёрам першай тэатральнай драмы і першай тэатральнай казкі. Тут заўсёды са сцэны гучалі беларускія мелодыі, песні, хаця пастаноўкі рабіліся на польскай мове. Нясвіжскі тэатр Радзівілаў складаўся з балета і музыкальнай капэлы. Прыгонныя тэатры дзейнічалі пры памесцях Агінскіх у Слоніме, Сапегаў — у Ружанах і Дзярэчыне, Тышкевічаў — у Свіслачы і Плешчаніцах і інш. Усяго да падзелу Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Беларусі функцыянавалі 26 оперна-балетных тэатраў і каля 30 сімфанічных аркестраў. Выканаўцы, артысты былі высокапрафесійнымі майстрамі сваёй справы. Аб гэтым сведчаць 69 музычных твораў, што складаюць знакаміты «Полацкі сшытак», якому 300–350 гадоў.

Вядома, што многія таленавітыя артысты і музыканты, атрымаўшы прафесійную падрыхтоўку ў прыгонных тэатрах Беларусі, з’явіліся асноўным складам узнікшых пазней тэатраў у шэрагу краін, за мяжой. Так, гродзенскі «сялянскі балет» і слонімскія танцоры ў колькасці 60 чалавек сталі базай для заснавання Варшаўскага прыдворнага балета. З 78 акцёраў створанага ў Маскве пры двары Аляксея Міхайлавіча рускага тэатра, 70 чалавек былі беларусамі. Як мы бачым, музычна-тэатральнае жыццё на Беларусі было на ўзроўні культуры перадавых еўрапейскіх краін і магло дапамагаць у развіцці гэтага напрамку культуры другім народам.

У XVII–XVIII ст.ст. беларуская літаратура апынулася ў вельмі складаных умовах. Асноўным тормазам яе развіцця было звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы. Прычым у гэты перыяд адбываўся пераход ад старажытнабеларускай кніжнай мовы да літаратурнай, якая абапіралася на жывую гутарковую мову народа. Такі працэс быў заканамерны і ішоў ва ўсіх краінах, толькі не так пакутліва і вяла, як на Беларусі. Польшчы і Расіі для гэтага пераходу спатрэбілася каля 50 гадоў, а ў нас ён зацягнуўся больш чым на 150.

У беларускай літаратуры гэты пераходны перыяд азначаецца панаваннем стылю барока, у якім яскрава выдзяляюцца стылёвыя тэндэнцыі:

1. Высокі стыль, звычайна элітарны, феадальна-арыстакратычны. Яму была характэрна рытарычная прыўзнятасць, сімвалічнасць, блізасць да старых афіцыйных формаў беларускай літаратуры.

2. Сярэдні стыль задавальняў эстэтычны густ гараджан і сярэдняй шляхты, якая імкнулася засвоіць еўрапейскі лад і не адрывалася ад нацыянальных традыцый.

3. Нізкае барока, якое прадстаўляла эстэтычныя запатрабаванні найбольш шырокіх пластоў насельніцтва нашага грамадства. Сюды ўваходзіла інтымна-песенная лірыка, батлеечныя п’есы, сатырычная паэзія і проза. Ля вытокаў гэтай «несур’ёзнай літаратуры» стаіць напісаны ананімам у 1655 годзе «Ліст да Абуховіча.» Абуховіч — смаленскі ваявода, які, здрадзіўшы ВКЛ, без боя здаў горад расійскай арміі ў 1654 г. Аўтар рашуча асуджае амаральнасць і прадажнасць прадстаўнікоў пануючых колаў Рэчы Паспалітай. Да гэтага літаратурнага напрамку па форме, мове, стылю і жанру прымыкае другі твор —

«Прамова Мялешкі». Быццам бы сапраўды смаленскі кашталян Іван Мялешка выступаў на Варшаўскім сойме і «рэзаў» праўду-матку ў вочы каралю Жыгімонту ІІІ Вазе. На сакавітай беларускай мове аўтар гэтага твора крытыкуе кіраўніцтва Рэчы Паспалітай, якое не клапоціцца аб інтарэсах Літвы. Ён вельмі зняважальна адзываецца аб апалячанай беларускай шляхце, з’едліва пра іх адзначаючы: «Многа тутако такіх ест, што хоць наша костка, аднак сабачым мясам абрасла і воняет!»

Найбольш значным прадстаўнікам «высокага» літаратурнага стылю барока быў Сімяон Полацкі (1629–1680 гг.). Сапраўднае прозвішча Пятроўскі-Сітніяновіч. Нарадзіўся ён у Полацку, у сям’і купца. Вучыўся спачатку ў брацкай мясцовай школе. Скончыў Віленскую езуіцкую акадэмію. У 1664 годзе, як шчыры прыхільнік праваслаўя і праціўнік палітыкі контррэфармацыі, пакінуў Беларусь і ў Маскве разгарнуў актыўную педагагічную, выдавецкую і літаратурную дзейнасць. Ён быў выхавальнікам Пятра І у дзяцінстве. Па яго ініцыятыве і статуту была заснавана першая ў Расіі вышэйшая навучальная ўстанова — славяна-грэка-лацінская акадэмія. Менавіта ў ёй вучыўся праз 50 гадоў М. Ламаносаў. Полацкі адкрыў у Маскве друкарню, якая выдала першы «Буквар». Ім былі напісаны драмы і камедыі, пропаведзі і многа вершаў. Ягоная літаратурная спадчына і грамадска-асветніцкая дзейнасць дае права, на думку гісторыкаў, называцца першым расійскім інтэлігентам.

Другім выдатным дзеячам, які значна ўзбагаціў культуру Расіі, з’яўляецца Ілля Капіевіч (1651–1714 гг.). Па палітычных матывах ён вымушаны быў эміграваць у Галандыю. Там у 1697 годзе як перакладчык пазнаёміўся з Пятром І і быў запрошаны працаваць ў Расію. Капіевіч рэфармаваў царкоўна-славянскі алфавіт кірыліцы, спрасціў яго. Новы шрыфт сталі называць грамадзянскім або «капіеўкай». Сёння ім карыстаецца з невялікімі змяненнямі большасць славянскага народу. Ён напісаў і пераклаў на рускую мову больш за 20 кніг, у тым ліку першую ў Расіі арыфметыку, падручнікі па іншаземных мовах, першы каляндар, першыя на рускай мове творы па навігацыі, байкі Эзопа і інш. Увогуле, вельмі многія беларусы ўзбагачалі расійскую культуру сваім майстэрствам. Так, пад кіраўніцтвам Івана Максімава з-пад Копыля і Сцяпана Івакова з Мсціслаўля былі ўпрыгожаныя ў Расіі Новаерусалімскі манастыр на Істры, Круціцкі церамок, церамок Крамлёўскага палаца. Беларускія майстры аздаблялі ажурнай разьбой па дрэву палац цара Аляксея ў сяле Каломенскім, царскія вароты ў Саборы Новадзявочага манастыра ды інш.

Такім чынам, культурнае жыццё Беларусі ў разглядаемы перыяд было даволі разнастайным і багатым, што давала магчымасць дапамагаць і блізкім суседзям.

## Тема 4. КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА КАНЦА XVIII–ПАЧАТКУ XX ст.ст.

План.

1. Асаблівасці культурнага развіцця Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX стагоддзяў.

2. Стан адукацыі на Беларусі ў канцы XVIII стагоддзя, яе развіццё і рэформы.

3. Архітэктура, скульптура і мастацтва Беларусі. Мастацкія стылі.

4. Музычна-тэатральнае жыццё канца XVIII – пачатку XX ст.ст.

5. Станаўленне беларускай нацыянальнай літаратуры.

I. У канцы XVIII – пачатку XX стагоддзяў беларуская культура развівалася ў новых умовах. У ёй праходзілі значныя якасныя змены, звязаныя з неабходнасцю пераарыентацыі на новую палітычную і сацыяльна-этнічную сітуацыю, на фарміраванне капіталістычных адносін, далейшую кансалідацыю беларускай народнасці.

Развіццё беларускай культуры ажыццяўлялася ў складаных умовах. Моцнае становішча на Беларусі займала польская культура. Польская мова была мовай большасці адукаванага насельніцтва, мовай адукацыі, літаратуры, кнігадрукавання.

У гэты час з канца XVIII ст. у культурнае жыццё Беларусі пасля яе далучэння да Расіі ўсё больш пранікае руская культура. З яе прыходам жыхары краіны сталі знаёміцца з рускімі кніжкамі, перакладзенымі на польскую мову, у тэатрах пачалі ставіцца п′есы рускіх аўтараў. Расійскі ўплыў адчуваецца і ў архітэктуры. Уплыў рускай культуры асабліва пашырыўся з сярэдзіны XIX ст. пасля падаўлення паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гадоў. Пасля паўстанняў расійскія ўлады насаджалі ў Беларусі адміністрацыйны прыгляд за ўстановамі культуры, бібліятэкамі, тэатрамі, творчымі дзеячамі, друкарнямі, праводзілі палітыку русіфікацыі.

Разам з тым важна адзначыць, што XIX стагоддзе — гэта час фарміравання беларускай нацыянальнай культуры, новай літаратурнай беларускай мовы. Нягледзячы на імкненне расійскіх улад затрымаць беларускую культуру на ўзроўні фальклору, культура Беларусі ў гэты час перажывае перыяд адраджэння. Разам з новай літаратурнай мовай складваюцца нацыянальны тэатр, літаратура, іншыя галіны мастацтва, навукі і асветы.

У канцы XVIII – першай палове XIX стагоддзяў узнікла таксама навуковае беларусазнаўства. Пачынальнікамі вывучэння беларускай гісторыі і культуры стаў Віленскі універсітэт, Віленскі музей старажытнасцей, Віленская археалагічная камісія, Расійская акадэмія навук і іншыя.

Значны ўклад у вывучэнне мінулага нашага народа, яго жыцця ўнеслі І. Даніловіч, Т. Нарбут, М. Без-Карніловіч, І. Насовіч, Я. і К. Тышкевічы, А. Кіркор, Я. Карскі, М. Доўнар-Запольскі, А. Багдановіч і іншыя. Гісторыю, этнаграфію, фальклор беларусаў вывучалі рускія вучоныя К. Калайдовіч, П. Кірэеўскі, Н. Кастамараў, польскія — Т. Чацкі, Ю. Нямцэвіч, І. Лялевель.

Вынікі даследаванняў знайшлі адлюстраванне ў шматлікіх публікацыях. Былі выдадзены «Беларускі архіў» (1824 г.), «Летапісец Літвы і Руская хроніка», «Кнігі польскай метрыкі Вялікага Княства Літоўскага» (1843 г.), «Вандраванне па Палессю і беларускаму краю» (1853–1855 гг.), іншыя творы.

Намаганнямі гэтых вучоных як бы нанава адкрыта Беларусь, багацце матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа, сабраны і апісаны яго

паданні, легенды, побыт, прылады працы, звычаі, абрады, песні і казкі. Распаўсюджванне ведаў пра родны край спрыяла абуджэнню народа, развіццю яго нацыянальнай самасвядомасці. Шырокія колы беларускага грамадства звярталіся да сваіх гістарычных і этнічных каранёў, усё больш асэнсоўвалі сваю прыналежнасць да беларускага народа.

Культурнае жыццё Беларусі канца XVII – пачатку XX ст.ст. характарызавалася рознымі стылямі, напрамкамі, станоўчымі і адмоўнымі момантамі, дасягненнямі і стратамі. У выніку палітыкі русіфікацыі, праследвання за ўдзел у вызваленчым руху сядзібы беларускай шляхты разам з культурнымі каштоўнасцямі канфіскоўваліся на карысць царскіх уладаў, апошнія вывозіліся ў Расію. Былі канфіскаваны каштоўнасці больш 130 памесцяў, у тым ліку Радзівілаў, Сапегаў, Чартарыйскіх і іншых. Шмат каштоўнасцей трапілі на Захад разам з тымі, хто быў вымушаны эміграваць. Вялікая колькасць настаўнікаў, урачоў і іншых адукаваных і творчых людзей высылаліся на працу ў Сібір, паўночныя раёны Расіі. За межы Беларусі былі высланы Я. Чачот, Ф. Савіч, Р. Падбярэзкі, на 25 гадоў у рэкруты быў забраны П. Багрым. Вымушаны быў з′ехаць за мяжу А. Рыпінскі, Н. Орда, Я. Сухадольскі, В. Дмахоўскі і шматлікія іншыя. Аднак, нягледзячы на гэта, культура Беларусі развівалася ва ўсіх накірунках.

II. Далучаныя да Расіі беларускія землі ў галіне культуры былі больш развітымі, чым расійскія. Даволі высокую адукацыю мела шляхта, духавенства, мяшчанства, пэўная частка сялянства. Сотні з іх атрымалі адукацыю за мяжой, у еўрапейскіх навучальных установах. Развіццём адукацыі беларусаў займаліся багатыя і ўплывовыя манаскія ордэны, у першую чаргу езуіцкі.

Вялікую ролю ў распаўсюджванні адукацыі іграў Віленскі універсітэт, створаны ў 1803 г. на базе Галоўнай школы. У ім, напрыклад, у 1803 годзе працавала 34 прафесары і 12 ад´юнктаў (памочнікаў), вучылася 324 студэнты. Станоўчая роля універсітэта заключалася і ў тым, што пад яго кіраўніцтвам ў кожным губернскім горадзе дзейнічалі гімназіі, а ў цэнтрах уездаў — вучылішчы. У 1804 г. на Беларусі было 6 гімназій і 17 павятовых вучылішчаў. Існавалі і манастырскія вучылішчы.

Акрамя гэтага ў краіне дзейнічала дадаткова 130 пачатковых, 33 сярэднія і няпоўныя сярэднія школы, больш за 40 школ каталіцкіх ордэнаў і значная частка яўрэйскіх школ.

Адукацыі спрыяла і створаная пазней Полацкая (1812–1820 гг.) езуіцкая акадэмія, а таксама Іўеўская іудзейская акадэмія.

Высокаму ўзроўню адукацыі спрыяла і праца Адукацыйнай камісіі, якая рэфармавала ўсю сістэму ў бок большага вывучэння эканамічных і фізіка-матэматычных дысцыплін. Гэтага патрабавалі новыя капіталістычныя адносіны, развіццё навукі, тэхнікі.

Адставанне ў сістэме адукацыі, распаўсюджванне ідэй свабоды, дэмакратыі прымусілі цара пасля далучэння Заходніх зямель правесці некаторыя рэформы ў гэтай галіне. У 1802 годзе ў Расіі было створана

Міністэрства народнай асветы. Па яго Статуту на беларускіх землях у 1804 годзе замест існуючых народных вучылішчаў, створаных Адукацыйнай камісіяй, школ каталіцкіх ордэнаў, стваралася новая школьная сістэма па прынцыпу цэнтралізму, адзінства і пераемнасці. Кожная школьная ступень была звязана з папярэдняй і наступнай, пераход з школы ў школу ажыццяўляўся без экзаменаў, на аснове дакумента аб заканчэнні папярэдняй школы. Сістэма адукацыі ўключала ў сябе прыходскія аднагадовыя вучылішчы, чатырохгадовыя гімназіі і універсітэты.

Стваралася цэнтралізаванае ўпраўленне навучальнымі ўстановамі. Еўрапейская частка Расійскай імперыі дзялілася на шэсць вучэбных акруг. Віцебская, Гродзенская, Мінская і Магілёўская губерні ўвайшлі ў склад Віленскай вучэбнай акругі, навуковым і адміністрацыйна-метадычным цэнтрам якой застаўся Віленскі універсітэт. Дзейнічаючыя пад яго кіраўніцтвам гімназіі мелі 6 класаў навучання, павятовыя вучылішчы — 3 класы. Выкладанне вялося на польскай мове, руская вывучалася як адна з вучэбных дысцыплін.

У 1828 г. быў выдадзены новы Статут вучэбных устаноў, па якім змянялася школьная сістэма, створаная ў 1804 г. Замест адзінай сістэмы ўводзіліся дзве — па саслоўнаму прынцыпу: першая сістэма ўключала элементарную адукацыю для ніжэйшых саслоўяў (прыхадскія вучылішчы з 1–2 гадамі адукацыі і трохгадовае над імі павятовае вучылішча), другая — сістэму сярэдняй і вышэйшай адукацыі, пераважна для дваран (дамашняе навучанне, сямігадовая гімназія, універсітэт). Устаноўленая Статутам 1804 г. пераемнасць паміж павятовымі вучылішчамі і гімназіямі скасоўвалася.

Трэба адзначыць, што ў канцы XVIII – першай чвэрці XIX ст.ст. у Беларусі моцныя пазіцыі займала польская культура. Польская мова была мовай пераважнай часткі адукаванага насельніцтва, мовай асветы, тэатра, кнігадрукавання. На карысць польскай культуры працавала і шмат акаталічаных беларусаў.

Сітуацыя пачала мяняцца ў другой чвэрці XIX ст. ва ўмовах росту апазіцыйных грамадска-палітычных настрояў і рухаў. Урад Расіі быў вымушаны ажыццявіць мерапрыемствы, накіраваныя супраць паланізацыі, на пашырэнне рускага ўплыву. У 1829 г. замест Віленскай ствараецца Беларуская вучэбная акруга з цэнтрам у Віцебску. У 1832 г. закрываецца Віленскі універсітэт, як расаднік антырускіх ідэй і вальнадумства. Спачатку ў навучальных установах Віцебскай і Магілёўскай губерняў, а потым Мінскай і Гродзенскай у абавязковым парадку ўводзілася навучанне на рускай мове. Дадаткова для ўсіх навучэнцаў прадугледжваліся «літаратурныя гутаркі» на рускай мове (палітінфармацыі).

З сярэдзіны XIX ст. пашырылася свецкая форма адукацыі. Замест ЦПШ адкрываліся народныя вучылішчы. Аб'яднанне уніяцкай царквы з праваслаўнай (1839 г.) прывяло да закрыцця каталіцкіх манастыроў і іх навучальных устаноў. Манастырскія вучылішчы ператвараліся ў гімназіі.

У першай палове XIX ст. на Беларусі ўзнікаюць школы і прыватныя пансіёны для дзяўчынак. Яны знаходзіліся на ступені пачатковых вучылішч. Дзейнічалі Гродзенская, Мінская, Слуцкая, Пінская, Навагрудская, Віцебская,

Магілёуская, Мазырская гімназіі, Свіслацкая і Маладзечанская прагімназіі, 5 аднакласных дваранскіх вучылішч, 9 трохкласных.

Усяго ў 1856 годзе на Беларусі налічвалася 576 навучальных установ рознага тыпу: 12 сярэдніх і 45 няпоўных сярэдніх школ, 45 прыватных і дзяржаўных жаночых вучылішчаў, 21 духоўнае вучылішча і 453 пачатковыя школы. У іх навучалася 16,500 чалавек, што складала 0,5% усяго насельніцтва.

Складвалася сістэма прафесійнай адукацыі. З канца 30-х гадоў пры гімназіях адкрываліся агранамічныя курсы, курсы землямераў. У 1840 г. пачало дзейнічаць Гары-Горацкае земляробчае вучылішча, ператворанае ў 1848 г. у інстытут. Гэта была першая ў Расіі вышэйшая агранамічная навучальная ўстанова. Больш шырокую вышэйшую адукацыю беларусы маглі атрымаць пераважна ў расійскіх навучальных установах.

У сярэдзіне 60-х гадоў была праведзена трэцяя рэформа сістэмы адукацыі. Па ёй Палажэннем аб пачатковых народных вучылішчах 1864 г. грамадскім установам і прыватным асобам дазвалялася адкрываць пачатковыя народныя школы, дзе вучылі пісьму і чатыром дзеянням арыфметыкі. Скасоўваўся саслоўны прынцып адукацыі: усім слаям насельніцтва дазвалялася вучыцца ў гімназіях і прагімназіях. Але высокая плата за вучобу фактычна закрывала доступ да сярэдняй адукацыі шырокім масам. Пры гэтым, гімназіі дзяліліся на класічныя і рэальныя. Выпускнікі класічных гімназій маглі паступіць без экзаменаў ва універсітэты, а рэальных — па конкурсу ў вышэйшыя тэхнічныя навучальныя ўстановы. У 187I г. быў зацверджаны новы Статут гімназій, які прадугледжваў дзеянне толькі класічных гімназій. Тэрмін навучання ў іх павялічваўся з 7 да 8 гадоў. Рэальныя гімназіі ператвараліся ў рэальныя вучылішчы, дзе тэрмін навучання скарачаўся з 7 да 6 гадоў. Права паступаць у тэхнічныя ВНУ мелі толькі тыя навучэнцы, якія скончылі сёмы, дадатковы клас вучылішча. Дадаткова гэтаму па Палажэнню 1872 г. ствараліся іншыя гарадскія вучылішчы, выпускнікі якіх не маглі паступаць у сярэднія навучальныя ўстановы.

Пасля падаўлення паўстання I863–I864 гг. за ўдзел у ім выкладчыкаў, студэнтаў і навучэнцаў узмацніўся адміністрацыйны прygляд за навучальнымі ўстановамі. Быў зачынены Гары-Горацкі земляробчы інстытут, Навагрудская гімназія, Свіслацкая і Маладзечанская прагімназіі, ліквідаваны польскія школы, прыватныя вучылішчы. Пачатковыя школы поўнасцю перадаваліся пад кантроль духавенства. У 1869 годзе ўводзілася пасада інспектара, а ў 1874 г. — дырэктара народных вучылішчаў.

Аднак, нягледзячы на жорсткі прыгнёт, цяга беларусаў да ведаў была велізарная. Насельніцтва часта на асабістыя сродкі ўтрымлівала школы, стварала інтэрнаты. Адкрывалі і хатнія «школкі».

Большасць настаўнікаў пачатковых народных школ Беларусі складалі асобы, якія мелі 2–3 класы адукацыі. Многія сумяшчалі пасады. Толькі ў 1864 г. у Маладзечна была адчынена першая настаўніцкая семінарыя. Пазней яны былі адчынены ў Полацку, Нясвіжы, Свіслачы.

Пад уплывам эканамічнага развіцця колькасць школ павялічвалася. Напрыклад, калі ў 1881 г. на тэрыторыі Беларусі налічвалася 1196 пачатковых

народных школ, то ў 1889 г. — 6813. Колькасць вучняў узрасла з 49,2 да 216,1 тысячы.

З сярэдніх навучальных установ на Беларусі працавала ў 1868 г. 6 мужчынскіх і 4 жаночыя гімназіі, 2 прагімназіі, 4 духоўныя семінарыі і Полацкі кадэцкі корпус. Да 1898 г. колькасць іх узрасла да 20 адзінак. Аднак, нягледзячы на пашырэнне сеткі навучальных устаноў, лік пісьменных па перапісу 1897 г. складаў толькі 25,7% дарослага насельніцтва.

У пачатку XX ст. пачалася новая рэформа сістэмы адукацыі. Памяншалася колькасць ЦПШ, замест іх адкрываліся народныя вучылішчы. Гарадскія вучылішчы пераўтвараліся ў 4-х класныя агульнаадукацыйныя школы павышанага тыпу. Адкрываліся настаўніцкія інстытуты. У 1910 г. такі інстытут быў адкрыты ў Віцебску, пазней у Магілёве і Мінску. Але гэта былі не вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Ствралася сістэма сярэдняй медыцынскай, гандлёва-прамысловай падрыхтоўкі. Аднак у цэлым у 1911 годзе сістэмай адукацыі на Беларусі было ахоплена толькі 18,4% дзяцей школьнага ўзросту, ВНУ увогуле не было. Царскія ўлады адхілялі хадайніцтвы аб іх адкрыцці.

III. У другой палове XVШ ст. ва ўмовах крызісу феадальнага ладу ў архітэктуры Беларусі адзначаецца развіццё новага стылю — класіцызму. Для яго характэрны навуковы падыход — строгая геаметрычнасць (куб, квадрат, трохвугольнік), сіметрычнасць і ўраўнаважанасць аб'ёмаў і ўнутранай прасторы збудаванняў, выкарыстанне манументальных форм антычнага будаўніцтва (каланады і інш.). Класіцызм адлюстраваў ідэі эпохі Асветніцтва, маладой, набіраўшай моц буржуазіі, якая лічыла, што ўсё павінна быць мэтазгодна, рацыянальна і заканамерна.

Класіцызм развіваўся паралельна познaму барока, для якога характэрны велічнасць і ўрачыстасць збудаванняў, вялікая колькасць купалоў і карнізаў, прыгожая лепка, скульптурныя ўпрыгожванні.

Сярод помнікаў пераходнага стылю ад барока да класіцызму на Беларусі трэба адзначыць палацы — у Ружанах, Свяцку (Гродзенскі р-н), Шчорсах (Навагрудскі р-н), Дзярэчыне (Зельвенскі р-н), сабор Іосіфа ў Магілёве (пабудаваны на месцы сустрэчы Кацярыны II і аўстрыйскага імператара Іосіфа II).

На Беларусі класіцызм развіваўся пад значным уплывам рускай класічнай школы, канструктыўныя прыёмы якой ажыццяўляліся рускімі архітэктарамі М. Львовым, В. Стасавым, А. Мельнікавым і інш.

Выдатнымі помнікамі чыстага класіцызму з'яўляецца палац-рэзідэнцыя графа М. Румянцава (з 30-х гадоў XIX ст. — фельдмаршала І. Паскевіча) у Гомелі, палацавы комплекс у Снове, Крычаўскі і Жыліцкі палацы, губернатара Аляксандра ў Віцебску і віцэ-губернатара Максімовіча ў Гродне, сабор Пятра і Паўла ў Гомелі, Прэабражэнская царква ў Чэрыкаве, касцёл у Шчучыне і іншыя.

Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі значныя змены адбыліся і ў беларускім горадабудаўніцтве. Яно стваралася як цэласная рацыянальна спланаваная сістэма. Новыя планы гарадоў складаліся па прынцыпу

класіцызму. Вядома, што сярэдневяковыя гарады развіваліся бессістэмна, мелі крывыя вуліцы з цеснай драўлянай забудовай. У першай палове XIX ст. былі распрацаваны генеральныя планы забудовы больш 40 беларускіх гарадоў, у якіх прадугледжвалася прамавугольная сістэма планіроўкі, кампазіцыйная вось, грамадскі цэнтр, сістэма галоўных магістраляў, напрамкі далейшага росту гарадоў. У выніку чаго мянялася аблічча гарадоў, ствараліся гарадскія ансамблі і плошчы, будаваліся палацы і будынкі.

З сярэдзіны XIX ст. у архітэктуры Беларусі класічны стыль прыходзіць у заняпад. Яго паступова замяняе рамантызм, прадстаўнікі якога спалучалі розныя стылі, выстаўлялі на першы план нацыянальную архітэктуру, выступалі супраць сляпога пераймання антычных традыцый. Характэрнай рысай рамантызму быў эклектызм (ад грэчаскага эклектікос — сумесь, злучэнне ў адным розных плыняў і прынцыпаў, разнастылёвасць). Найбольш відавочна рамантызм праявіўся ў пейзажна-паркавым мастацтве. Рамантычныя пейзажныя паркі ствараліся па прынцыпу свабоднай кампазіцыі і аздабляліся штучнымі гротамі, каскадамі, рVIнамі (Гомельскі, Лагойскі, Жыліцкі, Салавейкаўскі паркі). Мураваныя прыватніцкія будынкі ствараліся ў залежнасці ад густаў заказчыкаў. Таму разнастылёвасць у мастацкім абліччы горада становіцца звычайнай з'явай. Упор робіцца на вонкавую дэкаратыўнасць фасадаў. Архітэктары часта спалучалі ў будынках формы готыкі, рэнесансу, барока і стваралі эклектычныя кангламерацыі архітэктурных формаў, стыль якіх цяжка вызначыць звычайныя банкі і навучальныя ўстановы афармляліся пад рэнесанс (мужчынская гімназія ў Гомелі), тэатры — пад барока (тэатр у Мінску), касцёлы — пад готыку (касцёл святой Варвары ў Віцебску), праваслаўныя цэрквы — у Візантыйскам ці неарускім стылі (псеўдарускім) — царква на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці.

У другой палове XIX ст. наглядаецца таксама росквіт неагатычнага стылю, які стаў як бы афіцыйным напрамкам каталіцкай царквы на Беларусі. Неагатычныя пабудовы складаліся з чырвонай дробнаабпаленай цэглы, прычым фасады не атынкоўваліся. Найбольш багатыя храмы мелі вітражы, падлогу з паліваных керамічных плітак, фрэскавы роспіс (палац у Косаве Івацэвічскага раёна).

Пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гг. шырокае распаўсюджванне набыў неарускі (псеўдарускі) стыль. Ініцыятарам яго быў Віленскі генерал-губернатар Мураўёў. Цэрквы, пабудаваныя ў гэтым стылі, можна сустрэць у многіх гарадах і пасёлках Беларусі. Найбольш значнымі пабудовамі гэтага напрамку з´яўляюцца: мемарыяльны храм у вёсцы Лясная (1908–1912 гг.), створаны ў гонар 200-годдзя перамогі рускіх войскаў над шведамі і капліца князёў Паскевічаў у Гомелі (1870–1889 гг.), архіерэйскі дом у Мінску і інш.

Склаўся і неараманскі стыль. Найбольш вядомым помнікам, які спалучае матывы раманскай і гатычнай архітэктуры, з’яўляецца касцёл св. Сымона і Алены ў Мінску (1910 г.). Храм мае асіметрычную кампазіцыю з трыма вежамі: дзвюма меншымі і адной высокай. Касцёл пабудаваны з чырвонай дробнаабпаленай цэглы. У яго дэкаратыўным афармленні выкарыстаны элементы неаготыкі (вялікае акно-ружа, арнаментальныя паясы і інш.).

У сярэдзіне XIX ст. у архітэктуры Беларусі з´яўляюцца новыя тыпы будынкаў — заводы, фабрыкі, гасцініцы, шматкватэрныя дамы. У будаўніцтве выкарыстоўваецца тэхнічны прагрэс — ужыванне бетону, жалеза, пракату, чыгуну, а таксама шматпралётных канструкцый.

У канцы XIX ст. у архітэктуру пранікае яшчэ адзін мастацкі стыль — мадэрн. Для яго характэрны пераплеценыя лініі, асіметрычныя кампазіцыі, багаты ляпны дэкор. Мадэрн прынёс новыя тыпы пабудоў — чыгуначныя вакзалы, масты, прамысловыя збудаванні. Прыкладам архітэктуры мадэрна з´яўляецца сялянскі банк у Віцебску, храм у Міры, даходны дом на вуліцы Кірава ў Мінску, будынкі на вуліцы Ленінскай у Магілёве, Студэнцкай — у Гродне, Білецкага — у Гомелі і іншыя. Мадэрн праіснаваў на тэрыторыі Беларусі да першай сусветнай вайны.

Развіваўся і такі від мастацтва як скульптура. Яна ў канцы XVIII – пачатку XIX ст.ст. вызначаецца складаным і супярэчлівым характарам. З аднаго боку, у скульптуры, асабліва драўлянай, прасочваюцца водгукі позняга барока, а з другога — пануе класіцызм, які праяўляецца літаральна ва ўсіх відах і жанрах мастацтва.

Трэба адзначыць, што ў гэты перыяд у выніку адсутнасці заказаў, маральнага незадавальнення скульптура развівалася слабей, чым іншыя віды мастацтва. Тым не менш, развіваліся такія разнавіднасці скульптуры, як станковая, манументальна-дэкаратыўная, пластыка малых форм.

Найбольш вядомымі скульптарамі, працуючымі ў жанры станковай скульптуры, былі Кароль Ельскі і яго сыны Ян і Казімір (родам з Пухавіч). Кароль Ельскі з’яўляецца першым прафесарам скульптуры на Беларусі, ён быў загадчыкам кафедры скульптуры ў Віленскім універсітэце. К. Ельскі стварыў чатыры фігуры прарокаў для галоўнага алтара касцёла св. Пятра і Паўла ў Вільні; 32 партрэты-бюсты перадавых дзеячаў культуры і вучоных (М. Пачобута, Я. Снядэцкага, Ф. Смуглевіча, Я. Рустэма, І. Храптовіча і інш.). У жанры малых форм Ельскі стварыў медальёны з вобразамі Пятра І, Кацярыны ІІ, Станіслава Аўгуста і інш. У галіне сакральнай і мемарыяльнай пластыкі ім зроблены надмагільны бюст біскупа Страйкоўскага, А. Ромера і іншых.

Прынцыпамі класіцызму кіраваліся і сыны К. Ельскага, а таксама яго вучань Н. Астроўскі. Апошні стварыў галерэю бюстаў-партрэтаў гістарычных асоб ВКЛ — К. Ельскага, У. Сыракомлі, Ю. Коршака, Т. Касцюшкі, Ю. Панятоўскага і іншых.

Выдатнымі скульптарамі былі Р. Слізень, К. Кавалеўскі, В. Смакоўскі і іншыя, якія стварылі шэраг партрэтаў-бюстаў, барэльефаў.

Пасля закрыцця ў 1832 г. Віленскага універсітэта на Беларусі доўгі час не існавала ніякай мастацкай навучальнай установы. Таму многія таленавітыя юнакі вымушаны былі атрымліваць адукацыю ў Пецярбургу, Маскве, Варшаве, Адэсе і заставацца там. Многія з іх унеслі значны ўклад у развіццё мастацкай культуры рускага, польскага і іншых народаў (М. Антакольскі, І. Гінзбург, А. Васюцінскі. І. Шрэдар, М. Мікешын і іншыя).

На Беларусі толькі ў 1866 г. была зноў адчынена мастацкая школа пад кіраўніцтвам І. Трутнева. Яна падрыхтавала некалькі пакаленняў беларускіх і літоўскіх мастакоў і скульптараў. Сярод іх — А. Ромер, які працаваў у галіне пластыкі дробных формаў (медалі) і ў партрэтным жанры.

Пэўны ўклад у развіццё беларускай скульптуры ўнесла Алена Скірмунт, якая стварыла сакральную скульптуру «Распяцце», партрэты Я. Радзівіла, Товальдсена, бюсты князёў ВКЛ.

Творчая праца многіх беларускіх скульптараў праходзіла па-за межамі Радзімы. Да іх ліку належаць Г. Дмахоўскі, К. Барычэўскі.

Спадчына Г. Дмахоўскага шматгранная і разнастайная. У Парыжы ён стварыў шэраг медалёў з вобразамі Т. Касцюшкі, Г. Саванаролы, помнік паўстанцу В. Пяткевічу, бюст караля Яна ІІІ Сабескага, партрэт бацькі. У 1853–1854 гг. для будынка кангрэсу ЗША ён стварыў бюсты А. Джэферсана, М. Лафаета, Т. Касцюшкі. Яго разцу належыць скульптурная група «Гарыбальдзі з воінамі». У ЗША ім выкананы сакральны помнік жонцы і двум сваім дзецям, а таксама помнік палкаводцу К. Пулаўскаму.

Персанажы яго твораў — яркія індывідуальнасці з напружаным духоўным жыццём, што падкрэсліваецца дынамікай фігур, экспрэсіяй натхнёных твараў і імпульсіўных жэстаў, складкамі адзення.

Сярод твораў К. Барычэўскага найбольш вядомы бюсты французскага мастака Э. Дэлакруа, рускага філосафа Р. Вырубава, партрэтныя медальёны.

Напрыканцы ХІХ і пачатку ХХ ст. скульптура, як і архітэктура, стала больш дэмакратычнай. У стылі галоўнае месца заняў мадэрн, імпрэсіянізм, сімвалізм.

У стылі імпрэсіянізму (накірунак у мастацтве, які адлюстроўваў рэчаіснасць, як яна ўяўляецца імгненна) працавалі скульптары Я. Багушэўскі, Я. Тышынскі, А. Краснапольскі і іншыя. Няяснасць, неакрэсленасць імпрэсіяніскай манеры лепкі наглядна бачна ў скульптуры Я. Багушэўскага «Мінулыя часы». Яна ўяўляе сабой вялікую мужчынскую галаву з маленькай фігуркай жанчыны побач, якая тварам прыціснулася да пасмаў валасоў мужчыны. Тут нават цяжка сказаць, які сэнс укладзены скульптарам у гэты вобраз, наколькі ён далёкі ад рэальнага жыцця.

Скульптура А. Краснапольскага «Сум» уяўляе маладую голую жанчыну, якая у задуменні сядзіць на вялікім валуне.

Яркім прадстаўніком сімвалізму (накірунак, які культывіраваў індывідуалізм, паэзію намёкаў, як сімвалічны воблік свету) у беларускай скульптуры быў К. Змігродзкі. Ён стварыў цэлы шэраг скульптур, у якіх паказваецца несправядлівасць, свавольства чыноўнікаў. Напрыклад, яго скульптура «Прабуджэнне» уяўляе сабою ляжачую на зямлі голую дзяўчыну, якую дзяўбе ў плячо каршун, што сядзіць у яе на спіне. Сюжэт яўна сімвалічны. У гэтай манеры выкананы і такія яго скульптуры, як «Думка», «Голад», "Насілле», «Крыўда», «Мара» і іншыя.

У стылі мадэрн працаваў і В. Бубноўскі, які атрымаў вядомасць як майстар вытанчанай салоннай скульптуры, якая ўпрыгожвала асабнякі і палацы.

У пачатку XX стагоддзя на Беларусі ствараюцца помнікі манументальнай скульптуры. Так, каля вёскі Лясной у 1903 г, быў пастаўлены манумент у гонар перамогі рускіх войскаў над шведамі у 1708 г. У гонар воінаў, загінуўшых пад Віцебскам у 1812 г. у барацьбе супраць французаў, у 1912 г. у Віцебску быў створаны абеліск. У Кобрыне быў таксама ўзведзены манумент, прысвечаны салдатам 1812 года.

Жывапіс. У пачатку XIX стагоддзя цэнтрам падрыхтоўкі беларускіх мастакоў быў Віленскі універсітэт. Пры ім існавалі кафедры малюнка, жывапісу (з 1797 г.), скульптуры (з 1803 г.), графікі (з 1805 г.). Пасля закрыцця універсітэта (1832 г.) цэнтр падрыхтоўкі перамясціўся ў Пецярбург. Толькі ў 1866 годзе была створана Віленская школа малявання І. Трутнева, а ў канцы 90-х гадоў былі адчынены мастацкія школы В. Мааса ў Мінску і Ю. Пэна ў Віцебску.

На творчасць беларускіх мастакоў значны ўплыў аказалі педагогі Віленскага універсітэта Ф. Смуглевіч і Ян Рустэм, а таксама рускія мастакі К. Савіцкі, І. Шышкін, І. Рэпін, што жылі на Беларусі.

Афіцыйным напрамкам мастацтва канца XVIII – першай паловы XIX ст. быў класіцызм, перавага ў ім рэлігійнай тэматыкі, што не задавальняла асноўную частку мастакоў. Яны шукалі сваю тэму, якая была б больш цесна звязана з людзьмі, з сучаснымі падзеямі. Таму невыпадкова ў першай палове XIX ст. гістарычны, партрэтны і пейзажны жанры становяцца галоўнымі ў беларускім жывапісе. Сцвярджаецца рамантызм, які ламае стэрэатыпы і каноны класіцызму, узаконьвае свабоду думкі і творчасці, ставіць у цэнтр мастацтва асобу, чалавека высакародных пачуццяў.

Вызначальным жанрам жывапісу першай паловы XIX ст. быў партрэт. Найбольш вядомымі прадстаўнікамі гэтай плыні былі І. Аляшкевіч, Я. Рустэм, В. Ваньковіч і іншыя.

І. Аляшкевіч напісаў партрэты беларускіх магнатаў Л. Сапегі, М. Радзівіла, Г. Ржавускага, паэта А. Міцкевіча, а таксама карціны «Групавы партрэт», «Мадонна з дзіцем» і інш. Ён вядомы і як майстар гістарычных кампазіцый. За карціну "Благодетельное призрение и попечение императрицы Марии Фёдоровны о бедных» ён быў абраны членам Расійскай імператарскай акадэміі мастацтваў. Яго карціны знаходзяцца ў галерэях Масквы, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Кракава, Дрэздэна. У Мінску ёсць толькі «Групавы партрэт» і «Партрэт дзяўчынкі».

Ян Рустэм, прафесар Віленскага універсітэта напісаў партрэты Томаша Зана, А. і Я. Снядэцкіх, кампазіцыі «Турак з канём», «Бабуля з унучкай» і іншыя.

Мастак Валенцій Ваньковіч, выхаванец Полацкай акадэміі, які жыў і працаваў ў Мінску, напісаў карціну «А. Міцкевіч на скале Аюдаг», партрэты К. і А. Тавянскіх. У 1834 г. стварыў карціну «Напалеон каля вогнішча». Яго карціны «Дзева Марыя Вастрабрамская» упрыгожвае алтар касцёла Севярына ў Парыжы, «Мадонна з дзіцем» знаходзіцца ў Луўры.

Рамантычныя матывы выразна выявіліся не толькі ў партрэтным, але і ў гістарычным і пейзажным жывапісе. Выдатным прадстаўніком гэтага жанру

быў мастак, этнограф і кампазітар Напалеон Орда, які абыйшоў і аб´ездзіў амаль усю Беларусь, Польшчу і Літву. Ён зрабіў больш 500 акварэляў і малюнкаў з натуры — помнікаў архітэктуры, замкаў, палацаў, вуліц гарадоў, гістарычных мясцін. Яго акварэлі і малюнкі пераводзіліся ў літаграфіі, выдаваліся альбомамі, графічнымі серыямі. Вялікае грамадскае прызнанне атрымалі яго карціны «Лагойск», «Крыжоўка», «Руіны замка ў Лідзе», «Мір», «Нясвіж», «Белая Вежа» і інш.

Значнай постаццю ў беларускім пейзажным жывапісе з'яўляецца мастак А. Гараўскі, ураджэнец міншчыны. Ён з залатым медалём скончыў Пецярбурскую акадэмію. Вядомы яго карціны «На Радзіме», «Вечар у Мінскай губерні» і інш. Ён атрымаў званне акадэміка і быў вядомы не толькі ў Расіі. Як сябра мецэната П. Траццякова, А. Гараўскі дапамагаў яму ў збіранні славутай Траццякоўскай галерэі. У ёй жа ёсць і яго работы.

Выдатным пейзажным жывапісцам быў В. Дмахоўскі. Сучаснікі яго называлі Клодам Ларэнам (выдатны французскі жывапісец XVII ст.) віленскіх ваколіц за паэтызм і велічнасць, эмацыянальную насычанасць, строгасць кампазіцыі. Мастак у асноўным маляваў месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю А. Міцкевіча, сябрам якога быў («Радзіма», «Возера Свіцязь», «Захад сонца», «Начлег»).

Вядомымі пейзажыстамі былі А. Вараўскі, М. Артыганьеў.

Пейзажы, замалёўкі, эцюды пісаў і такі выдатны беларускі мастак, як М. Кулеш. Патрыятычныя матывы, любоў да роднай зямлі, яе прыроды і гісторыі адлюстраваны ў працах «Царква Барыса і Глеба на Каложы» у Гродна, «Руіны замка ў Луцку», «Друскенікі» і інш.

Яркім прадстаўніком гістарычнага жанру ў беларускім жывапісе з’яўляўся Ян Дамель. Ён быў адукаваным чалавекам, добра ведаў айчынную і антычную гісторыю. Шырока вядомы яго творы «Вызваленне Т. Касцюшкі з цямніцы», «Адступленне французаў праз Вільню ў 1812 г.», «Хрышчэнне славян» і інш. На яго спадчыне выхоўваліся многія пакаленні беларускіх мастакоў.

Адным з найбольш вядомых прадстаўнікоў гістарычнага жанру другой паловы XIX ст. быў К. Альхімовіч. Вучыўся ў Вільні, за ўдзел ў паўстанні 1863–1864 гг. быў сасланы ў Сібір. Пасля ссылкі жыў за мяжой, але пісаў на беларускія гістарычныя тэмы. Сусветную вядомасць набыла яго карціна «Пахаванне Гедыміна», якая неаднаразова экспанавалася на выстаўках у Варшаве, Пецярбургу, Львове, Сан-Францыска. Альхімовіч стварыў такія вядомыя гістарычныя палотны, як «Язычніцкія жрацы», «Смерць Глінскага ў турме» і інш. Беларускі мастак выстаўляў свае творы ў Мюнхене і парыжскім Салоне, дзе яны карысталіся вялікім поспехам.

Прадстаўнікамі бытавога жанру ў выяўленчым мастацтве былі К. Русецкі («Жняя», «Вербная нядзеля», «Спячая дзяўчынка»), Ціт Бычкоўскі («Касец», «Дзяўчынка з разбітым збанам» і інш.), Ю. Карчэўскі («Руская хуткая пошта», «Яўрэйская карчма», «Яўрэйскае пахаванне» і інш.), Н. Сіліванові ч («Дзеці на двары», «У школу», «Дзяўчынка», «Пастух»). За мазаічнае пано «Тайная

вячэра» і ўдзел у афармленні Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу яму было прысвоена ганаровае званне акадэміка.

На рубяжы XIX–XX ст.ст. у беларускім жывапісе з´яўляецца шэраг новых імёнаў. Гэта А. Ромер, Б. Русецкі, Ю. Пэн. У прыватнасці Ю. Пэн стварыў цэлую галерэю тыпавых вобразаў рамеснікаў: «Гадзіншчык», «Стары кравец» і інш. У арганізаванай ім прыватнай мастацкай школе набылі адукацыю такія мастакі, як М. Шагал, С. Юдовіч.

Разам з адзначанымі жанрамі ў беларускім мастацтве значнае месца займала графіка. Гэта звязана з развіццём паліграфічнай вытворчасці. Працавалі ў гэтым жанры многія ілюстратары, шрыфтавікі, картографы. Сусветную вядомасць набыў ураджэнец Мінска Ю. Азямблеўскі. Яго літаграфію «Славянскі нявольнік» на сваіх лекцыях у Парыжы дэманстраваў А. Міцкевіч, пра яе пісаў у памфлеце «Хрышчоная ўласнасць» А. Герцэн.

У канцы XIX – пачатку XX ст.ст. у творчасці жывапісцаў ўсё часцей гучалі сацыяльныя матывы. Яны знайшлі адлюстраванне ў творчасці і такіх выдатных беларускіх мастакоў, як Г. Вайсенгоф, К. Стаброўскі, Ф. Рушчыц, Я. Кругер, С. Жукоўскі. У канцы XIX ст. пачынаецца творчая дзейнасць і такога таленавітага беларускага мастака, як В. Бялыніцкі-Біруля. У ранні перыяд ім напісаны пейзажы «З аколіц Пяцігорска», «Вясна ідзе». Гэтыя творы атрымалі прэмію і былі набыты для Траццякоўскай галерэі.

У творчасці мастакоў гэтага перыяду сустракаюцца творы з імпрэсіянісцкім падыходам да адлюстравання рэчаіснасці (гэта ў ранняй творчасці В. Бялыніцкага-Бірулі — «Зімовы пейзаж») і нават мадэрнісцка-фармалістычнай трактоўкі свету (М. Шагал, К. Малевіч і інш.).

IV. У музычна-тэатральнай культуры ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. адбываюцца змены. Замест прыгонных тэатраў магнатаў з′яўляюцца тэатры прыватнай антрэпрызы, якія ўвасаблялі новы, камерцыйны падыход да арганізацыі відовішчаў. Па форме дзейнасці тэатры былі «аб′язнымі». Яны мелі сталую базу ў губернскім ці буйным павятовым горадзе і час ад часу рабілі турнэ па навакольных гарадах, мястэчках. Высокае майстэрства і вялікую вядомасць набылі ў той час віленская тэатральная трупа Мараўскага, гродзенская — Саламеі Дзешнер, мінская — Кажынскага. У 30-я гады тэатральныя відовішчы адбываюцца ўжо бесперапынна ва ўсіх губернскіх і ў многіх павятовых гарадах. Усталёўваецца тэатральны сезон, з′яўляюцца пастаянныя гарадскія тэатры.

У сярэдзіне 40-х гадоў для палягчэння прыгляду за тэатральным мастацтвам царскія ўлады правялі тэатральную рэформу. Усе вандроўныя трупы забараняліся, у губернскіх гарадах ствараліся пастаянныя руска-польскія тэатры і тэатральныя дырэкцыі. Гэтыя тэатры мелі манапольнае права на паказ спектакляў. Аднак рэформа не была даведзена да канца. Ужо ў сярэдзіне 50-х гадоў на Беларусі зноў дзейнічаюць аматарскія «аб′язныя» трупы.

Такія аматарскія трупы былі вельмі папулярны ў шляхецкім, чыноўніцкім і афіцэрскім асяроддзі. На аматарскай сцэне рабіў першыя крокі беларускі

нацыянальны тэатр. Ля яго вытокаў стаялі В. Дунін-Марцінкевіч і тыя мінскія акцёры і музыканты-аматары, якія гуртаваліся вакол яго. 23 верасня 1841 г. адбылася прэм′ера аматарскага спектакля — камічнай оперы «Рэкруцкі яўрэйскі набор», музыку для якой напісалі С. Манюшка і К. Кржыжаноўскі, а лібрэта — В. Дунін-Марцінкевіч. 9 лютага 1852 г. мінскія аматары паставілі «Ідылію» тых жа аўтараў.

З сярэдзіны XIX ст. атрымалі сцэнічнае жыццё народныя танцы (у спектаклях В. Дуніна-Марцінкевіча). Тут трэба адзначыць, што беларускія народныя матывы выкарыстоўвалі М. Глінка (варыянт Лявоніхі ў сімфоніі рэ мінор), А. Глазуноў (у сімфоніі рэ мажор), М. Карловіч (у «Літоўскай рапсодыі» і сімфоніі «Адвечныя песні»), Л. Рагоўскі (у сваіх сімфоніях), М. Мусаргскі (сцэна ў карчме ў оперы «Барыс Гадуноў»), М. Рымскі-Корсакаў (у «Майскай ночы»). Іх апрацоўвалі М. Іпалітаў-Іванаў, А. Грачанінаў, С. Танееў і інш.

З тэатрам было цесна звязана музычнае мастацтва. Музыка гучала не толькі на спектаклях: яе слухалі ў салонах мясцовай шляхты, выкладалі ў навучальных установах, праходзілі сольныя і аркестровыя канцэрты.

На Беларусі добра ведалі музычныя творы заходнееўрапейскіх кампазітараў, папулярнасцю карысталіся кампазіцыі мясцовых аўтараў.

Сусветнай славай карыстаюцца творы нашых землякоў М. К. Агінскага, С. Манюшкі, добра вядомыя імёны А. Абрамовіча, В. Казлоўскага, Г. Глінскага, П. Карафа-Корбута, І. Шадурскага і інш. У арганізацыі канцэртнага жыцця і пашырэнні музычнай асветы значную ролю адыгралі браты Дамінік і Вікенцій Стэфановічы, якія кіравалі мінскім аркестрам.

Міхал Клеафас Агінскі паходзіў з сям′і беларускай шляхты, добра вядомай на слонімшчыне. Ён быў вядомы не толькі як выдатны кампазітар і выканаўца, але і як палітычны і грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання за аднаўленне Вялікага княства Літоўскага. М. Агінскім напісана больш як 60 музыкальных твораў: 4 вальсы, 4 маршы, 3 мазуркі, некалькі мінуэтаў, рамансаў, песень і больш 20 паланэзаў. Найбольш папулярным творам кампазітара з′яўляецца яго паланэз «Развітанне з Радзімай». Ён аўтар чатырохтомных мемуараў і трактата «Пісьмы аб музыцы».

Глыбокі след у беларускай музычнай культуры пакінуў ураджэнец Ігуменскага раёна С. Манюшка. У Мінску ў таленавітага музыканта і выкладчыка Д. Стэфановіча ён атрымаў пачатковую музычную адукацыю. З Мінскам звязана стварэнне і пастаноўка яго першых вадэвіляў, музычных камедый і камічных опер. У садружнасці з В. Дунінам-Марцінкевічам ім напісаны оперы «Спаборніцтва музыкантаў», «Чарадзейная вада», «Сялянка», пастаўленных у Мінску і іншых беларускіх гарадах.

Фларыян Міладоўскі быў вучнем Мендэльсона. Ён напісаў шэраг музычных твораў, добра вядомых ў Еўропе. Восіп Казлоўскі, дзед знакамітага расійскага спевака Івана Казлоўскага, з′яўляўся збіральнікам твораў беларускага музычнага фальклору. Запрошаны ў Пецярбург, ён стаў там

кіраўніком Яго імператарскай вялікасці тэатраў, напісаў расійскі гімн «Гром победы, раздавайся».

У другой палове XIX ст. у Мінску пачынаюць працаваць фартэп'янная фабрыка, магазін па продажу нот і інструментаў, узнікаюць новыя аматарскія таварыствы: першая беларуская трупа І Буйніцкага, Мінскае музычнае таварыства, Мінскі музычны гурток, Таварыства аматараў прыгонных мастацтваў, прыватныя музычныя школы.

У тэатральна-музычным жыцці значнае месца займалі гастролі С. Рахманінава, Ф. Шаляпіна, Д. Зілоці, М. Батыстыні, Мікалая і Медэі Фігнер, Генадзя і Юліі Веняўскіх і шмат іншых.

Для пачатку XX ст. характэрны больш дэмакратычныя формы аматарскага музыцыравання і яго далейшае развіццё. У гарадах і мястэчках ствараліся хоры, музычна-драматычныя гурткі, якія выконвалі і захоўвалі беларускія народныя песні і танцы.

V. Адметнай рысай культурнага жыцця Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.ст. з'яўлялася развіццё літаратуры і журналістыкі. Цэлыя галіны культуры становяцца своеасаблівай трыбунай палітычнай думкі, месцам ідэалагічнай барацьбы. Літаратура Беларусі ў гэты час фарміравалася пад уплывам вялікай французкай рэвалюцыі, нацыянальна-вызваленчага руху. Яна ўвабрала ў сябе прагрэсіўныя элементы сусветнай культуры, была шматмоўнай. Друкаваліся кнігі на польскай, лацінскай, нямецкай і іншых мовах. З'яўляліся літаратурныя творы на беларускай мове.

Развіццё беларускай літаратуры ішло ад рамантызму праз сентыменталізм да рэалізму, шляхам паступовага адыходу ад фальклорнага апісальніцтва на пачатку яе развіцця — да развітай літаратуры. Ішоў працэс жанравага ўзбагачэння, удасканальвалася вершаскладанне.

Характэрнай з'явай беларускай літаратуры першай паловы XIX ст. было ўзнікненне ананімных твораў «Гутарка Данілы са Сцяпанам», «Сход», «Вясна гола перапала», «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе» і іншых. У іх адлюстраваны рысы сацыяльных адносін таго часу, думкі і настроі беларускіх сялян, сцвярджалася права прыгоннага селяніна звацца чалавекам, вучыла асуджэнню існуючых парадкаў.

Значную ролю ў станаўленні беларускай літаратуры, а разам з ёй і мовы, адыгралі пісьменнікі, збіральнікі народнага фальклора Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Аляксандр Рыпінскі, У. Сыракомля, В. Каратынскі і іншыя. У 20–30-я гады развіваецца паэтычны талент Паўлюка Багрыма. У творах гэтых аўтараў гучала народная гаворка, мова тых мясцовасцей, адкуль паходзілі пісьменнікі. Найбольшае распаўсюджванне атрымала цэнтральная беларуская гаворка. Яна стала асновай новай беларускай літаратурнай мовы. Разам са станаўленнем новай беларускай літаратурнай мовы выпрацоўвалася агульнабеларускае вымаўленне, стыль, правапіс.

Выдатным літаратарам Беларусі з'яўляецца Адам Міцкевіч. Яго творы, напісаныя на польскай мове пад значным уплывам мовы беларускага народа, паэтыкі беларускай песні, могуць лічыцца спадчынай не толькі польскага

народа. У сваіх творах «Мешка, князь Навагрудка», «Бульба», «Дзяды», «Пан Тадэвуш», «Гражына» А. Міцкевіч выкарыстаў тэмы і вобразы беларускага фальклору, сюжэты беларускай гісторыі.

У 40-я гады XIX ст. свайго росквіту дасягнула творчасць пісьменніка, драматурга, грамадскага дзеяча В. Дуніна-Марцінкевіча. Яго першыя п’есы «Рэкруцкі яўрэйскі набор», «Спаборніцтва музыкантаў», «Чарадзейная вада» былі напісаны на польскай мове і пастаўлены на мінскай сцэне. У 1846 г. убачыла свет выдатная музычная п’еса В. Дуніна-Марцінкевіча «Сялянка», дзе ўпершыню загучала жывая беларуская гаворка. У 50-я гады ён стварае вершаваныя апавяданні «Вечарніцы», «Гапон», «Халімон на каранацыі» і іншыя, а таксама займаецца перакладамі. Адзін з найлепшых і самых вядомых сваіх твораў — фарсвадэвіль «Пінская шляхта» — пісьменнік стварыў у пачатку 60-х гадоў.

Вяршыняй развіцця беларускай літаратуры і мовы другой паловы XIX ст. стала творчасць Ф. Багушэвіча. Да сваіх зборнікаў «Дудка беларуская», «Смык беларускі» Ф. Багушевіч складаў прадмовы, праз якія імкнуўся абудзіць нацыянальную свядомасць беларускага народа. У іх ён абвясціў існаванне беларускага этнасу і адзначыў самастойнасць беларускай мовы. Галоўнае месца ў творах пісьменніка — паказ жыцця паднявольнага сялянства, пошукі справядлівасці.

Новыя тэмы, матывы і вобразы канца XIX — пачатку XX ст.ст. прынеслі ў беларускую літаратуру Янка Лучына, Адам Гурыновіч, Цётка, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч і іншыя. Я. Лучына з’яўляецца аўтарам першага беларускага верша «Роднай старонцы». У ім, а таксама ў сваіх паэмах «Паляўнічыя акварэлькі», «Ганулся», «Андрэй», «Віялета» ён выражае любоў да радзімы, асэнсоўвае беларускую рэчаіснасць.

Кнігі «Скрыпка беларуская», «Хрэст на свабоду» Цёткі (А. Пашкевіч) сталі першымі арыгінальнымі зборнікамі беларускай паэзіі XX ст. Цётка з’явілася адной з пачынальнікаў апавядальнага жанру.

На якасна новы ўзровень узнялі беларускую літаратуру і мову Янка Купала, Якуб Колас. Адзіны паэтычны зборнік «Вянок» належыць Максіму Багдановічу, аднак ён дазволіў паэту заняць пачэснае месца сярод класікаў беларускай літаратуры.

У пачатку XX ст. раскрыліся творчыя здольнасці М. Гарэцкага, З. Бядулі, Ц. Гартнага, К. Каганца і інш. Беларуская літаратура пачала знаходзіць прызнанне ў суседніх, перш за ўсё славянскіх народаў, паступова ўключацца ў сусветны гісторыка-літаратурны працэс.

Важным здабыткам беларускай культуры XIX – пачатку XX ст.ст. стала развіццё перыядычнага і кніжнага друку. Спачатку друк быў прадстаўлены апазіцыйнымі выданнямі, пазней — незалежнымі. Значнай падзеяй культурнага жыцця Беларусі стала стварэнне ў 1906 г. першага беларускамоўнага выдавецтва « Загляне сонца і ў наша ваконца» у Пецярбургу.

У заключэнне трэба адзначыць, што значнае месца ў беларускай культуры займала развіццё навукі, філасофіі і грамадска-палітычнай думкі. Выдатны ўклад ў матэматыку і астраномію ўнёс Ян Снядэцкі. Дзякуючы яму, у Вільні

была адкрыта астранамічная абсерваторыя, яго падручнік па сферычнай трыганаметрыі лічыўся лепшым у Еўропе і быў выдадзены ў Лейпцыгу. Брат Яна Снядэцкага Андрэй, стаў аўтарам працы «Тэорыя арганічных рэчываў», у якой стварыў упершыню стройную навуковую тэорыю на падставе эмпірычных дадзеных біялогіі.

Знакамітымі вучонымі свету былі: вядомы батанік і біёлаг С. Юндзіл, прафесар медыцыны А. Бекю, фізіёлаг М. Гамаліцкі, хімікі К. Шміт, І. Цютчаў; аграбіёлагі — М. Аганоўскі, І. Чарнятаў. Філасофія развівалася Я. і А. Снядэцкімі, К. Нарбутам, Д. Доўгірдам, асветніцтва — Л. Бароўскім, Я. Славацкім, Т. Занам. Ідэі матэрыялістычнага светапогляду развівалі Ф. Савіч, М. Лавіцкі, В. Давід, Э. Жылігоўскі, А. Саветаў, І. Сцебут, М. Рытаў і многія іншыя.

Развівалася дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. У канцы XIX ст. пачынаецца дэманстрацыя кінафільмаў. У 1907 годзе бяруць пачатак здымкі мясцовых хранікальных сюжэтаў. Зараджаецца спорт.

Культура Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.ст. стала важнай часткай сусветнага гістарычнага працэсу. У многіх галінах — выяўленчым мастацтве, літаратуры, тэатры, навуцы — яна дасягнула еўрапейскіх вышынь. У гэты час фарміравалася яе самабытнасць, непаўторныя традыцыі, агульнанацыянальная літаратурная мова.

Беларускі народ, нягледзячы на паланізацыю і русіфікацыю, здолеў захаваць свой этнічны воблік, адстаяў нацыянальную перспектыву.

## Тэма 5. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў 20-30-Я ГАДЫ XX СТ.

План.

1. Асаблівасці культурнага развіцця ў паслякастрычніцкі перыяд і перабудова адукацыі.
2. Беларусізацыя 20–30-х гадоў, яе сутнасць і змест.
3. Моўная палітыка.
4. Развіццё архітэктуры, скульптуры, жывапісу, музыкі,
5. тэатра і літаратуры.
6. Культурнае жыццё ў Заходняй Беларусі.
7. Масавыя рэпрэсіі дзеячаў культуры Беларусі.

І. Перыяд першай сусветнай вайны вельмі адмоўна адбіўся на развіцці Беларусі. Значныя страты панесла насельніцтва, былі зруйнаваны гарады і вёскі, знішчаны шматлікія культурныя каштоўнасці. Многа таленавітых людзей з'ехала з родных мясцін. Але і ў гэтыя гады беларускія палітычныя і культурныя дзеячы клапаціліся аб развіцці культуры, захаванні яе спадчыны. Намаганнямі А. Луцкевіча, А. Смоліча, Б. Пачобкі, Б. Тарашкевіча і іншых ішоў працэс упарадкавання беларускай мовы, стварэння беларускамоўных школ, пошук і захаванне культурных каштоўнасцей, друкаваліся новыя літаратурныя творы.

Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў паслярэвалюцыйныя 20-я – 30-я

гады праходзіла ў вострай барацьбе розных сіл: нацыянальна-патрыятычных, што выступалі за развіццё беларускай нацыянальнай культуры і сіл, якія прапагандавалі ідэі сацыялізма, інтэрнацыяналізма. Сказваўся таксама і нізкі культурны ўзровень насельніцтва, рэвалюцыйны патрыятызм. Таму культурнае будаўніцтва ў гэты перыяд ажыццяўлялася пад назвай «культурная рэвалюцыя». Яе галоўнымі мэтамі былі: стварэнне новай, сацыялістычнай па зместу, культуры; ліквідацыя непісьменнасці і малапісьменнасці; стварэнне ўмоў для далучэння народных мас да культуры праз развіццё сеткі хат-чытальняў, бібліятэк, клубаў, музеяў; стварэнне новай савецкай інтэлігенцыі; барацьба супраць рэлігійных, буржуазных поглядаў і г. д. На культуру першых паслярэвалюцыйных гадоў значны ўплыў меў Пралеткульт, які дзейнічаў з 1917 па 1920 гг. Ён адмаўляў былую культуру, выступаў за наватарства ў мастацтве і стварэнне новай пралетарскай.

Пасля 1917 г. пачынаецца рэвалюцыйная ломка ўсяго старога, і найперш праводзіцца перабудова адукацыі. Адукацыя пачынае ажыццяўляцца на новых прынцыпах: сувязі яе з сацыяльна-эканамічнымі і палітычнымі пераўтварэннямі; праве ўсіх народаў на адукацыю на роднай мове; прынцыпе пераемнасці ўсіх звенняў сістэмы адукацыі; ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці; бясплатнасці адукацыі.

Адразу былі ліквідаваны саслоўныя, рэлігійныя і нацыянальныя прывілеі, а таксама дарэвалюцыйныя органы адукацыі. Забаранялася выкладанне рэлігіі і рэлігійных абрадаў. Стваралася новая сістэма адукацыі — працоўная школа двух ступеняў: першая — з 5-гадовым тэрмінам навучання (з 8 да 13 гадоў), і другая– з 4-гадовым тэрмінам для дзяцей 13–17 гадоў. Завяршалася навучанне 9-гадовай сярэдняй школай. Да 9-гадовай школы далучаўся дзіцячы садок для падлеткаў ад 6 да 8 гадоў. Але эканамічныя цяжкасці не дазволілі гэта выканаць. З 1921 г. замест 9-гадовай, галоўным тыпам масавай школы уводзілася сямігадовая. Пасля сямігодкі навучанне працягвалася ў 3–4-гадовых тэхнікумах, а потым у трохгадовых ВНУ.

Больш бурнае развіццё сістэмы адукацыі пачалося пасля заканчэння ў 1920 г. ваенных дзеянняў і ў перыяд правядзення палітыкі беларусізацыі. Разам з развіццём сістэмы адукацыі ішоў працэс і ліквідацыі непісьменнасці. Да 1921 г. усяго 503 тыс.чалавек (39% ад агульнай колькасці насельніцтва таго часу) навучыліся грамаце. Для яе далейшай ліквідацыі ў 1924 г. быў прыняты 10-гадовы план. Адначасова з ліквідацыяй непісьменнасці ствараліся школы для малапісьменных.

Складвалася сістэма сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі. Спецыялістаў народнай гаспадаркі з 1919 г. пачаў рыхтаваць адноўлены Горы-Горацкі земляробчы інстытут, з 1921 г. — БДУ. У ім спачатку было два факультэты — грамадскіх навук і медыцынскі, а ў 1922 г. быў заснаваны педагагічны факультэт з чатырма аддзяленнямі — сацыяльна-гістарычным, літаратурна-лінгвістычным, фізіка-матэматычным і прыродазнаўчым. У першы год навучання ва універсітэце вучылася 1250 студэнтаў, заняткі вялі 14 прафесараў, 49 выкладчыкаў і асістэнтаў. На базе педагагічнага факультэта БДУ ў 1931 г. адчынены Вышэйшы педагагічны інстытут; медыцынскага —

Мінскі медыцынскі інстытут.

Спалучэнне намаганняў сістэмы адукацыі і шматлікіх грамадскіх арганізацый тыпу «Далоў непісьменнасць» дазволіла да канца 30-х гадоў непісьменнасць у асноўным ліквідаваць. Колькасць пісьменных узрасла з 53,1% у 1927 г. — да 78,9% у 1939 годзе. Спрыяла гэтаму ўведзеная ў 1926 г. сістэма абавязковага пачатковага, а ў 1932 г. — сямігадовага навучання.

Сетка навучальных устаноў пастуупова пашыралася. Аднак у яе сістэме было шмат недахопаў. Была дрэннай матэрыяльная база, адсутнічала адзіная сістэма ацэнкі ведаў, у ВНУ і тэхнікумах шырока ўжываўся брыгадны метад падрыхтоўкі. У адпаведнасці з ім адмяняўся персанальны ўлік паспяховасці, дыпломныя работы студэнтаў. Ацэнку атрымлівала ўся група, брыгада. Не апраўдвалі сябе і датэрміновыя выпускі ўдарных груп, брыгад. Негатыўны ўплыў меў і г. зв. класавы прынцып набору студэнтаў, калі пры залічэнні на вучобу перавага аддавалася рабочым, сялянам і іх дзецям. У мэтах паляпшэння класавага складу студэнтаў прымаліся і надзвычайныя меры: перарэгістрацыі, праверкі залічаных, чысткі. Напрыклад, у час чысткі, якая праводзілася ў 1924 г. у БДУ, з 1949 студэнтаў універсітэта было выключана 790, у Віцебскім педінстытуце з 328 правераных — выключана 110, у Горацкім сельска-гаспадарчым інстытуце з 834 — адлічана 221. Студэнтаў выключалі за непралетарскае паходжанне, па палітычных матывах. Набіралі іх па асобных курыях, рэкамендацыях партыйных і савецкіх органаў, арганізоўваліся наборы членаў партыі, камсамола, рабочых ад станка. Для падрыхтоўкі рабочых, сялян і іх дзяцей да вучобы ў ВНУ ствараліся рабфакі, якіх у 1925 г. дзейнічала чатыры.

У 1934 г. у краіне праведзена ўніфікацыя сістэмы адукацыі. Стваралася пачатковая (I–IV класы), няпоўная сярэдняя (I–VII класы) і сярэдняя (I–X класы) школа. Уводзілася пяць ступеняў ацэнкі паспяховасці ў школах і ВНУ: 1– вельмі дрэнна, 2 — дрэнна, 3 — пасрэдна, 4 — добра, 5 — выдатна. Ствараліся адзіныя падручнікі па розных прадметах, уводзіліся пасады дырэктара школы, класнага кіраўніка, званні для настаўнікаў (настаўнік пачатковай, сярэдняй, заслужаны настаўнік школы). Для студэнтаў уводзіліся стыпендыі, для выкладчыкаў — стаўкі. Усё гэта спрыяла паляпшэнню сістэмы адукацы і яе далейшаму развіццю. Да І936 г. у Беларусі ўжо працавала 31 вышэйшая навучальная ўстанова, 104 сярэднія спецыяльныя, 7015 школ.

Разам з гэтым у дзейнасці школ існавала таксама шмат праблем. Многія школы мелі дрэнную паспяховасць, шмат вучняў заставаліся на другі год. Напрыклад, у 1935/36 навучальным годзе на другі год было пакінута 110 тыс. вучняў, што складала 12% ад іх агульнай колькасці.

На выніках навучання сказвалася дрэнная матэрыяльная база школ. Шмат з іх працавалі ў непрыстасаваных памяшканнях, у тры змены. Не хапала падручнікаў, сказвалася недастатковая падрыхтоўка настаўнікаў. Так, у 1939 г. з 39740 настаўнікаў усходніх абласцей незакончаную сярэднюю адукацыю мелі 11710; толькі 3900 настаўнікаў валодалі вышэйшай адукацыяй. Нават нарком асветы БССР Еўдакія Ўралава, якая ў ліпені 1938 г. была прызначана на гэтую пасаду, мела пачатковую адукацыю.

Высокаадукаваныя настаўнікі часта пазбаўляліся працы ў час рэгулярна праводзімых атэстацый. Напрыклад, у 1936 г. з 5896 атэставаных настаўнікаў 4512 былі не атэставаны і пазбаўлены працы.

Некалькі лепшай была сітуацыя ў вышэйшых навучальных установах.

У заключэнне першага пытання важна адзначыць, што з 1 верасня 1940 г. у VIII–X класах сярэдняй школы, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах была ўведзена плата за навучанне. З 1 лістапада 1940 г. стыпендыя выдавалася толькі тым студэнтам, якія на экзаменах атрымалі 75% адзнак «выдатна» і астатнія — «добра». У выніку гэтага многія вучні, студэнты вымушаны былі пакінуць вучобу. Так, 80 студэнтаў першага курса Віцебскага педінстытута падалі заявы аб выключэнні. Усяго толькі ў педагагічных і настаўніцкіх інстытутах з 8414 студэнтаў з 1 верасня па 1 студзеня 1941 г. па аналагічнай прычыне пакінулі вучобу 2607 студэнтаў.

У верасні 1939 г. Заходняя Беларусь была далучана да БССР. Тут пачалася праца па стварэнню савецкай сістэмы адукацыі. У снежні 1939 г. у заходніх абласцях працавала 5633 школы, у якіх вучыліся 746655 вучняў. Усяго ў 1940/41 навучальным годзе ў аб΄яднанай рэспубліцы працавала 13043 школы. У асноўным быў выкананы план пачатковага навучання і на 60% — сямігадовай адукацыі, падрыхтавана новая інтэлігенцыя. На 1 студзеня 1941 г. у рэспубліцы працавала 27,7 тыс. спецыялістаў з вышэйшай і каля 60 тыс. — з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Але гэтага было недастаткова. Амаль трэць пасад, патрабуючых спецыяльнай адукацыі, займалі людзі з поўнай і няпоўнай сярэдняй школай. Эфектыўнасць іх працы не магла быць высокай.

II. Асаблівасцю развіцця культуры ў 20–30-я гады была беларусізацыя. Беларусізацыя — гэта палітыка нацыянальна-дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва на Беларусі ў 20-я – пачатку 30-х гадоў. Яна характарызавалася ростам нацыянальнай самасвядомасці народа, яго імкненнем да развіцця беларускай культуры, мовы. Падчас правядзення беларусізацыі на працягу больш дзесяці гадоў наш народ меў магчымасць адрадзіць нацыянальную культуру, родную мову, якія пад час паланізацыі, потым русіфікацыі амаль зніклі. У ліку ініцыятараў і аўтараў беларусізацыі былі знакамітыя дзеячы нацыянальна-вызваленчага руху.

Многія ідэі беларусізацыі пачалі ажыццяўляцца ўжо ў першыя паслярэвалюцыйныя гады. Гэта знайшло адлюстраванне ў наданні беларускай мове дзяржаўнага характару ўладамі Беларускай Народнай Рэспублікі, стварэнні нацыянальных школ, адкрыцці шэрагу курсаў беларусазнаўства.

У снежні 1920 года з′езд Саветаў Беларусі таксама абвясціў неабходнасць арганізацыі дзяржаўнага і грамадскага жыцця на беларускай мове. Для вывучэння гісторыі, культуры беларускага народа, распрацоўкі навуковай тэрміналогіі роднай мовы ў 1922 г. быў створаны Інстытут беларускай культуры, які потым ператвораны ў акадэмію навук БССР.

Цэласны, канцэптуальны комплексны характар беларусізацыя набыла пасля таго, як 15 ліпеня 1924 г. была прынята пастанова ЦВК БССР «Аб

практычных мерапрыемствах па правядзенню нацыянальнай палітыкі». Гэтай пастановай прадугледжвалася: 1) развіццё нацыянальнай культуры, перавод школ, ВНУ на беларускую мову, пашырэнне выдання на ёй кніг, на беларускай мове, развіццё беларускай літаратуры, вывучэнне гісторыі Беларусі і г. д.; 2) вылучэнне беларусаў на кіруючыя пасады; 3) перавод справаводства на працягу трох гадоў на беларускую мову. Пастановай зацвярджаўся дзяржаўны характар беларускай мовы, а ўсім іншым мовам народаў Беларусі надаваліся роўныя правы. Мовай міжнацыянальных зносін аб′яўлялася руская.

Выключная ўвага падчас беларусізацыі звярталася на навуковае даследванне праблем беларускай мовы, яе гісторыі, нарматыўнасці, распрацоўцы тэрміналогіі. Іменна ў гэтыя гады беларуская мова набыла ўсе галоўныя прыкметы, ўласцівыя ёй. Упарадкаванню беларускай мовы спрыялі граматыкі, выдадзеныя Б. Пачобкам, А. Смолічам, А. Луцкевічам, А. Станкевічам, Я. Лёсікам. Найбольш дасканалая яе распрацоўка была зроблена Б. Тарашкевічам. У яго граматыцы распрацавана фанетыка, часціны мовы, правапіс, сінтаксіс, г. зн. увесь узровень напісання слоў.

Неабходнасць гэтага вызначалася значнай нераўнамернасцю напісання, адсутнасцю адзінага алфавіта. Напрыклад, кірыліца выкарыстоўвалася ў старажытнабеларускім пісьменстве ад XIV да XVIII стагоддзяў. У XVIII – пачатку XX стагоддзяў ужываўся лацінскі алфавіт. Лацініцай былі надрукаваны творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, зборнік Я. Купалы «Гусляр» і іншыя творы. З узнікненнем легальнай беларускай прэсы пачаў выкарыстоўвацца і шрыфт, які распрацаваў І. Капіевіч, г. зн. удасканаленая кірыліца. Нават і пасля 1917 г. беларускія падручнікі друкаваліся лацініцай і кірыліцай. Толькі ў лістападзе 1926 г. напісанне афіцыйна было пераведзена на кірыліцу.

З мэтай далейшага ўпарадкавання беларускага правапісу, графікі і граматычных рыс беларускай мовы ў 1926 г. у Мінску была складзена Канферэнцыя па яе ўдасканальванню, а ў 1933 годзе прынята Пастанова Урада БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Выдадзеным у 1933 г. і ўдасканаленым у 1934 годзе, правапісам мы карыстаемся і зараз.

У ходзе беларусізацыі зыходным прынцыпам яе ажыццяўлення стаў перавод сістэмы навучання на беларускую мову. Здзяйсненне гэтага курсу прывяло да таго, што ўжо ў 1925/26 гг. з агульнай колькасці школ 76% былі беларускімі, з 4-х гадовых — 94%, а ў 1932 г. з агульнай колькасці школ — звыш 90% былі беларускамоўнымі. У гэтыя гады каля 60% сярэдніх спецыяльных і вышэйшых устаноў таксама перайшлі на беларускую мову.

Пры правядзенні палітыкі беларусізацыі ні ў якім разе не прыніжаліся правы і годнасць прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. У 1924 г. у якасці дзяржаўных прызнаваліся беларуская, руская, яўрэйская, польская мовы.

Справаводства таксама пераводзілася на родную мову. Асноўныя ўнутрырэспубліканскія дакументы друкаваліся на чатырох мовах: агульнасаюзнага значэння — на беларускай і рускай, грамадска-палітычныя дакументы (пасведчанні і інш.) — на беларускай і адной з трох іншых

раўнапраўных моў. Пры гэтым за кожным грамадзянінам захоўвалася права звяртацца ў любую ўстанову на роднай мове і на ёй атрымаць адказ.

Праводзілася беларусізацыя ў партыйных і камсамольскіх арганізацыях, у вайсковых злучэннях Чырвонай Арміі. Паколькі ўзровень ведання мовы быў нізкім, пры многіх адміністрацыйных і іншых органах ствараліся спецыяльныя курсы па яе вывучэнню. У выніку гэтай вялікай працы ўжо ў 1927 годзе каля 75% кіруючых работнікаў валодалі беларускай мовай.

Адначасова важным накірункам беларусізацыі стала вылучэнне і выхаванне кадраў з карэннага насельніцтва — служачых і рабочых. Так, паводле перапісу 1926 г. беларусы сярод сельскага насельніцтва складалі 89,1%, гарадскога — 40%, а сярод служачых — беларусаў было 58,9%, рускіх — 13,1%; яўрэяў — 19,1%; палякаў — 3,4%. Рабочыя беларусы складалі — 45,1%; яўрэі — 42,6%; рускія — 5,5%; палякі — 45% (гл. «Беларуская мова. Энцыклапедыя».– Мн., 1994.– С. 80).

Пашыралася выданне газет, часопісаў, літаратуры на беларускай мове, праца радыё, тэатраў.

Палітыка беларусізацыі аказвала выключны ўплыў на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, яго светапогляд. Вялікі ўплыў яна мела на насельніцтва Заходняй Беларусі, узмацняла іх імкненне да ўз’яднання ў адзіны народ. Уздзейнічала яна і на беларускую эміграцыю.

Аднак палітыка беларусізацыі сустракала і перашкоды. Да яе варожа адносілася значная частка кіраўнікоў рэспублікі, частка вучоных. Не падтрымлівалі яе і першыя сакратары ЦК КПБ В. Кнорын і К. Гай. У 30-я гады падчас барацьбы з так званымі нацдэмамі беларусізацыя была звернута. Разам з гэтым значэнне беларусізацыі вялікае. Яна спрыяла адраджэнню нацыянальнай культуры, гісторыі беларускага народа.

III. Беларуская архітэктура ў савецкі час фарміравалася як неадрыўная састаўная частка савецкай архітэктуры. Ацэньваючы ў цэлым яе развіццё ў 20 – 30-я гады, неабходна адзначыць, што яна стала часам пошукаў і набыцця вопыту для карэннай рэканструкцыі гарадоў і вёсак рэспублікі, арганізацыі масавага жыллёвага будаўніцтва. Пад кіраўніцтвам архітэктараў аднаўляліся вытворчыя памяшканні, рэканструяваліся старыя дамы і збудаванні. Праўда, у гэты ж час руйнуецца шмат царкоўных пабудоў, што адпавядала палітыцы ваяўнічага атэізму. Напрыклад, з дарэвалюцыйных 1445 праваслаўных цэркваў, 704 сінагог і 148 касцёлаў да канца 30-х гадоў у БССР былі зачынены адпаведна 1371, 633 і 95, астатнія перароблены ў клеці, гаспадарчыя пабудовы, ці зруйнаваны.

Праблема жылля вырашалася за кошт індывідуальнага будаўніцтва, а з 1924 г. — шляхам арганізацыі жыллёвых кааператываў. Побач з новамі заводамі і фабрыкамі пачалі ўзводзіцца рабочыя пасёлкі з 1–2-х павярховымі дамамі на 2–16 кватэр. Колькасць апошніх была невялікай, аднак на іх адпрацоўваліся асноўныя прынцыпы арганізацыі жылля працоўных. Іменна ў гэтыя гады ў якасці асноўнага тыпу зацвердзіўся жылы дом секцыйнай структуры. Адбывалася станаўленне новых і ўдасканальванне створаных у

мінулым тыпаў грамадскіх будынкаў, выпрацоўваліся тыпалагічныя асновы розных збудаванняў, атрымала развіццё тыповае праектаванне.

Асабліва выразна пошукі новага стыля праявіліся пры будаўніцтве канторы

Дзяржбанка БССР, універсітэцкага гарадка, комплекса першай беларускай сельскагаспадарчай выстаўкі. Гэтыя пабудовы характарызаваліся рацыяналізмам, сухасцю і геаметрычнасцю форм, спрошчанасцю фасадаў.

У гэтым жа стылі — канструктывізма і функцыяналізма, былі пабудаваны па праекту І. Лангбарда ў 1930–1934 гг. Дом урада, у 1934–1935 гг. — Мінскі Дом афіцэраў, у 1935–1937 гг. — тэатр оперы і балета, Магілёўскі Дом саветаў, галоўны корпус АН БССР, па праекту Г. Лаўрова ў 1934/35 гг. — Дзяржаўная бібліятэка, па праекту А. Воінава і У. Вараксіна ў 1929–1932 гг. — будынак ЦК КПБ, А. Воінава — гасцініца «Беларусь» і іншыя. Разам з удалай функцыянальнай арганізацыяй гэтым будынкам уласцівы архітэктурна-мастацкія якасці. У цэлым у архітэктуры 20–30-х гадоў быў выкарыстаны першы вопыт у засваенні новых метадаў будаўніцтва ў рэспубліцы.

Беларуская савецкая скульптура ў першыя паслярэвалюцыйныя гады развівалася пад уздзеяннем ленінскага плана манументальнай прапаганды. Разлічаная на выкананне ідэалагічнай функцыі, скульптура выконвала ролю сімвала новага жыцця. Яна першапачаткова была мала звязана структурна з гарадскім асяроддзем, а манументальнасць дасягалася простым павелічэннем памераў. Напрыклад, у помніку К. Марксу (скульптар К. Елісееў), які быў пастаўлены ў 1920 годзе ў Мінску перад гарадскім тэатрам, пастамент быў павялічаны да такіх памераў, што бюст правадыра аказаўся на узроўні даху. Такімі ж былі і іншыя скульптуры. Для іх быў характэрны кубізм. Гэтым характарызавалася творчасць скульптараў Д. Якерсана, М. Цэханоўскага.

Першыя савецкія скульптуры выконваліся з недаўгавечных матэрыялаў, часцей з гіпсу, цэменту, фанеры і нават са шкла і алебастравых пліт. Так, скульптура чырванаармейца на плошчы Свабоды ў Мінску была выканана з дошчачак, а галава пакрыта шапкай з бляхі. Помнік «Перамога светлага і новага» у Віцебску ўяўляў сабой кампазіцыю з гіпсу і фанеры.

Адметнай рысай скульптуры 20-х гадоў з'явілася цікавасць да свайго гістарычнага мінулага. Гэтаму былі прысвечаны работы скульптараў А. Бразера (партрэты Ф. Скарыны, М. Галадзеда, І. Песталоцці, Я. Купалы) і А. Грубэ (бюсты К. Каліноўскага, М. Багдановіча) і іншыя.

Развіццю беларускай скульптуры спрыяла адкрыццё ў Віцебску скульптурнага аддзялення ў мастацкім тэхнікуме. Сярод выпускнікоў гэтага аддзялення былі Заір Азгур, Андрэй Бембель, Аляксей Глебаў, Аляксандр Арлоў, Абрам Жораў, Генадзь Ізмайлаў, першым творчым дасягненнем якіх стала скульптурнае афармленне Дома ўрада ў Мінску (барэльефы і помнік У. Леніну).

Адной з асноўных праблем, што вырашаліся скульптарамі ў 30-я гады, была праблема стварэння вобраза сучасніка. На змену вобразаў гераічных рэвалюцыйных гадоў, прыходзіць вобраз чалавека новай сацыялістычнай фармацыі. Гэта адпавядала метаду сацрэалізму. Над вобразамі сучасніка

паспяхова працавалі А. Грубэ (скульптуры «Трактарыстка», «Беларус», помнікі Ф. Дзяржынскаму ў Дзяржынску, У. Леніну ў Барысаве), А. Арлоў (скульптура «Пагранічнік і калгасніца», барэльеф «Жыццё піянераў» у Палацы піянераў), А. Жораў, А. Глебаў.

У партрэтным жанры працавалі скульптары М. Керзін, А. Бразер, З. Азгур і іншыя. Імі створана цэлая галерэя вобразаў беларускай інтэлігенцыі — С. Міхоэлса, М. Голуба, М. Кульбокава, Г. Грыгоніса. З. Азгур выканаў шмат партрэтаў дзеячаў камуністычнай партыі і беларускай культуры (Леніна, Свярдлова, Касіёра, Маркса, Энгельса, Арджанікідзе, Я. Коласа, Я. Купалы, Л. Александроўскай).

Развіццё жывапісу таксама праходзіла ў вострай барацьбе розных накірункаў і плыняў. Майстры старэйшага пакалення звярталіся да традыцыйнай манеры пісьма позніх перадзвіжнікаў, у той час як некаторыя маладыя мастакі зняважліва ставіліся да рэалістычных традыцый мінулага.

У масавых відах мастацтва (афармленні афіш, свят, напісанні плакатаў) працавалі М. Шагал, К. Малевіч, В. Ермалаева, Л. Лісіцкі і іншыя прадстаўнікі так званых «левых» накірункаў, якія сродкамі імпрэсіянізму і супрэматызму (разнавіднасці крайняга геаметрычнага абстракцыянізму) рабілі спробы ўвасобіць ідэі рэвалюцыі. У 1919 г. К. Малевіч нават выступіў з «Маніфестам левых беспрадметнікаў», у якім запатрабаваў устанаўлення дыктатуры «левых» у галіне культуры і мастацтва, а супрэматызм — зрабіць дзяржаўным мастацтвам.

К. Малевіч і члены створанай ім групы мастакоў УНОВІС (утвердители нового искусства) адмаўлялі рэалістычны жывапіс, які лічылі аджыўшым. Рэчаіснасць яны заклікалі выражаць сімваламі, дзе квадрат сімвалізаваў сусвет, круг — рух зямлі, трохвугольнік — Бога, падоўжаны чатырохвугольнік (супрэма) — узаемадзеянне сіл. Асноўнымі фарбамі з´яўляліся чорная і белая. Чорная — азначала злы пачатак, белая — добры. Зрэдку дапускаліся іншыя фарбы, якія мелі сваё значэнне. Космас у Космасе — так можна вызначыць знакамітую карціну К. Малевіча «Чорны квадрат». Белая прастора палатна сімвалізавала добрыя светлыя сілы, а чорная, якая запаланіла ўвесь квадрат, цёмныя сілы. Трэба адзначыць, што творчасць К. Малевіча і яго прыхільнікаў мела вялікае значэнне ў развіцці сусветнай архітэктуры, дызайну, кніжнай і прамысловай графікі.

У барацьбе з гэтымі напрамкамі мацнела рэалістычная плынь. У яе развіцці значную ролю адыграў М. Філіповіч, які працаваў у тэхніцы алейнага жывапісу і акварэлі. Ён стварыў карціны «На Купалле», «Вясковае свята», «Стары беларус з люлькай», «Чырвонаармейцы ў вёсцы», «Бойка на Нямізе», «Паўстанне К. Каліноўскага», «1905 год у Мінску».

З 1921 года пачалася творчая дзейнасць Івана Ахрэмчыка, які пісаў карціны на гістарычныя тэмы («І з'езд РСДРП у Мінску», «Падпісанне Маніфеста аб утварэнні БССР» і інш.). Плённа працавалі Н. Гаўрыленка, І. Давідовіч, Я. Красоўскі і іншыя.

З 1925 г. на Беларусі сістэматычна арганізоўваліся мастацкія выстаўкі. Галоўнай тэмай іх быў паказ рэвалюцыйнай героікі, людзей працы. Развіваўся

сюжэтна-тэматычны жанр, прысвечаны гісторыка-рэвалюцыйнаму мінуламу, людзям працы. Побач з сюжэтна-тэматычным жанрам, актыўна развіваўся пейзаж, нацюрморт, партрэтны жывапіс. У гэтым жанры працавалі М. Філіповіч, Ул. Кудрэвіч, Ю. Пэн, М. Дучыц, В. Волкаў, Я. Кругер, М. Станюта, К. Касмачоў, Г. Ізэргіне, Соф'я Лі і іншыя.

Беларускія мастакі актыўна ўдзельнічалі ў распрацоўцы агітплакатаў, газетнай і часопіснай графікі, кніжнай ілюстрацыі. Яны працавалі таксама ў стылі лінагравюры, ксілаграфіі, афорта. Пашырэнне тэатральнай дзейнасці спрыяла развіццю дэкаратыўнага мастацтва. Выдатнымі мастакамі-дэкаратарамі сталі Аскар Марыкс, Леанід Нікіцін. У афармленні спектакляў яны шырока ўжывалі народнае адзенне, ткацтва, прадметы побыту, што стварала рэальную абстаноўку і набліжала артыстаў да народа.

На 30-я гады прыпаў росквіт таленту Вітольда Бялыніцкага-Бірулі з аршаншчыны. Ён стварыў у гэты час такія вядомыя лірычныя пейзажы, як «Аголеныя бярозкі», «Лёд пайшоў», «Пачатак вясны», «Ранняя вясна».

Важнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі з'явілася адкрыццё ў 1939 г. Дзяржаўнай карціннай галерэі, якая сабрала вялікія каштоўнасці. Акрамя палотнаў беларускіх мастакоў, у ёй было шмат карцін майстроў рускага і заходняга жывапісу. Галерэя праводзіла вялікую работу па эстэтычнаму выхаванню працоўных, аказвала творчую дапамогу мастакам.

Аналізуючы развіццё музычнай культуры, трэба нагадаць, што поспехі ў станаўленні музычнага мастацтва былі дасягнуты ўжо ў першыя гады савецкай улады. Спачатку ў музычным жыцці пераважала творчасць харавых калектываў, створаных на самадзейнай выснове. Адначасова складваліся ўмовы і рабіліся першыя крокі да стварэння прафесіянальнага музычнага тэатра, нацыянальнай оперы. Вялікую ролю ў падрыхтоўцы прафесійных музычных кадраў, у мастацкім выхаванні працоўных адыгралі народныя кансерваторыі ў Віцебску, Гомелі, Бабруйску. Значнай з'явай стала адкрыццё Беларускага музычнага тэхнікума ў Мінску. Оперны і балетны класы, музычныя калектывы тэхнікума з´явіліся асновай Беларускай студыі оперы і балета (з 1933 г. Дзяржаўны тэатр оперы і балета), сімфанічнага аркестра Беларускага радыёцэнтра, філарманічнага аркестра народных інструментаў.

У 1932 г. арганізоўваецца Беларуская дзяржаўная кансерваторыя, хор пры радыёцэнтры, у 1937 г. адкрыта Беларуская дзяржаўная філармонія. Філармонія аб'яднала сімфанічны і народны аркестры, харавую капэлу, ансамбль беларускай народнай песні і танца, вакальны і смычковы квартэты. Беларускія цымбалісты І. Жыновіч, А. Астрамецкі, піяніст А. Клумаў і іншыя ўдзельнічалі ва Ўсесаюзных музычных конкурсах. У 1938 г. ствараецца Ансамбль песні і танца Беларускай ваеннай акругі.

Развіццю эстраднага мастацтва спрыяла стварэнне ў Беластоку Дзяржаўнага джаза БССР, мастацкім кіраўніком якога з'яўляўся Эдзі Рознер. Калектыў карыстаўся такой папулярнасцю, што з яго творчасцю азнаёміўся нават сам Сталін. Там жа ў Беластоку ў 1940 г. быў арганізаваны Беларускі ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Р. Шырмы (з 1957 г. Дзяржаўная акадэмічная капэла БССР). Кампазітарскія і музычныя жанры аб'ядноўваў

створаны ў 1934 г. Саюз кампазітараў.

У 20-я гады пачалася і адразу ж набыла даволі інтэнсіўны характар дзейнасць першых беларускіх савецкіх прафесійных кампазітараў (М. Чуркіна, М. Аладава, Я. Цікоцкага, Р. Пукста, А. Туранкова, М. Анца, М. Крошнера, В. Залатарова, М. Куліковіча-Шчаглова, М. Равенскага і інш.), былі закладзены асновы сімфоніі, квартэта, фартэпіяна, квінтэта, кантаты, раманса, масавай харавой песні.

Найбольш вядомымі творамі кампазітараў былі: першая беларуская рэвалюцыйная опера «Вызваленне працы» М. Чуркіна і камічная опера «Тарас на Парнасе» М. Аладава, «Міхась Падгорны» Я. Цікоцкага, «У пушчах Палесся» А. Багатырова, «Кветка шчасця» А. Туранкова і першы нацыянальны балет «Салавей» М. Крошнера. Выканаўцамі гэтых твораў былі таленавітыя майстры опернага і балетнага мастацтва Л.Александроўская, Р. Млодак, І. Балоцін і інш.

Да 1938 г. кампазітары Беларусі напісалі больш за 100 масавых песень, звыш 20 буйных сімфоній, 12 камерных твораў. Некаторыя з напісаных народных песень — «Бывайце здаровы» І. Любана, «Вечарынка ў калгасе» С. Палонскага — сталі шырока вядомымі. Добра вядомымі былі і песні «Каваль», «Рабочы палац» А. Туранкова, «Першамайскі марш» М. Чуркіна і іншыя.

Значнае месца надавалася запісу і апрацоўцы народных песень. У цэлым беларуская музычная культура пры мастацкай недасканаласці многіх твораў абапіралася на народную песеннасць, узбагачала скарбонку беларускай культуры. Многія творы 20–30-х гадоў не страцілі свайго мастацкага значэння і засталіся рэпертуарнымі і зараз.

Адначасова з музычным развівалася тэатральнае мастацтва. З 1917 г. арганізоўваліся новыя тэатры і шматлікія гурткі, якія з пачаткам першай сусветнай вайны спынілі сваю дзейнасць. У Мінску пачало дзейнічаць Першае таварыства беларускай драмы і камедыі (арганізатар Ф. Ждановіч), якое адыграла важную ролю ў станаўленні беларускага тэатральнага мастацтва. Асабліва развіццё тэатральнага мастацтва пачалося пасля вызвалення Мінска. У 1920 г. адчыніў дзверы БДТ-1 (зараз тэатр імя Я. Купалы), БДТ-2 (пад кіраўніцтвам У. Галубка); у 1926 г. — БДТ-3 (пазней — тэатр імя Я. Коласа ў Віцебску). У трупы гэтых тэатраў увайшлі найбольш таленавітыя прадстаўнікі нацыянальнай сцэны, якія і вызначылі яе развіццё. Гэта В. Галіна, Г. Глебаў, Г. Грыгоніс, К. Міронава, Б. Платонаў, Л. Ржэцкая, Ул. Уладамірскі, А. Ільінскі, П. Маўчанаў, К. Саннікаў, С. Станюта і інш.

У сувязі з культурным патрабаваннем вёскі ў сярэдзіне 30-х гадоў узніклі і дзейнічалі вандроўныя калгасна-саўгасныя тэатры. У 1938 г. іх працавала 8 (у Гомелі, Бабруйску, Барысаве, Слуцку, Полацку, Рагачове, Мазыры, Лепелі). Аб прафесійным узроўні гэтых творчых калектываў сведчыць той факт, што на базе Мазырскага тэатра быў створаны Палескі абласны тэатр, а на базе Барысаўскага ў 1939 г. — Пінскі абласны драмтэатр. З развіццём тэатраў расла і колькасць наведвальнікаў. Напрыклад, калі ў 1937 г. іх наведалі 999,4 тыс. чалавек, то ў 1939 г. — 1518 тысяч.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР там разгарнулася праца па стварэнню тэатраў. На пачатку 1941 г. у Беластоку працавалі беларускі і польскі драмтэатры, у Брэсце — рускі і яўрэйскі, у Гародні — рускі драматычны і лялечны, у Вілейцы, Баранавічах і Пінску — беларускія драмтэатры.

З пачатку свайго існавання беларускі савецкі тэатр звяртаўся да твораў, прысвечаных гістарычнаму мінуламу, разнастайным праблемам сучаснага жыцця. Гэта спектаклі — «На купалле» М. Чарота, «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «Перамога» Я. Міровіча, «Бязвінная кроў», «Ганжа» У. Галубка.

У сярэдзіне 30-х гадоў беларускія тэатры ўступілі ў пару сваёй сталасці. Важнае значэнне ў гэтым мела засваенне сістэмы Станіслаўскага, творчай практыкі МХАТа. Вядучыя тэатры рэспублікі ўзбагачалі рэпертуары творамі беларускіх аўтараў, лепшымі ўзорамі рускай і замежнай класікі. Выкарыстоўвалася драматургія В. Дуніна-Марцінкевіча («Пінская шляхта»), Я. Купалы («Прымакі», «Паўлінка»), З. Бядулі («Салавей»), А. Астроўскага («Беспасажніца») («Ваўкі і авечкі»), І. В. Шылера («Каварства і каханне»).

Разам з развіццём тэатральнага мастацтва пасля 1917 г. пачынаецца станаўленне беларускай савецкай літаратуры. У тых ці іншых формах яна існавала ўжо ў перыяд грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі. Так, у гэты час пісаў вершы-заклікі Я. Купала, працаваў над патрыятычнымі вершамі Я. Колас, у газеце «Дзянніца» друкаваў свае творы Ц. Гартны. Пачалі пісаць З. Бядуля, М. Чарот.

У пачатку 20-х гадоў беларуская літаратура вызначаецца бурным развіццём і ўздымам. Значную ролю ў гэтым адыграла газета «Савецкая Беларусь», якая пачала выдавацца з ліпеня 1920 г. Яна друкавала творы М. Чарота, К. Крапівы, К. Чорнага, М. Лынькова, М. Зарэцкага, В. Каваля, А. Звонака.

Выданнем беларускай літаратуры актыўна займалася заснаванае ў 1922 г. выдавецтва «Адраджэнне», часопісы «Маладняк» (1923–1932 гады), «Узвышша» (1927–1933 гады). Літаратурныя творы друкаваліся ў 25 газетах і 15 часопісах.

У 20–30-я гады ў беларускую літаратуру ўвайшлі новыя людзі: М. Чарот, У. Дубоўка, А. Дудар, У. Хадыка, М. Лужанін, А. Куляшоў, А. Бабарэка, А. Вольны, Я. Пушча, А. Аляксандровіч і іншыя. Гэтыя пісьменнікі і паэты аб'ядналіся ў арганізацыю «Маладняк». Мэта іх арганізацыі — стварэнне новага рэвалюцыйнага мастацтва. Але пры ажыццяўленні гэтай мары маладнякоўцы часта дапускалі памылкі ў адносінах да культурнай спадчыны, недастаткова ўвагі надавалі мастацкай вартасці твораў, былі вельмі ідэалагізаваны, палітызаваны. У 1928 г. «Маладняк» быў ператвораны ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў, якая была ліквідавана ў 1932 годзе.

Істотны ўклад у тагачаснае літаратурнае жыццё ўнеслі пісьменніцкае аб'яднанне «Узвышша» і згуртаванне «Полымя».

У пачатку 30-х гадоў у літаратурным жыцці БССР адбыліся сур'ёзныя змены. Пастановай ЦК УКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» усе літаратурныя структуры ліквідаваліся і

стваралася адна — Саюз савецкіх пісьменнікаў. Ён праводзіў лінію партыйнасці ў мастацкай творчасці, якая выражалася ў метадзе сацыялістычнага рэалізму. Гэты метад у якасці асноўнага зацвердзіў і Першы з'езд пісьменнікаў Беларусі, які адбыўся ў чэрвені 1934 года.

Лагічным вынікам правядзення метаду сацыялістычнага рэалізму з'явілася ідэалагізацыя рэвалюцыйных падзей і існуючага ў краіне грамадскага ладу. Наперакор праўдзе, савецкі чалавек стаў прадстаўляцца як творца і гаспадар новага жыцця. Пра гэта сведчаць многія літаратурныя творы, хоць часам і напісаныя на высокім мастацкім узроўні. Гэта творы А. Александровіча, С. Грахоўскага, Э. Самуйлёнка, М. Скрыгана, М. Хведаровіча і іншых. Аповесць П. Галавача «Спалох на загонах», напрыклад, якая рэкламавалася як выдатная літаратурная з'ява, сваім зместам апраўдвала формы і сродкі, з дапамогай якіх праводзілася масавае рассяляньванне краіны.

Метад сацыялістычнага рэалізму стаў выкарыстоўвацца для таго, каб сканцэнтраваць увагу на распачатых пераўтварэннях і адцягнуць народ ад цяжкасцей, пралікаў і злачынстваў кіраўніцтва. Услаўленне дасягненняў павінна было адвесці цені ад лідэраў, прыкрыць негатыўнае. На справе метад у многім стаў сродкам замазвання, прыхарошвання недахопаў, ідэалагічнай апрацоўкі мас, што савецкі лад — самы справядлівы і адзіна магчымы.

Укараненне метаду значна адбілася на стане літаратуры, усяго мастацтва. Героі сталі рэзка падзяляцца на станоўчых і адмоўных. З літаратуры знікаюць персанажы гультаёў, п'яніц. Творы становяцца маралізатарскімі.

Са стварэннем саюза пісьменнікаў над усімі творчымі дзеячамі усталёўваецца жорсткі ідэалагічны кантроль, цэнзура. Вялікая роля ў гэтым кантролі адводзілася створанаму галоўнаму ўпраўленню па справах літаратуры і выдавецтваў — Галоўліту.

20–30-я гады з´яўляюцца перыядам развіцця беларускай паэзіі (тут працавалі — Я. Колас, Я. Купала, Ц. Гартны, А. Гурло, К. Крапіва, К. Губарэвіч, А. Дудар, П. Глебка, П. Трус, М. Лужанін і іншыя); прозы — Я. Колас, М. Лынькоў, З. Бядуля і інш.; рамана — Я. Колас «На ростанях», «У палескай глушы», «У глыбіні Палесся», Ц. Гартны –»Сокі цаліны», Я. Нёманскі — «Драпежнікі», Я. Мурашка — «Сын», З. Бядуля — «Язэп Крушынскі», М. Зарэцкі — «Сцежкі-дарожкі».

Ствараецца беларуская драматургія (драма і камедыя). На гэтай глебе працавалі Я. Купала, Л. Радзевіч, М. Чарот, Я. Міровіч, К. Чорны, К. Крапіва і іншыя.

У 1920 годзе на экраны выйшаў першы беларускі мастацкі кінафільм «Лясная быль» (рэжысёр Ю. Тарыч), прысвечаны барацьбе партызан у 20-я гады. Ю. Тарыч у І930 г. стварыў і першую беларускую гукавую стужку «Пераварот». Ён жа зняў і такія карціны, як «Да заўтра», «Джэнтэльмен і певень», «У вялікім горадзе», «Песня вясны». Вядомымі режысёрамі сталі Уладзімір Гардзін (фільм «Кастусь Каліноўскі»), Ул. Корш-Саблін (фільм «У агні народжаная» і інш.). На беларускай кінастудыі сваю творчую дзейнасць пачыналі кампазітары І. Дунаеўскі, А. Туранкоў, акцёры — Л. Кіт, М. Чаркасаў, М. Сіманаў.

20-я – 30-я гады былі часам стварэння беларускага радыё, друку, навукі. Беларускія вучоныя — акадэмік Ц. Бурцін займаўся праблемамі адноснасці і праводзіў даследванні па пытаннях дыферэнцыяльных ураўненняў; акадэмік І. Некрашэвіч, Б. Сняткоў даследвалі праблемы радыёфізікі і электронікі; акадэмік А. Кайгародаў стварыў беларускую геафізічную абсерваторыю; акадэмік М. Пryляжаеў адкрыў рэакцыю, пры дапамозе якой ствараліся новыя класы арганічных злучэнняў (альдэгіды, кіслоты і інш); акадэмік Б. Ерафееў заклаў асновы тапакінематыкі і г. д.

IV. Разглядаючы пытанне развіцця культуры ў Заходняй Беларусі трэба ведаць, што, нягледзячы на крайне абмежаваныя магчымасці, культурнае жыццё ў Заходняй Беларусі не замірала. Тут пэўнае развіццё атрымала беларуская літаратура, жывапіс, народная творчасць. Яшчэ ў 20-я гады на хвалі ўздыму рэвалюцыйна-дэмакратычнага вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі з народных глыбінь выйшла прагрэсіўная беларуская літаратура. У перыядычных выданнях пачалі друкавацца творы М. Васілька, А. Салагуба, П. Пестрака, М. Машары, В. Таўлая, М. Засіма і іншых. У гэты ж час выявіўся паэтычны талент Максіма Танка. Яго першы зборнік вершаў «На этапах» (1936 год) адразу звярнуў увагу літаратурных і грамадскіх колаў. У 1937–1938 гг. выходзяць новыя паэтычныя зборнікі пісьменнікаў. Добра вядомымі сталі паэмы М. Танка «Журавінавы цвет», «Нарач», «Каліноўскі».

Працавалі ў Заходняй Беларусі выдатныя публіцысты — А. Альшэўскі, Я. Міско, В. Харужая; навукоўцы — Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, І. Двар-чанін. З ёй звязана творчасць У. Жылкі, М. Гарэцкага, Н. Тараса, многіх іншых.

Значнай падзеяй ў культурным жыцці Заходняй Беларусі стала выданне ў 1937 годзе зборнікаў вершаў М. Васілька «З сялянскіх ніў», М. Машары «З-пад стрэх саламяных». Лепшым дасягненнем паэтычнага таленту В. Таўлая з´явілася яго паэма «Таварыш». У Заходняй Беларусі пачыналі сваю творчасць Я. Брыль, П. Граніт, А. Дубровіч, С. Крывец і іншыя. Чалавек працы, яго жыццё, патрэбы, барацьба за свабоду, чалавечую і нацыянальную годнасць, — знаходзіліся ў цэнтры ўвагі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Разам з гэтым, дзеячы беларускай культуры Заходняй Беларусі змаглі таксама стварыць распрацоўкі ў выглядзе асобных навукова-тэарэтычных і публіцыстычных прац ў галіне гісторыі, літаратуразнаўства, грамадскай думкі. У 1921 г. ў Вільні выйшла з друку «Хрэстаматыя беларускай літаратуры», якую склаў М. Гарэцкі, у 1927 г. — «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры ад 1905 года» І. Дварчаніна. У 1926 г. С. Паўловіч апублікаваў брашуру «Аб арганізацыі беларускай працоўнай школы». Культурна-асветніцкую работу ажыццяўляла створанае «Таварыства беларускай школы».

У Заходняй Беларусі пачыналі творчы шлях мастакі Я. Драздовіч, П. Сер-гіевіч, М. Сяўрук. Язэп Драздовіч першым у беларускім мастацтве пачаў пісаць на касмічную тэму. Ім створаны тры серыі карцін — «Жыццё на Марсе», «Жыццё на Сатурне», «Жыццё на Месяцы». Добра вядомыя карціны Пятра Сергіевіча «Студэнтка Вольга Чэрнік», «Беларуская настаўніца», «Дзяўчынка ў

сінім сарафане»; Міхася Сяўрука — «Ля студні», «Жніво». Творчасці гэтых мастакоў уласціва глыбокая народнасць, пранікненне ў характар адлюстраванай асобы.

Працавалі ў Заходняй Беларусі кампазітары К. Галкоўскі, Л. Рагоўскі, М. Забейда-Суміцкі. Плённую працу па стварэнню народных хораў і збору беларускіх народных песень праводзілі Р. Шырма, Г. Цітовіч.

Беларускай нацыянальнай інтэлігенцыяй ствараліся гурткі мастацкай самадзейнасці, даваліся канцэрты. У рэпертуары пераважалі беларускія народныя песні, танцы. Драматычныя калектывы ставілі спектаклі «Прымакі» Я. Купалы, «Антось Лата» Я. Коласа, «Суд» У. Галубка.

З пачатку 20-х гадоў пэўнае развіццё атрымала і адукацыя на беларускай мове. Аднак да сярэдзіны 20-х гадоў у сувязі з узмацненнем палітыкі паланізацыі амаль усе беларускія школы былі зачынены. Так, калі ў 1918–1919 гг. дзейнічала больш 350 такіх школ, то ў 1926 г. іх засталося ўсяго пяць. Гэта выклікала грамадскія пратэсты за аднаўленне беларускай школы. У выніку чаго ўрад Пілсудскага дазволіў адкрыць 29 беларускіх і 49 змешаных беларуска-польскіх школ, 4 гімназіі — у Вільні, Клецку, Навагрудку і Радашковічах. Аднак усе яны ў першай палове 30-х гадоў зноў былі зачынены. Недастаткова існавала і польскіх школ. Таму непісьменных сярод насельніцтва Заходняй Беларусі ва ўзросце звыш 10-ці гадоў налічвалася 43 працэнты. Вынікам недастатковага развіцця адукацыі і нацыянальнага прыгнёту з'явілася нязначная колькасць беларускай інтэлігенцыі.

У дзяржаўных установах Заходняй Беларусі не дазвалялася карыстацца беларускай мовай, беларусаў не бралі на дзяржаўную службу. Культурнае жыццё беларускага народа пастаянна абмяжоўвалася і падаўлялася. Не было беларускіх тэатраў, закрываліся нацыянальныя клубы, бібліятэкі, прагрэсіўныя газеты. Колькасць апошніх пастаянна скарачалася. Напрыклад, калі ў 1927 годзе выдавалася 27 беларускіх легальных газет, то ў 1932 г. іх засталося толькі шэсць. Толькі пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР развіццё культуры стала шматзмястоўным.

V. Беларуская культура ў 20-я – 30-я гады XX стагоддзя дасягнула значных поспехаў. Яны маглі б быць яшчэ большымі, калі б не масавыя рэпрэсіі.

Рэпрэсіі — гэта неабгрунтаванае прыцягненне да крымінальнай адказнасці за так званыя «контррэвалюцыйныя злачынствы». Прычыны рэпрэсій былі абумоўлены тыранічнай прыродай таталітарнага палітычнага савецкага рэжыму, які ўзяў на ўзбраенне метад дыктату, фарсіраванай індустрыялізацыі і гвалтоўнай калектывізацыі. Яны вынікалі з лозунгу «дагонім і перагонім», сталінскага вучэння аб абвастрэнні класавай барацьбы ў перыяд будаўніцтва сацыялізма. «Рэпрэсіі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва, — сцвярджаў Сталін, — з’яўляюцца неабходным элементам наступлення» (Сталин И.В. Соч., т. 13, с. 41). Рэпрэсіі вынікалі і з камуністычнай ідэі інтэрнацыяналізму, сусветнай рэвалюцыі.

На Беларусі рэпрэсіі пачаліся ўжо ў першыя гады савецкай улады. З 20-х гадоў у рэспубліцы, як і ў цэлым па СССР, пачаў фарміравацца рэпрэсіўны механізм, які ўключаў заканадаўчую базу, а таксама сістэму судовых і пазасудовых органаў, папраўна-працоўных лагераў. Спачатку ў якасці метадаў рэпрэсіі выкарыстоўвалася крытыка, а потым арышты, лагеры, растрэлы.

Рэпрэсіі закранулі ўсе слаі беларускага грамадства. Да растрэлу прыгаворваліся нават дзеці з 12-гадовага ўзросту. Ужо ў 1920 годзе было арыштавана 860 членаў Беларускай партыі сацыял-рэвалюцыянераў. Арышты і пакаранні ўзмацніліся ў канцы 20-х – пачатку 30-х гадоў, калі пачалася барацьба з так званым нацыянал-дэмакратызмам. Гэтая барацьба была накіравана супраць беларусізацыі, беларускай мовы і культуры. Прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі абвінавачвалі ў тым, што яны быццам бы ставілі нацыянальныя інтарэсы вышэй за класавыя.

Кульмінацыяй расправ над інтэлігенцыяй у 1930–1931 гг. стала сфабрыкаваная справа аб нацдэмаўскай контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі». Па ёй было арыштавана 108 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Сярод арыштаваных былі нарком асветы А. Баліцкі, З. Жылуновіч, прэзідэнт АН БССР У. Ігнатоўскі. Абвінавачванне ў прыналежнасці да кіраўніцтва «СВБ» было прад’яўлена Я. Купалу, Я. Коласу. Я. Купала ў знак пратэсту нават зрабіў спробу самагубства.

У 1933 г. пачалася новая хваля рэпрэсій. Людзей арыштоўвалі за ўжыванне беларускай мовы, выданне на ёй літаратуры, за працы па гісторыі, якія быццам бы не аб’ектыўна яе трактавалі. Былі арыштаваны І. Дварчанін, М. Лунін, Л. Калюга, Ю. Таўбін і іншыя. У гэтым жа годзе былі раскрыты 59 паўстанцкіх, 19 дыверсійных груп, 20 шпіёнскіх ячэек, 4 тэрарыстычныя арганізацыі.

Найбольш вялікія страты беларуская культура панесла ў 1937–1938 гадах. У гэтыя гады рэпрэсіраваны А. Дудар, М. Зарэцкі, П. Галавач, В. Вольны, В. Каваль, Т. Кляшторны, Ю. Лявонны, В. Маракоў, І. Харык і шмат іншых. Зноў згусціліся хмары над Я. Купалам і Я. Коласам. На першага было выбіта 41 паказанне, на другога — 31.

Цяжкія страты панесла тэатральнае мастацтва (Ф. Ждановіч, М. Рафальскі, У. Галубок і інш.), навука. У 1930 годзе былі арыштаваны 33 навуковыя супрацоўнікі, 1935 — 16, 1936 — 15, 1937 — 45, 1938 — 27. Сярод арыштаваных былі прэзідэнт АН Беларусі І. Сурта, віцэ-прэзідэнт Т. Домбаль, акадэмікі Я. Афанасьеў, Б. Тарашкевіч, В. Сербента. На працягу 1930–1938 гг. зняты з пастоў і арыштаваны 5 наркомаў асветы (ужо адзначаны А. Баліцкі, а таксама А. Пластун, А. Чарнушэвіч, А. Дзякаў, У. Піваварaў). Страты панеслі кампазітары, мастакі, святары.

Рэпрэсіі падвяргалася мова, ужыванне якой скарачалі. Скарачаліся беларускамоўныя школы, народныя дамы, хаты-чытальні, змяншалася выданне беларускіх кніг і газет, справаводства пераводзілася на рускую мову, з пасад кіраўнікоў звальняліся беларусы, распускаліся беларускія краязнаўчыя арганізацыі. Нерэпрэсіраваная частка інтэлігенцыі вымушана была стаць на

шлях прыстасавання да рэжыму. Прыстасаваныя павінны былі чарніць вядомых дзеячаў беларускай культуры. Паэт-дэмакрат Ф. Багушэвіч быў абвешчаны «кулацкім паэтам». Я. Карскі — «вялікадзяржаўным чарнасоценцам», пісьменнік М. Гарэцкі — контррэвалюцыянерам. Адмаўлялася і забаранялася ўсё тое, што было зроблена арыштаванымі. Панавалі цэнзура, стан страху.

З верасня 1939 г. рэпрэсіі закранулі і далучаную да БССР Заходнюю Беларусь. Больш як 100 тысяч жыхароў Заходняй Беларусі было дэпартавана ў Сібір, нямала расстраляна як агентаў польскай разведкі.

Усяго за перыяд 1917–1953 гг. на Беларусі было рэпрэсіравана больш 600 тысяч жыхароў рэспублікі. Толькі пісьменнікаў арыштавана 238 чалавек, якіх пасля смерці Сталіна ў жывых засталося 20 («Звязда», 1992, 19 сакавіка). З ліку вядомых дзеячаў беларускага нацыянальнага руху 1917–1924 гг. рэпрэсіраваны ўсе, хто застаўся жыць на тэрыторыі СССР. У 30-я гады арыштавана 26 акадэмікаў, 6 членаў-карэспандэнтаў АН БССР. Гэтыя рэпрэсіі абяскроўвалі беларускую інтэлігенцыю, падрывалі яе творчыя сілы, ламалі лёс, моцна тармазілі культурнае развіццё.

Зараз ідзе працэс рэабілітацыі тых, хто быў рэпрэсіраваны. Рэабілітавана больш за 200 тысяч жыхароў Беларусі. Гэта лічба сведчыць аб тым, што рэпрэсіі былі незаконнымі. Многія не будуць рэабілітаваны ўвогуле, бо іх сем'і знішчаны поўнасцю і зараз няма каму ўзбудзіць справу. Але, нягледзячы на вялікія страты, культура беларускага народа працягвала развівацца.

Такім чынам, культурнае жыццё ў 20-я – 30-я гады праходзіла ў складаных, часта драматычных умовах. Гэта быў час значных дасягненняў і цяжкіх страт.

## Тэма 6. АЙЧЫННАЯ ВАЙНА 1941-1945 ГАДОЎ І ЯЕ АДЛЮСТРАВАННЕ Ў БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

План.

1. Беларуская культура ў гады Вялікай Айчыннай вайны.
2. Адлюстраванне Айчыннай вайны 1941–1945 гадоў у пасляваенным жыцці і ў сучаснай культуры Беларусі.

I. Вайна 1941–1945 гадоў на тэрыторыі Беларусі прайшла гіганцкімі разбуральнымі хвалямі: спярша з захаду на ўсход, потым — з усходу на захад. А паміж гэтымі хвалямі лютаваў акупацыйны рэжым. Сотні тысяч беларусаў змагаліся з акупантамі на шматлікіх франтах і ў партызанскіх атрадах. Такім чынам, увесь беларускі народ на працягу бясконца доўгіх гадоў вайны жыў у экстрэмальных, стрэсавых умовах. І ў гэты час з асаблівай яскравасцю праяўляліся і перапляталіся трагічнае і гераічнае, высакароднае і нікчэмнае.

Вось таму час Вялікай Айчыннай вайны для беларускай культуры, асабліва мастацтва, з'яўляецца амаль невычарпальнай крыніцай чалавечых характараў і неверагодных сітуацый.

У пачатку вайны за вельмі кароткі час уся тэрыторыя Беларусі была акупавана нямецка-фашысцкімі войскамі і амаль адразу ж была падзелена на пяць частак: усходнюю пад кіраўніцтвам армейскага тылу групы армій «Цэнтр»; паўднёвую, далучаную да так званага рэйхскамісарыята «Украіна»; заходнюю частку, увайшоўшую ў склад Усходняй Прусіі; паўночную, якая стала часткай генеральнай акругі «Літва». Цэнтральная частка нашай краіны стала называцца «Генеральнай акругай Беларусь» (Вайсрустэніэн) на чале з генеральным камісарам гаўляйтэрам Вільгельмам Кубэ. Ва ўсіх гэтых частках падзеленай Беларусі акупацыйны рэжым практычна нічым не адрозніваўся. Усюды ён быў такі жорсткі і бесчалавечны, якога яшчэ не ведаў наш народ, што перажыў за сваю шматвяковую гісторыю многа розных акупацый. Амаль кожная аб'ява ці загад акупацыйных улад заканчваліся пагрозай растрэлу. Была ўведзена паўсямесная практыка браць ні ў чым не павінных людзей як заложнікаў і растрэльваць іх альбо вешаць. За загінуўшага на тэрыторыі Беларусі нямецкага салдата забівалі 10 чалавек, за афіцэра — 30. За забойства партызанамі гауляйтэра В. Кубэ гітлераўцы толькі ў Мінску пакаралі смерцю 3000 нявінных людзей. Уся тэрыторыя нашай рэспублікі пакрылася сеткай канцэнтрацыйных лагераў, у тым ліку пад Мінскам быў Трасцянецкі лагер смерці, у якім фашысты знішчылі 206500 чалавек.

Генацыд беларускага народа быў загадзя распрацаваны і мэтанакіраваны, згодна з так званым генеральным планам «ОСТ». Па гэтаму плану меркавалася пакінуць для анямечвання і затым для выкарыстання 25% беларусаў, а 75% падлягала частковаму знішчэнню фізічна і часткова перасяленню на усход, у Сібір. Хоць гэты нялюдскі план трымаўся ў строгім сакрэце, яго выкарыстанне пачалося з першых дзён акупацыі, за час якой фашыстам удалося знішчыць амаль 1,5 млн. чалавек толькі мірнага насельніцтва Беларусі.

Строгая сакрэтнасць стратэгічных мэтаў тлумачылася тактычнымі падыходамі гітлераўцаў да вырашэння важнейшай для іх задачы — атрымання канчатковай перамогі над Савецкім Саюзам. Тактыка акупантаў азначалася тым, што трэба было знайсці і выкарыстаць у вайне саюзнікаў, апору сярод мясцовага насельніцтва. У розных краінах некаторыя партыі, грамадскія рухі і сродкі прапаганды, а таксама гаспадарчыя кругі супрацоўнічалі з гітлераўцамі. Гэтая з'ява з 1953 года стала называцца «калабарацыяй». У Францыі «калабарантамі» сталі называць тую частку французаў, якія імкнуліся адрадзіць французскую дзяржаву праз супрацоўніцтва з немцамі. У савецкіх падыходах да гэтай з'явы быў адзін прынцып: «хто не з намі, той супраць нас». Таму калабаранты лічыліся абсалютнымі здраднікамі і з імі абыходзіліся больш жорстка, чым з немцамі-фашыстамі. На самой справе, з'ява калабарацыі мае больш шырокі і разнабаковы змест. Беларускія калабаранты былі розныя. Умоўна іх можна падзяліць на 4 састаўляючыя:

а) пакрыўджаныя бальшавіцкімі ўладамі грамадзяне, або тыя, каму савецкія парадкі проста не падабаліся, і яны паверылі нямецкай прапагандзе, пайшлі да акупантаў на службу;

б) людзі, якія абставінамі лёсу былі вымушаны служыць акупантам, каб захаваць жыццё і маёмасць сабе і сваім родным. У многіх з іх іншага выбару не было;

в) проста жадаючыя паўладарнічаць над людзьмі, добра паесці і выпіць. Сярод такіх добраахвотнікаў было многа крымінальнага элементу;

г) прадстаўнікі нацыянальнага беларускага руху, які быў здаўна ў апазіцыі да бальшавікоў. Большасць з іх жыла за межамі СССР, уваходзіла ў розныя палітычныя партыі. Гэта была даволі цэльная, ідэалагічна аформленая частка беларускай калабарацыі. Галоўнай мэтай іх дзейнасці было стварэнне незалежнай Беларусі пры дапамозе гітлераўскай Германіі. Акупацыйныя ўлады дазволілі ім стварыць нешта падобнае на структуру дзяржаўнага кіравання — Беларускі камітэт самапомачы (БКС) і зачатак сілавога апарату — Беларуская самаахова (БСА) з умовай, што яны будуць весці барацьбу з савецкімі партызанамі. Для беларускай моладзі ў чэрвені 1943 года была створана антысавецкая нацыянальная арганізацыя «Саюз беларускай моладзі» (СБМ). Уступіць у яе мог кожны беларус ва ўзросце ад 10 да 20 гадоў, даўшы пісьмовы доказ аб сваім арыйскім паходжанні і жаданні служыць фашызму.

Менавіта гэтая нацыянальна настроеная і арганізаваная частка беларускага калабарацыянізма была асновай і эпіцэнтрам усіх, хто супрацоўнічаў з акупацыйнымі ўладамі. Найбольш актыўнымі іх лідэрамі былі І. Ермачэнка, В. Захарка, Р. Астроўскі, В. Гадлеўскі, Я. Станкевіч, В. Іваноўскі, Н. Абрамава і інш. Імі выдаваліся розныя газеты і часопісы. Гэта «Беларуская газета», «Беларускі голас», «Раніца», «Голас вёскі», «Газета Случчыны», «Пагоня», часопісы «Узвышша», «Жыве Беларусь» і інш. Чым больш нямецкія ўлады цярпелі паражэнняў на усходнім фронце і ад партызан, тым больш вольнасці дазвалялі ў дзейнасці беларускім нацыяналістам. Былі арганізаваны Беларускае навуковае таварыства, прафсаюзы, жаночая ліга, выдадзены дазвол на ўжыванне нацыянальнай сімволікі: бел-чырвона-белага сцягу і герба «Пагоня». Створанае ў 1942 годзе Беларускае культурнае згуртаванне арганізоўвала працу не паспеўшых эвакуіравацца артыстаў і музыкантаў. Там працавалі кампазітары А. Туранкоў, Р. Равенскі, М. Шчаглоў-Кулікові, М. Іваноў, А. Самохін і інш. У гэты час творчай працай займаліся паэты Наталля Арсеннева і Ларыса Геніюш, спяваў беларускія песні выдатны спявак Міхал Забэйда-Суміцкі.

Цікавай была спроба беларускіх калабарантаў наладзіць школьнае навучанне дзяцей. Згодна інструкцыі акупацыйнай улады, можна было вучыцца дзецям ад 7 да 14 гадоў, акрамя яўрэйскіх. Забаронена была прапаганда ў школах савецкай і польскай ідэалогіі, а моладзь павінна была выхоўвацца ў духу гітлераўскай новай Еўропы. У праграму пачатковых школ уваходзілі беларуская мова, прыродазнаўства, арыфметыка, геаграфія, спевы, рукадзелле і гімнастыка. У Мінску стаў выходзіць часопіс «Беларуская школа» у двух варыянтах: для вучняў і для настаўнікаў. Гэта павінна было часткова замяніць

савецкія падручнікі, якія былі строга забаронены. Разгарнуць шырока адукацыю дзяцей не было магчымым па цэламу шэрагу прычын: па-першае, фінансавая незабяспечанасць; па-другое, большасць беларускага насельніцтва з недаверам успрымала захады калабарантаў, якія дыскрэдытавалі нацыянальную ідэю сваім супрацоўніцтвам з акупантамі пад маркай помсты камуністам. І па-трэцяе, партызаны актыўна перашкаджалі наладжванню нацыяналістамі культурнага жыцця, у тым ліку і школьнай справы. Яны часта спальвалі школы і нават забівалі настаўнікаў, як здраднікаў.

Увогуле, на тэрыторыі дзейнічання беларускіх калабарацыяністаў барацьба з нацыяналізмам была адной з важнейшых задач партызанскага руху. Яна была больш зацятай, чым у Прыбалтыцы ці на Украіне. Пасля вайны, у 1945 годзе ЦК КПБ нават прыняў спецыяльную пастанову аб перавыхаванні грамадства ў духу савецкага патрыятызму і нянавісці да нямецкіх акупантаў, якіх ужо даўно не было на беларускай тэрыторыі.

Па другі бок барыкадаў беларуская культура таксама існавала ў цяжкіх абставінах. Значная частка матэрыяльнай базы засталася на тэрыторыі, занятай ворагам, другая частка была эвакVІравана. Гэта каля 60 навукова–даследчых інстытутаў і лабараторый, звыш 20 вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў. У Яраслаўлі аднавіў сваю работу Мінскі медыцынскі інстытут, на станцыі Сходня пад Масквой — Беларускі дзяржаўны універсітэт. З 31 тэатральна-музычнай установы, што дзейнічалі ў рэспубліцы да вайны, значная частка распалася, бо многія не паспелі эвакуіравацца, многія былі мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Толькі адзінкі аднавілі сваю работу. Беларускі Дзяржаўны тэатр, якому 21 снежня 1944 г. было прысвоена імя Я. Купалы, стаў працаваць у Томску. Там ён зрабіў 21 пастаноўку, даў 870 спектакляў, якія праслухала каля 747 тысяч гледачоў, правёў 216 шэфскіх канцэртаў і спектакляў у шпіталях, у воінскіх часцях. БДТ–2 (пазней імя Я. Коласа) абаснаваўся ва Уральску, тэатр Оперы і балету БССР — у Горкім, Дзяржаўны яўрэйскі тэатр — у Навасібірску. Усе артысты актыўна ўдзельнічалі ў шэфскіх канцэртах або франтавых канцэртных брыгадах, выступалі па радыё «Савецкая Беларусь». Гэта Л. Александроўская, Р. Млодэк, Д. Арлоў, П. Малчанаў, І. Балоцін і інш. Яны далі толькі па радыё больш 50 канцэртаў, асабліва ў папулярнай тады форме літаратурна-музыкальнай кампазіцыі.

Як і для ўсіх савецкіх людзей, для дзеячаў беларускай культуры была пастаўлена задача, сфармуляваная ў лозунгу: «Усё для фронта, усё для перамогі!». Гэтая задача стала мэтай і сэнсам жыцця. Вучоныя БССР вялі паспяховыя даследаванні, скіраваныя на ўдасканальванне вытворчых працэсаў у прамысловасці, ажыццяўлялі пошук сыравіны, вырашалі праблемы павышэння ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур, распрацоўвалі эфектыўныя метады лячэння параненых і інш.

Галоўнай тэмай творчасці беларускіх кампазітараў у гады вайны стала гераічная барацьба савецкаага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, партызанскі рух на Беларусі. Найбольшыя магчымасці аператыўнага водгуку на актуальныя падзеі даваў песенны жанр: натуральна, што ў гэты час у ім працавалі амаль усе кампазітары. Пераважнай формай была харавая песня

гераічна-заклікальнага зместу, стылістычна блізкая да паходнага маршу. («Праз лясы, балоты і паляны» М. Аладава, «Беларуская партызанская» І. Любана, «Песня мінаеўцаў» Р. Пукста і інш.). Работу над харавымі песнямі гімнавага жанру стымуляваў абвешчаны ўрадам БССР у 1943 годзе конкурс на стварэнне нацыянальнага гімна Беларусі (замест «Інтэрнацыяналу»).

Патрыятычнай накіраванасцю, актуальнасцю зместу вызначалася большасць тагачасных беларускіх твораў буйнай формы. А. Багатыроў стварыў вядомыя кантаты: «Ленінградцы» на словы Джамбула і «Беларускім партызанам» на словы Я. Купалы; М. Аладаў — баладу «У суровыя дні», паэму «З дзённіка партызана»; М. Чуркін — сімфанічную сюіту «Памяці Вялікай Айчыннай вайны».

Пры нераўназначнасці гэтых мастацкіх твораў беларуская музыка перыяду Вялікай Айчыннай вайны стала важным этапам у станаўленні нацыянальнага музычнага мастацтва і пры гэтым з’явілася прыкметным укладам у агульную справу перамогі.

З першых дзён айчыннай вайны беларускія паэты і пісьменнікі ў сваіх творах сталі заклікаць да барацьбы з акупантамі. Набатам гучаў голас Я. Купалы:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны...

Палымяныя словы паэтаў Я. Коласа, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, проза М. Лынькова, творы К. Крапівы, А. Астрэйкі, П. Панчанкі былі вострай зброяй у барацьбе з ворагам.

Напэўна лепшай прозай у беларускай літаратуры пад час вайны былі раманы Кузьмы Чорнага «Пошукі будучыні», «Вялікі дзень», «Млечны шлях». У іх паэтызуецца беларус-змагар і працаўнік, які ўпрыгожвае садамі зямлю, умее быць смелым у баях, верным у дружбе і ў каханні; даецца абагульнёны вобраз беларускага народа.

Для беларускага мастацтва на акупаванай тэрыторыі на першыя пазіцыі выступілі агітацыйныя віды мастацтва: плакат, карыкатура, малюнак, баявыя лісткі, насценныя газеты, рукапісныя часопісы. Ужо 28 чэрвеня 1941 г. у Гомелі выйшаў першы нумар славутай газеты-плаката «Раздавим фашистскую гадину!». На часова акупаванай тэрыторыі атрымаў шырокае распаўсюджанне сатырычны лісток «Партызанская дубінка», у якім змяшчаліся сатырычныя вершы, байкі, памфлеты, карыкатуры на ворага. У кожным партызанскім атрадзе, брыгадзе выпускаліся рукапісныя баявыя лісткі, насценныя газеты. У зямлянках або проста сярод дрэў наладжваліся выстаўкі мастакоў-партызан. Гэта было магутным сродкам уздзеяння на рост патрыятычнага ўздыму сярод народных мсціўцаў.

На жаль, шмат твораў партызанскага выяўленчага мастацтва загінула, але тыя, што захаваліся, сведчаць аб таленавітасці і дасціпнасці мастакоў-партызан. Цікавыя і надпісы пад малюнкам. Напрыклад: ноччу па вуліцы Берліна ў

ніжняй бялізне бяжыць Гебельс. Над горадам кружаць савецкія самалёты. Праз слёзы Гебельс гаворыць: «Няма спакою ад гэтых бамбавозаў: ляжаш спаць у споднiках — споднікі мяняць даводзіцца, ляжаш без іх — надзець не паспееш». Аўтарамі падобных выданняў былі С. Раманаў, М. Гуціеў, М. Гурло, У. Сухаверхаў, С. Каткоў, Я. Зайцаў, В. Козак, С. Селіханаў, М. Тарасікаў і іншыя.

Больш за 40 антыфашысцкіх плакатаў, 70 малюнкаў, замалёўкаў баявых аперацый, партрэтаў партызан зрабіў мастак Мікалай Гуціеў. Сярод іх вызначаецца карціна «Герой Савецкага Саюза У.Е. Лабанок», «Апергрупа за распрацоўкай аперацыі». Паміж баямі мастак Павел Гаўрыленка напісаў палотны «Прарыў нямецкай абароны», «Партызаны на Палессі», партрэт хлопчыка-партызана і інш.

Творы беларускіх мастакоў, створаныя ў ваенныя гады, былі прадстаўлены на выставе, арганізаванай у 1944 годзе ў Маскве ў залах Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі. У ёй удзельнічала больш за 30 жывапісцаў, скульптараў і графікаў.

Для скульптуры ваеннага часу характэрным было развіццё пераважна партрэтнага жанру. Гераічныя вобразы воінаў і партызан, створаныя З. Азгурам (больш 40 партрэтаў), А. Грубэ, А. Бембелем, належаць да лепшых дасягненняў беларускай савецкай скульптуры. У партрэтах Герояў Савецкага Саюза М. Гастэлы, В. Талаліхіна, Ф. Смалячкова, М. Сільніцкага, М. Шмырова, М. Малодчага, А. Радзімцава Заір Азгур выявіў рысы характару абаронцаў радзімы. Імкненнем да абагульненай пластычнай характарыстыкі вобраза, строгасцю кампазіцыйнай пабудовы вызначаецца работа А. Грубэ — бюст Л. Даватара. Скульптурны партрэт М. Гастэлы, створаны А. Бембелем у героіка-рамантычным плане (1943 г.) не меў аналогіі ні ў беларускай, ні ў савецкай партрэтнай пластыцы ваенных гадоў. Ён уражвае ярка выяўленым гераічным пафасам, вастрынёй і арыгінальнасцю кампазіцыйнага рашэння. Партрэтная ў бронзе выява лётчыка ў момант яго самаахвяры ўвасоблена ў выглядзе наканечніка стралы, бакавыя пёры якой ствараюць з аднаго боку ўзнятая ў лётнай пальчатцы рука, з другога боку — паднятае ўверх плячо з рэгланам. Гэтая скульптура сёння вядома ва ўсім свеце.

Такі кароткі абрыс культуры беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Беларуская інтэлігенцыя, як магла і як умела, працавала на ніве нацыянальнай бяспекі і незалежнасці. Яна і ў гэтыя цяжкія гады ўнесла сваю долю ў скарбонку сусветнай культуры.

II. Крывавая, жудасная вайна нанесла вялізныя страты культуры Беларусі. Амаль цалкам была знішчана яе матэрыяльная база. Вораг зруйнаваў 8825 школ з 12294 існуючых да вайны, усе нацыянальна-даследчыя цэнтры АН БССР, 219 бібліятэк, 5425 музеяў, тэатраў і клубаў, 2187 бальніц і амбулаторый, 2651 дзіцячую ўстанову. Сярод ахвяр вайны было вельмі шмат беларускай інтэлігенцыі, увогуле, адукаваных і прафесійна падрыхтаваных людзей. Колькасць рабочых і служачых зменшылася на 53,5% ад узроўню 1940 года.

Адразу пасля вызвалення першых беларускіх зямель (1943–1944 гг.) пачалося не толькі гаспадарчае, але і культурнае аднаўленне. Ужо ў 1944 годзе распачалося будаўніцтва і рамонт школ, выраб школьнага абсталявання. Аднавіліся заняткі. Цяжкасці былі неімаверныя. Не хапала памяшканняў, падручнікаў і паперы. Трэба было камплектаваць класы з розных узростаў, бо дзеці тры ваенныя гады не маглі вучыцца. Напрыклад, у першым класе пачыналі вучобу 8-мі, 9-ці, 10-ці і 11-ці гадовыя дзеці. Для перарosткаў старэйшых класаў адчыняліся вячэрнія школы рабочай і сельскай моладзі. З мэтай удасканалення сістэмы школьнай адукацыі быў ажыццёўлены пераход да навучання з 7-гадовага ўзросту, уведзена абавязковая здача ў IV і VII класах экзаменаў, а ў Х класе — экзаменаў на атэстат сталасці. Былі заснаваны ўзнагароды за поспехі ў навучанні — сярэбраныя і залатыя медалі. Аднак не апраўдала сябе пасляваеннае новаўвядзенне аб раздзельным навучанні хлопчыкаў і дзяўчынак, таму што гэта ўскладніла ўмовы работы школы і нікольк не садзейнічала выхаваўчаму працэсу. Праблему стварала і тое, што многія настаўнікі былі недастаткова кваліфікаваныя, не ведалі беларускай мовы і нацыянальных асаблівасцей, бо былі камандзіраваны з Расіі для змяншэння вострага дэфіцыту выкладчыкаў. У сувязі з гэтым колькасць беларускамоўных школ стала змяншацца. Напрыклад, калі ў Мінску ў 1945 годзе было з 28 школ — 14 беларускамоўных, то ўжо ў 1952 г. — толькі 9 з 46. У Брэсце з 14 школ засталася беларускамоўнай толькі адна. А 29 раённых цэнтраў Заходняй Беларусі, увогуле, не мелі ніводнай беларускамоўнай школы.

Адначасова з аднаўленнем школьнай справы, пачалі функцыяніраваць і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вярнуліся з эвакуацыі БДУ, Мінскі медыцынскі інстытут, пачаў у 1945 годзе працаваць тэатральны інстытут. На ўзровень падрыхтоўкі спецыялістаў асабліва адмоўна ўплывала нястача выкладчыкаў вышэйшай кваліфікацыі. У 1950–1951 навучальным годзе з 1388 выкладчыкаў толькі 74 мелі ступень доктара навук, ды і то 37 з іх былі медыкамі. У гэты час у рэспубліцы не было ніводнага доктара навук па фізіцы, матэматыцы, філасофіі, рускай і беларускай мовах і іншых. Вучэбна-выхаваўчы працэс у ВНУ быў празмерна запалітызаваны. Скарачалася навучанне нацыянальнай гісторыі і культуры. У БДУ нават была закрыта кафедра гісторыі Беларусі.

Пасляваеннае дзесяцігоддзе было вельмі складаным для беларускай літаратуры і мастацтва як па матэрыяльных прычынах, так і ў палітычным плане. Ад творчых работнікаў патрабавалася паказваць падзеі і герояў Вялікай Айчыннай вайны толькі ў плане іх афіцыйнай ацэнкі, раскрываць і дэманстраваць маральную, фізічную, нават разумовую перавагу толькі станоўчага героя над адмоўным.

У гэтых складаных умовах беларуская літаратура папоўнілася новымі творамі, у тым ліку і аб мінулай вайне. Гэта былі раманы-эпапеі, мемуарныя запісы, успаміны. Агульным недахопам літаратурных твораў гэтага часу былі ілюстратыўны характар і недахоп глыбіні псіхалагічнага аналізу. Не пазбег гэтага і аўтар аднаго з самых значных твораў пра айчынную вайну Міхась Лынькоў. У сваім рамане-эпапеі «Векапомныя дні» ён паказвае падзеі вайны

надзвычай шырока, з захаваннем дакументальнай асновы. Але рыхлая кампазіцыя, слаба арганізаваны сюжэт, надзвычай шырокі ахоп падзей, аднапланава гераічны і нават публіцыстычны іх паказ абумовілі адсутнасць псіхалагічнай глыбіні ў раскрыцці чалавечых характараў.

Значнай падзеяй у літаратуры, і наогул у культурным жыцці БССР, стаў раман Івана Мележа «Мінскі напрамак». Гэты раман стаў шырокай панарамнай карцінай бітвы за Савецкую Беларусь, дзе паказваецца фронт і партызанскі тыл, жыццё і подзвіг людзей, суровая і бязлітасная вайна ў розных складаных сітуацыях. Такі паказ вайны заклаў традыцыі пазнейшай літаратуры.

У першыя пасляваенныя гады ў беларускую літаратуру прыйшоў Іван Шамякін з аповесцю «Помста» і раманам «Глыбокая плынь». Першы твор звяртаецца да складанай праблемы гуманізму на вайне. У рамане, другім яго творы, прасторавыя рамкі дзеяння даволі абмежаваны (вёска, дом Маеўскіх, партызанскі атрад), што дазволіла аўтару засяродзіць увагу на духоўным стане герояў, паказаць іх думкі, перажыванні. Такім чынам, паглыбляецца псіхалагізм рамана, факты і падзеі не існуюць самі па сабе (як у многіх пасляваенных кнігах), а «працуюць» на характары.

Беларускія пісьменнікі ў гэты час звяртаюцца да тэмы дзяцінства, апаленага вайной. У творах Янкі Маўра («Максімка», 1946 г.), Янкі Брыля («Зялёная школа», 1950 г.) паказваюцца адносіны паміж дзецьмі ў цяжкіх ваенных умовах, высакароднасць і чалавечнасць людзей.

У сярэдзіне 50-х гадоў пачынаецца сучасны перыяд у развіцці беларускай літаратуры. У ёй, як і ва ўсёй савецкай, намеціліся тэндэнцыі, звязаныя з актывізацыяй грамадскага жыцця. Пачаўся працэс пераадолення апісальнасці, а заглыбленне ва ўнутраны свет герояў. У першай палове 60-х гадоў у выніку ўнутранага ідэйна-мастацкага ўзбагачэння беларуская літаратура, у тым ліку і ваенная тэматыка, прыйшла да значных здабыткаў. Лідыраваць тут стаў пісьменнік Васіль Быкаў, сам прайшоўшы Вялікую Айчынную вайну ў поўным аб’ёме. Услед за аповесцю «Жураўліны крык» выходзяць аповесці «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Абеліск», «Воўчая зграя», «Сотнікаў», «Пайсці і не вярнуцца» і інш. Аўтар гэтых твораў па-новаму стаў асэнсоўваць адным з першых падзеі мінулай вайны, спыняючыся на тых негатыўных момантах, аб якіх не прынята было гаварыць. У аповесцях «Мёртвым не баліць», «Круглянскі мост», «Праклятая вышыня», «Яго батальён» ён паказаў жорсткую праўду вайны, без лакіроўкі, жывых людзей з іх хібамі характару і недахопамі ў выхаванні, што ў экстрымальных умовах праяўляецца асабліва яскрава. Афіцыйная крытыка і цэнзура адразу пайшла ў наступ, абвінавачваючы В. Быкава ў адсутнасці патрыятызму, у паклёпе на савецкую армію і савецкіх партызан, што, увогуле, ён дрэнны пісьменнік, бо не валодае прынцыпамі мастацкага абагульнення, а яго творы з’яўляюцца палітычна шкоднымі. Толькі няспынны і хуткі рост аўтарытэту гэтага таленавітага і смелага чалавека, а затым і сусветнае прызнанне, не далі камандна-адміністрацыйнай сістэме яго знішчыць. Наадварот, прыйшлося ацаніць яго творчасць па-сапраўднаму і прысвоіць яму званне Героя Сацыялістычнай працы і другія ганаровыя тытулы.

У перыяд з 1962 па 1973 год напісаў раман-трылогію Іван Навуменка пад назвамі: «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці», дзе ён шматпланава і маштабна паказаў, як «ужывалася» у вайну мірнае насельніцтва Беларусі на захопленай немцамі тэрыторыі, як нараджалася і мацнела неабходнасць рашучага супраціўлення ворагу. У раманах другога пісьменніка Івана Чыгрынава раскрываецца трываласць ідэйна-маральных поглядаў савецкіх людзей, непакорнасць іх перад фашысцкімі захопнікамі. Дакументам агромністага палітычнага значэння, праўдзівым словам аб трагедыі беларускага насельніцтва на часова захопленай тэрыторыі стала кніга Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі» (1975 г.).

Да мастацкага асэнсавання ваенных падзей звярнулася пасля вайны большасць драматургаў. Характэрнай асаблівасцю твораў была дакументальнасць. Але як і ва ўсёй савецкай літаратуры таго часу, мела месца прыхарошванне рэчаіснасці, схематызм і павярхоўнасць. Канфлікты большасці п’ес пра вайну былі драматычна напружаныя, персаніфікаваныя ў вобразах-антаганістах. Звычайна адмоўны герой быў агідны ва ўсім: паводзінах, знешне, манерах, адзенні, нават у сваёй біяграфіі. Адчувалася неглыбокае асэнсаванне гістарычных падзей, а заданасць плакатнай агітацыі.

Да лепшых спектакляў на ваенную тэматыку можна аднесці «Брэсцкую крэпасць» К. Губарэвіча, «Гэта было ў Мінску» А. Кучара. Гледачоў хваляваў спектакль «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, які быў у 1947 годзе пастаўлены на сцэне тэатра імя Я. Купалы і праз год атрымаў Дзяржаўную прэмію.

Значны ўклад у асэнсаванне падзей Айчыннай вайны 1941–1945 гадоў зрабіла кінамастацтва Беларусі. У фільмах пасляваеннай пары праз біяграфіі простых людзей, чые лёсы знявечыла вайна, паказаны жудасны яе характар. Адначасова гэтыя фільмы выхоўвалі гледачоў у духу патрыятызму, вучылі іх быць вернымі грамадзянскаму доўгу. Напрыклад, фільмы «Дзяўчынка шукае бацьку», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Бессмяротны гарнізон», «Ідзі і глядзі» і інш., тэлефільмы «Час выбраў нас», «Руіны страляюць ва ўпор». Цэлая серыя кінафільмаў была знята па аповесцях Васіля Быкава, у якіх рэжысёры Р. Віктараў, І. Сцяпанаў і інш. зрабілі спробы перадаць у больш канкрэтнай і нагляднай форме розныя і зусім не папулярныя бакі вайны, што задумаў перадаць чытачам пісьменнік. Асаблівае ўражанне на гледачоў аказала кінастужка рэжысёра Ларысы Шэпіцька «Узыходжанне» па твору В. Быкава «Сотнікаў».

У некаторых фільмах паказваецца, як лёсы сённяшніх людзей на Беларусі пераплятаюцца і нават змыкаюцца з мінулай вайной. Напрыклад, кінафільм М. Пташука «Вазьму твой боль» па аднаіменнай аповесці І. Шамякіна.

Тэму Айчыннай вайны яшчэ доўгі час адлюстроўвалі ў сваіх творах музыканты, асабліва ў песенным жанры. Тут варта адзначыць песні кампазітара У. Алоўнікава, які напісаў музыку «Лясной песні», «Песні пра Брэсцкую крэпасць». Доўгі час папулярнымі былі песні «Ой, Нёман» Н. Сакалоўскага, «Абеліскі» Дз. Смольскага, «Памяць сэрца» і «Каб камені маглі гаварыць» І. Лучанка. З’явай культурнага жыцця стаў балет Я. Глебава «Альпійская балада».

Тэма Вялікай Айчыннай вайны многія гады займала дамініруючае месца і ў рабоце беларускіх мастакоў. Яна ўвасоблена ў палотнах Я. Зайцава. Ён паказвае размах партызанскага руху на беларускай зямлі ў карцінах «Герой Савецкага Саюза Канстанцін Заслонаў у партызанскім штабе» (1944 г.), «Парад беларускіх партызан у 1944 годзе ў Мінску» (1947 г.). Гераічнае напружанне і самаадданасць савецкага воіна ў абставінах смяротнага бою раскрывае мастак у карціне «Стаяць насмерць» (1948 г.), «Брэсцкая крэпасць у 1941 годзе» (1950 г.). Гэтая ж тэма пранізвае палотны «Партызаны ў разведцы» Я. Ціхановіча, «У беларускіх балотах» І. Стасевіча, «Віцебскія вароты» і «Лаўскі бой» М. Савіцкага. М. Савіцкаму таксама належыць карціна «Партызанская мадона», у якой увасабляецца жанчына, як аснова жыцця і шчасця на зямлі. Гэтаму ж мастаку, які быў вязнем у нямецкім канцлагеры, належыць цэлая серыя палотнаў пад агульнай назвай «Лічбы на сэрцы», дзе раскрываецца жах фашысцкіх лагераў смерці, пачварная нелюдзь катаў і зломленых імі вязняў з аднаго боку, з другога — мужнасць і маральная перавага над катамі іх ахвяр.

У манументальным мастацтве важнейшай тэмай стаў таксама вялікі гераізм і мужнасць беларускага народа ў гады вайны. Гэта помнікі, якія стаяць у большасці населеных пунктаў Беларусі — бюсты герояў В. Талаша, В. Хоружай, С. Грыцаўца, М. Гастэлы і інш.

Лепшым дасягненнем у беларускай архітэктуры і скульптуры з'яўляецца ансамбль Плошчы Перамогі ў Мінску (скульптары — З. Азгур, А. Бембель, А. Глебаў, С. Селіханаў, архітэктары У. Кароль, Г. Заборскі). Сёння мала хто ведае, што граніт на аздобу гэтага помніка прывезены з-пад Днепрапятроўска і Жытоміра, мазаіку для выявы ордэна Перамогі прыслалі з Ленінградскай Акадэміі мастацтваў, разьбу па граніце выканалі ўкраінскія каменачосы, а бронзавыя гарэльефы, меч, вянкі — адлілі майстры Ленінграда.

Велічны помнік — Курган Славы Савецкай Арміі-вызваліцельніцы Беларусі ўзведзены на 18-м кіламетры шашы Мінск — Масква ў 1969 годзе. Вышыня кургана і штыкоў-абеліскаў — 70,6 метра. Да аглядальнай пляцоўкі вядуць 2 бетонныя лесвіцы па 241 ступеньцы. Аўтары помніка — скульптар А. Бембель і архітэктар А. Стаховіч. Аўтары мемарыяльнага комплексу «Хатынь» — архітэктары Ю. Градаў, В. Занковіч, Я. Левін і скульптар С. Селіханаў у 1970 годзе былі ўдастоены Ленінскай прэміі.

Велічнае ўражанне аказвае мемарыял «Брэсцкая крэпасць-герой», створаны ў 1971 годзе калектывам беларускіх скульптараў і архітэктараў. Калі глядзіш памятнік «Маці», нельга не задумацца аб простай беларускай жанчыне А. Купрыянавай, жыццё якой падобна на лёс многіх маці нашай рэспублікі, чые сыны загінулі ў полымі вайны. У гэтай маці з Жодзіна пяцёра сыноў аддалі жыццё за Радзіму, адзін з іх, Пётр, стаў Героем Савецкага Саюза пасмяротна. Ён, 18-гадовы юнак, закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота.

Такім было культурнае жыццё беларускага народа ў адзін з самых цяжкіх перыядаў яго гісторыі. Можам прыйсці да высновы, што культура, асабліва мастацтва, жыло і развівалася, як у вайну, так і пасля яе, творча асэнсоўваючы вялікія падзеі і паводзіны людзей ў той час.

## Тэма 7. СУЧАСНАЯ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ

План.

1. Асаблівасці стану культуры Беларусі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе.
2. Супярэчнасці ў развіцці беларускай культуры, выкліканыя палітычнай адлігай і адыходам ад яе.
3. Адыход ад жорсткай ідэалагічнай абмежаванасці з канца 80-х гадоў. Культура і рынак. Пашырэнне «масавай культуры».
4. Праблемы вяртання беларускіх культурных нацыянальных каштоўнасцей Беларусі.

I. У папярэдняй тэме ішла гаворка аб тым, што ў перыяд 1941–1945 гадоў культура і мастацтва Беларусі былі падпарадкаваны інтарэсам вайны, ваенная тэматыка іграла вядучую ролю ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, што яна займае пачэснае месца і ў сённяшнім культурным жыцці нашай краіны. Таму мы не будзем кранаць тыя бакі і напрамкі сучаснай культуры і мастацтва, у якіх адлюстроўваецца Айчынная вайна.

Пераможнае заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны 1941–1945 гадоў спрыяла небываламу ўзлёту культа асобы Сталіна. Афіцыйная прапаганда, а яна тады была практычна ідэйнай, звязвала прычыны перамогі толькі з заслугамі аднаго чалавека: з правадыром усіх прыгнечаных і «бацькам» усіх народаў таварышам Сталіным. А «палкаводзец усіх часоў і ўсіх народаў» стаў яшчэ больш капрызным, зласлівым і грубым, стаў дзейнічаць толькі аднаасобна, не лічачыся ні з кім і ні з чым. Вядома, што ў СССР, у тым ліку і БССР, стаў нараджацца стыхійны, глухі пратэст. Ён ішоў перш за ўсё ад франтавікоў, якія пазнаёміліся з жыццём у многіх еўрапейскіх краінах і маглі гэта параўноўваць з рэчаіснасцю ў сябе дома. Тое, чым раней ганарыліся, ідэалізавалі, цяпер выглядала зусім па-іншаму. Франтавікі яшчэ ў разгар вайны гаварылі аб неабходнасці роспуску калгасаў і верылі, што яны будуць ліквідаваны пасля вайны. Але калгасны лад стаў яшчэ больш жорсткім.

Супраць узмацнення таталітарнай сістэмы стала выказвацца і моладзь, асабліва з ліку навучэнцаў і студэнтаў. Вясной 1946 года ўзнікла падпольная арганізацыя пад назваю «Чайка» у Слоніме, затым яна ўстанавіла сувязі з такімі ж гурткамі ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, з моладдзю на Брэсцкім чыгуначным вузле. У гэтым жа годзе ў Глыбоцкім педвучылішчы ўзнікла падпольная арганізацыя «Саюз беларускіх патрыётаў», затым да яе далучылася група навучэнцаў з Пастаўскага педвучылішча. Маладыя людзі імкнуліся абараніць правы і свабоды ў краіне, стварыць спрыяльныя ўмовы для захавання і развіцця беларускай культуры, мовы, гісторыі. Сродкам дасягнення гэтай мэты павінна стаць дзейнасць па павышэнню нацыянальай свядомасці: спярша саміх навучэнцаў, а затым іх работа сярод беларускага насельніцтва.

У 1947 годзе большасць членаў гэтых аб'яднанняў была арыштавана. Іх судзілі закрытымі ваеннымі трыбуналамі ў глыбокай тайне. Жорсткія

прыгаворы былі вынесены за тое, што быццам бы гэтыя маладыя людзі рыхтавалі захоп улады.

Разам з узмацненнем рэпрэсій супраць вольнадумцаў, на поўную магутнасць быў уключаны прапагандысцкі дзяржаўны апарат. Ідэалогія пасляваеннага сталінізму стала абсалютна непрымірымай да любых поглядаў, якія хоць крыху ў чым-небудзь з ёю не супадалі. З мэтай падтрымання пастаяннага псіхалагічнага напружання ў грамадстве рэгулярна сталі праводзіцца палітычныя кампаніі і выкрыццё розных «адшчапенцаў». У літаратуры і мастацтве былі навязаны жорсткія стэрэатыпы, былі поўнасцю выключаны агульначалавечыя каштоўнасці. Сталінскі рэжым бязлітасна падаўляў нацыянальную свядомасць народаў, абмяжоўваў міжнародныя кантакты інтэлігенцыі.

Пачатак ідэалагічнага прэсінгу на інтэлігенцыю паклалі пастановы ЦК УКП(б) «Аб часопісах «Звязда» і «Ленінград» (1946 г.), у якіх груба і абразліва была ахарактарызавана творчасць выдатнай паэтэсы Ганны Ахматавай і пісьменніка-гумарыста Міхаіла Зошчанкі.

Іх творы «бацька народаў» назваў «тошнотворным порошком». Гэтая пастанова зрабіла свой адмоўны адбітак і на пасляваенную літаратуру Беларусі. Тут разгарнулася крытыка з паследуючымі за ёю «аргвывадамі» для многіх пісьменнікаў і паэтаў. Галоўная іх віна была ў тым, што яны не лакіравалі рэчаіснасць, як гэта рабілася ў прымусова напісаным і ўсхваляючым вышэй нябес дыктатара пісьме «Вялікаму Сталіну» у слаўную 70-ю гадавіну з дня нараджэння ад беларускага народа. Мы цяпер ведаем, што і каго з сябе ўяўляў Сталін — гэты палітычны гангстэр і бязлітасны кат народаў. А тады ў гэтым пісьме лепшыя паэты Беларусі пісалі яму:

Як чыстая, празрыстая крыніца
Струменнем несціхаючым бруіць,
Так з сэрцаў нашых да цябе бруіцца
Любоў жывым струменнем, як з крыніц.
Ты наша сонца, наша красаванне.
Жыві ж, наш бацька любы, многа год,
Прымі ж ад сэрцаў чыстых прывітанне,
Што беларускі шле табе народ!

Між тым за час сталіншчыны было рэпрэсіравана 238 беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, з якіх толькі 20 засталіся жыць пасля ГУЛАГа. Гэтыя страты непараўнальныя нават з Айчыннай вайной, на якой загінула 30 пісьменнікаў. Некаторыя пісьменнікі па два разы прайшлі пекла сталінскіх канцлагераў. Гэта беларускі паэт Станіслаў Шушкевіч, бацька былога спікера нашага парламенту. Гэта Андрэй Аляксандровіч, Сяргей Грахоўскі, Рыгор Бярозкін, Барыс Пальчэўскі і інш.

Рэпрэсіравалі нават паэтэсу Ларысу Геніюш, нягледзячы на тое, што яна ніколі не была грамадзянкай СССР, а Чэхаславакіі. Чэкісты выкралі яе, тайна прывезлі з Прагі ў Мінск і тут прыгаварылі да 25 гадоў зняволення ў лагерах.

Абвінавачванні беларускіх творчых людзей вельмі часта былі прад’яўлены за недастатковы паказ перавагі сацыялізму над капіталізмам, за лірычны без класавага пачуцця настрой, нават за патрыятызм, які расцэньваўся як нацыяналізм. Напрыклад, лічыліся небяспечнымі такія цудоўныя радкі:

Зямля мая далёкая,
Зямля мая цудоўная,
Радзіма сінявокая
Якая ж табе роўная?
Мо ёсць і прыгажэйшая,–
Каму што ў свеце глянецца,
Мая ж — найдаражэйшаю
Да смерці мне астанецца.

Паэтэсу Канстанцыю Буйло, аўтара гэтых цудоўных радкоў, якая доўгі час жыла ў Маскве, абвінавацілі ў тым, што яна ўсхваляе не ўвесь Савецкі Саюз, а нейкую невялікую нацыянальную часцінку. А гэта ўжо кваліфікавалася як праяўленне нацыяналізму.

У тэатральным мастацтве пачаўся «пагром» пасля пастановы ЦК УКП(б) у жніўні 1946 года «Аб рэпертуары драматычных тэатраў і мерах іх паляпшэння». У выніку чысткі з рэпертуараў зніклі нават п’есы заходнееўрапейскай класікі.

Палітыка наступлення на інтэлігенцыю Беларусі ўзмацнілася пасля пленума ЦК КП(б)Б (лістапад 1947 г.), які разгледзеў пытанне «Аб палітычнай і ідэалагічнай рабоце сярод інтэлігенцыі». На ім канстатавалася, што ніякага «залатога веку» у гісторыі Беларусі ў XV–XVI стагоддзях не было, і хто будзе лічыць адваротнае, той стане на шлях, які з’яўляецца «найбольш небяспечным відам нізкапаклонства перад Захадам, перад капіталізмам». У гэтым накірунку крытыкаваўся вучоны-біёлаг А. Жэбрак: навошта ён надрукаваў у амерыканскім часопісе «Навука» артыкул. А ён ў гэтым артыкуле абараняў «савецкую навуку ад ганьбы «лысенкаўшчыны». Вучоны гэта зрабіў таму, што заходняя прэса сцвярджала, быццам усе савецкія навукоўцы з’яўляюцца прыхільнікамі ці паслядоўнікамі Лысенкі, гэтага ілжэ-вучонага.

Адмоўны адбітак на развіццё навукі зрабілі таксама арганізаваныя ўладай дыскусіі па філасофіі, мовазнаўству і палітычнай эканоміі. Яны зацвердзілі і абаснавалі ідэалагічны дыктат і дагматызм у гэтых галінах навукі. Вельмі негатыўныя вынікі на доўгі час мела шэльмаванне такіх навуковых напрамкаў, як генетыка і кібернетыка.

Нягледзячы на рэпрэсіі, страты ў вайне, беларуская культура і асабліва літаратура, папоўнілася новымі талентамі. Калі ў 1945 годзе ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў БССР налічвалася 47 членаў, то ўжо ў 1949 годзе — 91 чалавек. У яе прыйшлі Янка Брыль, Іван Мележ, Анатоль Вялюгін, Мікола Гамолка, Рыгор Няхай, Мікола Аўрамчык, Кастусь Губарэвіч, Аляксей Кулакоўскі, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Мікола Ткачоў і інш. Гэта ў асноўным было франтавое пакаленне, і ў іх творчасці ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе

дамініравала ваенная тэматыка. Аб гэтым мы ўжо вялі гаворку ў папярэдняй тэме. Але ўсё ж тут трэба дадаць, што за 1946–1952 гады ў рэспубліцы было выдадзена 180 назваў літаратурных твораў беларускіх пісьменнікаў агульным тыражом 1433 тысячы экземпляраў. Лепшыя з іх атрымалі прызнанне не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Да сярэдзіны 50-х гадоў каля 80 кніг былі перакладзены на мовы народаў СССР, на польскую, венгерскую, кітайскую, чэшскую, нямецкую і іншыя мовы.

У культурным жыцці пасляваеннага часу вельмі важнай справай было аднаўленне разбураных вёсак і гарадоў. Большасць гарадской забудовы трэба было не аднаўляць, а ствараць усё новае. Нагадаем, што зруйнавана было 209 гарадоў (з 270 даваенных) і спалена 9200 вёсак.

У 1946–1949 гадах Белдзяржпраектам былі распрацаваны праекты генеральных планаў адбудовы Мінска, Віцебска, Магілёва, Гомеля і інш.

У Мінску прыйшлося ствараць новы цэнтр горада, новыя архітэктурныя ансамблі. Кампазіцыйнай воссю забудовы стаў праспект імя Сталіна (потым быў імя Леніна, а цяпер імя Ф. Скарыны). Праспект павінен меў быць арганічна звязаным з жылым раёнам Прывакзальнай плошчы, спартыўным паркам і стадыёнам «Дынама», плошчай Свабоды, сістэмай паркаў уздоўж ракі Свіслач. Архітэктурнае аблічча цэнтра Мінска фармавалі буйныя грамадскія будынкі: Дом урада, акруговы Дом афіцэраў, палац культуры прафсаюзаў, цырк, Дзяржбанк, галоўны універмаг (ГУМ), Галоўпаштамт, разналікія і мнагалікія пяці-сямі павярховыя дамы.

Прайшло ўжо многа гадоў пасля адбудовы Мінска, але і цяпер, калі ідзеш па яго галоўнай магістралі, заўсёды ўражвае веліч і непаўторнасць хараства, якое быццам бы пераходзіць ад аднаго ансамбля да другога на працягу ўсяго 9-ці кіламетровага шляху. Прайдзіце пешшу па праспекце імя Скарыны, каб спецыяльна паглядзець на яго архітэктуру. Не пашкадуеце! І ў Вас таксама з’явяцца добрыя пачуцці да Мінска, да тых, хто ў цяжкіх умовах стварыў такое хараство. А гэта архітэктар М. Паруснікаў. Ён ажыццяўляў кіраўніцтва творчым калектывам па забудове першай чаргі праспекта (ад плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі — 2,9 км) і другой чаргі (ад пл. Перамогі да пл. Калініна — 2,7 км). Акрамя распрацоўкі праектаў забудовы сталічнай магістралі жылымі дамамі, кожны з якіх мае толькі асабістае аблічча, амаль усе з калектыва архітэктараў спраектавалі персанальна свой аб’ект. М. Паруснікаў — будынак КДБ, дзяржбанк, мост праз раку Свіслач, В. Кароль — галоўпаштамт, цэнтральны тэлеграф, Г. Багданаў– гасцініцу «Мінск», А. Воінаў — будынак абкама і ЦК кампартыі, В. Жукаў — цырк, М. Боршч спланаваў забудову плошчаў Перамогі і Якуба Коласа, М. Бакланаў разам з інжынерам К. Івановым спраектавалі адзін з прыгажэйшых куткоў Мінска — набярэжную зону Свіслачы, дзе яна штучна расшырана перад мастом праспекта імя Ф. Скарыны. Своеасаблівай «візітнай карткай» Мінска сталі «вароты горада», якія стварыла забудова на прывакзальнай плошчы двума 11-ці павярховымі дамамі абапал пачатку вуліцы Кірава (архітэктары Рубаненка, Л. Галубоўскі, А. Карабельнікаў і інш.). Хуткімі тэмпамі і арыгінальнай забудовай аднаўляліся і іншыя разбураныя гарады Беларусі: Гомель, Магілёў, Віцебск, Брэст і інш.

Удзялялася значная ўвага развіццю бібліятэчнай справы. Да мая 1946 года ўжо працавалі амаль усе абласныя і раённыя бібліятэкі. Праўда, іх фонд скрупулёзна ачышчаўся ад «шкоднай літаратуры», у шэраг якой звычайна траплялі лепшыя творы беларускіх нацыянальных пісьменнікаў. У сельскай мясцовасці хутка расла колькасць хат-чытальняў, якія звычайна размяшчаліся ў вясковых дамах. Павялічваўся выпуск газет і журналаў. Іх разавы тыраж за 10 гадоў (да 1955 года) павялічыўся ўдвая і склаў 1314 тысяч экз. Расла колькасць гурткоў мастацкай самадзейнасці, у якіх удзельнічала ўжо ў 1955 годзе больш за 80 тысяч чалавек.

Такім чынам, пасляваенны перыяд, нягледзячы на складаныя палітычныя і эканамічныя ўмовы, быў азначаны даволі актыўным культурным жыццём і прынёс значны плён у развіцці духоўнага і матэрыяльнага багацця беларускага народа.

II. З сярэдзіны 50-х гадоў пачаўся новы этап у развіцці беларускай культуры. Пачатак яму даў XX з’езд КПСС (люты 1956 г.), на якім пачаўся разрыў з многімі сталінскімі пастулатамі і традыцыямі. Духоўнае жыццё таго часу адлюстроўвала складаны і супярэчлівы працэс барацьбы двух тэндэнцый: дэмакратычнай, якая імкнулася да вызвалення ўсіх сфер жыцця ад сталіншчыны, і кансерватыўнай, якая хацела зберагчы і прыстасаваць старыя падыходы і ацэнкі да новых рэалій грамадскай свядомасці. Носьбітамі першай тэндэнцыі была інтэлігенцыя, якая асэнсоўвала прычыны і маштабы грамадска-палітычных і маральных дэфармацый эпохі культу асобы і шляхі дэмакратызацыі жыцця. Другую, недэмакратычную тэндэнцыю ўвасаблялі бюракратычныя колы дзяржаўных інстытутаў і партыйнай эліты, хто ва ўмовах палітычнай або «хрушчоўскай адлігі» страціў прывілеі, уладу, ці перспектывы хуткага паляпшэння свайго ўласнага дабрабыту ва ўмовах сталіншчыны. Многія проста баяліся расплаты за ўдзел у беззаконным дэспатызме. І ўсе яны ненавідзелі М. Хрушчова. Між тым, гэты час вызначаецца бурнай актывізацыяй культурнага жыцця, асабліва ў акрэсе літаратуры і мастацтва. Зноў пачалі друкавацца забароненыя творы рэпрэсіраваных пісьменнікаў, у тым ліку і беларускіх: Ц. Гартнага, П. Галавача, М. Зарэцкага, М. Чарота і інш. Са сталінскіх засценкаў вярнуліся Ю. Гаўрук, С. Грахоўскі, У. Дубоўка, Ал. Звонак, С. Новік-Пяюн, А. Александровіч, Я. Пушча, Я. Скрыган, М. Хведаровіч, С. Шушкевіч і іншыя літаратары. Яны не маглі маўчаць. У сваіх творах сталі расказваць праўду аб іх жыцці і аб ГУЛАГу.

Крытычнае пераасэнсоўванне рэчаіснасці пачалі як ужо добра вядомыя паэты і пісьменнікі, так і маладыя. У гэты час у літаратуру прыйшла цэлая плеяда таленавітых майстроў слова: А. Адамовіч, В. Быкаў, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, В. Зуёнак, Ул. Караткевіч, І. Навуменка, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў і інш. Калі ў 1959 годзе Саюз пісьменнікаў БССР налічваў 170 членаў, то ў 1985 годзе — 364.

У сярэдзіне 60-х гадоў кансерватыўная тэндэнцыя перамагла і пасля адстаўкі М. Хрушчова стала фактычна пануючай. Зноў узмацнілася патрабаванне ад творчых майстроў паказа толькі станоўчых герояў, прыгожай і

шчаслівай рэчаіснасці. Зноў пачалося праследванне за «ачарненне светлай сацыялістычнай явы».

Нягледзячы на ўскладненне палітычнай сітуацыі ў краіне, разглядаемы перыяд культурнага жыцця, які існаваў амаль 30 гадоў (1955–1985 гг.), даў беларускай культуры многа каштоўнага. Убачылі свет раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» з трылогіі І. Мележа «Палеская хроніка». За гэту працу ён у 1972 годзе атрымаў Ленінскую прэмію. Такую ж узнагароду атрымаў М. Танк у 1978 годзе за зборнік вершаў «Нарачанскія сосны».

Цікавасць айчыннага і замежнага чытача выклікалі раманы І. Шамякіна «Сэрца на далоні» (1963 г.), «Атланты і карыятыды» (1974 г.) і інш. У 1981 годзе яму было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай працы. У 1975 годзе такое ж званне было прысвоена К. Крапіве. Яго п’есы «Людзі і д’яблы» (1958 г.), «Брама неўміручасці» (1973 г.), «На вастрыні» (1982 г.) набылі шырокую папулярнасць. Званне героя атрымалі за сваю творчасць П. Броўка, М. Танк, В. Быкаў. Дзяржаўнымі прэміямі БССР была адзначана творчая дзейнасць Ул. Караткевіча. Увогуле, яго жыццё і праца — гэта яркая з’ява ў культурным жыцці Беларусі. Ён — выдатны паэт, драматург, публіцыст і перакладчык. Але самы непаўторны і заслугоўвае вялікай павагі, як празаік. Пісьменніку характэрна рамантычнае, фальклорна-легендарнае асэнсаванне беларускай мінуўшчыны. Гэта — раман «Каласы пад сярпом тваім (1965 г.), драма «Кастусь Каліноўскі» (1963 г.), раман «Ладдзя Роспачы» (1964 г.), «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1966 г.). Ул. Караткевіч вельмі ўдала спалучаў жанр дэтэктыва і гістарычнай літаратуры («Дзікае паляванне караля Стаха», «Чорны замак Альшанскі»). Напэўна ў такім падыходзе да паказу нашай старажытнай даўніны закладзены адзін з сакрэтаў яго папулярнасці нават сярод моладзі.

Дзяржаўнымі прэміямі БССР была адзначана творчая дзейнасць Я. Брыля, І. Навуменкі, І. Чыгрынава, паэтаў Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Вялюгіна, Н. Гілевіча, В. Зуёнка, К. Кірэенкі, М. Лужаніна, П. Панчанкі, драматургаў А. Макаёнка (камедыі «Лявоніха на арбіце «, «Зацюканы апостал», «Трыбунал», «Таблетку пад язык» і інш.), і М. Матукоўскага («Амністыя»).

У 70-я — пачатку 80-х гадоў у літаратуру прыйшло новае пакаленне: Г. Далідовіч, А. Дудараў, С. Законнікаў, В. Іпатава, У. Някляеў і іншыя. Вельмі характэрна, што большасць з іх у сваёй творчасці стала звяртацца да розных падзей мінулага Беларусі. Вольга Іпатава выдала аповесць пра Еўфрасінню Полацкую («Прадслава»), Л. Дайнэка напісаў раманы «Меч князя Вячкі» і «След Ваўкалака», К. Тарасаў — аповесць «Пагоня на Грунвальд», В. Чаропка — кнігі «Імя ў летапісе» і «Уладары Вялікага княства».

На жаль, многія творы беларускіх літаратараў не даходзілі да чытача на роднай мове. Працяглая ў пасляваенны час і ў перыяд так званага «застою», русіфікацыя звузіла асяроддзе беларускамоўных людзей. Парадаксальна, але факт, што на Беларусі многія беларускія чытачы пазнаёміліся з творчасцю В. Быкава і Ул. Караткевіча толькі ў перакладзе іх кніг на рускую мову! І што тут зробіш, калі з выдадзенага ў 1985 годзе тыража ў 53,5 млн. экз. кніг і брашур на беларускай мове было толькі 5 млн. Як бачым, колькасць рускамоўных кніг перавысіла беларускамоўныя ў 10 разоў! З 212 газет — 130 беларускамоўныя, з

107 часопісаў — 32 на беларускай мове. Дадайце сюды яшчэ многія дзесяткі цэнтральных перыядычных выданняў на рускай мове, і баланс будзе проста трагічным для нацыянальнай культуры.

Палітыка русіфікацыі наклала свой адбітак і на стан тэатральнага мастацтва. Хаця з 1960 па 1985 год колькасць тэатраў у рэспубліцы павялічылася з 11 да 17, але толькі тры тэатральныя калектывы з'яўляюцца беларускамоўнымі. У іх плённа працавалі рэжысёры і акцёры: К. Саннікаў, І. Раеўскі, П. Кармунін, Б. Платонаў, Г. Глебаў, З. Стома, Л. Ржэцкая, Г. Макарава, С. Станюта, Ул. Уладамірскі і інш. Значнай падзеяй у культурным жыцці Беларусі з'явілася адкрыццё Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР (1971 г.) і тэатра-студыі кінаакцёра (1982 г.) у Мінску, пабудова новага памяшкання драматычнага тэатра ў Гродне.

Разглядаемы перыяд культурнага жыцця нашай краіны азначаны пэўнымі поспехамі і ў развіцці музычнага мастацтва. Былі напісаны і прайшлі з поспехам на сцэне беларускіх тэатраў оперы Ю. Семянякі «Калючая ружа» (1960 г.), «Зорка Венера» (1970 г.), «Новая зямля» (1982 г.); Г. Вагнера — «Сцежкаю жыцця» (1980 г.) і інш.

Вялікім поспехам карыстаўся і карыстаецца кампазітар Яўген Глебаў. Ён аўтар балетаў «Мара», «Альпійская балада», «Ціль Уленшпігель». Стварыў многа рознага роду вялікіх музыкальных твораў ад сімфоній да п'ес для эстраднага аркестра. Аб ім Васіль Быкаў сказаў: «Кампазітар самага высокага класа, ад народзін надзелены талентам, які не часта сустракаецца нават на нашай ніколі не беднай на таленты зямлі... Ні на кога не падобны, нікога не паўтарыўшы, ён упісаў сваю, надта глебаўскую старонку ў гісторыю беларускага, ды і ўсяго сусветнага музычнага мастацтва».

У песенным жанры працуюць кампазітары Э. Ханок («Малінаўка», «Солнышко смеётся», «Вы шуміце, бярозы», «Завіруха»); І. Лучанок («Памяць сэрца», «Жураўлі на Палессе ляцяць», «Дударыкі», «Матылі», «Пацалунак»); В. Раінчык («Калыханка», «Белае віно і чырвонае», «Малады і нежанаты»); Л. Захлеўны («Асенні накцюрн», «Зорачка мая», «Вяргіня»); А. Чыркун («Пахне чабор», «Цыганка», «Чараўніца»); В. Іваноў («Гуляць дык гуляць»); Зм. Яўтуховіч («Даставай, Язэп, гармонік»).

Сталі шырока вядомымі выканаўцы музыкальных твораў і песень Л. Александроўская, М. Ворвулеў, Т. Ніжнікава, Л. Балоцін, С. Данілюк, І. Сарокін, Т. Шымко, Н. Гайда, М. Адамейка, В. Вуяціч, Н. Багуслаўская, Т. Раеўская, А. Ярмоленка, Я. Еўдакімаў і інш.

Значныя дасягненні за разглядаемы трыццацігадовы перыяд мае беларускае кінамастацтва. Тут трэба адзначыць экранізацыі вядомых твораў беларускіх пісьменнікаў. Гэта кінадылогія (4 серыі) рамана І. Мележа «Людзі на балоце» (1981, 1982 гг.) рэжысёра В. Турава, У.Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» (1980 г., рэж. В. Рубінчык), «Чорны замак Альшанскі» (1984 г., рэж. М. Пташук), В. Быкава «Знак бяды» (1986 г., рэж. М. Пташук) і інш.

Гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыцы прысвечаны стужкі кінарэжысёра В. Корш-Сабліна «Масква-Генуя», «Крушэнне імперыі»; Л. Голуба і Я. Нячаева

«Анюціна дарога» (1968 г.). Асабліва часта рэжысёры сталі звяртацца да выкарыстання тэлеэкрана. Паявіліся шматсерыйныя тэлефільмы-эпапеі: «Руіны страляюць...» (1970–1971 гг.), «Полымя» (1975 г.) (рэж. І. Чацверыкаў) «Дзяржаўная граніца», «Доўгія вёрсты вайны» (1975 г.), «Блізкае і далёкае» (1984 г.) і інш. Папулярнымі сталі сярод гледачоў фільмы пра дзяцей і падлеткаў, а таксама для іх: «Мяне клічуць Арлекіна», «Прыгоды Бураціны». Многа цікавых дакументальных стужак было зроблена ў Беларусі, у тым ліку на гістарычную тэматыку: пра Е.Полацкую, Усяслава Чарадзея, Л. Сапегу, Я. Купалу, М. Багдановіча, пра мастака В. Бялыніцкага-Бірулю.

Характэрнай рысай навукі разглядаемага перыяда з'яўляецца развіццё перш за ўсё фундаментальных даследванняў. За дасягненні ў галіне спектраскапіі, люмінесцэнцыі, квантавай электронікі і матэматыкі лаўрэатамі Ленінскай прэміі (вышэйшай у той час) былі адзначаны М. Барысевіч (прытым ён быў абраны членам Еўрапейскай акадэміі, у якой да гэтага часу было толькі 5 чалавек ад СССР), М. Яругін, У.Платонаў, Л. Кісялеўскі, У. Лабуноў і інш. Вялікай групе вучоных за дасягненні ў галінах сельскай гаспадаркі, машынабудавання, геалогіі, медыцыны і гуманітарных навук было прысвоена званне герояў сацыялістычнай працы, у тым ліку прафесару Мінскага медінстытута Таццяне Васільеўне Бірыч.

Навуковыя даследванні ў Беларусі вяліся ў сценах 167 навуковых установаў і 33 ВНУ. За 20 гадоў (з 1965 па 1985 гг.) колькасць вучоных вырасла ў 1,5 раза, і наша краіна па гэтаму паказчыку стала займаць 3-е месца ў СССР пасля Расіі і Украіны. Рэспублікаператварылася ў краіну з велізарным навуковым патэнцыялам, які ў поўнай меры не быў выкарыстаны. Галоўнай прычынай было тое, што ўкараненне распрацовак адбывалася вельмі марудна: затратны, экстэнсіўны характар эканомікі не рабіў яе зацікаўленай да тэхналагічных навацый, спрыяў абыякавасці народнай гаспадаркі да навукі.

У акрэслены перыяд значных поспехаў дасягнула адукацыя, нягледзячы на шматлікія рэформы і рэарганізацыі. Многія з іх сябе не апраўдалі, у тым ліку і таму, што праводзіліся строга цэнтралізавана, з Масквы, без уліку нацыянальных і мясцовых асаблівасцей. Да канца 80-х гадоў сярэдняя адукацыя стала абавязковай, адбыўся пераход да 11-ці класнага тэрміну навучання, і ўзрост школьніка пачынаўся з 6-ці гадоў. Акрамя існуючых ВНУ, пачалі працаваць новыя: гэта ў Мінску інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі (1954), Радыётэхнічны інстытут (1964), Інстытут культуры (1975), Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці (1965), Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1966), Гродзенскі медінстытут (1958) і Гомельскі медінстытут (1992 год). Шэраг педагагічных інстытутаў былі ператвораны ва універсітэты. З пачатку 60-х гадоў сталі прыязджаць сотні іншаземных студэнтаў, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, або вучыцца ў аспірантуры.

Вось такі кароткі абрыс развіцця беларускай культуры ў перыяд так званай «хрушчоўскай адлігі» і адыходу ад яе, які існаваў амаль 30 гадоў.

III. Адыход ад жорсткай ідэалагічнай абмежаванасці звязаны перш за ўсё з ходам «перабудовы» у СССР, калі пачаўся працэс паступовага адказу ад

найбольш дыскрэдытаваўшых сябе палітычных і эканамічных метадаў гаспадарання. Гэты працэс суправаджаўся расшырэннем дэмакратыі, вядучую ролю ў якой іграла «галоснасць» ў сродках масавай інфармацыі.

Кіруючыя колы БССР не толькі пляліся ў хвасце перабудоўчых працэсаў, а нават стараліся іх затармазіць. Напрыклад, тагачасны першы сакратар ЦК КПБ Я. Сакалоў безпадстаўна заяўляў, што быццам бы ў рэспубліцы створаны ўсе магчымасці для развіцця беларускай мовы і беларускай нацыянальнай культуры. А таму, «хто памыляецца ў гэтых пытаннях», — са змрочным намёкам гаварыў ён, — «трэба дапамагчы разабрацца». А між тым, у выніку інтэнсіўнай русіфікацыі беларускай культуры, як і ўсяго жыцця за апошнія дзесяцігоддзі існавання БССР, вырасла не адно пакаленне людзей, цалкам ці ў значнай ступені адарваных ад нацыянальна-культурнай глебы. Практычна амаль усё насельніцтва гарадоў Беларусі жыло як рускамоўны народ, выхоўваючыся ў асяроддзі рускай культуры. Адсюль абыякавасць да свайго нацыянальнага, адсутнасць гістарычнай памяці, пагарда да нацыянальных каштоўнасцей. Нацыянальны нігілізм ахапіў практычна ўсе пласты беларускага грамадства, а нават сціплыя спробы захаваць ці абараніць нацыянальнае — расцэньваліся, як нацыяналізм. На паўсядзённым, бытавым узроўні мянушка «нацыяналіст» гучала як абраза або пракляцце.

У склаўшыхся ўмовах, калі ва ўсіх рэспубліках СССР сталі ўзнікаць розныя партыі, арганізацыі і грамадскія рухі, шэраг актыўных, патрыятычна накіраваных літаратараў, артыстаў і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі Беларусі стварылі ў чэрвені 1989 года (г. Вільнюс) Беларускі народны фронт (БНФ) «Адраджэнне». Гэты грамадскі рух ставіў перад сабою мэту — адраджэнне і далейшае развіццё беларускай нацыянальнай культуры і прыняцце закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Папярэднічала гэтаму руху дзейнасць маладзёжных аматарскіх аб’яднанняў «Талака» у Мінску, «Паходня» у Гродне і інш. Актыўная грамадская пазіцыя гэтых суполак спалучалася з дзейсным удзелам у рэстаўрацыйных работах у Мінску, Гродне, Лідзе, Оршы і інш. У 1989 годзе распачало сваю дзейнасць Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Ф. Скарыны, на чале якога стаў выдатны паэт Ніл Гілевіч. Пад уплывам гэтых рухаў у студзені 1990 года, Вярхоўны Савет БССР прыняў закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы і аб свабодным карыстанні рускай мовай, як мовай міжнародных і міжнацыянальных зносін. Гэтае палажэнне аб мовах было зацверджана і ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай 15 сакавіка 1994 года.

Кардынальна змяніліся ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры пасля абвяшчэння ў жніўні 1991 г. незалежнасці і суверэнітэта Беларусі і стварэння ў снежні гэтага ж года Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД). Цяпер ужо адсутнічаў «цэнтр», ад якога ўсё залежала і амаль усё яму падпарадкавалася. Лёс беларусаў цяпер стаў залежыць ад саміх беларусаў.

У далёкай старажытнасці рымляне сцвярджалі: «Рым будзе жыць, нават калі будуць дрэнныя шаўцы, але калі будзе дрэнная школа — Рым загіне». Гэтая ісціна гаворыць, што ад стану адукацыі ў першую чаргу залежыць поспех нацыянальна-культурнага адраджэння. У рэспубліцы была распрацавана і

пачала ажыццяўляцца праграма дашкольнага і школьнага навучання і выхавання. Ужо ў 1993/94 навучальным годзе 80% першакласнікаў у Беларусі вучыліся на роднай мове. Сталі ствараццa прынцыпова новыя навучальныя ўстановы: гімназіі, ліцэі і каледжы. На пачатак 1992 года працавала 33 гімназіі, 12 ліцэяў і 2 каледжы. З'явіліся прыватныя гімназіі. Узніклі і пашырылі сваю дзейнасць недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. У звычайных школах ішло вызваленне праграм ад празмернай заідэалагізаванасці, здзяйснялася вывучэнне нефальсіфікаванай гісторыі Беларусі. У беларускіх ВНУ былі ўведзены навучальныя курсы «Беларусазнаўства», «Паліталогія», «Гісторыя культуры» і «Культуралогія». Нягледзячы на эканамічна-фінансавыя цяжкасці, беларуская дзяржава на 10% павялічыла нават заробак для заахвочвання тых выкладчыкаў і настаўнікаў, якія выкладалі прадметы на беларускай мове (у 1996 годзе гэтая надбаўка была адменена прэзідэнтам). Ва ўсіх вышэйшых навучальных установах уведзены ўступны экзамен па беларускай мове, а ў педагагічных інстытутах на ёй сталі праводзіцца дзяржаўныя экзамены. У шэрагу ВНУ, у тым ліку і ў медуніверсітэце, было ўведзена вывучэнне беларускай мовы, як прадмета (сацыялагічныя даследаванні пацвердзілі, што большасць студэнтаў адносяцца да гэтага станоўча). На жаль, развіццю працэса перашкаджае інертнасць і нацыянальная абыякавасць значнай часткі выкладчыкаў.

З мэтай прыбліжэння вышэйшай школы да ўзроўню яе ў перадавых краінах, у пачатку 90-х гадоў пачаўся працэс стварэння універсітэтаў на базе існуючых інстытутаў. Так, былі створаны Беларускі тэхнічны аграрны універсітэт, Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт. Беларускі педагагічны універсітэт, Беларускі лінгвістычны універсітэт, Мінскі універсітэт культуры і інш. Акадэміямі сталі Мінская кансерваторыя і інстытут фізкультуры. Ва універсітэтах і акадэміях стала вучыцца больш 60% усіх студэнтаў дзённай формы і больш за 70% ад усіх выкладчыкаў ВНУ — працаваць у іх. Гэтыя навучальныя ўстановы сталі весці падрыхтоўку па 145 спецыяльнасцях, што складала 80% ад агульнай колькасці.

Галоснасць, што пачалася на хвалі перабудовы, прынесла новыя, не звыклыя для простых людзей, з'явы ў культурным жыцці. Зніклі кантроль і забарона на творчую працу і яе прадукцыю. Дзякуючы гэтаму, са спецхранаў і сховішчаў былі вернуты і надрукаваны творы М. Гарэцкага, А. Гаруна, П. Галавача, В. Ластоўскага, І. Дварчаніна, Я. Чачота, Т. Зана, Я. Лучыны, Л. Геніюш, К. Буйло і інш.

У той жа час рэзка скарацілася дзяржаўнае фінансаванне культуры, бо эканоміка рэспублікі стала крута ісці пад адхон, у бяздонную яму ўсеагульнага крызіса. Гіперінфляцыя абясцэніла ўсе духоўныя здабыткі. З пачаткам рыначных адносін галоўнай каштоўнасцю сталі грошы, прыбытак. Лексіка простага беларуса папоўнілася новымі, нязвыклымі для беларускага вуха словамі: брокер, дылер, спонсар, рэкет, кідала, кілер, путана і інш. Нецэнзурныя выразы ўжо перасталі шакіраваць нашых жанчын не толькі на вуліцы, а нават у кінакарціне, кнізе, па тэлебачанню. Многія з задавальненнем сталі слухаць такія пошлыя песні, як «... вот такая, вот, зараза, девушка моей мечты», або «Чё

ты хошь?..». Гэта яскравыя прыклады бязгустоўнасці, дурнога густу, або «кліч». Іх суб'ект — аснова, асяроддзе для так называемай «масавай культуры». Сённяшняя «масавая культура» распаўсюджваецца больш за ўсё праз:

а) ПОП-музыку (горшую яе частку);

б) дызайн адзення і прамысловых вырабаў;

в) парнаграфічную і, ўвогуле, літаратуру для «лёгкага чытання», баявікі і бястселеры;

г) многія тэлеперадачы: рэкламу, бясконцыя прымітыўныя тэле-серыялы, розныя шоў.

Вядома, што «масавая культура», і ў тым ліку горшыя яе гатункі, не вычэрпваюцца вышэй названымі каналамі. Яны існуюць і ў жывапісе, і ў скульптуры, нават ў прыкладным мастацтве.

Каб просты чалавек быў неўспрыймальным, асабліва да горшай праявы так называемай «масавай культуры», кіча і пошласці, трэба выхоўваць у яго высокі густ з маленства. Уся сістэма адукацыі грамадзяніна павінна мець прадуманую і навукова абаснаваную сістэму фарміравання высокіх пачуццяў і добрага густу. Такую мэту мае ўвядзенне навучальных прадметаў «Гісторыя культуры Беларусі» і «Культуралогія».

На сучасным этапе культурнага жыцця нашай рэспублікі плённа працуюць Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Я. Брыль, А. Дудараў, С. Законнікаў і інш. Высокай грамадзянскай пазіцыяй вызначаюцца творы В. Быкава і Н. Гілевіча. Пісьменнік Вячаслаў Адамчык за цыкл раманаў («Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», «І скажа той, што народзіцца») у 1988 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР імя Я. Коласа.

У 80-я — пачатку 90-х гадоў у беларускую літаратуру прышло новае таленавітае папаўненне. Гэта Адам Глобус, Андрэй Федарэнка, Анатоль Казлоў, Алесь Наварыч, Вітаўт Чаропка, Мікола Мятліцкі, Ул. Някляеў, Анатоль Сыс, Сяржук Сакалоў-Воюш, Леанід Дранько-Майсюк, Людміла Рублеўская, Ірына Багдановіч, Люба Тарасюк і многія іншыя. Саюз беларускіх пісьменнікаў стаў налічваць у 1994 годзе аж 454 чалавекі, гэта значыць, што за 5 гадоў арганізацыя ўзрасла на 141 удзельніка.

Нягледзячы на складанасці эканамічнага жыцця ў сучасны перыяд, назіралася тэндэнцыя павелічэння колькасці тэатральных калектываў. Калі ў 1985 годзе іх было ў рэспубліцы 17, то ў 1993 — стала працаваць 24. Прафесійныя беларускамоўныя драматычныя тэатры сталі працаваць ў Маладзечна, Слоніме, Мазыры. Новай з'явай тэатральнага жыцця стала яўленне прыватных тэатраў. Гэта незалежны тэатр у Гомелі, мецэнатам якога з'яўляецца расійска-амерыканскі прадпрымальнік. Не мае аналагаў у рэспубліцы Мінскі Альтэрнатыўны тэатр. Ён не атрымлівае дзяржаўнай грашовай датацыі, а існуе за кошт падтрымкі спонсараў. Рэпертуар гэтага тэатра пачаў складвацца з драматургіі абсурду — абсалютна новага накірунку для нас, але даўно ўжо асвоенага ў Еўропе. У тэатрах сённяшняга часу пладатворна працуюць рэжысёры В. Раеўскі, М. Пінігін, В. Маслюк, В. Мазынскі, В. Грыгалюнас, Р. Таліпаў. Па-ранейшаму прыносяць радасць людзям старэйшыя акцёры Беларусі А. Клімава, Р. Янкоўскі, З. Браварская. На беларускай сцэне з'явіліся

таленавітыя маладыя сілы: В. Глазкоў, І. Ларын, П. Будрыс, Г. Пшэнік і іншыя.

Музычнае мастацтва на Беларусі вызначаецца тым, што вядучым жанрам застаецца сімфонія. У гэтым напрамку працуюць: Дз. Смольскі, В. Войцік, Ул. Дамарацкі, С. Бельцюкоў, А. Сонін. У. Дарохін, К. Цесакоў. Гэтыя майстры музыкальнай справы добра вядомы ўжо і сусветнай грамадскасці.

Новыя творы паявіліся і ў оперным жанры. Сярод іх опера Ул. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха», якая ўпершыню была паказана ў двары Троецкага прадмесця пад адкрытым небам, С. Картэса «Візіт дамы», А. Бандарэнкі «Князь Наваградскі» і інш.

Вялікую работу праводзіць пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга створаны ў 1987 годзе Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Традыцыйным стала правядзенне музычных фестываляў — «Славянскі базар», «Мінская вясна», «Беларуская сакавіца».

У сучасным выяўленчым мастацтве выразна пашырыліся нефармальныя тэндэнцыі. Адкрыліся недзяржаўныя галерэі: «Арт-творчасць», «Вітанова», «Жыльбел», «Верхні горад» і інш. З’явіліся неафіцыйныя творчыя аб’яднанні. У складзе адной з такіх суполак «Пагоня» працуюць відныя майстры А. Марачкін, Я. Кулік, К. Харашэвіч, А. Шатэрнік.

Такім чынам, 80-я – 90-я гады адрозніваюцца значна большай стракатасцю жанраў, форм, напрамкаў у культуры Беларусі, чым папярэднія дзесяцігоддзі. У гэты час змяняюцца абставіны культурнага жыцця, што ўносіць неабходнасць пошуку новых рашэнняў у творчасці. Дзейнасць жа па нацыянальна-культурнаму адраджэнню Беларусі, нягледзячы на пэўныя поспехі, не прывяла да кардынальных незваротных зрухаў, а ў апошнія гады стала нават тармазіцца.

IV. За сваю тысячагаддовую гісторыю беларускі народ унёс значны ўклад у сусветную культурную скарбніцу, стварыўшы выдатныя ўзоры матэрыяльных і культурных каштоўнасцей.

Адным з выразных і яскравых фактараў сусветнага значэння нашай культуры з’яўляецца тое, што большасць мастацкіх каштоўнасцей, створаных беларусамі ў Беларусі, незаконна знаходзіцца за яе межамі. У свеце цяжка знайсці другую такую краіну, духоўныя і матэрыяльныя скарбы якой так бязлітасна і інтэнсіўна рабаваліся б на працягу стагоддзяў. Гэта адбывалася асабліва пад час шматлікіх войнаў і сацыяльных катаклізмаў. Вялікую шкоду нанесла і заганная практыка абыякавасці многіх беларусаў у адносінах да гісторыка-культурнай спадчыны, нігілістычныя стаўленні да свайго нацыянальнага. Пагэтаму вельмі часта проста і лёгка ўступалі суседзям сваё багацце. Знаходкі археалагічных раскопак з золата — у Маскву ці ў Ленінград. Якое-небудзь рарытэтнае выданне, калі яно на польскай мове — аддавалі ў Варшаву, калі на рускай — у Расію. У выніку мы сталі самым абрабаваным у культурным плане народам. Да нядаўнага часу з 300 вядомых слуцкіх паясоў, Беларусь не мела ніводнага. Цяпер ужо адзін ёсць, дзякуючы таму, што падарыў яго адзін з грамадзян Англіі — патомак князёў Радзівілаў.

У сённяшні час, калі беларускі народ атрымаў уласную дзяржаўнасць, настала пара пошуку і вяртання ўсіх нацыянальных культурных каштоўнасцей, што па праву законна належаць нам. З гэтай мэтай яшчэ ў красавіку 1987 года пры Беларускім фондзе культуры (БФК) была створана камісія «Вяртанне». На чале камісіі (старшынёй) стаў выдатны беларускі культурны дзеяч, вучоны, прафесар А. І. Мальдзіс. Дзейнасць гэтай камісіі дазволіла акрэсліць работу беларускай дзяржавы і па канкрэтнаму плану весці перагаворы з другімі краінамі аб вяртанні нашых каштоўнасцей. Сёння вельмі важным з’яўляецца падпісаная 14 лютага 1992 года ўсімі кіраўнікамі дзяржаў Садружнасці (СНД) «Пагадненне аб вяртанні культурных і гістарычных каштоўнасцей дзяржавам іх паходжання».

Але прайшоў значны час, а беларускія каштоўнасці вяртацца сталі вельмі марудна. Найбольшае нежаданне і розныя рагаткі стала выстаўляць Расія. У ход пайшлі такія аргументы, як:

а) маўляў, па-за даўнінай часу знаходжання даных каштоўнасцей яны сталі расійскімі;

б) сталі гаварыць, што такіх каштоўнасцей у іх не лічыцца;

в) што многія каштоўнасці з’яўляюцца агульнымі для ўсіх усходніх славян і павінны быць там, дзе яны знаходзяцца.

Было многа і іншых аргументацый, каб нічога не вяртаць з фондаў і запаснікаў. Нават паважаны акадэмік, патрыярх расійскай культуры Д.С. Ліхачоў выступіў супраць прынятага кіраўнікамі СНД дакумента аб узаемным вяртанні культурных каштоўнасцей. Між тым, менавіта ў Расіі знаходзіцца большасць прапаўшага культурнага багацця беларускага народа. Там знаходзяцца дзесяткі розных калекцый толькі з Магілёва. Гэта 280 адзінак старажытнай халоднай і агнястрэльнай зброі, калекцыя фарфоравых вырабаў XIV–XVIII стагоддзяў, 6 кг сярэбраных і залатых візантыйскіх манет, 1200 гістарычных тамоў кніг, там шмат ёсць старадаўніх беларускіх абразоў у залатых і сярэбраных акладах і многае іншае. Акрамя гэтага, даследаванні паказалі, што прапаўшы з Магілёва ў 1941 годзе крыж Еўфрасінні Полацкай згубіў свай след у Расіі: яго там ці хаваюць наўмысна, ці прадалі ў перыяд Айчыннай вайны 1941–1945 гг. у ЗША. Мы тут назвалі толькі нязначную частку таго, што трымае і хавае ў розных гарадах Расія.

Вельмі многа каштоўнасцей знаходзіцца ў Польшчы, Літве і на Украіне. Праўда многія з каштоўнасцей маюць па закону як-бы некалькі гаспадароў або ўласнікаў. На такія рэчы неабходна канкрэтная дамова аб сумесным карыстанні. Многія культурныя каштоўнасці былі набыты другімі краінамі законным способам (куплены, падараваны). Такія рэчы вяртанню не падлягаюць, але і пра гэта павінна быць дамова аб магчымасці карыстання імі беларусам. Асабліва многа такіх каштоўнасцей у Заходняй Еўропе — Германіі, Францыі, Англіі, Італіі і інш., а таксама ў Злучаных Штатах Амерыкі і Канадзе. Поспех вяртання беларускіх нацыянальных каштоўнасцей цяпер у многім залежыць ад жадання і актыўнай дзейнасці беларускага ўрада.

Падводзячы рысу пад вышэйсказаным, можна адзначыць, што культура беларускага народа з’яўляецца важнай састаўной часкай сусветнай культуры, і

здабыткамі нашых таленавітых суайчыннікаў паўсямесна карыстаюцца знаўцы і аматары культуры і нават многія, у тым ліку і дзяржавы, хочуць быць іх уласнікамі незаконна.

## Тэма 8. РЭЛІГІЯ І ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ

План.

1. Дахрысціянскія вераванні нашых продкаў. Язычніцтва.
2. Хрысціянства, яго сутнасць і прычыны ўзнікнення.
3. Далучэнне да хрысціянства беларускіх зямель.
4. Асноўныя плыні хрысціянства і іх асаблівасці ва ўмовах Беларусі.
5. Дзейнасць іншых канфесій на Беларусі: іудаізм, іслам, рэлігійнае сектанцтва.

Роля рэлігіі ў духоўным жыцці кожнага народа мае вельмі вялікае значэнне. Яна можа стаць важным фактарам у яднанні народа вакол нацыянальнай ідэі, фарміраванні яго палітычнага і культурнага адзінства (такую ролю, напрыклад, адыграла руская праваслаўная царква ў барацьбе супраць татара-мангольскага іга, ва ўзнікненні аб’яднанай Маскоўскай дзяржавы, ва ўмацаванні самадзяржаўя і палітычнага адзінства Расіі. Альбо каталіцкая царква адыграла такую ж значную ролю ў станаўленні Польскай дзяржавы).

І наадварот: адсутнасць такога аб’яднаўваючага цэнтра, як царква, можа мець негатыўныя наступствы для кансалідацыі нацыі, для аб’яднання ў адзінае дзяржаўнае ўтварэнне.

Сказанае вышэй мае важнае значэнне для Беларусі, дзе з даўніх часоў склалася рэлігійная стракатасць, шматканфесійнасць. Часта непрыязныя адносіны паміж духавенствам розных рэлігійных плыняў давалі магчымасць беларускім уладам, а таксама суседніх краін выкарыстоўваць сітуацыю ў сваіх карысных мэтах.

На жаль, на працягу значнага часу рэлігійным праблемам на Беларусі не ўдзялялася дастатковай увагі, асабліва ў ХХ-м стагоддзі, калі панаваў ваяўнічы атэізм, разбураліся культавыя будынкі і інш.

Гэтую памылку неабходна выпраўляць. Нельга ігнараваць рэлігію, як кансалідуючы фактар, а таксама, як значны пласт культуры ў выхаванні моладзі, фарміраванні яе светапогляду, маральнага і этычнага ўзроўню.

І. Задоўга да прыняцця хрысціянства продкі беларусаў прытрымліваліся язычніцкіх вераванняў, прынесеных сюды індаеўрапейцамі на рубяжы III–II тысячагоддзяў да н. э., а ў тубыльцаў, існаваўшых яшчэ раней.

Язычніцтва (паганства) паходзіць ад стараславянскага «язычы», што азначае «іншаземцы». Для яго характэрна шматбожжа. Язычніцкія багі ўвасаблялі розныя з’явы прыроды, стыхіі, магічнае ўздзеянне на іх. Адсюль

ішло пакланенне небу і сонцу, грому і маланцы, рэкам і азёрам, дрэвам і камяням, а таксама родапачынальнікам (татэмам).

Першапачатковыя вераванні людзей былі наступныя.

Фетышызм (ад франц. fetisch — амулет) — вера ў звышнатуральныя ўласцівасці прыродных (камяні, дрэвы) альбо зробленых чалавекам неадушаўлёных прадметаў (фетышаў), пакланенне ім. Фетышызм з'яўляецца састаўным элементам усіх язычніцкіх вераванняў, а таксама ўсіх монатэістычных сусветных рэлігій (крыж, абразы ў хрысціян, чорны камень у мусульман і інш.).

Татэмізм (татэм — у паўночна-амерыканскіх індзейцаў літаральна азначае «яго род») — прыродны аб'ект у першабытных вераваннях: жывёлы, расліны, неадушаўлёныя прадметы, якія з'яўляюцца суродзічамі і абаронцамі якойсьці групы людзей: роду, племені.

Татэмізм — комплекс вераванняў, міфаў, абрадаў і звычаяў, звязаных з уяўленнямі аб звышнатуральнай роднасці паміж асобнымі групамі людзей і так званымі татэмамі, абагаўленне іх, пакланенне ім (вуж у балцкіх плямёнаў, карова ў індусаў, кошка ў егіпцян і інш.).

Фетышызм і татэмізм папярэднічалі анімізму.

Анімізм (ад лац. animus — душа, дух) — вера ў існаванне душ і духаў — фантастычных істот, надзеленых свядомасцю, воляй і іншымі ўласцівасцямі чалавека і дзейнічаюць ва ўсёй жывой і нежывой прыродзе (духі прыроды, хатнія духі і інш.). Анімістычныя ўяўленні з'яўляюцца прыкметнымі элементамі хрысціянства, але аб гэтым размова пойдзе ніжэй.

Язычніцтва таксама звязана з пакланеннем людзей прыродзе і яе розным з'явам, родапачынальнікам.

Якім язычніцкім багам пакланяліся нашы далёкія продкі?

1. Вярхоўным бажаством славян, у тым ліку і беларусаў, быў Род — бог Неба, прабацька ўсяго: і свету, і багоў, і людзей. Яго пануючая роля засталася і ў беларускай лексіцы: родны, парода, радзіма, ураджай, радзіць, прырода. Бог Род першапачаткова называўся Дзіў, Дый.

Такімі ж якасцямі, што і Род, надзяляліся Сварог (ад санскрыцкага svarga — неба), Стрыбог, Святавіт. Гэта таксма назвы вобраза бога Неба, толькі ва ўяўленнях розных славянскіх плямёнаў, розных прафесій (так, кавалі пакланяліся Сварогу, мараходы — Стрыбогу).

2. Далей ідуць пад рознымі назвамі багі Сонца, народжаныя вярхоўным бажаством Родам — Дажбог, Каляда, Сотвар, Сура, Ярыла, Вялес. Так, Ярыла быў богам вясновай урадлівасці і плоднасці. Нашы продкі ўяўлялі яго прыгожым юнаком у белым адзенні, на белым кані, з пучком каласоў у руцэ. Вясной Ярыла адчыняў вароты ад неба, спускаўся на зямлю, аб'язджаў палеткі, нівы, апладняў зямлю. Яго клопат — даваць жыццё не толькі хлебу, ураджаю, але і чалавеку — прыносіць дзяцей. У беларускіх міфах Ярыла згадваецца як апякун пачуццёвага кахання, распаляе цялесны запал (таму не лічылася злачынствам пад яго покрывам і саграшыць у каханні). Легенды згадваюць, што вершнік на старажытным беларускім гербе «Пагоня» — гэта язычніцкі бог Ярыла.

Бажаствoм сонца ў беларусаў выступала таксама Каляда. Гэтае свята прыходзілася на зімні сонцаварот. Святкуюць яго і сёння: з цікавымі абрадамі, каляднымі песнямі.

Вялікае свяціла Сонца з’яўлялася пад рознымі імёнамі, што адлюстроўвалі яго разнастайныя функцыі ў розную пару года: узімку — Каляда, вясной — Ярыла, у летні сонцаварот — Купала, бог дастатку і ўраджаю.

Цанілі на Беларусі і ўшаноўвалі бога Вялеса — апякуна абрадавай паэзіі і язычніцкіх святароў — вяшчуноў (волхвов), бога жывёлагадоўлі і багацця, а таксама мастацтва і паэзіі. «Слова пра паход Ігаравы» называе паэта Баяна ўнукам Вялеса.

Багіняй летняй і асенняй урадлівасці з’яўлялася Цёця, ці Цётка. Па ўяўленню беларусаў, гэта мажная, поўная, пажылая жанчына, якая з’яўлялася на палетках, прыбраная ў спелыя каласы, з вянком на галаве і спелымі пладамі ў руках (з тых даўніх часоў захавалася прымаўка, звязаная з гэтай «багіняй»: Голад — не цётка: піражок не падсуне», «Голад — не Цётка: падапрэ — і лыка з’ясі»).

Адным з галоўных багоў пад час хрышчэння усходніх славян, у тым ліку і беларусаў, лічыўся Пярун. Гэта не хлебны бог: хлеб, жывёла — не яго клопат. Пярун — грозны бог грому і маланкі (бліскавіцы), караючы бог агню і мячу, апякун ваеннага майстэрства. Звесткі пра яго найлепш захаваліся ў народнай памяці: у беларускай вёсцы састарэлыя людзі дагэтуль маланку называюць Перуном. Яго ўяўлялі сівавалосым волатам, які панаваў над зямлёй з вясны да восені, усё падпарадкоўваючы сваёй магутнай сіле.

Продкі лічылі, што пад час навальніцы Пярун на сваёй вогненнай калясніцы раз’язджаў па небу, удараў камянямі жорнаў адзін аб другі, тым самым выклікаў бліскавіцу і гром. Знойдзеныя на Беларусі каменныя сякеры называлі перуновымі стрэламі. Нацёртым з іх парашком лячыліся ад розных хвароб, жадаючы набыць моц і сілу Перуна.

Людзі не маглі зразумець прычыны навальніцы, грому, удараў маланкі, лічылі, што гэта злуецца бог Пярун — і таму стараліся яго ўлагодзіць, прыносілі ахвяры да капішчаў, пабудаваных у яго гонар, стваралі ідалаў.

3. Шмат іншых багоў, менш значных, чым багі Неба і Сонца, шанавалі нашы першабытныя продкі: Вярба — багіня вясны і абуджэння прыроды; Лёля (Ляля) — багіня вясны, дзявочай прыгажосці і кахання; Пераплут — бог весялосці; Тур — бажаство дзікіх звяроў; Жыжаль — бог агню і апякун кавальскай справы і інш.

4. Бліжэй да рэальнага жыцця чалавека існавала мноства духаў ніжэйшага рангу, духаў дабра і зла: дамавікі, хлеўнікі, гуменнікі, лесавікі, вадзянікі, свіцязянкі, ваўкалакі і іншыя істоты. Іх таксама трэба было ўлагоджваць, шанаваць, каб дапамагалі ў гаспадарцы, спрыялі яе дабрабыту, а не шкодзілі ва ўсім.

5. Апошнімі значыліся духі (бажаствы) смерці і замагільнага існавання: Баба-Яга — багіня смерці; Зніч — бог пахавальнага агню ў беларусаў; Велямос (Велес) — бог замагільнага свету і інш.

Чаму нашы продкі шанавалі гэтых шматлікіх багоў?

Узровень жыцця старажытнага чалавека, яго ведаў аб навакольным асяроддзі быў вельмі нізкі: ён не мог растлумачыць тыя ці іншыя з’явы прыроды і таму прыпісваў іх волі багоў. А значыць — ім пакланяліся, стараліся задобрыць запрашэннем на трапезу, ахвярапрынашэннямі, схіліць да сябе малітвай, заклінаннямі. У гонар багоў рабілі ідалаў-куміраў: спачатку з дрэва, потым з камянёў, будавалі ідальскія свяцілішчы (капішчы). Часта іх акружалі валам ці рвом, запальвалі рытуальны агонь. Культы звычайна адпраўлялі жрацы, але маглі гэта рабіць і старэйшыны радоў і плямёнаў, князі. Пасля прыняцця хрысціянства ўсе язычніцкія культы пачалі знішчаць, ганьбіць.

II. Хрысціянства (ад грэч. Christos — памазаннік) — адна з самых распаўсюджаных і развітых рэлігій свету, паслядоўнікі якой пакланяюцца Ісусу Хрысту.

Рэлігія (ад лац. religio — набожнасць, святыня, прадмет культа) — гэта светапогляд, заснаваны на веры ў існаванне Бога, звышнатуральных сіл, кіруючых усім светам (Бог — санскрыцкае Бхога).

Царква [ад греч. kyriake (oikia) — божы дом] — мае два значэнні: 1) тып арганізацыі духавенства і вернікаў якой-небудзь рэлігіі; 2) культавая пабудова, храм, у якім адбываюцца хрысціянскія набажэнствы. Асноўны элемент царквы– алтар: у праваслаўных арыентаваны на Усход, у католікаў — на Захад. Назвы маюць розныя: у праваслаўных — царква, у католікаў — касцёл, у лютэран — кірха, у кальвіністаў — збор.

Хрысціянства з’яўляецца монатэістычнай рэлігіяй, якая прызнае адзінага Бога, як вышэйшы абсалют, што стварыў свет і чалавека «па вобразу і падабенству свайму» (у адрозненне ад язычніцкага шматбожжа).

Дзе і калі ўзнікла хрысціянства?

Хрысціянства ўзнікла ў першай палове I веку нашай эры ва усходніх правінцыях Рымскай імперыі сярод іудзейскага сектанцтва, яго ніжэйшых слаёў. Пазней пачало распаўсюджвацца сярод іншых этнічных і сацыяльных груп.

На працягу доўгага часу хрысціянства падвяргалася ганенням з боку рымскіх уладаў, ішла жорсткая барацьба з язычніцтвам. І толькі ў IV-м стагоддзі, распазнаўшы сутнасць хрысціянскай ідэалогіі, рымскія імператары для забеспячэння пакорнасці народных мас сталі абапірацца на хрысціянскую арганізацыю. Былі закрыты ўсе язычніцкія храмы, а хрысціянства з праследуемай рэлігіі ператварылася ў дзяржаўную і хутка набыло сусветны характар (каталіцызм — ад лац. сусветны, універсальны, касмапалітычны).

З VI стагоддзя хрысціянства пачынае распаўсюджвацца па ўсёй заходняй Еўропе, а з канца X ст. яго прымаюць усходнія славяне — Кіеўская зямля, Наўгародская, Полацкая.

Якія прычыны садзейнічалі хрысціянізацыі Еўропы?

1. Хрысціянская ідэалогія звярталася да ўсіх людзей свету без уліку іх этнічнай, нацыянальнай прыналежнасці.

2. Яна адпавядала інтарэсам усіх сацыяльных слаёў (і бедных, і багатых), без уліку сацыяльнай прыналежнасці.

3. Язычніцкая рэлігія ўжо не задавальняла патрэбы грамадства: яна стала тормазам у станаўленні новага феадальнага ладу, яго палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага развіцця. Бо не магла забяспечыць новых адносін панавання і падпарадкавання, прыводзіла да дарэмнага знішчэння матэрыяльных і людскіх рэсурсаў.

4. Язычніцтва не спрыяла развіццю нацыянальнай культуры, бо тармазіла міжнародныя сувязі з хрысціянскімі краінамі і ўскладняла азнаямленне з дасягненнямі замежнай цывілізацыі.

5. Хрысціянскі Бог станавіўся тайнай для людзей, язычніцкія ж (і грэчаскія, і рымскія, і славянскія) такімі не былі — жылі побач з людзьмі, займаліся часта распустай, здрадай. Ім больш не верылі людзі.

І таму колькасць паслядоўнікаў хрысціян павялічвалася даволі хутка.

Зараз у свеце налічваецца звыш 2 млрд. хрысціян — найбольш іх у Еўропе, Амерыцы, а таксама ёсць у Афрыцы, Азіі, Аўстраліі.

Якія ж асноўныя дагматы хрысціянскай рэлігіі?

Зменены вобраз Бога: у хрысціянстве ён — глыбокая тайна, любоў да чалавека; бог — творца ўсяго свету і людзей таксама; трыадзінства Бога — Бог адзіны, але ў трох асобах: Бог Айцец, Бог Сын і Бог Дух Святы; вера ў Месію, божага выратавальніка, другое прышэсце Хрыста; сын Божы — ёсць сапраўдны Бог, народжаны ад Бога Айца праз Духа Святога; сын Божы народжаны (ад звычайнай жанчыны), а не створаны (праз беззаганнае зачацце дзевы Марыі); з’яднанне ў Хрысце двух пачаткаў — божага і чалавечага; падзел на два пачаткі ў чалавеку: духоўнае і цялеснае (у хрысціян — перавага духа над целам, у старажытных язычнікаў-грэкаў: перавага цялеснага — моцныя фізічна атлеты); роўнасць усіх людзей перад Богам (Хрыстос — абаронца бедных, негатыўныя адносіны да багатых у раннім хрысціянстве); сусветная грахоўнасць людзей, пачынаючы з першароднага грэху; існаванне дабра і зла ў свеце. Пачатак злу ідзе ад Адама і Евы; смяротнасць чалавека, бессмяротнасць душы, яе выратаванне шляхам бесперапыннага духоўнага ўдасканалення; вера ў страшны суд, выратаванне.

Галоўная каштоўнасць хрысціянства — маральна-этычная праблематыка (ад іудзеяў — 10 запаведзяў Маісея. І яе вяршыня — Нагорная пропаведзь Хрыста (гл. Евангелле ад Матфея, гл. V). Хрысціянства паклала пачатак новай культуры, прызнала ў чалавеку асобу. Чалавек — зямное ўвасабленне Бога, створанае па вобразу і падабенству свайму.

Сувязь хрысціянства з язычніцтвам, запазычанні з яго.

Асноўныя дагматы змешчаны ў Свяшчэннай кнізе хрысціян — Біблії, якая складаецца з двух частак — Ветхага запавету (іудзейская Тора) і выключна хрысціянскай — Новага запавету (з 4-х Евангелляў).

Далучэнне да хрысціянства ў Беларусі ў канцы X ст. мела свае асаблівасці:

1. У адрозненне ад Рымскай імперыі, дзе яно ўзнікла і перамагала знутры, да нас прыйшло ў гатовым выглядзе з адшліфаванымі дагматамі, з Ветхім і Новым запаветамі, з культамі Хрыста, Багародзіцы, святых.

2. Калі ў Рымскай імперыі яно ўзнікла і развівалася ў напрамку ад народа да вярхоў, эліты, улады, то ў беларусаў хрысціянская вера ўкаранялася зверху — ад эліты да нізоў.

Адкуль і калі прыйшло хрысціянства на Беларусь, як ішла барацьба з язычніцтвам, — адназначнага адказу гістарычныя крыніцы не даюць, бо, як вядома, Полацкі летапіс быў згублены, а ў іншых — звестак няма.

Вядома толькі, як язычнік Уладзімір у 988 годзе хрысціў Кіеўскую зямлю, Ноўгарад і іншыя: дубінамі, крывёю, мячом. Загнаўшы ўсіх у Днепр — прымусам ахрысціў. Перад хрышчэннем князь абвясціў: хто не прыйдзе да Дняпра, той вораг яму. І кіяне прыйшлі.

Гістарычныя крыніцы сцвярджаюць, што полацкая епархія існавала ўжо ў 992 годзе. У пачатку XI ст. хрысціянства прынялі жыхары Тураўскага і Смаленскага княстваў. Першымі хрысціянамі былі Рагнеда, яе сын Ізяслаў і інш. Але прыняўшых новую рэлігію было яшчэ няшмат. Так, Усяслаў Чарадзей, хоць і пабудаваў Сафійскі сабор у Полацку ў сярэдзіне XI ст., але сам заставаўся язычнікам, як і большасць жыхароў яго дзяржавы. Храмы будаваліся толькі ў некаторых гарадах, а вёска была язычніцкай. Першае, вядомае з летапісу біскупства на Полаччыне з’явілася толькі ў 1105 годзе, а Тураўскае — у 1114 годзе.

Працэс хрысціянізацыі тут зацягнуўся на некалькі стагоддзяў, бо сутыкнуўся з моцнымі язычніцкімі традыцыямі і завяршыўся ў канцы XIII стагоддзя.

Барацьба хрысціянства з язычніцтвам ішла па двух напрамках: а) па-першае, пачалі ганьбіць язычнікаў, знішчаць месцы адпраўлення іх культаў, а замест іх будаваць хрысціянскія храмы, спальваць драўляных ідалаў, каменных — скідваць у рэкі і інш.;

б) па-другое, ішло прыстасаванне язычніцтва да хрысціянства: многія язычніцкія абрады і святы перайшлі ў хрысціянскія (Дзяды, Радуніца, Каляды, Купалле і інш.); культ агню (лампады, свечкі), культ вады (хрышчэнне); пакланенне ідалам, амулетам замянялі крыжамі, абразамі, скульптурамі, мошчамі святых.

Пад час прыходу хрысціянства на Беларусь яно яшчэ было адзіным: падзел на заходні і усходні абрады адбыўся ў 1054 г., канчаткова аформіўся ў 1204 годзе, калі ўся Еўропа была ўжо хрысціянскай. Рымскім епіскапам (з V ст. — папам) супрацьстаялі канстанцінопальскія патрыярхі.

Як сведчаць некаторыя гісторыкі, хрысціянства усходняга абраду (пазней — праваслаўе) у Полацкім княстве было перанята непасрэдна з Візантыі, улічваючы яго знаходжанне на шляху «з варагаў у грэкі», а таксама сваяцкія адносіны полацкіх князёў з візантыйскімі імператарамі (дачка Усяслава Чарадзея — жонка візантыйскага імператара Аляксея Комніна, маці Еўфрасінні Полацкай таксама была з таго ж роду).

Даследчыкі лічаць, што першымі епіскапамі на Беларусі былі грэкі і балгары, а запрошаныя святары з Кіева, таксама — выхадцы з Візантыі.

Але хрысціянства да нас ішло не толькі з Усходу (Візантыі), але і з Захаду (з Рыма). Аб гэтым сведчаць летапісы і дадзеныя раскопак. Вядома, што адзін з першых лацінскіх прапаведнікаў св. Баніфацый быў забіты язычнікамі на Беларусі ў 1009 г. Каля 1010 г. тураўскі князь Святаполк разам са сваімі падданымі прыняў хрост паводле заходняга абраду (пазней каталіцызм). Пад кіраўніцтвам Тураўскага біскупства на пачатку XII ст. знаходзіліся гарады Пінск, Наваградак, Гародня, Бярэсце, Ваўкавыск, Слуцк і інш. (гэтыя землі Заходняй Беларусі, як вядома, у XIII ст. стануць асновай ВКЛ. Знойдзена таксама шмат лацінскіх (заходніх) бажніц у XII ст. у Полацку і Смаленску).

Але значную перавагу тут мела хрысціянства усходняга абраду — праваслаўе.

Далучэнне да хрысціянства беларускіх зямель стала знакавай падзеяй у нашай гісторыі. Яно станоўча паўплывала на ўсе бакі жыцця беларусаў, змяніла іх быт, мараль, светаадчуванне, узровень цывілізацыі.

1. Паскорылася замена першабытнаабшчыннага ладу феадальным, у выніку чаго ўзмацнілася княжацкая ўлада, умацавалася дзяржаўная самастойнасць.

2. Хрысціянства стварыла новы светапогляд, які змяніў сямейна-шлюбныя адносіны: замест язычніцкай палігаміі ўмацоўвалася манагамная сям'я. Гэта спрыяла, у сваю чаргу, развіццю вытворчасці. Спынілася практыка забойства шматлікіх жонак і слуг і пахаванне іх разам з памерлым гаспадаром, а таксама значных матэрыяльных каштоўнасцей.

3. Новая рэлігія садзейнічала ўмацаванню міжнародных сувязей з дзяржавамі больш высокай культуры, найперш з Візантыяй, антычныя традыцыі якой аж да XII ст. былі на больш высокім узроўні, чым у іншых еўрапейскіх краінах.

4. З прыняццем хрысціянства высокімі тэмпамі пачала развівацца беларуская культура: паскорыўся працэс распаўсюджвання пісьменства, адукацыі, кніжнай асветы, літаратуры, жывапісу і інш.

III. Як вядома з гісторыі, на Беларусі спрадвеку сусінавалі розныя рэлігіі і вераванні. З прычыны свайго геапалітычнага становішча яна апынулася на скрыжаванні дзвюх сусветных культур, дзвюх сусветных цывілізацый, дзвюх асноўных хрысціянскіх канфесій:

1. Усходняй (праваслаўна-візантыйскай).
2. Заходняй (каталіцка-раманскай).

Гэтае, шмат у чым унікальнае, становішча нашай зямлі наклала свой адбітак на культуру і менталітэт беларускага народа на ўсе наступныя стагоддзі.

Таму ўсе асноўныя плыні хрысціянства з пачатку свайго ўзнікнення распаўсюджваліся на Беларусі:

1. Усходні абрад (пазней праваслаўе).
2. Заходні абрад (пазней каталіцызм).

3. Пратэстантызм (з сярэдзіны XVI ст.).

4. Уніяцтва (з канца XVI ст.).

Як згадвалася вышэй, падзел на усходні і заходні абрады ў хрысціянстве адбыўся ў 1054 г., канчаткова — у 1204 г. Гэты раскол патрэбен быў не прыхажанам — вернікам, а палітыкам — для абароны дзяржаўных і асабістых інтарэсаў (калі з Рымскай імперыі выдзелілася яе усходняя правінцыя, пазней названая Візантыяй, — ёй патрэбна была свая рэлігія).

Калі паставіць пытанне: чаго больш у праваслаўі і каталіцызме — агульнага ці адрозненняў, адказ будзе адназначны: агульнага (дагматы, святы, таямніцы і інш.).

Але ёсць і адрозненні:

1. Рымска-каталіцкая царква мае адзіны цэнтр кіравання (Ватыкан, рымскі папа). Праваслаўная царква не стварыла адзінай рэлігійнай арганізацыі. Спачатку ролю аб'ядноўваючага цэнтра выконваў Канстанцінопаль, але яго патрыярхі былі першымі сярод роўных. З XVII ст. Масква пачала прэтэндаваць на месца «трэцяга Рыма», але беспаспяхова. Зараз у праваслаўным свеце існуе 15 аўтакефальных цэркваў (беларуская не з'яўляецца аўтакефальнай).

2. Каталіцкая царква прызнае сімвал веры аб зыходжанні Святога Духа не толькі ад Бога Айца, але і ад Бога Сына, праваслаўе адмаўляе апошняе.

3. Каталіцтва прызнае кананічным увесь тэкст Біблііі, дзе ёсць вучэнне аб чысцілішчы, куды трапляюць душы памерлых. Адтуль яны могуць трапіць у рай ці ў пекла. («Боская камедыя» Дантэ). Праваслаўе адвяргае вучэнне аб чысцілішчы.

4. Спосаб прыгатавання хлеба для прычашчэння розны: у католікаў — праснакі (аблаткі), у праваслаўных — квасны. Касцёл прычашчае вернікаў толькі хлебам, царква — і хлебам, і віном.

5. У каталіцызме існуе цэлібат (бясшлюбнасць) святароў, у праваслаўі — адсутнічае (акрамя вышэйшых узроўняў).

6. Крыж 8-мі і 6-ці — канцовы ў праваслаўных і чатырохканцовы — у католікаў і інш.

Існаванне на Беларусі двух напрамкаў хрысціянства да пэўнага часу не супярэчыла нацыянальнай кансалідацыі, а наадварот — спрыяла яе далейшаму развіццю. Суадносіны паміж гэтымі напрамкамі ў розныя гістарычныя эпохі мяняліся.

1. На пачатку хрысціянізацыі ў XI–XIII ст.ст. тут у асноўным пераважала праваслаўе, бо нацыянальна-культурнае жыццё беларускага народа развівалася пад уплывам Візантыі. Тут утварыўся беларускі варыянт грэка-візантыйскага праваслаўя.

2. З XIV ст., асабліва пасля Крэўскай уніі, пашырыўся ўплыў каталіцкай царквы на беларусаў. У 1387 г. было ўтворана Віленскае біскупства і 7 каталіцкіх прыходаў. Тым не менш, праваслаўная царква да сярэдзіны XVI ст. утрымлівала ў ВКЛ моцныя пазіцыі ў дзяржаўным і грамадскім жыцці: захоўвала маёмасныя прывілеі, мела свой епіскапскі суд і інш.

Такім чынам, можна адзначыць, што з пачатку ўтварэння ВКЛ тут склаўся своеасаблівы нацыянальна-рэлігійны дуалізм: праваслаўе і каталіцызм як бы

ўраўнаважвалі адзін другога. Першы князь ВКЛ Міндоўг прыняў праваслаўе, потым — каталіцызм, нарэшце вярнуўся ў язычніцтва. Войшалк і яго наступнікі былі праваслаўнымі. У 1317 г. была заснавана Літоўская праваслаўная мітраполія, якая падпарадкоўвалася Канстанцінопальскаму патрыярху. Кіраўніцтва праваслаўнай царквы ў XIV–XV ст.ст. у ВКЛ складалася з грэкаў і балгар, прысланых з Канстанцінопаля.

Тут трэба заўважыць, што дзяржаўныя і культурныя дзеячы беларускай зямлі, пайшоўшы ў свой час на збліжэнне з Візантыяй, не маглі прадбачыць наступстваў такога кроку. Нягледзячы на заняпад Візантыі з XIV ст., праваслаўная царква па-ранейшаму моцна трымалася за яе і аддалялася ад Заходняй Еўропы, у якой пачынаўся эканамічны і культурны ўздым. І сваёй перавагі заходнееўрапейцы ўжо не саступалі ніколі.

Больш таго, праваслаўная царква прынесла ў культурна-рэлігійнае жыццё беларусаў, украінцаў і маскоўцаў палітыку ізаляцыі. Створаны ёю ідэалагічны бар’ер на некалькі стагоддзяў аддзяліў усходніх славян ад Заходняй Еўропы. У выніку гэтага адбылося іх эканамічнае і культурнае адставанне.

3. Усё вышэйсказанае у далейшым стымулявала передавых дзеячоў ВКЛ аддаваць прыярытэт развіццю кантактаў з заходнееўрапейскімі краінамі. З сярэдзіны XVI ст., асабліва пасля Люблінскай уніі, нацыянальна-рэлігійны дуалізм змяняецца на карысць каталіцызму. Каталіцкі касцёл прыўносіў у ВКЛ элементы польскай і пераважна заходнееўрапейскай культуры. Гэты ўплыў адыграў значную ролю ў развіцці грамадска-палітычнай думкі, культавага і абарончага дойлідства, пашырэнні асветы на беларускіх землях. Многія выхадцы з Беларусі вучыліся ў еўрапейскіх ВНУ і, вяртаючыся на радзіму, неслі сюды іх культуру.

Аднак, прыкладна з канца XV – пачатку XVI ст.ст., суседнія дзяржавы — Польша і Масковія — пачалі на сваю карысць выкарыстоўваць нашу шматканфесійнасць, існаванне двух плыняў хрысціянства.

1. Маскоўскія князі імкнуліся захапіць, падпарадкаваць сабе нашы землі пад відам далучэння праваслаўных адзінаверцаў.

2. Польскія палітыкі беларускі каталіцкі касцёл хацелі ператварыць у сродак сваёй экспансіі.

На жаль, і першым, і другім, гэта часта ўдавалася. Царква на Беларусі не стала адзіным, аб’яднаўваючым цэнтрам.

Трэцяя канфесія хрысціянства — пратэстантызм — з’явілася ў Заходняй Еўропе ў першай палове XVI ст. пад час рэфармацыйнага руху (першымі пратэстантамі былі названы германскія князі, якія падпісалі «пратэстацыю» — пратэст супраць рашэння Шпейерскага сейма 1529 г. аб абмежаванні распаўсюджвання лютэранства). Рэфармацыя — шырокі грамадска-палітычны і ідэалагічны рух, які насіў антыфеадальны характар і прыняў рэлігійную форму барацьбы супраць каталіцызму, як аплоту, апоры феадалізма.

Новаму буржуазнаму ладу патрэбна была новая царква для яго абароны, для яго прапаганды. І такая царква была створана. Пратэстантызм аб’яднаў шэраг самастойных цэркваў і сектаў — кальвінізм, лютэранства, цвінгліянства,

англіканства, антытрынітарызм і інш. Яны некалькі адрозніваліся культам і арганізацыяй, але звязаны агульнасцю паходжання і дагматаў.

Асноўныя прынцыпы пратэстантызму:

1. Вучэнне аб непасрэднай сувязі Бога з чалавекам без пасрэдніцтва царквы і святароў (як у першых двух канфесіях). Спрошчаны адносіны чалавека да Бога і царквы.

2. Адмаўленне ад царкоўнай іерархіі, духоўнага сану, манаства, рэлігійнай адукацыі. Святаром у пратэстантызме можа стаць звычайны прыхажанін (але уплывовы, адукаваны).

3. Кожны вернік можа па-свойму тлумачыць Слова Божае.

4. Адмаўленне ад пышнасці, багацця ў малітоўным доме, убранства, ад пакланення абразам і мошчам святых.

5. Скарочана колькасць рэлігійных святаў, пакінуты ўсяго 2 з 7-мі хрысціянскіх таямніц (хрышчэнне і прычашчэнне).

6. Адсутнасць чысцілішча, цэлібату.

7. Богаслужэнне складаецца толькі з пропаведзяў, сумесных малітваў і спявання псалмоў.

8. Збаўленне чалавека дасягаецца толькі праз яго асабістую веру ў выратавальніцкую місію Хрыста.

Пратэстантызм адкрываў шлях патрабаванням буржуазна-дэмакратычных свабод і садзейнічаў стварэнню нацыянальнай царквы.

На Беларусі рэфармацыйны рух пачаўся з другой паловы XVI ст. Гэта быў час, калі ўсё больш актуальнай станавілася праблема суверэнітэту, дзяржаўнай незалежнасці ВКЛ, на якую з Захаду ціснула каталіцкая Польшча, а з Усходу — праваслаўная Масковія. Таму праблема царкоўнай незалежнасці выступала ў якасці аднаго з важнейшых фактараў барацьбы за незалежнасць палітычную.

І найбольш адукаваныя, палітычна вопытныя беларускія магнаты Радзівілы, Валовічы, Сапегі, Хадкевічы, Глябовічы, Кішкі і іншыя — прымаюць «саламонава рашэнне». Каб ідэалагічна замацаваць сваю палітычную незалежнасць ад каталіцкай Польшчы і ад праваслаўнай Масквы, яны робяць стаўку на пратэстантызм, які ў гэты час актыўна распаўсюджваўся па краіне. Першыя пратэстанцкія абшчыны (кальвінісцкія, антытрынітарскія) былі створаны ў Нясвіжы, Клецку, Іўі, Вільні, Воршы і многіх іншых гарадах. Вакол іх аб’ядноўваліся выдатныя вучоныя, кнігавыдаўцы — С. Будны, В. Цяпінскі, А. Волан і інш.

На пачатку 60-х гадоў XVI ст. большасць беларускіх магнатаў і значная частка шляхты становяцца пратэстантамі. Толькі ў Наваградскім ваяводстве з 600 праваслаўных шляхецкіх фамілій 564 перайшлі ў кальвінізм. Некаторыя шляхцічы прымалі арыянства.

З другой паловы XVI – да сярэдзіны XVII ст. на Беларусі дзейнічала прыкладна 90 кальвінісцкіх і 8 арыянскіх збораў. Большасць з іх размяшчалася ў заходніх і цэнтральных паветах, дзе існавалі буйныя феадальныя землеўладанні.

Хоць пратэстантызм і не стаў нацыянальнай рэлігіяй (на што былі свае прычыны), аднак ён аказаў моцны ўплыў на сацыяльна-палітычнае жыццё

беларускага грамадства. Пратэстанты першымі звярнуліся да беларускага народа з рэлігійнай пропаведдзю на роднай мове, а потым увялі яе ў лік школьных прадметаў. Але галоўная іх заслуга ў тым, што яны прапанавалі грамадству плюралістычную мадэль рэлігійна-культурнага жыцця. Пратэстантызм дамогся рэлігійнай верацярпімасці ў ВКЛ і Польшчы. У 1573 г. ў Рэчы Паспалітай быў прыняты акт, які абвяшчаў рэлігійны мір ў дзяржаве. У 1588 г. гэты акт быў уключаны ў трэці Статут ВКЛ, як норма закона.

Але ў хуткім часе каталіцкая царква распачала контррэфармацыю, накіраваную на адраджэнне духоўнай манаполіі каталіцызму ў Еўропе, у тым ліку і на Беларусі. Адбыўся масавы пераход прадстаўнікоў пануючага класа ў каталіцтва ў сувязі з узрастаючай пагрозай з Усходу, звужалася сацыяльная база рэфармацыйнага руху, набліжалася царкоўная унія. Тым не менш, пратэстанцкая царква працягвала існаваць, хоць уплыў яе на духоўнае і грамадска-палітычнае жыццё Беларусі XVII ст. быў ужо нязначным.

Чацвёртая канфесія хрысціянства — уніяцтва — узнікла ў выніку Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года. Але наша гісторыя сведчыць, што праблема аб’яднання праваслаўя з каталіцызмам існавала з часоў стварэння ВКЛ, у якім аб’яднаціся прадстаўнікі розных вераванняў і рэлігій — продкі сённяшніх беларусаў, украінцаў, рускіх, літоўцаў, латышоў і інш.

Пастаяннае балансаванне Беларусі паміж праваслаўным Усходам і каталіцкім Захадам вымушала ісці на пошукі кампрамісаў і зрабіла жывучай ідэю царкоўнай уніі. Духоўныя і рэлігійныя яе карані месціліся ў геапалітычным становішчы Беларусі, якой прыходзілася весці шматвяковую барацьбу за дзяржаўны і культурна-канфесійны суверэнітэт.

Падзел хрысціянскай царквы на два напрамкі ў 1054 годзе, як лічаць многія вучоныя, быў адной з найвялікшых недарэчнасцей сусветнай гісторыі, негатыўныя наступствы якой на працягу многіх стагоддзяў адчувае ўвесь хрысціянскі свет. Таму ідэя уніі амаль ніколі не знікала на беларускіх землях. Спроба яе рэалізацыі была зроблена ў Фларэнцыі ў 1439 г. паміж двума сусветнымі рэлігійнымі цэнтрамі — Канстанцінопалем і Рымам, але на тэрыторыі ВКЛ не распаўсюдзілася.

Няўдалася спроба вышэйшых слаёў грамадства, дзяржаўных дзеячаў ВКЛ з другой паловы XVI ст. зрабіць стаўку на пратэстантызм дзеля ўмацавання дзяржаўнага і рэлігійнага суверэнітэту — была адноўлена ў канцы XVI ст., але ўжо з надзеяй на уніяцтва.

Жыхары ВКЛ былі адносна падрыхтаваны да рэалізацыі уніі, як католікі, так і праваслаўныя. Менталітэт беларускага праваслаўя фарміраваўся 200-гадовым суіснаваннем побач з каталіцызмам, ва ўмовах рэлігійнай верацярпімасці, дэмакратычных працэдур прызначэння мітрапалітаў (з другой паловы XV ст.). Мелі месца масавыя міжканфесійныя шлюбы.

Асноўныя прычыны заключэння Берасцейскай уніі.

1. Жаданне беларускай праваслаўнай царквы канчаткова выйсці з-пад улады Канстанцінопаля (які ўжо сам залежаў ад турэцкага султана).

2. Незадаволенасць паборамі усходніх патрыярхаў (Александрыйскага, Іерусалімскага, Канстанцінопальскага), якія самі плацілі «даніну» султану, а з Беларусі бралі па-ранейшаму.

3. Нежаданне падпарадкоўвацца Маскоўскаму патрыярхату, які ўжо поўнасцю залежаў ад свецкай улады. Маскоўскі князь аднаасобна зацвярджаў у сане мітрапаліта ці пазбаўляў яго.

4. Вышэйшыя праваслаўныя святары Беларусі таксама разлічвалі атрымаць месцы ў сенаце Рэчы Паспалітай разам з каталіцкімі біскупамі.

5. Неабходнасць захавання ў шматканфесійнай дзяржаве рэлігійнай згоды, мірнага сусінавання праваслаўя, каталіцызму і пратэстантызму.

6. Важнай была праблема захавання духоўна-культурнай ідэнтычнасці, абароны нацыянальнай беларускай культуры ад пагрозы яе растварэння ў польскай, а потым і ў рускай. Адным са сродкаў захавання дзяржаўнай і духоўна-культурнай самастойнасці з’яўлялася імкненне да стварэння незалежнай царквы, якою магло стаць уніяцтва. Менавіта праз незалежную царкву ўмацоўваецца суверэнітэт дзяржавы.

7. Шэраг дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў разглядалі унію як сродак інтэграцыі Беларусі ў Заходнюю Еўропу.

8. Ватыкан і рымска-каталіцкая царква таксама мелі свае інтарэсы: уніяцтва яны разглядалі як пераходную ступень у рыма-каталіцызм.

Падрыхтоўка уніі вялася на працягу некалькіх гадоў на саборах, нарадах, перамовах з Ватыканам. Абгаворваліся ўмовы уніі. Пазіцыя Ватыкана і Польшчы аб уніяцтве як пераходнай ступені да каталіцызму на тых перамовах была разбіта.

Ініцыятарамі уніі былі вярхі праваслаўнай царквы. Выканаўцы задумы — уладзімірскі і брэсцкі епіскап Іпацій Пацей і луцкі епіскап Кірыла Тарлецкі. Іх падтрымалі Вялікі князь і кароль Польскі Жыгімонт Ваза і канцлер ВКЛ Леў Сапега.

Дэкларацыя аб рашэнні заключыць саюз з каталіцкай царквой была прынята на саборы праваслаўных епіскапаў у Бярэсці ў 1595 г.. Яе падпісалі кіеўскі мітрапаліт Рагоза і ўсе епіскапы ВКЛ, акрамя двух: львоўскага і перамышльскага. Сабор упаўнаважыў Пацея і Тарлецкага на перамовы з каралём і Рымскім папай, а пры дасягненні згоды — на правядзенне акта уніі.

Уніяцтва (грэка-каталіцызм) было аформлена на Берасцейскім саборы ў кастрычніку 1596 г. Праваслаўная апазіцыя правяла тады ў Бярэсці свой Сабор, адлучыла уніяцкіх святароў ад царквы і выраклася царкоўнай еднасці.

Уніяцтва — гэта ўнікальны і неадназначны па сваіх выніках феномен у беларускай гісторыі і культуры. Створана яно было на аснове ўзаемных уступак шляхам трансфармацыі праваслаўя, але з захаваннем дастаткова жорсткай пераемнасці. Яно аддалілася ад праваслаўя, але і не злілося з каталіцызмам.

Ва уніяцкай царкве захаваліся амаль усе візантыйска-праваслаўныя абрады, богаслужэнні і казанні — спачатку на царкоўна-славянскай, пазней — на беларускай мове, захавалася права шлюбу для святароў, як у праваслаўі. А падпарадкоўвалася уніяцтва рымскаму папе.

На першых парах супраціўленне уніяцтву было даволі актыўным. Так, у Віцебску ў 1623 г. вернікамі-праваслаўнымі быў забіты уніяцкі архіепіскап Язафат Кунцэвіч. Рэлігійныя канфлікты адбываліся і ў іншых гарадах Беларусі. Яшчэ больш жорсткай была барацьба на Украіне.

Але з цягам часу уніяцкая царква набыла папулярнасць, ахапіла сваёй дзейнасцю шырокія масы, асабліва сялян. У хуткім часе яна заваявала давер народу гэтага краю.

Якія дасягненні мела уніяцтва на Беларусі?

1. Галоўныя здабыткі — у галіне культуры, адукацыі, кнігадрукавання, архіўна-бібліятэчнай справе. У шматлікіх уніяцкіх школах вывучаліся латынь, грэчаская, царкоўнаславянская, польская і беларуская мовы. На іх друкаваліся рэлігійныя кнігі. Пры уніяцкіх манастырах ствараліся багатыя кнігасховішчы, бібліятэкі, дзе мелася літаратура па розных галінах ведаў.

2. Уніяцкая царква стварыла багатае мастацтва, дэмакратычнае па сутнасці (кнігапіс, скульптуру, прыкладное мастацтва, кніжную графіку, архітэктуру), з якім звязана ўзнікненне арыгінальнага стылю — «віленскага барока».

3. Найбольш значны ўклад унесла уніяцтва ў развіццё беларускай мовы. Выкарыстоўвала яе ў царкоўных казаннях, школьным навучанні, у папулярнай і рэлігійнай літаратуры.

4. Уніяцтва дало беларускай культуры і літаратуры шэраг таленавітых пісьменнікаў. Сярод іх — Іпацій Пацей, творы якога былі напісаны на бліскучай і сакавітай беларускай мове.

5. Уніяцтву належыць пэўная заслуга ў фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці, станаўленні ідэі беларускага Адраджэння.

Кастусь Каліноўскі, як вядома, лічыў уніяцтва «верай нашых дзядоў і прадзедаў», а уніяцкую царкву — нацыянальнай беларускай царквой (гл. «Мужыцкая праўда», № 6).

У канцы XVII — 90-я гг. XVIII ст. уніяцтва становіцца масавым веравызнаннем, якое ахоплівае 75% жыхароў беларускіх зямель, а сярод сялян — 80%.

Пад час вайны з Расіяй у 1654–1667 гг. уніяцтва было спынена рускімі войскамі, а пасля іх выгнання — адноўлена.

Цэнтрам рэлігійнага жыцця быў уніяцкі манастыр у Жыровічах і інш.

Дзейнасць уніяцкай царквы была забаронена расійскімі ўладамі у 1839 г. Усе вернікі-уніяты былі прымусова далучаны да рускага праваслаўя, уніяцкія храмы перададзены праваслаўнай царкве. Бо гэта была нацыянальная царква беларусаў. Адноўлена уніяцтва на пачатку 90-х гг. XX стагоддзя.

Паводле праграмы міністра асветы Расіі, зацверджанай царом, Расія павінна была ідэалагічна супроцьстаяць Еўропе, яе рэвалюцыйным ідэям, яе рэлігійнаму і культурнаму «упадку». Дактрына Уварава заснавана на трох прынцыпах: праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць. Усе астатнія рэлігіі цярпелі значны ўціск.

Не палепшылася становішча многіх канфесій пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, пры бальшавіках. У 1922 г. спроба стварыць нацыянальную

праваслаўную царкву ў Беларусі закончылася няўдала. Яе лідэр мінскі епіскап Мельхіседэк (Паеўскі) загінуў у сталінскім ГУЛАГу. З 1924 да 1934 гадоў рабіліся спробы стварыць аўтакефальную царкву, але беспаспяхова. На жаль, і зараз, на пачатку XXI ст., Беларусь не мае самастойнай царквы, а ўваходзіць у Маскоўскую патрыярхію, хоць ужо звыш дзесяці гадоў з'яўляецца суверэннай дзяржавай.

Тым не менш адносіны да рэлігіі істотна змяніліся ў пачатку 90-х гг. XX ст. У 1993 г. прыняты закон «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый РБ», у якім абвешчана зноў рэлігійная верацярпімасць, усе канфесіі раўнапраўны. Быў створаны Савет па справах рэлігіі пры Савеце Міністраў РБ.

31 кастрычніка 2002 г. прыняты новы закон РБ «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон РБ «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях». У адпаведнасці з новым законам, прэзідэнтам РБ створаны «Орган дзяржаўнага кіравання па справах рэлігіі», прызнана вызначальная роля праваслаўнай царквы ў гістарычным станаўленні і развіцці духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа; рэлігійныя абшчыны ўтвараюцца па ініцыятыве не менш чым 20 грамадзянамі РБ (раней 10) і інш.

У студзені 2002 г. у РБ зарэгістравана 2773 рэлігійныя абшчыны, аб'яднаныя ў 26 канфесій (дэ-факта больш за 40 канфесій). За 10 год іх колькасць павялічылася ў 2 разы.

Самымі распаўсюджанымі канфесіямі на Беларусі з'яўляюцца хрысціянскія:

– праваслаўныя — 1224;
– пратэстанцкія — 987;
– каталіцкія — 434;
– стараверы — 35;
– грэка-каталікі — 14.

Самыя высокія тэмпы прыроста за апошнія 10 год маюць пратэстанты: колькасць іх абшчын павялічылася ў 2,9 раза, праваслаўных і католікаў — у 1,7 раза. Сярод пратэстантаў найбольш значныя: хрысціяне веры евангельскай — 491 абшчына, евангельскія хрысціяне-баптысты — 270. Ёсць 17 лютэранскіх суполак, 2 кальвінсцкія.

У структуры канфесій

праваслаўе складае — 44%;
пратэстантызм — 35,6%;
каталіцызм — 15,7%;
уніяцтва — 0,5%.

Шматканфесійнасць на Беларусі, на жаль, і сёння не спрыяе нацыянальнаму адраджэнню.

IV. Іудаізм на Беларусі з'явіўся разам з міграцыяй яўрэйскага насельніцтва з еўрапейскіх краін у канцы XIV ст. Там яны цярпелі ганенні і праследаванні з-за сваёй веры.

Вялікія князі літоўскія прыхільна ставіліся да перасяленцаў, даравалі ім прывілеі. Таму іх колькасць на беларускіх землях павялічвалася, асабліва пасля

яўрэйскіх пагромаў у сярэдзіне XVII–XVIII ст.ст. на Украіне (падчас т. зв. «гайдамацкага руху»).

У канцы XVIII ст. (пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі) іх колькасць складала тут прыкладна ад 200 да 250 тыс. чалавек, а ў канцы XIX ст. — ужо 890 тыс. Гэта было абумоўлена ўвядзеннем расійскімі ўладамі так званай «рысы аседласці».

Іудаізм, які спавядаюць яўрэі, з'яўляецца адной з самых старажытных рэлігій свету. Практычна ён даў пачатак двум другім сусветным рэлігіям — хрысціянству і ісламу. Свой пачатак бярэ прыкладна з канца XIII ст. да н. э.

Асноўныя прынцыпы іудаізма.

1. Цар Сусвету — адзіны Бог Яхвэ, уладар прыроды і гісторыі.

2. Значная падзея, з якой бярэ пачатак іудаізм — зыход яўрэяў з егіпецкага рабства (каля 1280 г. да н. э.) і Божы Запавет Маісею на гары Сінай (10 запаведзяў — аснова іудаізма).

3. Богавыбранасць яўрэйскага народу. Бог выбраў гэты народ сваім, адзіным. Абяцаў ім шчасце, калі яны будуць слухаць і паважаць Бога. Яны павінны несці сваю веру па ўсім свеце (іншыя рэлігіі такой перавагі над другімі народамі не маюць).

4. Ідэя саюза (запавета) паміж Богам і яўрэйскім народам. Яўрэі павінны жыць па законах Торы («не рабі другім тое, што ненавісна табе»).

5. Святасць Іерусаліма. Прывітанне яўрэяў ва ўсім свеце: «У наступным годзе — у Іерусаліме.» Моляцца, павярнуўшыся тварам у бок Іерусаліма.

6. Ахвярапрынашэнні Богу: ежу і пітво (быкоў, ягнят, валоў, для бедных — галубоў і інш.). Гэты абрад зараз амаль забыты.

7. Вера ў выратавальніцкую ролю Месіі, суд над грэшнымі. Але іудзеі не вераць у першае прышэсце Хрыста, як выратавальніка ад грахоў у хрысціянстве.

Іудзеі свята берагуць сваю веру. Калі грэчаскі цар Анціох забараніў іудаізм, Тору чыталі тайна, хоць маглі быць пакараны смерцю.

Яўрэйская Біблія Танах (Тора) — Ветхі завет. Складаецца з трох раздзелаў: пяцікніжжа Маісея, кніга Прарокаў і Пісанні.

Іўдаізм падзяляецца на артадаксальны і прагрэсіўны. Колькасць іудзейскіх абшчын на Беларусі павялічылася за 10 год у 3,6 раза (з 10 у 1992 г. — 36 у 2002г.: 25 абшчын — артадаксальныя іудзеі і 11 — рэфарматары). Ад агульнай колькасці вернікаў складаюць 1,3%. У свеце іудзеяў прыкладна 15 млн.

Іслам**,** як веравызнанне, на Беларусь прыйшоў разам з татарамі, як лічаць некаторыя даследчыкі, у канцы XIII — пачатку XIV ст.ст. Татары служылі ў войску вялікіх князёў Літоўскіх Гедыміна і Вітаўта. Іх бралі ў палон пад час ваенных паходаў на Залатую Арду, а таксама яны дабраахвотна перасяляліся ў ВКЛ.

Найбольшая іх колькасць з'явілася ў канцы XIV ст. пры Вітаўце, які дазволіў ім свабоду веравызнання, надзяляў зямлёй. За ваенныя заслугі воінам-татарам прысвайвалі нават шляхецкія званні.

Іслам (ад араб. — пакорнасць Богу-Алаху) у свеце спавядаюць звыш 1 млрд. вернікаў. На Беларусі ў XIV ст., спавядаючых іслам, пражывала каля 200 тысяч. Зараз існуе 27 мусульманскіх абшчын — гэта прыкладна 1% ад усіх вернікаў Беларусі. Дзесяць год назад было ўсяго 3 абшчыны.

Іслам бярэ пачатак з VII стагоддзя н. э. Прарок Мухамед (рэальная асоба) нарадзіўся ў 570 г., у 610 годзе ў сне бачыў прывіды, што ён веснік Алаха.

Асноўныя дагматы ісламa (у Каране, з 114 сур):

1. Вера ў адзінага Бога Алаха.
2. Вера ў анёлаў, у т. л. і Джабрыэля (Гаўрыіла).
3. Вера ва ўсе святыя Божыя кнігі (Тора, Евангелля, Куран).
4. Вера ва ўсіх пракокаў — пасланнікаў Алаха (Маісея-Мусу, Хрыста і, вядома ж, Мухамеда).
5. Вера ў прадвызначэнне, канец свету, судны дзень, уваскрашэнне мёртвых, нават у чысцілішча.

Акрамя дагматаў іслам трымаецца на пяці стаўпах веры:

1. Паўтараць асноўнае спавяданне веры: «Няма Бога, акрамя Алаха і Мухамед — яго прарок» — «Ла ілаха — Ілалах». Гэта крэда носіць назву Шахады.
2. Абавязковая малітва — 5 разоў у дзень.
3. Адзін раз у год прытрымлівацца посту на працягу аднаго месяца (рамадана) — з усходу да заходу сонца.
4. Пілігрымка (паломніцтва, хадж) у Мекку да Чорнага каменя — хоць адзін раз у жыцці.
5. Прытрымлівацца закона «закят» — кожны мусульманін павінен аддаваць бедным 2% сваіх даходаў або матэрыяльную ўласнасць.

Мусульмане падзяляюцца на дзве плыні: 1) суніты (2/3 ад усіх) — паслядоўнікі Алі, зяця Мухамеда, і яго сыноў; 2) шыіты (1/3 прызнаюць законасць усіх чатырох дынастый, у тым ліку і вучняў Мухамеда. Есць вахабіты — ад імя рэфарматара ісламу XVIII ст. Вахаба — з мэтай адбудовы артадаксальнага ісламу.

Зараз на Беларусі пражывае прыблізна 35 тыс. мусульман (азербайджанцы, башкіры, казахі, татары, узбекі і інш.).

Акрамя іудаізма і ісламу на Беларусі зарэгістраваны і дзейнічаюць: 6 абшчын бахаі, 7 — крышнаіты, 3 — мармоны, оамота — 1 абшчына. У 1992 г. створана 1 абшчына будыстаў, але ў 1997 г. распушчана, бо была незарэгістраванай.

З дэмакратызацыяй беларускага грамадства і абвяшчэннем рэлігійнай свабоды на пачатку 90-х гг., узніклі новыя праблемы, звязаныя са з'яўленнем розных нетрадыцыйных канфесій, дэструктыўных арганізацый (Белае брацтва, Аум Сінрыкё і інш.), якія акрамя шкоды нічога не нясуць грамадству.

У канцы XX ст. было адмоўлена ў рэгістрацыі пяці рэлігійным арганізацыям: Царкве вучняў Іісуса Хрыста, Ахмадыйскай рэлігійнай абшчыне, Беларускай народнай праваслаўнай царкве, Царкве апошняга Запавету (Вісарыёна) і Царкве аб'яднання Муна.

Акрамя таго была праведзена экспертыза 27 статутаў розных рэлігійных арганізацый, у выніку якой было выяўлена 17 дэструктыўных сект 11-ці накірункаў, што дзейнічаюць у пяці гарадах: Мінску (10), Брэсце (2), Гродне (2), Гомелі (2) і Светлагорску (1). Некаторыя дэструктыўныя арганізацыі перайшлі на нелегальнае становішча, у тым ліку Ліга духоўнага адраджэння Санатана Дхарма. У гарадах Мінску, Брэсце, Гомелі, Зельве і іншых узніклі аб'яднанні сатаністаў. Культ пакланення сатане звязаны з ахвярапрынашэннямі птушак, жывёл і нават людзей. Такія выпадкі вядомы ў Расіі.

Пры ўсёй разнастайнасці поглядаў дэструктыўных сект і арганізацый, іх аб'ядноўвае скрытая канфрантацыя ў адносінах да асноўных напрамкаў хрысціянства, наяўнасць містыкі ў рэлігійнай практыцы, адпраўленні культаў.

Такім чынам, можна прыйсці да высновы, што РБ, як і на працягу сваёй шматвяковай гісторыі, застаецца шматканфесійнай, верацярпімай дзяржавай. За апошнія дзесяць год незалежнасці змяніліся адносіны паміж царквой і дзяржавай, значна ўзрасла колькасць рэлігійных арганізацый, што прывяло да ўзнікнення новых праблем.

Беларускае грамадства, установы адукацыі і культуры павінны выкарыстоўваць станоўчую ролю традыцыйных рэлігій у выхаванні людзей, асабліва дзяцей і моладзі і, вядома ж, выкрываць шкодныя, дэструктыўныя культы.

## Тэма 9. СЛАВУТАСЦІ БЕЛАРУСІ (X–XIX СТАГОДДЗІ)

План.

1. Выдатныя грамадска-палітычныя і вайсковыя дзеячы з Беларусі.
2. Сусветна вядомыя навукоўцы і вынаходнікі, філосафы і літаратары, мастакі і музыканты беларускага паходжання.

I. Драматычны лёс беларускага народа мае безліч адценняў і мноства праяў. Яскравым фактам гэтага з'уляецца тое, што сёння нават добра адукаваныя беларусы не ведаюць сваіх знакамітых продкаў. Напрыклад, яны звычайна добра дасведчаны аб жыцці і дзейнасці Аляксандра Неўскага і Дзмітрыя Данскога, Суворава і Кутузава, Ламаносава і Паўлава, Пушкіна і Чайкоўскага і аб многіх, многіх іншых славутасцях суседняга народа. Не выпадкова, што многія вуліцы нашых гарадоў носяць прозвішчы людзей, якія ў лепшым выпадку ніякага дачынення да Беларусі не мелі. Толькі ў Мінску ёсць вуліцы Мініна, Пажарскага, Балотнікава, Разіна, Кулібіна, нават адміралаў Ушакова і Нахімава, хоць Беларусь ніколі не была марскою дзяржаваю і не мела свайго ваеннага флоту.

Між тым, беларусам ёсць чым і кім ганарыцца. За шматвяковую гісторыю беларускі народ даў свету вельмі многа таленавітых дзеячаў, якія ўнеслі значны ўклад у скарбонку сусветнай культуры. Гэта былі людзі непаўторныя, як у сваіх заслугах перад чалавецтвам, так і ў сваіх гістарычных лёсах адносна сваёй айчыны — Беларусі.

Паспрабуем пазнаёміцца з некаторымі славутасцямі Беларусі з розных галін грамадскай і культурнай сферы, гэта значыць з тымі гістарычнымі асобамі, якімі могуць ганарыцца беларусы. Вядома, што ў данай рабоце мы будзем удзяляць больш увагі тым, чые імёны не трапілі ў кароткую гісторыю БССР, ці па кан'юнктурна-гістарычных меркаваннях увогуле замоўчваліся. Такіх людзей было вельмі многа.

Сярод шэрагу добра вядомых князёў сярэднявечнай Русі, такіх як Алег, Ігар, Уладзімір — «Хрысціцель», Яраслаў Мудры, Уладзімір Манамах і іншых, неяк згубілася імя не менш слаўнага і вядомага ў тыя часы князя Усяслава Брачыславіча. Ні аб якім другім князі не гаворыцца так многа і так цікава ў «Слове аб палку Ігаравым» (1186 г.), як аб гэтым чалавеку. Яму прыпісваюцца нават нечалавечыя якасці, быццам ён «...уначы воўкам рыскаў, з Кіева паспяваў да пеўняў да Тмутараканя, Хорсу вялікаму шлях перацінаў». Так, у мастацкай форме ахарактарызаваў аўтар «Слова» полацкага князя Ўсяслава, які за свае незвычайныя здольнасці і выдатную дзяржаўную дзейнасць атрымаў прозвішча «Чарадзей».

Усяслаў Чарадзей 57 гадоў узначальваў Полацкую дзяржаву (1044–1101 гг.), некаторы час (7 месяцаў) быў нават Кіеўскім князем па жаданню кіяўлян, але хутка збег у свой родны Полацк. У часы яго княжання ў Полацку быў пабудаваны новы магутны замак, велічны Сафійскі сабор, квітнелі рамёствы і гандаль. Амаль 18 гадоў правёў ён у бітвах і ваенных паходах. Яго паважалі і баяліся суседзі.

У полацкі перыяд гісторыі Беларусі было многа цікавых і знакамітых дзеячаў. На жаль мы мала ведаем аб дзейнасці першага полацкага князя Рагвалода. Ён быў дзедам Усяслава Чарадзея і бацькам знакамітай прыгажуні Рагнеды, якая стала нявольніцай-жонкай кіеўскага князя Уладзіміра «Хрысціцеля» ці «Красное солнышко». Яна нарадзіла ад яго шасцёра дзяцей, у тым ліку заснавальніка роду Яраславічаў, кіеўскага князя Яраслава Мудрага. Яе дочкі і ўнучкі сталі князёўнамі ў Чэхіі, Венгрыі, Нарвегіі, Даніі і Францыі. Як нябесную заступніцу беларускай зямлі здаўна шануюць Еўфрасінню Полацкую (1110–1173 гг.). За падзвіжніцкую дзейнасць праваслаўная царква зрабіла яе святой. Аб ёй гаварылася: «Дан бяше таков дар Евфросинии от Бога: аще кто ея вопрошаше о которой вещи, она же ему разрешаше чему есть быти». Еўфрасіння заснавала ў Полацку мужчынскі і жаночы манастыры, стварыла выдатную бібліятэку ў Полацкім Сафійскім саборы, пабудавала (1160 г.) царкву Спаса (цяпер Спаса-Еўфрасіннеўская), па яе заказу выдатным полацкім майстрам Лазарам Богшам у 1161 годзе быў зроблены шасціканцовы крыж, што стаў нашай найкаштоўнейшай святыняй.

Многа выдатных грамадска-палітычных і вайсковых дзеячаў даў перыяд існавання Вялікага княства Літоўскага. За ўвесь час больш чым 550-гадовага існавання гэтай дзяржавы на вялікакняжацкім прастоле пабывалі некалькі дзесяткаў князёў. Амаль кожны з іх пакінуў прыкметны след у гісторыі нашай радзімы. Гэта князь Міндоўг (1246–1254 гады княжання), стаўшы пасля хрышчэння праваслаўным і заняўшы ў Навагародку княжацкую пасаду, пачаў далучаць другія землі, у тым ліку і гістарычную Літву. Яго справу падоўжыў

сын Войшалк (1254–1266 гг.). Ён з дапамогай воінаў з Пінска канчаткова скарыў Літву (не трэба блытаць з сучаснай Літвою!), затым другія балцкія народнасці: нальшчаны і дзяволтву (прыблізна тэрыторыя сучасных Ашмян і поўнач возера Нарач). Вельмі мала звестак захавалася аб выдатным князі Віцені (1291–1315 гг.). Пры ім адбылося аб'яднанне ВКЛ з Полацкім княствам каля 1307 года, пры ім быў прыняты дзяржаўны герб «Пагоня». У Густынскім летапісе гаворыцца, што «А Витен нача княжити над Литвою, измысли себе герб и всему князству Литовскому печать: рыцарь збройны на коне з мечем, еже ныне наречут «погоня». За 24-гадовы час свайго княжання ён правёў 11 паходаў у Прусію, 5 — у Лівонію, 9 — у Польшчу. У адным з апошніх паходаў быццам бы загінуў ад удара маланкі. Сын Віценя (па другіх звестках — брат) — Гедымін (1315–1341 гг.) таксама быў забіты, але ўжо на полі бітвы з крыжакамі. Каменнае ядро з гарматы ўдарыла яму ў плечы, калі ён кіраваў асадай горада Баербурга. За 26 гадоў гаспадарства ў ВКЛ Гедымін зрабіў шмат карыснага для дзяржавы. Пры ім было пабудавана для абароны многа замкаў-крэпасцяў: у Вільні, Лідзе, Крэве, Навагрудку, Гародні, Тракаі і інш. Ён далучыў да ВКЛ Мінскае, Віцебскае, Берасцейскае і Турава-Пінскае княствы, перанёс у 1323 годзе сваю сталіцу ў Крыў-горад і назваў яго Вільняю. Па меркаванню многіх гісторыкаў заснаванне новай сталіцы бліжэй да балцкіх тэрыторый Аўкштайціі і Жамойці (асноўныя народы сучаснай Літвы) тлумачыцца тым, што Гедымін хацеў тым самым паскорыць працэс іх славянізацыі. Сам Гедымін размаўляў на старабеларускай (рускай мове), як і ўсе яго продкі, а потым нашчадкі, для якіх ён стаў заснавальнікам дынастыі князёў Вялікага княства Літоўскага.

Сынам Гедыміна быў князь Альгерд (1345–1377 гг.). Яму належыць слава вялікай перамогі ў 1362 годзе (за 18 гадоў да Кулікоўскай бітвы) — разбіць ушчэнт аб'яднаныя войскі татарскіх орд, якія ўзначальвалі тры ханы: Катлубей, Кацібей-Бекер і Дзмітр-Салтан. Дзякуючы гэтай перамозе, большая частка тэрыторыі сённяшняй Украіны была вызвалена і далучана да Вялікага княства Літоўскага. Гэтая перамога натхніла рускі народ на бітву супраць хана Мамая ў 1380 годзе.

Вялікага князя літоўскага Вітаўта яго сучаснікі называлі «слаўны ва ўсіх землях». Ён пражыў складанае і доўгае (80 гадоў) жыццё. Княжыў 38 гадоў (з 1392 па 1430 год). Узначальваў літоўскія войскі пры Грунвальдскай бітве ў 1410 годзе, а фактычна кіраваў усёй бітвай, бо польскі кароль Ягайла (Ягелло) праяўляў часам нерашучасць. Поўны разгром войск ордэна крыжакоў на 500 гадоў спыніў набегі нямецкіх захопнікаў з Усходняй Прусіі на беларускія і сённяшняй Літвы землі. Дагэтуль крыжакі часта цярпелі паражэнне ў бітвах, але вайну прайгралі толькі ў 1410 годзе. Вельмі крыўдна, калі ў школьнай «Хрэстаматыі па гісторыі Беларусі» для студэнтаў гістарычных факультэтаў ВНУ рэспублікі аб гэтай бітве не сказана ані слова. Між тым, многа сказана пра Неўскую бітву 1240 і пра «Лядовае пабоішча» 1242 года. А гэтыя бітвы ні ў якое параўнанне з Грунвальдскай не ідуць. Гэта ж факт, што крыжакі пры Грунвальдзе ў 1410 годзе страцілі 40000 забітымі і 15000 палоннымі, а на Чудскім возеры было забіта ці патанула 500 і ўзята ў палон Аляксандрам Неўскім 50 рыцараў. Другі факт. Ва ўсіх падручніках гаворыцца, што ўратавалі

ад паражэння польска-літоўскіх войск рускія Смаленскія палкі. Яны не пабеглі пад ударамі крыжакоў, як гэта зрабілі літоўскія палкі, а мужна прынялі ўдар на сябе, тым самым далі магчымасць перастроіцца і зноў кінуцца ў бой літоўцам. На самой справе, літоўскія палкі, якіх было 40, і асноўнай масай іх ваяроў былі продкі беларусаў, не пабеглі, а першымі наступалі і знішчылі ўсю артылерыю крыжакоў. Затым зрабілі манёўр адступлення, каб заманіць у лес браніраваных рыцараў. Смаленскія палкі сапраўды не рабілі падобнага манёўра і былі амаль цалкам вынішчаны крыжакамі. Гэта былі ўсяго тры палкі: Смаленскі, Мсціслаўскі і Аршанскі. Камандаваў імі князь Сямён Мсціслаўскі, родны брат Ягайлы і стрыечны Вітаўта. Ад маскоўскага княства там не было ніводнага чалавека. А смаленская зямля была далучана да Вялікага княства Літоўскага яшчэ ў 1404 годзе, пры тым, смаляне нічым не адрозніваліся па мове, культуры і менталітэту ад палачан, віцебчан, магіляўчан і іншых беларусаў, бо былі беларусамі, продкамі крывічоў.

Беларуска-літоўскай дзяржаве ўвесь час прыходзілася змагацца. Гэтыя абставіны спрыялі вылучэнню з асяроддзя князёў і шляхты выдатных палкаводцаў і знатакоў вайсковай справы. Такім быў Давыд Гарадзенскі (1282–1326 гг.). Нарадзіўся ў Пскове, бацьку якога Міндоўг прагнаў з ВКЛ, маці — унучка Аляксандра Неўскага — Марыя. Бацька добра падрыхтаваў яго да вайсковай справы. Ён віртуозна валодаў мячом, дзідай (кап'ём), выдатна страляў з лука. Будучы князем Гародні (кашталянам), ні разу не дапусціў ворагаў у Гарадзенскі замак, ні разу нікім не быў пераможаны. На чале параўнаўча невялікіх атрадаў рабіў імклівыя набегі на ворагаў і атрымліваў бліскучыя перамогі. А ў 1314 годзе ён ушчэнт знішчыў дзве арміі крыжакоў, якія аблажылі Навагародак. Ён тады не ўступіў з імі ў адкрыты бой, бо сілы крыжакоў у многа раз былі большымі, а знішчыў іхнія боезапасы і склады, спаліў усе лодкі, на якіх рыцары прыплылі па Нёману. Толькі адзінкі дыстрофікамі вярнуліся назад у Прусію. Палкаводзец Давыд Гарадзенскі быў па здрадніцку забіты нажом у спіну падкупленым польскім рыцарам Анжэем Горстам.

Сын вялікага князя Альгерда Андрэй Полацкі не стаў галавою дзяржавы, але праславіўся як выдатны воін, палкаводзец, бліскучы камандзір правага флангу рускіх войск у бітве на Куліковым полі 1380 года. У выдатным помніку рускага народа таго часу «Задоншчыне» аб Андрэі Полацкім і яго браце Дзмітрыі гаворыцца : «О, соловей, летняя птица, вот бы тебе, соловей, пеньем своим прославить великого князя Дмитрия Ивановича..., и из земли Литовской двух братьев Ольгердовичей, Андрея и брата его Дмитрия..! Те ведь — сыновья Литвы храбрые, кречеты в ратное время и полководцы прославленные, под звуки труб их пеленали, под шлемами лелеяли, с конца копья они вскормлены, с острого меча вспоены в Литовской земле». Слаўны князь гераічна загінуў у бітве з татарамі пад Ворсклай у 1399 годзе.

Амаль на сто гадоў пазней жыў Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460–1530 гг.). Па бацьку паходзіў з князёў Тураўскіх. У 37 гадоў стаў гетманам найвышэйшым — галоўнакамандуючым усімі ўзброенымі сіламі Вялікага Княства Літоўскага і на гэтай пасадзе здабыў сабе заслужаную еўрапейскую

славу. Ён 63 разы дабіваўся перамогі ў бітвах з ворагамі Айчыны. У краінах Еўропы яго называлі «Сцыпіёнам» (рымскі палкаводзец), «Другім Ганібалам». Паказальная перамога над войскам маскоўскай дзяржавы пад Оршай 8 верасня 1514 года, калі Астрожскі з 30 тыс. воінаў ушчэнт разбіў 80-ці тысячную армію цара Васілія Ш. Сказалася не толькі лепшае ўзбраенне і вывучка літоўскіх ваяроў, але і тонкі тактычны разлік камандуючага (для параўнання: Аляксандр Неўскі атрымаў перамогу над нямецкімі «псамі-рыцарамі» пад час «лядовага пабоішча» у 1242 годзе, маючы 15–17 тыс. воінаў над 10–12 тысячамі супраціўніка).

Не меншую славу меў гетман ВКЛ Ян Кароль Хадкевіч (1560–1621 гг.) са слаўнага роду быхаўскіх магнатаў. У 1601 годзе ён з 2 тыс. воінаў перамог 14-тысячнае шведскае войска пад Белым Камяком. А пра перамогу пад Кірхгольмам у 1605 годзе ў еўрапейскіх газетах пісалі, што «нашчадкі будуць хутчэй дзівіцца гэтаму трыумфу, чым верыць у яго». У гэтай бітве была атрымана перамога 4-тысячнага войска ВКЛ над 14-тысячным войскам шведаў. Пры тым, страты пераможцаў саставілі ўсяго каля 100 ваяроў. З гэтай перамогай Хадкевіча віншавалі многія еўрапейскія манархі і асабіста папа рымскі Павел V. Аб папулярнасці яго ў народзе сведчыць тое, што дзеці, калі ў той час гулялі ў «вайну», то абавязкова героем быў Хадкевіч.

Зоркай першай велічыні на небасхіле палітычнай гісторыі Беларусі лічыцца Леў Сапега (1557–1633 гг.). Гэта быў выдатны палітык, ваенны і грамадскі дзеяч, мог выдатна гаварыць на 5-ці мовах. Ён аўтар і рэдактар славутага на ўвесь свет «Статута Вялікага княства Літоўскага» (1588 года). Менавіта Леў Сапега выказаў думку, што закон — гэта «найвышэйшы вартавы ўсеагульнай свабоды». Як па-сучаснаму гучаць гэтыя словы!

Многа карыснага для нашай айчыны зрабіў магутны старажытны магнацкі род Радзівілаў, з якога выйшла цэлая кагорта знакамітых і ў добрым, і ў дрэнным сэнсе гэтага слова асоб. Згодна летапісу, яшчэ пры Вялікім князі Гедыміне, быццам бы малады чалавек знатнай фаміліі з Жамойці па імені Радзівіл прыйшоў на тэрыторыю сучаснай Беларусі ў саставе ваяроў, якія хацелі паспытаць сябе ў бойцы супраць «Залатой Арды». Потым і засталіся тут і, як сказана ў летапісе, «пакумаваўшыся і пабратаўшыся з Руссю». Ёсць яшчэ і другая легенда, быццам у славяніна Крыва-Крывейшы, што быў вярхоўным жрацом у язычнікаў-літоўцаў нарадзіўся сын, які ўмеў тлумачыць сны. І калі з гэтай нагоды звярнуўся да яго Гедымін, хлопчык параіў князю заснаваць горад, што атрымаў назву Вільні. З цягам часу мянушка «Радзівіл» ад слова «радзіць» перайшла ў прозвішча.

На працягу амаль 500 гадоў з рода Радзівілаў выйшлі канцлеры, дыпламаты і гетманы; кампазітары, мастакі і пісьменнікі; мецэнаты, разумныя і прыдуркаватыя асобы. Гэта былі прадстаўнікі самага багатага і ўплывовага роду магнатаў Вялікага княства Літоўскага, без знаёмства з якім немагчыма пазнаць гісторыю ўсёй дзяржавы. На наш погляд, цікавым будзе нават просты пералік некаторых з іх. Звярніце ўвагу на мянушкі. Радзівіл Мікалай Чорны (1515–1565 гг.) (быў яшчэ «Руды», «Доўгая барада» і інш.), дзяржаўны дзеяч, рэфарматар, першы перайшоў у пратэстанцтва. Мікалай Крыштоф Сіротка

(1549–1616 гг.). Таксама дзяржаўны дзеяч, знатны падарожнік. Ён напісаў кнігу, у якой з навуковых пазіцый, вельмі вобразна апісаў Егіпет, Сірыю, Ліван, Мёртвае мора, Крыт і інш. Кніга вытрымала 19 выданняў на розных мовах Еўропы. Цікавая яна і цяпер. Міхаіл Казімір Рыбанька (1702–1762 гг.) — выдатны дзяржаўны дзеяч, будаўнік Нясвіжскага замка, стваральнік першых на Беларусі мануфактур, у тым ліку і нясвіжскай габеленавай, фаянсавай у Новым Свержні і Слуцкай, якая вырабляла цудоўныя паясы. Кароль Станіслаў «Пане Каханку» — (?–1790) — вядомы на ўсю Еўропу авантурыст, дзівак, фантаст і ілгун тыпа барона Мюнхаўзена, бабнік, абжора і п'яніца. Гэта ён гарачым летам, калі госці млелі ад спёкі, паабяцаў ім назаўтра зіму са снегам. А раніцай госці, прачнуўшыся, убачылі снег і паехалі да касцёла на санях. На самой справе князь усё наваколле ў замку пасыпаў соллю, якая тады вельмі дорага каштавала. Але ж надта багаты быў Радзівіл.

Усім вядома слаўнае імя Тадэвуша Касцюшкі (1746–1817 гг.). Сын беларускага шляхціча, і ганарыўся тым, што ён літвін. Змагаўся за незалежнасць Паўночнай Амерыкі і ўзнагароджаны вышэйшым ордэнам ЗША Цынцынаці, кіраваў паўстаннем у Польшчы і Літве 1794 года. Нацыянальны герой Польшчы і ЗША.

Кастусь Каліноўскі (1838–1864 гг.) — гонар беларускага народу. Зусім невядомы саратнік К. Каліноўскага Урублеўскі Валерый Антоній (1836–1908 гг.). Нарадзіўся ў сям'і беззямельнага шляхціча ў мястэчку Жалудок Лідскага павету. Разам з Каліноўскім выдаваў газету «Мужыцкая праўда». Быў кіраўніком паўстанцкага атрада і ў часе бою 7 жніўня 1864 года быў пасечаны шаблямі казакоў. Цудам выжыў і эміграваў у Францыю. У час рэвалюцыйных падзей, калі была створана «Парыжская камуна», актыўна яе падтрымаў. Кіраваў абаронай паўднёвай часткі Парыжа. Яму прысвоена званне генерала. Пасля паражэння рэвалюцыі з фальшывым пашпартам пераехаў у Англію, дзе пазнаёміўся з К. Марксам і Ф. Энгельсам. Быў членам Генеральнага Савета I Інтэрнацыянала. Да канца сваіх дзён захаваў вернасць ідэям сацыялізма.

Дзеля ідэі аб вызваленні прыгнечаных ахвяраваў сваё жыццё рэвалюцыянер-народаволец Грынявіцкі Ігнат. 1 сакавіка 1881 года ён самаробнай бомбай узарваў сябе і цара Аляксандра II. Нарадзіўся ён у Бабруйскім павеце ў 1856 годзе, вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, разам з А. Жалябавым і С. Пяроўскай быў членам арганізацыі «Народная воля».

Вось такі кароткі пералік дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў нашай Айчыны. Анатацыя зместу іх слаўнага жыцця, вядома, не можа быць у адной такой публікацыі, каб гэта адпавядала вартасці іх асоб.

II. Беларуская ніва навукі і культуры таксама была багатай на таленавітых людзей. З самых старажытных часоў яны засвяціліся яркімі зоркамі. Аб многіх з іх вядома яшчэ са школы. Гэта вялікі гуманіст старажытнасці Кірыла Тураўскі (1130–1184 гг.). Прапаведнік і пісьменнік, які пакінуў пасля сябе многа твораў, у асноўным царкоўнага характару. Напісаныя ім пропаведзі, малітвы і павучанні вызначаюцца багатай паэтычнай вобразнасцю і ўзнёсласцю. Сучаснікі яго называлі «залатавустам». Яго тэксты малітваў гу-

чаць і сёння ў цэрквах. Напрыклад, кожную нядзелю пасля ранішняй літургіі гаворыцца: «Ведаю, што ты прывёў мяне з нябыту ў быццё і ўпрыгожыў падобнасцю да вобраза Свайго, надзяліў мяне словам і розумам. Ты ўзнёс мяне вышэй за ўсё жывое і паставіў мяне валадаром усяго тварэння».

Ідэйным апанентам Кірылы Тураўскага па пытанню залежнасці рускай царквы ад Канстанцінопаля выступаў Клім Смаляціч (пачатак XII – 1164 г.). Летапісец называе яго кніжнікам і філосафам, якіх не было дагэтуль на рускай зямлі. З 1148 па 1155 год займаў пасаду Кіеўскага мітрапаліта.

Эпоха Вялікага княства Літоўскага вылучыла з асяроддзя нашых продкаў многа выдатных дзеячаў навукі і культуры. Зоркай першай велічыні быў ужо даволі вядомы Францыск Скарына (1490–1551 гг.). Мы ўжо абумовіліся, што ў даннай публікацыі будзем рабіць акцэнты толькі на менш вядомых выдатных асобах даўнасці, але не менш заслужаных. Пагэтаму аб Ф. Скарыне скажам толькі, што 1990 год у гонар 500-годдзя яго нараджэння аб’яўлены ЮНЭСКА (арганізацыя ААН) годам Скарыны. Гэта знак сусветнага прызнання заслугі нашага продка перад усім чалавецтвам.

Прадаўжальнікам справы Ф. Скарыны былі Іван Фёдараў (Федаровіч) — (1510–1583 гг.) і яго паплечнік Пётр Мсціславец (даты яго жыцця невядомы). Абодва яны з ВКЛ. Іван Фёдараў з магнацкага роду Рагозаў, меў іх фамільны герб, а прозвішча Пятра азначала, што ён родам з Мсціслаўля. Іх заслугі перад усімі усходнімі славянамі вядомы: яны першадрукары. Нікольки не прыніжаючы іх заслугі, адзначым, што яны сталі друкавць свае кнігі ў Маскве амаль на 50 гадоў пазней Ф. Скарыны.

Вялікая заслуга ў развіцці друкарскай справы, а таксама асветніцтва і філасофскай думкі належыць Сымону Буднаму (1530–1593 гг.) і Васілю Цяпінскаму (Амельяновічу) (1530–1600 гг.). У шэраг выдатных людзей варта паставіць Сімяона Полацкага (1629–1680 гг.), сапраўднае імя якога Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітніяновіч. Акрамя роднай старабеларускай, ён добра ведаў лацінскую, польскую і царкоўна-славянскую мовы, нават пісаў на гэтых мовах вершы і прамовы. У 1664 годзе ён вымушаны быў пераехаць у Маскву, дзе ў хуткім часе становіцца выхавацелем і настаўнікам царскіх нашчадкаў, у тым ліку і Пятра Першага. Спецыяльна для апошняга падрыхтаваў і выдаў «Буквар», які ўвогуле стаў першым падручнікам і на доўгі час для дзяцей Расіі. Паколькі ў той час самым надзейным сродкам заахвочвання дзяцей да навукі былі розгі, то Полацкі напісаў у гэтым падручніку як бы змякчаючы такую жорсткасць верш:

Плевела от пшеницы жезл тверд отбивает,

Розга буйство от сердец детских прогоняет.

Та орудия глупых исправляют,

Плоти целости ничтоже вреждают.

Целуйте розгу, бич и жезл лобзайте,

Та суть безвинна, тех не проклинайте.

Сімяон Полацкі задумаў стварыць у Маскве першую вышэйшую навучальную ўстанову накшталт Віленскага універсітэта і самому стаць рэктарам. Але здзейсніць не паспеў. Па яго ідэі і распрацоўках у 1686 годзе адкрылася славяна-грэка-лацінская акадэмія, у якой пазней вучыўся М.В. Лама-носаў. С. Полацкі стаў першым прафесіянальным рускім пісьменнікам-паэтам, першым рускім інтэлігентам, для якога тады яшчэ не склалася належнае асяроддзе. У гэтым сэнсе ён на цэлае стагоддзе абагнаў расійскую рэчаіснасць. А па яго завяшчанню пасля смерці набытую працай значную маёмасць перадалі дзевяці беларускім манастырам, у тым ліку Полацкаму, Менскаму, Віленскаму, Міёрскаму і іншым. Гэта была яго апошняя даніна радзіме, і пасільная дапамога аднадумцам.

Многія напэўна памятаюць, што Міхайла Ламаносаў, калі вучыўся ў Славяна-грэка-лацінскай акадэміі, пасцігаў навуковыя прамудрасці з вельмі папулярных у той час падручнікаў: «Арыфметыкі» Магніцкага і «Граматыкі» Сматрыцкага, называючы іх «вратамі маёй вучонасці». Аўтар «Граматыкі» Мяленцій Сматрыцкі (свецкае імя Максім Герасімовіч) (1575–1633 гг.) — царкоўны дзеяч на тэрыторыі Беларусі, мысліцель, доктар медыцыны, пісьменнік. Сваю працу «Граматыкі славенскія...» ён выдаў у Іўі ў 1619 годзе, як абагульненне сваёй багатай навуковай і педагагічнай практыкі. Аб высокім узроўні гэтага падручніка сведчыць тое, што ім карысталіся амаль 150 гадоў. Нават больш пазнейшыя граматыкі з'яўляліся ў той ці іншай меры перапрацоўкамі гэтага твора М. Сматрыцкага.

Доўгі час не было вядома нам, што сённяшні шрыфт стварыў не Пётр Першы, а аўтарам яго быў наш суайчыннік з Мсціслаўля Ілля Капіевіч (Капіеўскі) (1651–1714 гг.). У 1697 годзе, калі Пётр Першы быў у Галандыі, да яго перакладчыкам быў пастаўлены Капіевіч, які ведаў шмат моў і служыў тады ў Амстэрдамскім саборы. Рускаму цару спадабаўся перакладчык, і ён быў запрошаны ў Расію, дзе зрабіў новы шрыфт. У 1703 годзе на яго аснове Пётр І правёў рэформу расійскай азбукі. Новымі літарамі Капіевіча, або «беларускай азбукай» (капіеўкай) і сёння карыстаюцца рускія, украінцы, сербы, балгары, македонцы і інш. Капіевіч стварыў першы рускі народны каляндар і інш.

Навуковыя эксперыменты і прапановы Казіміра Семяновіча (1600–1651 гг.) на многія гады прадвызначылі шляхі развіцця еўрапейскай артылерыі і ракетабудавання. У 1650 годзе ў Амстэрдаме выйшла яго фундаментальная кніга «Вялікае майстэрства артылерыі. Частка першая». Яна была перакладзена на большасць еўрапейскіх моў. У кнізе навукова абгрунтавана залежнасць калібру гармат, вагі ядраў ад матэрыяла, з якога яны зроблены, апісана тэхналогія вырабу розных гатункаў, пораху. Семяновіч навукова абаснаваў канструкцыі больш дзесяці тыпаў ракет, у тым ліку з хвастамі ў выглядзе дэльты. Але самае цікаўнае, што ён амаль за 300 гадоў да асваення космасу падрабязна апісаў у сваёй кнізе многаступенчатую ракету, а таксама

ракеты ў звязцы з некалькіх штук. Ён вынайшоў прыцэльнае прыстасаванне для артылерыі тыпу сённяшняй бусолі. Усё гэта сведчыла аб даволі высокім узроўні артылерыйскай справы ў Вялікім Княстве Літоўскім. Асабліва калі улічыць, што беларус Андрэй Чохаў (альбо Чэхаў), пераехаўшы ў Расію, стварыў там многа выдатных бронзавых гармат, у тым ліку ў 1586 годзе знакамітую «Цар-Гармату», вагою ў 40 тон. Цяпер яна побач з «Цар-колакалам» дэманструецца ў Маскоўскім Крамлі. Мы можам ганарыцца таксама тым, што заснавальнікам школы рускіх доменшчыкаў, аўтарам сучаснага доменнага працэсу выплаўкі чыгуну быў наш зямляк Курка Міхаіл Канстанцінавіч (1872–1920 гг.). Са смаленскіх беларусаў паходзіў Тацішчаў Васіль Нікіціч (1686–1750), які напісаў першую фундаментальную работу «История Российская с самых древнейших времён». А якія выдатныя людзі насілі прозвішчы Кавалеўскіх! Перш за ўсё, гэта матэматык сусветнага маштабу першая жанчына член-карэспандэнт Пецярбургскай Акадэміі навук Соф’я Васільеўна Кавалеўская (1850–1891 гг.). Яна паходзіла са старажытнага шляхецкага роду Корвін-Крукоўскіх. Цікава, што нават вышла замуж яна фіктыўна, каб пазбавіцца бацькоўскай апекі і прадоўжыць сваю адукацыю ў Германіі, дзе жанчына магла вучыцца ва ўніверсітэце горада Гейдэльберга. Згадзіўся стаць фіктыўным супругам Кавалеўскі Уладзімір Ануфрыевіч (1842–1891 гг.) родам з Віцебскай вобласці. Крыху пазней гэты шлюб стаў сапраўдным. За сваё кароткае жыццё (41 год) Уладзімір Ануфрыевіч паспявае прыняць удзел у паўстанні 1863 года, затым у вызваленчым паходзе Гарыбальдзі. Пасля гэтага абараняе дысертацыю па палеанталогіі і становіцца прафесарам Маскоўскага універсітэта. За важкі ўклад у навуку яго лічаць заснавальнікам эвалюцыйнай палеанталогіі. Бліскучым даследчыкам у вобласці біялогіі быў брат Уладзіміра Аляксандр Кавалеўскі (1840–1901 гг.). Прафесар Пецярбургскага універсітэта, член Расійскай Акадэміі навук, ён зрабіў важнае адкрыццё, даказаўшы эвалюцыйнае адзінства хрыбетных і бесхрыбетных жывёлін.

Мала хто ведае, што народным героем у далёкім Чылі названы беларус Ігнат Іпалітавіч Дамейка (1802–1889 гг.). Яго імем названы партовы горад (Пуэрта-Дамейка), вулканічны ланцуг гор у Андах, аткрыты ім мінерал (дамейкіт), фіялкавая кветка (віёлка дамейкона), у Сант’яга пастаўлены помнік «Грэндэ Эдукатору» (вялікаму асветніку), самая высокая ў Чылі пенсія носіць таксама яго імя. За што такія вялікія пашаны чалавеку, ды яшчэ чужынцу з далёкай Беларусі? А ёсць за што, чаго нават пералічыць сёння немагчыма. Калі вельмі коратка, то гэта была вымушаная эміграцыя пасля паражэння паўстання 1830–1831 гг.: з 1838 жыццё ў Чылі, дзе ён арганізаваў у Сант’яга універсітэт і стаў яго рэктарам аж на 16 гадоў. Акрамя гэтага стварыў вышэйшую горную школу, якая стала сапраўднаю кузняю нацыянальных кадраў у горнай справе; увёў метрычную сістэму мер, па яго праекту быў пабудаваны першы ў Чылі вадаправод; распрацаваў асновы прамысловага пошуку і эксплуатацыі карысных выкапняў серы, срэбра, золата і медзі; апублікаваў больш за 130 навуковых работ, у тым ліку падручнік «Мінералогія», якім многа дзесяцігоддзяў карысталіся ва ўсіх

лацінаамерыканскіх краінах. Яго з вялікай павагай называлі «Дон Ігнацio», і яго добра ведаюць сучасныя чылійцы.

Чалавекам-легендай можна назваць Судзілоўскага Яўгена Канстанцінавіча (1850–1930 гг.), ураджэнца Магілёва. Як рэвалюцыянер-народнік, ён «хадзіў у народ», удзельнічаў у грамадскім руху Швейцарыі, Англіі, ЗША, Францыі, Румыніі, Балгарыі, Японіі і Кітая. Нават выбіраўся сенатарам на амерыканскіх Гавайскіх астравах і каля двух гадоў быў прэзідэнтам гавайскага сената, у Японіі выдаваў штотыднёвік « Японія і Расія». Па прафесіі ён быў медык, з яго іменем звязаны навуковыя дасягненні ў галіне хірургіі і тэорыі туберкулёзу. За выратаванне сотняў параненых быў узнагароджаны ў Румыніі залатым медалём. «Доктар Русель», так яго звычайна называлі, валодаў 10 мовамі, у тым ліку японскай і кітайскай. За дасягненні ў галіне этнаграфіі, энтамалогіі, хіміі, біялогіі і аграноміі яму былі прысвоены ганаровыя званні члена Амерыканскага таварыства генетыкаў, навуковых таварystваў Японіі і Кітая.

Адным з першых іншаземцаў, якім было дазволена наведаць унутраную Японію быў Іосіф Антонавіч Гашкевіч (1814–1872 гг.). Ён скончыў Мінскую духоўную семінарыю, затым духоўную акадэмію ў Пецярбургу. Працаваў першым консулам у Японіі, выдаў першы ў Расіі «Японска-рускі слоўнік». Імя яго ўшаноўваюць у Японіі.

За выдатныя навуковыя работы імёны многіх нашых землякоў замацаваны ў назвах іх адкрыццяў. Гэта «конь Пржавальскага» ў гонар Мікалая Міхайлавіча Пржавальскага (Прывальскага) (1839–1888 гг.); горныя храбты Чэрскага ў Забайкаллі, Якуціі і Магаданскай вобласці як дань той заслугі, якую набыў віцебскі жыхар Іван Дзяменцьевіч Чэрскі (1845–1892 гг.). У тэорыі адноснасці існуе паняцце «прастора» Мінкоўскага». Гэта паняцце ўвайшло ў навуковы абарот, дзякуючы працам нямецкага матэматыка і фізіка беларускага паходжання Германа Мінкоўскага (1826–1909 гг.)

Стварыў навуку аб глебе, як спецыфічным прыродна-гістарычным феномене, распрацаваў методыку павышэння яе ўрадлівасці, прапанаваў план абароны ад засухі і іншыя агранамічныя меры Васіль Васільевіч Дакучаеў (1846–1903 гг.).

Важным доказам музыкальнасці беларускага народа з'ўляецца не толькі яго найбагацейшы ў свеце песенны і танцавальны фальклор, але і веліч таленту музыкантаў, якія выйшлі з яго нетраў. Да нас не дайшлі імёны многіх выдатных музыкантаў сярэднявечча. А ў эпоху Асветніцтва найбольш ярка засвяціўся музычны талент беларуса Агінскага Міхала Клеафаса (1765–1833 гг.). Ён быў аўтарам выдатных вальсаў, маршаў, паланэзаў і мазурак. Асабліва папулярны і сёння паланэз «Развітанне з Радзімай», а таксама песня «Яшчэ Польша не загінула», якой ён верагодней усяго быў аўтарам. У гэты ж час на карысць расійскай культуры тварыў другі музыкант з Беларусі Казлоўскі Іосіф Антонавіч (1757–1831 гг.). Ён кіраваў музычнай часткай тэатра Расіі ў Пецярбургу. Гэты кампазітар з'ўляецца адным з стваральнікаў рускага

раманса, аўтарам папулярнага марша, які потым стаў гімнам «Гром победы, раздавайся!». Помніце, памешчык Траякураў у пушкінскай аповесці «Дуброўскі» любіў напяваць гэтую мелодыю ў розных варыянтах.

Усё сваё жыццё працаваў на тэрыторыі Беларусі выдатны піяніст, кампазітар і дырыжор Юзаф Дашчынскі (1781–1844 гг.). Ён аўтар больш 100 музычных твораў, якія выконваліся ў той час амаль па ўсёй Еўропе. Лепшыя яго паланэзы не ўступалі па прыгажосці паланэзам Агінскага. Амаль 30 гадоў ён узначальваў сімфанічны аркестр у Гарадзішчы пад Мінскам.

Кампазітар, дырыжор, педагог, класік беларускай і польскай музыкі, стваральнік нацыянальнай беларускай і польскай оперы Станіслаў Манюшка (1819–1872 гг.). Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і Ігуменскага (Чэрвеньскага) павета Мінскай губерніі. Ён шырока выкарыстоўваў беларускі і польскі фальклор. Найбольш папулярнымі з'уляюцца оперы «Ідылія», «Галька», «Слова гонару», «Парыя» і «Страшны двор». Напісаў больш 300 песен, у тым ліку на вершы А. Міцкевіча, Я. Чачота і інш.

Вялікі ўклад у рускую і сусветную музыкальную культуру зрабілі кампазітары беларускага паходжання Глінка Міхаіл Іванавіч (1804–1857 гг.), Мусаргскі Мадэст Пятровіч (1839–1881 гг.). Гэтыя музыканты напэўна вядомыя ўсім.

У беларускага народа ёсць «свая ніша» у сусветным мастацтве і скульптуры. Адзначым найбольш вядомых мастакоў. Аляшкевіч Іосіф Іванавіч (1777–1830 гг.). Знатныя яго партрэты А. Міцкевіча, Л. Сапегі, М. Радзівіла. За карціну «Апека сірот» ён атрымаў званне акадэміка жывапісу. Добра вядомы яго карціны, выкананыя ў стылі позняга класіцызму. Гэта «Мадона з дзіцем», «Групавы партрэт», «Развітанне гетмана Хадкевіча з маладой жонкай» і інш.

Смуглевіч Францішак (1745–1807 гг.). Працаваў у стылі класіцызму і ў жанры гістарычным, батальным, выкарыстоўваў міфалагічныя тэмы. Тут карціны «Прысяга Т. Касцюшкі на Кракаўскім рынку», «Бітва пры Хоціне ў 1673 годзе», «Юдзіф», «Смерць Марыі» і інш. Многа зрабіў размалёвак у храмах Мінска, Гродна, Полацка, Рэчыцы, у гарадах Польшчы і сучаснай Літвы.

Ваньковіч Валенцій Мельхіоравіч (1799–1842 гг.). Пасля заканчэння з залатым медалём Пецярбургскай мастацкай акадэміі вярнуўся ў Мінск і працаваў у сваёй майстэрні ў Сляпянцы. Стварыў многа выдатных партрэтаў сваіх блізкіх і сучаснікаў. У карцінах маляваў вобразы святых як натуральных людзей. Яго карціна-абраз «Дзева Марыя Вострабрамская» упрыгожвае алтар касцёла св. Севярына ў Парыжы, карціна «Мадона з дзіцем» знаходзіцца ў Луўры, некаторыя палотны захоўваюцца ў Нацыянальным музеі Варшавы, а таксама ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі ў Мінску. Знясілены працай, без падтрымкі мясцовых улад, ён вымушаны быў эміграваць у Францыю, дзе і памёр.

Орда Напалеон (1807–1883 гг.). Аб гэтым таленавітым чалавеку можна ў роўнай ступені гаварыць як аб музыканце, так і аб мастаку. Як кампазітар і музыкант, ён напісаў многа паланэзаў, вальсаў, мазурак, серанад і песен. Быў некаторы час дырэктарам італьянскай оперы ў Парыжы, напісаў і выдаў «Граматыку музыкі», высока ацэненую С. Манюшкам. Як мастак, пакінуў многа карцін, у якіх з дакументальнай дакладнасцю адлюстраваны помнікі архітэктуры, якіх сёння ўжо няма.

Заранка Сяргей Канстанцінавіч (1818–1870 гг.). Вучань А. Венецыянава, акадэмік жывапісу, настаўнік вядомых рускіх мастакоў В. Пярова, У. Макоў-скага і В. Пукірава. Напісаў выдатныя партрэты сваіх сучаснікаў.

Гараўскі Апалінар Гіляраевіч (1833–1900 гг.). Пейзажыст і партрэціст. Творы яго адметныя жыццёвай праўдай, глыбокай народнасцю, высокім тэхнічным майстэрствам, асабліва «Балота», «Вечар», «На Радзіме», «Свіслач», «Вечар у Мінскай губерні», «Пейзаж з каровамі», «Старая моліцца» і інш.

Андрыёлі Міхаіл Эльвіра (1836–1895 гг.). Нарадзіўся ў Вільні, вучыўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага універсітэта, але ў хуткім часе перайшоў у маскоўскае вучылішча жывапісу. Удзельнічаў у паўстанні 1863 года. Уцёк за граніцу, а калі ў 1866 годзе вярнуўся, то быў арыштаваны і сасланы ў Вятку. Там быў настаўнікам будучых рускіх мастакоў братоў Васняцовых, зрабіў многа жывапісных і графічных работ на гістарычную тэму: «Смерць Кейстута», «Сутычка ліцвінаў з крыжаносцамі», «Гусляр», «Хрышчэнне язычнікаў» і інш., напісаў партрэты А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, Э. Ажэшкі, Ф. Багушэвіча.

У вобласці скульптуры і мастацтва працаваў Мікешын Міхаіл Восіпавіч (1835–1896 гг.). Усерасійскую вядомасць прынесла яму работа над помнікам «Тысячагоддзе Расіі». Ён аўтар помніка Кацярыне II у Пецярбургу, Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве, у Севастопалі — У. Карнілаву і П. Нахімаву. Аўтар шэрагу замалёвак з жыцця беларусаў: «Каханне», «Паштовая эстафета, Беларусь», «Жабрачка», «Банкір і шляхціч» і іншыя. Вось такі кароткі абрыс круга людзей — выхадцаў з Беларусі, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё сусветнага мастацтва.

На ніве літаратуры ў Беларусі талентаў было яшчэ больш. У далёкім сярэднявеччы звонка на ўсю Еўропу прагучаў паэтычны голас Міколы Гусоўскага (1470–1533 гг.), аўтара паэтычнага зборніка «Песня пра зубра». У гэтым зборніку, акрамя аднайменнай паэмы, змешчаны 11 вершаў. Паэт першы ў славянскай літаратуры ўбачыў і адлюстраваў пачатак крызісу сацыяльна-палітычнага ладу Вялікага Княства Літоўскага. Акрамя выдатнай паэмы «Песня пра зубра», яго пяру належаць яшчэ паэмы «Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы» і «Жыццё і подзвігі св. Гіяцынта». Міжнародная арганізацыя ЮНЕСКО ў знак прызнання паэтычнага таленту ўключыла

М. Гусоўскага ў спіс найвыдатнейшых дзеячаў славянскага свету. У 1980 годзе чалавецтва адзначала 500-гадовы юбілей гэтага паэта.

Вельмі цікавым дзеячам беларускай культуры канца XVI – пачатку XVII стагоддзя з'яўляецца пісьменнік і перакладчык Будны Беняш (не трэба блытаць яго з Сымонам Будным). Даты яго жыцця невядомы. Галоўным творам Беняша Буднага была фундаментальная праца «Кароткія аповесці», якія па-грэчаску называюцца «Апафегматамі», выданая першы раз у 1599 годзе. Затым яна выдавалася шмат разоў і ў розных краінах, у тым ліку больш 7 разоў у Расіі. Пятру Першаму спадабалася, што ў гэтай кнізе ў яснай і даступнай форме апавядалася пра антычных філосафаў, іх вучэнні, іх асабістае жыццё і ён стаў як бы «хросным бацькам» першага яе выдання ў 1712 годзе.

Адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры таго часу, якая спалучала рысы асветніцтва і рамантызму, быў ураджэнец Навагрудчыны Тамаш Зан (1796–1855 гг.). Ён адыграў таксама важную ролю ў станаўленні новага накірунку ў літаратуры — рэвалюцыйнага рамантызму. У сваёй творчасці шырока выкарыстоўваў беларускі фальклор, беларускія абрадавыя традыцыі. Гэта камедыя «Грэцкія піражкі», паэмы «Табакерка», «Цыганка», «Свіцязь-возера», «Твардоўскі» і інш. Зан аказаў значны ўплыў на паэтычную творчасць Адама Міцкевіча (1798–1855 гг.). Гэта быў польскі паэт, класік польскай літаратуры, але з беларускаю душою. Ён не лічыў сябе палякам, а толькі ліцвінам. Сваю галоўную працу «Пан Тадэвуш» пасвяціў апісанню беларускага жыцця. Нездарма сучаснікі гэту паэму назвалі «энцыклапедыяй жыцця ліцвінаў», гэта значыць беларусаў. У паэмах «Конрад Валенрод» і «Гражына» Міцкевіч паказаў барацьбу ліцвінаў з крыжакамі. Знаходзячыся далёка ад радзімы, ён адчуваў як губляецца ў яго паэтычнае натхненне. Аб гэтым сведчаць радкі з яго паэмы:

Літва, айчына мая

Ты што здароўе...

Як цаніць цябе трэба,

Толькі той спазнае,

Хто цябе страціў.

Сёння тваю прыгажосць

У поўнай меры я бачу і апяваю,

Бо вельмі сумую па табе.

Прабачце за вольны пераклад з польскай мовы. Гэтыя радкі яскрава сведчаць, што для паэта радзіма Літва і Навагрудчына прынамсі з'яўляюцца бясконца блізкімі і дарагімі.

Польскім паэтам быў таксама беларус Уладзіслаў Сыракомля, сапраўднае прозвішча Кандратовіч Людвік (1823–1862 гг.). Ён, як і Міцкевіч, быў адметным патрыётам сваёй радзімы, захапляўся прынёманскімі кра-

явідамі, падкрэсліваючы, што яны яму даражэй за ўсе замежныя. Сыракомля больш вядомы сучаснаму чытачу як аўтар слоў папулярнай песні: «Когда я на почте служил ямщиком…». Гэта песня прадстаўляе сабою скарочаны варыянт вершаванай гутаркі пад назваю «Паштальён», перакладзенай рускім паэтам
А. Трэфалёвым.

Беларуская зямля ўзгадавала таленавітую польскую пісьменніцу Элізу Ажэшка, дзявочае прозвішча якой Паўлоўская (1841–1910 гг.). Да вяршынь тагачаснай еўрапейскай культуры паднялася яна ў асноўным, дзякуючы самаадукацыі. Напісала многа аповесцей і раманаў, удачна спалучала прыёмы сатырычнага гратэску ў адносінах да шляхецкай арыстакратыі. Яе творы стаяць ля вытокаў беларускай драматургіі. Іх інсцэніроўкі «У зімовы вечар» і «Хам» многа разоў ставіліся на сцэнах прафесійных тэатраў Беларусі і ў самадзейных калектывах.

Арыгінальны паэт і драматург, прызнаны трэцім паэтам пасля А. Міцкевіча і Т. Зана на паэтычным турніры 1818 года быў Чачот Ян Антоні Тадэвушавіч (1796–1847 гг.). У адрозненне ад першых двух, ён пісаў не толькі на польскай, але і на беларускай мове. У сваіх баладах і вершах ён адстойваў інтарэсы самых бяспраўных, беларускіх сялян. Вельмі цаніў беларускі фальклор, нават склаў 6 зборнікаў «Сялянскія песні», куды ўвайшло больш за 1000 песень.

Не толькі польскую культуру, але і расійскую, абагачалі сваім талентам выхадцы з беларускай зямлі. Адным з такіх быў Нестар Васільевіч Кукальнік (1809–1868 гг.). Ён заявіў сябе пладатворным пісьменнікам. Ёсць творы пра маральны стан і палітычнае становішча ў Вялікім княстве Літоўскім XIV стагоддзя. За тое, што ў сталым узросце пачаў усхваляць самадзяржаўе, а народ паказваў, як пасіўны і бязлікі натоўп, яшчэ пры яго жыцці многія творы пачалі забывацца. Найбольш вядомыя дайшлі і да нас. Гэта тэксты песень, пакладзеныя на музыку М. Глінкі: «Жаваранак», «Калыханка», «Сумненне» і інш.

Вялікім рускім пісьменнікам, які прынёс Расіі сусветную славу, быў Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі (1821–1881 гг.). У яго творчасці спалучаўся грунтоўны філасофскі разгляд сацыяльных кантрастаў у грамадстве і глыбокае пранікненне ў псіхалогію паводзін людзей, асабліва ў трагічных сітуацыях. Сваімі фамільнымі карэннямі ён паходзіў з Беларусі, а дакладней з Дастоева, што недалёка ад г. Пінска. Адсюль і прозвішча Дастаеўскі. Беларускага паходжання былі таксама пісьменнік і журналіст Тадэвуш (Фадзей) Булгарын (1789–1880 гг.), аўтар шырока вядомых песень «Тройка» («Вот мчится тройка почтовая вдоль по дороге столбовой…») і «Узник» («Не слышно шума городского... »).

Аляксандр Грыбаедаў (з Грыбоўскіх) — (1795–1829 гг.), аўтар сатырычнай камедыі «Горе от ума». Найбольш яркі прадстаўнік рамантычнай фантастыкі Аляксандр Грын (сапр. Грынеўскі) (1880–1932 гг.). Хто не захапляўся ў маладосці героямі «Алых парусов» і «Бегущей по волнам»?

Французскі паэт Гіём Апалінэр (Каставіцкі) — (1880–1918 гг.). Яго вершы адметныя арыгінальнасцю і эксперыментатарствам па форме, а па змесце — трагічным успрыманнем вайны і скрухай па гуманізму.

На завяршэнне данай тэмы яшчэ раз звяртаем увагу на тое, што мы канцэнтравалі ўвагу на менш вядомых, але не менш таленавітых людзей беларускага паходжання. Таму мы нічога не сказалі аб такіх пісьменніках і паэтах, як Вінцук Дунін-Марцінкевіч (1808–1884 гг.), Францішак Багушэвіч (1840–1900 гг.) і многіх іншых асобах.

## Літаратура


Баландзін К. І. Культурнае развіццё Беларусі ў XVII–XVIII ст.ст. Вучэбны дапаможнік. – Мн.: БДПА, 1994.

Барока ў беларускай культуры і мастацтве. – Мн.: Бел. думка, 1998.

Бырышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII ст. – Мн.: Наука и техника, 1992.

Вабішэвіч А. Нацыянальная школа ў Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс. — 1994. – № 2.

Гісторыя Беларусі: Дапаможнік для паступаючых у ВНУ. / Пад рэд. А.Г. Каханоўскага і інш. – Мн.: «Экаперспектыва», 1998.

Гісторыя Беларусі: Курс лекцый. У 2 ч. / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель і інш., ч. I. – Мн.: РІВШ, 2000.

Гісторыя Беларусі: Вучэбны дапаможнік. У 2 ч. / Пад рэд. А.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мн.: Універсітэцкае, 1998.

Зуева З.І. Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай. Культура Беларусі (1569 — 1795 гг.). – Мн.: Навука і тэхніка, 1994.

История белорусского кино (1924 — 1945 гг.) / А.В. Красинский и др. – Мн., Наука и техника, 1969.

История белорусской советской литературы / Н.С. Перкин и др.– Мн.: Наука и техника, 1977.

Канфесіі на Беларусі. – Мн., 1988.

Качаноўскі У.У. Гісторыя культуры Беларусі: Вучэбны дапаможнік. – Мн.: «Экаперспектыва», 1994.

Ковкель И.И., Ямусик Э. С. История Беларуси. Уч. пособие. – Мн.: Аверсэв, 2000.

Лазука Б.А. Гісторыя мастацтваў. Вучэбны дапаможнік. – Мн.: Беларусь, 1996.

Ліс А.С. Заходняя Беларусь. Культурная спадчына забытага дваццацігоддзя: 20 — 40-я гады XX ст. // Спадчына. – 1994. – № 6.

Лыч Л.М., Навіцкі У.І. Гісторыя культуры Беларусі. – Мн.: «Экаперспектыва», 1997.

Музычны тэатр Беларусі: 1917 — 1959 гг. / Пад рэд. Г.Р. Куляшова і інш. – Мн.: Навука і тэхніка, 1993.

Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Энцыкл. даведнік. – Мн., 1995.

Міцкевіч А.М. і др. Кароткі курс гісторыі рэлігіі і царквы ў Беларусі. Вуч. дапаможнік – Мн.: БДПУ, 1995.

Нарысы гісторыі Беларусі. У 2 ч. / Пад рэд. М.П. Касцюка. – Мн.: Беларусь, 1994–1995.

Очерки истории науки и культуры Беларуси / Петриков П.Т. и др. – Мн.: 1996.

Парашкоў С. Гісторыя культуры Беларусі. – Магілёў, 2001.

Пилиста Г.М. Введение христианства на Руси: предпосылки, обстоятельства, последствия. – Мн.: Беларусь, 1988.

Рагойша В. Прысутнасць беларускай культуры ў свеце // Роднае слова. – 1996. № 10, 12.

Страчаная спадчына / Т.В. Габрусь і інш. – Мн.: Полымя, 1998.

Ткачоў М.В. Замкі і людзі. – Мн.: Навука і тэхніка, 1991.

Францыск Скарына і яго час. – Мн.: БелСЭ, 1988.

Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. – Мн.: Вышэйшая школа, 1985.

Чигринов П.Г. История Беларуси. – М.: Полымя, 2001.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1–6. – Мн.: Белэн., 1993–2001.

## Змест

Вучэбнае выданне

**Саўко** Мікалай Паўлавіч
**Бобер** Мірон Антонавіч
**Карнацкая** Ванда Іосіфаўна

# КАРОТКІ НАРЫС ГІСТОРЫІ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

Вучэбна-метадычны дапаможнік

Адказны за выпуск М.П. Саўко
Рэдактар Л.І. Жук
Камп’ютэрная вёрстка В.М. Быхаўцавай

Падпісана ў друк ___________. Фармат 60×84/16. Папера пісчая. Друк афсетны.
Гарнітура «Times». Умоўн. друк. арк. ____ Ул.-выд. арк.____. Тыраж ___ экз. Заказ _____
Выдавец і паліграфічнае выкананне –
Беларускі дзяржаўны медыцынскі універсітэт
ЛВ № 410 ад 08.11.99; ЛП № 51 ад 17.11.02.
220050, г. Мінск, вул. Ленінградская, 6.